**УДК 930(075.8)**
**ББК 63.3(4 Бел)**
С 30

Рэцэнзенты: каф. гіст. паўднёвых і заходніх славян БДУ;
заг. аддз. спецыяльных гіст. навук Ін-та гіст. НАН Беларусі, д-р гіст. навук Г.Я.Галенчанка;
дац., канд. гіст. навук Л.Л.Міхайлоўская;
канд. гіст. навук, ст. навук. супрацоўнік Ін-та гіст. НАН Беларусі Г.М.Сагановіч;
дац. каф. гіст. Беларусі ГрДУ, канд. гіст. навук С.В.Марозава.

Рэкамендаваны саветам факультэта гісторыі і культуры ГрДУ.

**Семянчук А.А.**

С 30 **БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ПОЛЬСКІЯ ХРОНІКІ:** Вучэбны дапам. — Гродна: ГрДУ, 2000. — 163 с.

ISBN 985-417-206-6.

Вучэбны дапаможнік прысвечаны важнай катэгорыі сярэднявечных гістарычных крыніцаў — беларуска-літоўскім летапісам і польскім хронікам XII-XVI стст. Даюцца іх археаграфічная і крыніцазнаўчая характарыстыкі, узаемаўплывы і ўзаемасувязі, аналізуюцца ўнутраная структура і інфармацыйнасць. Прызначаны для студэнтаў гуманітарных факультэтаў, гісторыкаў, настаўнікаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 930(075.8)**
**ББК 63.3(4 Бел)**

ISBN 985-417-206-6. 

# УСТУП

Сярод старажытных помнікаў пісьменства летапісы і хронікі займаюць асабліва ганаровае месца. Яны ўзніклі ў глыбокай старажытнасці (вавілонскія і кітайскія хронікі; гістарычныя хронікі, што ўвайшлі ў склад Бібліі, і інш.), трывала ўпісаліся ў даўнюю культуру Грэцыі і Рыма, якая старанна ўваскрашалася і культывавалася пісьменнікамі эпохі Рэнесанса. Старажытныя філосафы адводзілі гістарыяграфіі першае месца сярод 9 муз. Кліа лічылася галоўнай музай, за ёй ішла Каліопа, якая прадстаўляла жанр эпіка-гераічнай паэзіі. Разам з наступнай Ураніяй, апякункай астралогіі, гэтыя тры музы сымвалізавалі вялікі раздзел чалавечай думкі і дзейнасці, звязаны з працэсам пазнання.

Уплыў антычнасці ў сярэднія вякі і ў эпоху Адраджэння ў Еўропе быў вельмі значны. Таму і такі жанр літаратуры, як хронікі і аналы, карыстаўся папулярнасцю. У адной толькі Германіі існаваў шэраг школ гэтага жанру не толькі па асобных мясцовасцях, але нават па кляштарах. На ўзор твораў Ціта Лівія, Тацыта, Святонія пісалі свае працы многія сярэднявечныя храністы. Яшчэ большы ўплыў на сярэднявечных пісьменнікаў і гісторыкаў мела Біблія вульгата (лацінскі пераклад Бібліі), якая была ўзорам гістарычнай кнігі. Можа, з прычыны гэтага яны ў цэлым падобныя адзін да аднаго мовай, спосабам выражэння, а таксама сваім рэлігійна-феадальным светапоглядам.

Летапісна-хранікальны жанр на тэрыторыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ў параўнанні з заходнееўрапейскай гістарыяграфіяй трансфармаваўся пад уплывам асаблівасцяў культурна-гістарычнага развіцця гэтага рэгіёну. Тым не менш ёсць шмат агульнага ў станаўленні і развіцці гэтага жанру па ўсёй Еўропе.

Вядома, што толькі на пачатку XIX ст. Бартольд Георг Нібур у сваім станоўчым для развіцця гістарыяграфіі творы “Гісторыя Рыма” (“Romische Geschichte”) заклаў падмуркі асобнага напрамку — крытычнай гістарыяграфіі. Да таго ж часу ўсе выдатныя гісторыкі ў той ці іншай ступені былі адначасова і літаратарамі, альбо “пісьменнікамі з-пад знаку Кліа”. Часам мы назіраем у іх (асабліва ў вершаваных творах) пагоню за літаратурнай прыгажосцю за кошт гістарычнай дакладнасці.

У вучэбным дапаможніку ідзе гаворка аб наратыўных (апавядальных) крыніцах, створаных на тэрыторыі Усходняй і

Цэнтральнай Еўропы. Навука, якая займаецца вывучэннем гістарычных крыніц, называецца крыніцазнаўства. У рамках яе асобна вылучаюцца такія дапаможныя дысцыпліны, як археаграфія, тэксталогія, эдытарства. Вельмі актыўна будзем карыстацца матэрыяламі, здабытымі ў выніку крыніцазнаўчых даследаванняў летапісаў і хронік.

У беларускіх бібліятэках і архівах няма арыгіналаў беларускіх летапісаў, як і многіх іншых старажытных пісьмовых помнікаў. Беларускія землі шмат пацярпелі ад захопнікаў. Войны і падзелы суправаджаліся знішчэннем культурных каштоўнасцяў, у першую чаргу пісьмовых помнікаў. Многія пісьмовыя помнікі, у тым ліку і летапісы, у розныя часы вывозіліся за межы Беларусі і цяпер захоўваюцца ў бібліятэках і кнігасховішчах Масквы, Санкт-Пецярбурга, Вільні, Варшавы, Познані, Кракава, Львова, Кіева і іншых гарадоў. Затое многія з друкаваных польскіх хронік, якія будуць разглядацца ў дадзеным дапаможніку, захоўваюцца ў аддзелах рэдкіх кніг Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея і ў іншых музеях і архівах нашай краіны. Яны служылі і служаць важнымі крыніцамі інфармацыі па гісторыі Беларусі, Вялікага княства Літоўскага і ўсёй Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ЛЕТАПІСАЎ І ПОЛЬСКІХ ХРОНІК ЯК КРЫНІЦ ПА ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Як казаў Вальтэр, перш чым спрачацца, дамовімся аб тэрмінах.

*Хронікі* (грэч. chronika – летапіс, ад chronikos – які адносіцца да часу) – гісторыка-літаратурныя творы, дзе падзеі падаюцца ў часавай паслядоўнасці, адпаведна пэўнай гістарычнай канцэпцыі. У жанравых адносінах яны больш закончаныя і цэласныя, чым летапісы.

Дык што ж такое летапісы?

*Летапісы* – гэта гістарычныя творы, від наратыўнай (апавядальнай) літаратуры ўсходніх славян (Беларусь, Украіна, Расія) XI – XVII стст., якія складаліся з пагадовых запісаў альбо ўяўлялі сабой помнікі складанага характару – летапісныя зводы.

Многія сярэднявечныя літаратурныя творы дайшлі да нас не ў самастойным выглядзе, а ў складзе *зводаў* – складаных і часам вельмі вялікіх кампіляцый, якія былі ў пашане ў сярэднявечных кніжнікаў. Гэтыя кампіляцыі звычайна складаліся па якой-небудзь адной буйной тэме і падпарадкоўваліся пэўнай канцэпцыі. У шматлікіх кампіляцыях – летапісных зводах – да нас дайшла пераважная большасць тых гісторыка-літаратурных помнікаў, якія мы цяпер вывучаем асобна: Аповесць пра князёў Міндоўга, Войшалка і Тройдзеня, Пахвала… князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму, Аповесць аб Трыштане, Александрыя, Аповесць пра Жыгімонта Аўгуста і Барбару Радзівіл. Менавіта так, пад асобнымі назвамі, падаюцца гэтыя творы ў зборніку “Беларускія летапісы і хронікі” (Мн., 1997) з серыі “Беларускі кнігазбор”.

М.Нікалаеў звярнуў увагу на тое, што ў акадэмічнай “Истории белорусской дооктябрьской литературы” за адзінку літаратурнага працэсу бярэцца або адзін твор (“Пахвала”, “Кроніка”, “Інтэрмедыя” і г.д.), або творчасць аднаго чалавека (Кірыл Тураўскі, Францыск Скарына і інш.). Зводы і зборнікі, у якіх змешчаны розныя творы, не вывучаюцца як з’ява кніжнай культуры і як адзінка літаратурнага працэсу. Між тым у XV-XVII стст. ствараліся шматлікія зборнікі, або “Ізборнікі”, кожны з якіх уяўляў характэрную “адзінку” старабеларускай літаратуры. Яны працягвалі традыцыю, распачатую яшчэ ў Старажытнай Русі “Ізборнікам” Святаслава. Кожны “кнігалюбец”

спісваў толькі тыя артыкулы, у якіх меў крайнюю неабходнасць або якія ўвогуле адпавядалі яго густам ці нечым падабаліся.

Гэтую акалічнасць яшчэ ў XIX ст. адзначыў Ф.Дабранскі ў працы "Описание рукописей Виленской Публичной библиотеки, церковно-славянских и русских" (Вільня, 1882). Ён адзначаў, што зборнікі "насілі на сабе сляды індывідуальных асаблівасцяў збіральніка. У гэтым апошнім дачыненні яны вельмі цікавыя, бо даюць магчымасць меркаваць аб тым, што ў пэўную эпоху цікавіла нашых продкаў, якія праблемы іх хвалявалі, якое чытанне мела поспех, так што, маючы пад рукамі больш ці менш удала і поўна складзены зборнік, можна часам з дакладнасцю вызначыць увесь светапогляд збіральніка". Складаліся таксама і зборнікі "змешанага характару", не аб'яднаныя скразной ідэяй.

Многія даследчыкі старажытнай кнігі, такія, як Д.С.Ліхачоў, А.С.Дзёмін, М.М.Розаў, М.В.Нікалаеў адзначаюць, што да вывучэння зборнікаў трэба падыходзіць асцярожна і дыферэнцавана. Многія з беларуска-літоўскіх летапісаў змешчаны як раз у зборніках (акрамя Слуцкага летапісу, хронік Сурты і Трубніцкіх, Панцырнага і Аверкі, запісак ігумена Арэста), аднак ніколі не вывучаліся ў сувязі з усім зместам зборніка, а толькі паасобку. Больш таго, гісторыкі старажытнай беларускай літаратуры вылучаюць з тэксту летапісу або хронікі яго асобныя кампаненты (вышэйузгаданыя пахвалы, аповесці, хронікі і г.д.) і спрабуюць вывучаць іх у адрыве ад усяго зместу. Гэта значна збядняе аналіз.

18 летапісаў і хронік беларускага паходжання ўваходзяць у склад зборнікаў разам з літаратурнымі творамі ("Аповесць пра Трышчана", "Гісторыя пра Атылу" – у летапісе Рачынскага, "Сказанне пра Сівілу-прарочыцу", "Прароцтва Саламона" – у летапісе Красінскага), юрыдычнымі дакументамі (Вісліцкі статут – у Супрасльскім летапісе, Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. – у Альшэўскім летапісе), радаводнымі, гістарычнымі дакументамі, тэкстамі рэлігійнага зместу (Хроніка Быхаўца, Нікіфараўскі летапіс, Баркулабаўскі летапіс і інш.)

Для стварэння зводаў кніжнікі карысталіся як старажытнарускімі, так і візантыйскімі, заходнееўрапейскімі і іншымі крыніцамі, а таксама вуснымі паданнямі мясцовага паходжання.

З усяго вялікага корпусу ўсходнеславянскіх летапісаў нас цікавяць так званыя беларуска-літоўскія летапісы, у якіх выкладаецца гісторыя Вялікага княства Літоўскага і якія напісаны на тэрыторыі гэтай дзяржавы.

Назва беларуска-літоўскія ў дачыненні да гэтых летапісаў зацвердзілася не адразу. Спачатку яны называліся проста літоўскімі, літоўска-рускімі, потым “беларускімі аб Вялікім княстве Літоўскім”, проста беларускімі, заходнерускімі, летапісамі Вялікага княства Літоўскага. Нарэшце, М.М.Улашчык прапанаваў назву беларуска-літоўскае летапісанне, якая пакуль што нікім не аспрэчваецца.

Летапісы, якія ствараліся на тэрыторыі Беларусі ў XII – XIV стст., мелі мясцовы характар. У іх апісваліся падзеі, што датычыліся пераважна гісторыі асобнага ўдзельнага княства і яго сталіцы. Паводле жанравай формы яны, як і іншыя старажытнарускія летапісы, не былі цэльнымі творамі, сюжэтна закончанымі гістарычнымі аповесцямі, а мелі фрагментарны характар, падзяляліся на асобныя, нярэдка слаба звязаныя паміж сабою часткі – пагадовыя запісы, аб’яднаныя толькі агульнасцю тэмы і формы гістарычнага апавядання. На беларускіх землях у эпоху сярэднявечча бытавалі таксама рускія летапісы і гістарычныя зборнікі наўгародскага, маскоўскага, цвярскога, пскоўскага паходжання (Радзівілаўскі летапіс, летапісы Фоція, Аўраамкі і іншыя).

Гаворачы аб гісторыі летапісання, у тым ліку беларуска-літоўскага, нельга абмінуць Лаўрэнцеўскі і Іпацеўскі летапісы, па якіх вызначаецца склад “Аповесці мінулых гадоў” і якія з’яўляюцца найбольш старажытнымі. Іпацеўскі і Лаўрэнцеўскі летапісы – важныя крыніцы па гісторыі Беларусі – уяўляюць сабой помнікі складанага характару. Лаўрэнцеўскі летапіс захаваўся ў адзіным спісе, зробленым групай пісцоў пад кіраўніцтвам манаха Лаўрэнція ў 1377 годзе для суздальска-ніжагародскага князя Дзмітрыя Канстанцінавіча. Яго тэкст абрываецца на 1305 г. Акрамя “Аповесці мінулых гадоў”, Лаўрэнцеўскі летапіс утрымлівае апавяданне аб паўднёва-рускіх і суздальскіх падзеях, потым ідуць агульнарускія падзеі. У Лаўрэнцеўскім утрымліваецца цікавая інфармацыя аб Полацкім княстве. Напрыклад, пад 1128 г. (і за 20-30-я гады XII ст.) знаходзіцца вялікае апавяданне аб Усяславічах полацкіх. Тут жа апісваецца драматычная гісторыя князёўны Рагнеды і яе бацькі, полацкага князя Рагвалода. Некаторыя беларускія даследчыкі лічаць, што блок паведамленняў аб палітычнай гісторыі Полацкай зямлі патрапіў у Лаўрэнцеўскі летапіс непасрэдна з загінуўшага полацкага летапісу.

У Іпацеўскім летапісу (назву сваю атрымаў ад Іпацеўскага манастыра ў Кастраме, дзе захоўваўся летапіс) даследчыкі

вылучылі дзве галоўныя часткі. Першая пачынаецца "Аповесцю мінулых гадоў", даведзена да 1198 г.; другая апісвае падзеі ў паўднёва-заходняй Русі пасля смерці вялікага князя Рамана Мсціславіча. У апошняй частцы Ул.Ц.Пашута падкрэсліваў асабліваe значэнне кіеўскага зводу 1238 г. Паўднёва-заходні Галіцка-Валынскі летапіс змяшчае ўнікальныя звесткі па гісторыі ўтварэння Беларуска-Літоўскай дзяржавы. Тут гаворыцца аб Міндоўгу, Войшалку і Тройдзені – заснавальніках ВКЛ. Як мяркуюць некаторыя даследчыкі, у Галіцка-Валынскім летапісу захаваліся рэшткі згубленага Наваградскага летапісу. Іпацеўскі летапісны звод захаваўся ў шэрагу спісаў, з якіх самастойнае значэнне маюць Іпацеўскі XV ст. (каля 1425 г.) (РО БРАН 16.4.4.) і Хлебнікаўскі XVI ст. (РНБ, F.IV.230). Як паказаў А.А.Шахматаў, Хлебнікаўскі спіс у шэрагу выпадкаў з'яўляецца больш правільным, бо пры яго складанні быў выкарыстаны іншы спіс, больш дакладны, чым пратограф Іпацеўскага. Варта нагадаць, што такое спіс, пратограф, архетып, рэдакцыя, і як гэтыя паняцці стасуюцца да беларуска-літоўскіх летапісаў.

У тэксталагічных даследаваннях усе рукапісы падзяляюцца на *аўтографы* (рукапісы, напісаныя аўтарам) і *спісы* (рукапісы, якія напісаны не аўтарам). Апошнія ў сваю чаргу падзяляюцца на белавікі і чарнавікі. Копіяй лічыцца тэкст, спісаны з арыгінала, які цалкам паўтарае яго змест.

Існуе даволі шмат вызначэнняў рэдакцый твора. В.М.Істрын у кнізе "Нарыс гісторыі старажытнарускай літаратуры" дае наступнае: "*Рэдакцыяй* будзе называцца такая перапрацоўка помніка, якая была зроблена з пэўнай мэтай, выкліканая альбо якойсьці грамадскай падзеяй, альбо чыста літаратурнымі інтарэсамі і густамі кніжніка… адным словам, – такая перапрацоўка, якая можа быць названа літаратурнай". Такім чынам, каб высветліць, што перад намі – новая рэдакцыя твора ці чарговы спіс, трэба вызначыць характар асаблівасцяў спіса. Знешнія адрозненні паміж спісамі, калі яны выпадковыя, не могуць служыць падставай падзелу іх на асобныя рэдакцыі. Напрыклад, у помніку можа быць страчана частка альбо нават палова тэксту, як, напрыклад, у "Хроніцы Быхаўца" і ў многіх спісах I і II зводаў беларуска-літоўскіх летапісаў.

Рэдакцыя ўключае некалькі спісаў, блізкіх, але не ідэнтычных па тэксце. Тэкст, ад якога пайшлі астатнія тэксты спісаў дадзенай рэдакцыі, прынята называць *архетыпам* рэдакцыі.

Архетып можа быць у спісаў не толькі якойсьці рэдакцыі, але і спісаў цэлага зводу. Нямецкі даследчык П.Маас даў наступнае вызначэнне архетыпа: “Тэкст, ад якога пачынаецца першае розначытанне, мы называем архетыпам”. Практычна паняцце архетыпа зусім не выкарыстоўваецца ў гісторыі летапісання, дзе зводы знаходзяцца ў вельмі складаных адносінах паміж сабой, перакрыжоўваюцца, правяраюцца адзін праз другі і часта зліваюцца. Найбольш вядомы расійскі даследчык летапісаў А.А.Шахматаў ніколі не выкарыстоўваў паняцце архетыпа, таксама як яго паслядоўнік М.Д.Прыселкаў. А.А.Шахматаў і М.Д.Прыселкаў карысталіся паняццем *пратографа*. Пад пратографам разумеецца бліжэйшы па тэксце арыгінал аднаго ці некалькіх спісаў. Архетып можа стаяць даволі далёка ад сваіх спісаў, пратограф жа блізкі па тэксце да спісу. Архетып і пратограф могуць супадаць, але здараецца гэта рэдка.

Найскладанейшыя тэарэтычныя праблемы тэксталогіі і ўвогуле крыніцазнаўства падрабязна разглядае ў сваёй манаграфіі “Тэксталогія. На матэрыяле рускай літаратуры X-XVII стагоддзяў” Д.С.Ліхачоў.

У XVI ст. беларуска-літоўскае летапісанне яшчэ больш адышло ад старажытных агульнарускіх узораў і набыло сваю яскравую мастацкую адметнасць, адлюстраваную ў хроніках-гістарычных аповесцях (“Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага”, “Хроніка Быхаўца”). Яны сталі ядром шматлікіх спісаў, якія складаюць другі і трэці летапісныя зводы.

Агульнадзяржаўнае беларуска-літоўскае летапісанне, выкліканае да жыцця надзённымі патрэбамі часу, было адлюстраваннем агульнай палітычнай і культурнай гісторыі беларусаў і літоўцаў XIV-XVI стст., іх сумеснай барацьбой за нацыянальную і палітычную незалежнасць. Яно скончыла сваё існаванне разам са стратай у другой палове XVI ст. гэтымі народамі дзяржаўнай самастойнасці. Заняпад арыгінальнага летапісання на Беларусі быў абумоўлены дзвюма галоўнымі прычынамі: 1) зменамі ў сацыяльным, палітычным і нацыянальным становішчы беларускага народа ў складзе Рэчы Паспалітай і звязаным з гэтым агульным заняпадам беларускай культуры; 2) трансфармацыяй самога летапіснага жанру. Дарэчы, і ў Польшчы хранікарскі жанр вычарпаў сябе ў гэты ж самы час.

Традыцыйныя віды сярэднявечнай гістарыяграфіі, летапіс і хроніка, на працягу свайго доўгага бытавання не маглі не змяняцца. Помнікі, створаныя, скажам, у XIV-XV стст., ужо не задавальнялі духоўныя запатрабаванні грамадства XVII ст.

Само жыццё выклікала неабходныя змены не толькі ў змесце, але і ў спосабе адлюстравання рэчаіснасці, і ў форме гісторыка-літаратурных твораў. Адбылася паступовая трансфармацыя і дыферэнцыяцыя старых жанраў і замена іх новымі. Выцясненне традыцыйных жанраў новымі гісторыка-літаратурнымі жанрамі па сутнасці пачалося ўжо ў другой палове XVI ст., калі з'явілася "Хроніка" Мацея Стрыйкоўскага, першая друкаваная гісторыя Літвы, Беларусі і суседніх усходнеславянскіх краін элементарна крытычнага характару. У XVII ст. з'яўляюцца "Дзённік" Ф.Еўлашэўскага, іншыя творы гісторыка-мемуарнага жанру. Праўда, былі спробы аднавіць старую летапісную форму апісання мінулага ("Баркулабаўскі летапіс", "Магілёўская хроніка Т.Р.Сурты і Ю.Трубніцкага", "Летапіс Панцырнага і Аверкі"), але беспаспяховыя.

*Вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання* пачалося з публікацыі ў 1823-1824 гг. Ігнатам Даніловічам, прафесарам Віленскага, пазней Харкаўскага, Маскоўскага і Кіеўскага універсітэтаў, аднаго з летапісных спісаў, знойдзенага ў бібліятэцы Супрасльскага манастыра пад Беластокам. Мікалай Малінoўскі, Аляксандр Рачынскі, Тэадор Нарбут, Ігнат Даніловіч і іншыя шукалі старажытныя дакументы па маёнтках, палацах, манастырах. Сёння гісторыя адкрыцця таго ці іншага старажытнага дакумента часам нагадвае захапляльны дэтэктыў. Надзвычай цікавыя прыгоды зведаў Аляксандр Рачынскі, які знайшоў у Полацку летапіс Аўраамкі. Вялікую колькасць старажытных дакументаў адкрыў ён у Гродне, Віцебску, Беластоку, Бельску, Вільні, Заблудаве і іншых мясцовасцях і перадаў іх у Віленскую Публічную бібліятэку. Шырока вядома дзейнасць Тэадора Нарбута па публікацыі рознага роду дакументаў часоў Вялікага княства Літоўскага. Яму належыць заслуга публікацыі такой важнай крыніцы па гісторыі беларуска-літоўскай дзяржавы, як "Хроніка Быхаўца". У 1838 г. ён зрабіў яе палеаграфічнае апісанне. З імем гэтага аўтара звязана і з'яўленне такіх гістарычных фальсіфікацый, як Раўдапскі рукапіс, надрукаваны ў першым томе "Гісторыі літоўскага народу", успаміны Кібурга, апісанне абнясення мурам Вільні.

Але першым даследчыкам беларуска-літоўскага летапісання па праву лічыцца Ігнат Даніловіч, які знайшоў і апублікаваў летапіс, дзе апісаны падзеі гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Па месцы, дзе ён быў знойдзены, сёння летапіс называецца Супрасльскім. Адкрыты ён быў з дапамогай праф. М.К.Баброўскага, відаць, летам 1822 г. У Вільні з летапісу была зроблена

копія, потым ён быў адпраўлены зноў у Супрасль. Пасля 1824 г. летапіс знік з поля зроку даследчыкаў, і аб ім нічога не было вядома да 1900 года, пакуль ён не “знайшоўся” ў Археаграфічнай камісіі ў Пецярбургу.

Аб тым, якія рукапісы захоўваліся ў Супрасльскім манастыры ў 20-я гады XIX ст., коратка паведамляў Ігнат Даніловіч. Згодна з яго звесткамі, там было “каля 80 тамоў рускіх рукапісаў”. Але ён неахвотна гаварыў аб рукапісных багаццях манастыра і ўвогуле Падляшша і Гарадзеншчыны, паколькі баяўся, што расійскія ўлады іх канфіскуюць.

І.Даніловіч на падставе Супрасльскага летапісу і палеаграфічнага апісання “Хронікі Быхаўца” напісаў невялікае па аб’ёме, але вельмі змястоўнае даследаванне “О литовских летописях” (ЖМНП, 1840, №11, с.70-114). У ім ён выказаў столькі трапных меркаванняў, што яны не страцілі свайго сэнсу да нашых дзён. Ён першы аўтарытэтна заявіў, што Мацей Стрыйкоўскі, спасылаючыся на крыніцы, толькі пераказваў тое, што было ў летапісах, захаваўшы некаторыя помнікі, якія не дайшлі да чытачоў.

Прайшло 15 год пасля выхаду апошняга артыкула Даніловіча, перш чым з’явілася новае даследаванне, у якім гаварылася аб беларуска-літоўскім летапісанні, – “Лекции по русской истории” М.І.Кастамарава. Да гэтага часу было апублікавана некалькі раней невядомых летапісаў: у 1846 г. Т.Нарбут выдаў “Хроніку Быхаўца”, у тым жа годзе О.М.Бадзянскі надрукаваў урыўкі з летапісу Рачынскага; у 1854 г. А.Н.Папоў апублікаваў частку Слуцкага летапісу. Кастамараў класіфікаваў усе вядомыя тады летапісы на кароткія і поўныя. Да кароткіх былі аднесены Супрасльскі і Слуцкі (пад кароткімі разумеліся толькі тыя летапісы, якія пачынаюцца з пераліку сыноў Гедыміна і ўказання, што кожнаму з іх дасталася пасля смерці бацькі), да поўнага – хроніка Быхаўца. Дарэчы, М.І.Кастамараў упершыню падкрэсліў, што гэтыя летапісы трэба лічыць беларускімі, “паколькі ўласна літоўскіх летапісаў ніколі не існавала”.

Пасля Кастамарава назіраецца зацішша ў вывучэнні беларуска-літоўскіх летапісаў. Акадэмія навук нават абвясціла конкурс і паабяцала прэмію за працу аб “западнорусских летописях”. Аднак гэта не дапамагло, ніхто не займаўся імі. Толькі ў 1881 г. на конкурс была пададзена праца І.А.Ціхамірава “О составе западнорусских, так называемых литовских летописей”, якая, аднак, з’явілася ў друку толькі праз 20 гадоў.

У 80-я гг. XIX ст. аб гэтых летапісах з’явіліся ўзгадкі ў працах па гісторыі Украіны М.Малчаноўскага, Я.Аганоўскага, В.Антановіча, М.Дашкевіча, М.Грушэўскага. У 80–90-я гг. XIX ст. да вывучэння летапісаў далучыліся польскія вучоныя І.Шараневіч, С.Смолька, А.Прахаска. Найважнейшы вынік, да якога прыйшоў Шараневіч, у тым, што цэнтрам, дзе былі створаны беларуска-літоўскія летапісы, з’яўляўся Смаленск. На яго думку, летапісы ўяўлялі сабой зводы, складзеныя ў розны час рознымі асобамі. Шараневіч лічыў, што складальнікі гэтых летапісаў да 1446 г. карысталіся нейкім старажытным летапісам, а, апісваючы падзеі пачатку XVI ст., выкарыстоўвалі дзяржаўныя і прыватныя акты.

С.Смолька разглядаў сваю працу “Найдаўнейшыя помнікі руска-польскай гістарыяграфіі. Крытычны аналіз” як уступ да будучага выдання пад назвай “Рускія крыніцы да польскай гісторыі”. Мэта гэтага выдання – высветліць узаемасувязі паміж польскімі, беларуска-літоўскімі летапісамі і хронікамі. Асноўнымі аб’ектамі вывучэння Смолькі былі Супрасльскі і Слуцкі летапісы. Іх складальнікі, на думку даследчыка, карысталіся летапісамі і хронікамі, створанымі ў Смаленску, і летапісамі Вялікага княства Літоўскага, а таксама актавымі матэрыяламі.

А.Прахаска лічыў, што беларуска-літоўскія летапісы, якія пачынаюцца з пераліку сыноў Гедыміна, неаднаразова перараблялiся і дапаўняліся і складаюцца з дзвюх частак: апісальнай і асобных пагадовых запісаў. Прахаска падкрэсліваў, што гонар гэтага адкрыцця належыць С.Смольке.

У 1910 і 1912 гг. выйшлі дзве працы польскага вучонага Яна Якубоўскага. Першая з іх – “Літоўскія хронікі” (“Kroniki litewskie”) – была прысвечана агляду летапісных крыніц М.Стрыйкоўскага, а таксама гісторыі знаходак летапісаў і літаратуры, якая датычыцца беларуска-літоўскага летапісання. Якубоўскі падкрэсліваў, што ўжо Я.Длугаш карыстаўся летапісамі, пасля яго – М.Кромэр, М.Бельскі, А.Віюк-Каяловіч. Другая праца Я.Якубоўскага – “Даследаванні нацыянальных адносінаў у Літве перад Люблінскай уніяй” (“Studya nad stosunkami narodowościowymi na Litwie przed Unią Lubelską”) – не страціла і сёння свайго навуковага значэння дзякуючы багатаму зместу і часта цытуецца сучаснымі даследчыкамі.

Вынікам і абагульненнем зробленага ў галіне даследавання беларуска-літоўскага летапісання ў XIX ст. можна лічыць падрыхтоўку да друку XVII тома “Полного собрания русских

летописей”. XVII том быў апублікаваны ў 1907 г. У яго ўвайшлі ўсе вядомыя на той час беларуска-літоўскія летапісы. Актыўны ўдзел у яго падрыхтоўцы браў А.А.Кунік, які хацеў выдаць том не ўласна летапісаў, але археаграфічны зборнік альбо некалькі зборнікаў, у якіх асвятлялася б гісторыя ВКЛ за перыяд прыкладна да канца XIV ст. Але ў студзені 1899 г. А.А.Кунік памёр, не паспеўшы ажыццявіць сваю задуму. Яго прадаўжальнікам стаў А.А.Шахматаў. Ён прапанаваў прыцягнуць да выдання XVII тома І.Лапа і С.Пташыцкага. Апошні адыграў значную ролю ў падрыхтоўцы да выхаду ў свет XVII тома беларуска-літоўскіх летапісаў.

Пташыцкі Станіслаў Людвік (1853–1933) – польскі філолаг, гісторык, архівіст – зрабіў выдатны ўклад у пошукі і вывучэнне пісьмовых крыніц па гісторыі ВКЛ. Ён нарадзіўся ў Маскоўскай губерні. У 1872 г. скончыў сярэднюю школу ў Вільні. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, спачатку на медыцынскім, потым на гісторыка-філалагічным факультэце. Яго навуковымі кіраўнікамі былі прафесары І.І.Срэзнеўскі і У.І.Ламанскі. Пазней Пташыцкі займаўся педагагічнай дзейнасцю і адначасова праводзіў даследаванні ў бібліятэках і архівах Пецярбурга, Галіцыі, Каралеўства Польскага, Аўстрыі, Італіі, Нямеччыны. З кастрычніка 1884 да 30 лістапада 1887 г. быў метрыкантам “Метрыкі Літоўскай”. У 1887 г. С.Пташыцкі апублікаваў “Описание книг и актов Литовской Метрики”. Прымаў чынны ўдзел у дзейнасці арганізацыйных камітэтаў археалагічных з’ездаў у Вільні (1893) і Рызе (1896) з’езду славянскіх гісторыкаў і філолагаў (1904). З восені 1896 г. выкладаў у Пецярбургскім універсітэце гісторыю польскай літаратуры і польскую мову. Жывучы больш за 40 гадоў у Пецярбургу, ён стаўся вялікім знаўцам тамтэйшых архіваў і бібліятэк. Восенню 1918 г. прыбыў у Варшаву. У гэтым жа годзе стаў дырэктарам дзяржаўнага архіва ў Любліне. Быў прафесарам Люблінскага каталіцкага універсітэта, дэканам філасофскага факультэта Віленскага універсітэта. Прымаў удзел у падпісанні мірнага дагавора паміж Савецкай Расіяй і Польшчай у Рызе ў якасці эксперта па справах архіваў і бібліятэк. У 1926 г. прызначаны дырэктарам Дзяржаўных Архіваў Польшчы.

Пташыцкі даследаваў пісьменства XVI ст. (польскія хронікі, творчасць М.Рэя, А.Крыцкага, А.Нідэцкага), шмат прац прысвяціў гісторыі ВКЛ. Знайшоў і апублікаваў (Вільна, 1907) Альшэўскі летапіс. Выдаў таксама попісы войска ВКЛ за 1528, 1565

і 1567 гг. (1915). У нясвіжскай бібліятэцы Радзівілаў знайшоў рукапіс твора М.Стрыйкоўскага “Аб пачатках народу літоўскага”. Акрамя гэтага напісаў яшчэ некалькі навуковых прац – “К истории литовского права после третьего статута” (ЖМНП, 1893); “К вопросу об изданиях и комментариях Литовского Статута” (СПб., 1893); “Князья Пузыны. Историко-генеалогические материалы” (СПб., 1899); у сааўтарстве з А.І.Сабалеўскім выдаў табліцы рускай палеаграфіі XIV ст. (1903) і інш.

Вялікай заслугай С.Пташыцкага з’яўляецца падрыхтоўка XVII тома Поўнага Збора Рускіх Летапісаў. На жаль, у выданні адсутнічае палеаграфічнае апісанне летапісаў. Самае слабое месца тома – гэта геаграфічны паказальнік, складзены В.К.Калашэўскім. Рэцэнзіі на XVII том ПЗРЛ напісалі Я.Карскі, М.Грушэўскі, А.Прахаска, І.Ціхаміраў.

У 1921 г. у Кіеве выйшла першая частка грунтоўнай манаграфіі Т.Сушыцкага “Заходнерускія летапісы як помнікі літаратуры” (“Західньо-руськi літописи як пам’ятки літэратуры”). Другая частка ўбачыла свет у 1929 г.

Новы ўздым цікавасці да беларуска-літоўскага летапісання адзначаецца ў 60-80-я гады сярод беларускіх і літоўскіх гісторыкаў. Найбольшы ўклад у даследаванне ўнёс М.М.Улашчык (1906 – 1986), які падрыхтаваў да друку і выдаў XXXII і XXXV тамы “Полного собрания русских летописей” (ПСРЛ). На сённяшні дзень гэта сапраўды поўнае выданне ўсіх вядомых беларуска-літоўскіх летапісаў. Тут жа мы знаходзім археаграфічныя апісанні ўсіх спісаў. Яшчэ да гэтых публікацый, у 1966 г. выйшла асобнае выданне “Хронікі Быхаўца”, якую дагэтуль некаторыя даследчыкі лічылі падробкай. Вучоны даказаў яе арыгінальнасць. У сваіх каментарах да XXXII і XXXV тамоў ПСРЛ ён пераканаўча даказаў, што беларуска-літоўскія летапісы складаліся на беларускай мове і былі агульнадзяржаўнымі для Вялікага княства Літоўскага. Шматгадоваму вывучэнню летапісаў падведзены вынік у яго апошняй манаграфіі “Введение в изучение белорусско-литовского летописания” (М., 1985), дзе падаецца крыніцазнаўчы і археаграфічны аналіз усіх вядомых на сёння спісаў нашых летапісаў, а таксама паспяхова вырашаюцца асноўныя праблемы ў іх вывучэнні, у тым ліку і ўзаемаадносіны польскіх хронік (асабліва хронікі М.Стрыйкоўскага) і беларуска-літоўскіх летапісаў.

Працы М.М.Улашчыка былі выдадзены ў Маскве, бо больш за трыццаць гадоў ён быў супрацоўнікам Інстытута гісторыі СССР Акадэміі навук СССР. Але ўсё сваё жыццё ён заставаўся найшчырэйшым беларусам. Мікалай Улашчык – адзін з апошніх аца-

лелых пасля сталінскіх чыстак прадстаўнікоў беларускай гістарычнай навукі. Прайшоўшы ГУЛАГ, ён пераадолеў супрацьстаянне сістэмы, якая ламала лёсы людзей, стаў гісторыкам, як і было наканавана. У 20-я гады яго настаўнікамі ў БДУ былі знакамітыя навукоўцы Ул.Пічэта, М.Доўнар-Запольскі. М.М.Улашчык сёння ўспрымаецца намі як апошні з гэтай славутай кагорты даследчыкаў мінулага Беларусі. Пра Мікалая Улашчыка напісаны шэраг біяграфічных артыкулаў, яго ўклад у навуку высока ацэньваецца ў спецыяльных навуковых выданнях.

Нельга не ўзгадаць і працы беларускага даследчыка, які адзіны ў Беларусі займаўся вывучэннем нашых летапісаў, В.А.Чамярыцкага. Яго кніга "Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў" выйшла ў 1969 г. У ёй высвятляюцца паходжанне гэтых помнікаў, фармаванне асобных летапісных зводаў і іх далейшая літаратурная гісторыя. В.А.Чамярыцкі прапанаваў класіфікацыю летапісаў, якой прытрымліваемся і мы ў дадзеным дапаможніку. Ён цікавіцца таксама ранНім летапісаннем Беларусі XII–XIII стст., з'яўляецца аўтарам адпаведных раздзелаў у падручніках па гісторыі беларускай літаратуры. У сваіх шматлікіх артыкулах аб развіцці беларускай літаратуры (скажам, у часы Ф.Скарыны) В.А.Чамярыцкі таксама звяртаўся да агляду беларуска-літоўскіх летапісаў. Нарэшце, пад яго рэдакцыяй выйшаў том "Беларускія летапісы і хронікі" (Мн., 1997) у серыі "Беларускі кнігазбор".

Летапісы Вялікага княства Літоўскага плённа вывучаюцца літоўскімі даследчыкамі. У манаграфіі М.А.Ючаса "Літоўскія летапісы" (Jucas M. Lietuvos metrasciai. – Vilnius, 1968) шмат увагі надаецца праблемам публікацыі летапісаў і гістарыяграфіі, вырашаюцца тры асноўныя пытанні: што ўяўляе сабой летапіс Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага, паходжанне "Хронікі Быхаўца", аналіз хронікі М.Стрыйкоўскага.

У 1971 г. выйшаў пераклад на літоўскую мову "Хронікі Быхаўца", зроблены Р.Ясасам. Праца складаецца з прадмовы, дзе падрабязна выкладаецца гістарыяграфія пытання, самога тэксту і каментароў, прычым каментары значна пераўзыходзяць па аб'ёме тэкст і прадмову разам узятыя. У каментарах вельмі падрабязна і кампетэнтна аналізуюцца асноўныя даныя хронікі.

Аднак тэматыка дадзенага дапаможніка ахоплівае не толькі беларуска-літоўскія летапісы, але і сярэднявечныя польскія хронікі, якія таксама з'яўляюцца багатымі крыніцамі па гісторыі Беларусі і цесна звязаны па змесце з беларуска-літоўскімі летапісамі.

**Польскія хронікі** – гэта сярэднявечныя гісторыка-літаратурныя творы, напісаныя на тэрыторыі Польшчы альбо палякамі на тэрыторыі іншых краін (напрыклад, у Вялікім княстве Літоўскім), аўтары якіх сваю галоўную задачу бачылі ў стварэнні гісторыі Польшчы і земляў, далучаных да яе ў выніку ўній ці адабраных у выніку іншых пагадненняў і захопаў, напісаныя па-польску ці па-лацінску.

Сярод многіх выдатных прадстаўнікоў розных галін навукі і культуры XII – XVI стст. у Рэчы Паспалітай самае пачэснае месца належыць менавіта гісторыкам. У гэты час жылі і тварылі некалькі дзесяткаў вядомых храністаў. Да іх належаць Гал Анонім, Вінцэнт Кадлубак, Янка з Чарнкова, Ян Длугаш, Мацей Мяхоўскі, Бернард Вапоўскі, Станіслаў Ажахоўскі, Лукаш Гурніцкі, Ян Дымітр Салікоўскі, Свентаслаў Ажэльскі, Міхал Брута, Аляксандр Гвагнін, Кшыштаф Варшавіцкі, Станіслаў Сарніцкі, Рэйнальд Гэйдэнштэйн, Марцін і Яхім Бельскія, Марцін Кромэр, Мацей Стрыйкоўскі, аб якіх пойдзе гаворка ніжэй. Кожны з іх унёс сваю лепту ў стварэнне праўдзівага вобраза мінуўшчыны Рэчы Паспалітай, у фармаванне нацыянальнай гістарыяграфічнай традыцыі.

Шматлікія творы гістарычнага пісьменства ў Польшчы XVI ст. даследчыкі старажытнай літаратуры вылучаюць у чатыры групы тэкстаў: працы хранікарскага тыпу, гістарыяграфія бягучых часоў, біяграфістыку і гістарычную прозу навуковага характару. Да першай групы належаць перад усім кампілятары Я.Длугаша, якія трымаліся ягоных “Рочнікаў” альбо дапаўнялі пададзены там матэрыял да сучасных сабе часоў, у асноўным не парушаючы канонаў жанру. У гэтую групу ўваходзяць “De origine et rebus gestis Polonorum…” (“Аб паходжанні і гісторыі палякаў”) Марціна Кромэра, “Хроніка Польская” Мацея Стрыйкоўскага, “Хроніка ўсяго свету” Марціна Бельскага, “Хроніка Польская” Яхіма Бельскага, а таксама “Sarmatiae Europeae Descriptio” (“Апісанне еўрапейскай Сарматыі”) Аляксандра Гвагніна і некаторыя іншыя. Гэтых храністаў можна назваць энцыклапедыстамі: згодна з традыцыямі гістарыяграфіі, яны ў сваіх творах ахоплівалі шырокія гістарычныя прасторы (часам нават, як у выпадку з “Хронікай усяго свету” – сусветнага маштабу) ад старажытнасці да сучаснасці.

Для нас вывучэнне польскіх хронік важна яшчэ таму, што, як указваў М.Д.Прыселкаў, “упершыню аб беларускіх ці заходнерускіх летапісах руская навука даведалася з твораў польскіх храністаў XV і XVI ст.: Длугаша, Бельскага і Стрыйкоўскага”.

Сапраўды, не ўзнікае сумненняў, што польская гістарыяграфія цесна звязана з беларуска-літоўскім летапісаннем і ўкраінскай гістарыяграфіяй XVII-XVIII стст.

У другой палове XVI ст. гэтыя творы былі адзінай друкаванай крыніцай інфармацыі аб мінулым Вялікага княства Літоўскага. Мы не можам атрымаць уяўлення аб узроўні гістарычнай навукі на Беларусі на той час, не аналізуючы польскія хронікі. "Хроніка Польская" Мацея Стрыйкоўскага, якая пісалася на беларускіх землях і мае да іх непасрэднае дачыненне, найбольш тэрмінова патрабуе вывучэння з боку беларускіх даследчыкаў як гістарычная крыніца і як твор гістарыяграфіі XVI ст. Але вывучаць яе ізалявана, у адрыве ад іншых прац гэтага кшталту, нельга. Таму трэба даследаваць таксама жыццё і творчасць Яна Длугаша, Мацея Мяхоўскага, Марціна і Яхіма Бельскіх, Марціна Кромэра і іншых храністаў таго часу.

Польскія хронікі складаюць вялікі корпус наратыўных крыніц, якія могуць і павінны быць выкарыстаны ў беларускай гістарыяграфіі. Гісторыя іх вывучэння налічвае больш за 500 гадоў; напісана вялікая колькасць даследаванняў, якія практычна невядомы ў Беларусі. Вывучэннем польскіх хронік у Польшчы займаліся вядомыя даследчыкі – Л.Фінкель, І.Хшаноўскі, Ул.Нейрынг, Г.Барыч і іншыя. Яны стварылі школы і кірункі вывучэння польскіх хронік. Апошнія гады да гэтага працэсу далучыліся навукоўцы Расіі, Украіны, Літвы і Беларусі.

На працягу стагоддзяў змяняліся напрамкі гістарыяграфіі, але цікавасць да гэтага жанру гістарычнага пісьменства заўсёды заставалася. Па-першае, хронікі выкарыстоўваліся як крыніцы інфармацыі і аргументацыі па самых разнастайных пытаннях. Па-другое, яны вызначалі ўзровень інтэлектуальнага развіцця тагачаснага грамадства і таму вабілі да сябе гісторыкаў літаратуры, мастацтва, грамадска-палітычнай думкі. Па-трэцяе, у апошнія часы, не губляючы свайго крыніцазнаўчага значэння, хронікі ўсё часцей робяцца аб'ектам вывучэння вузкай навуковай дысцыпліны – гістарыяграфіі. Але да гэтага часу няма абагульняючай манаграфіі аб гісторыі развіцця польскага дзеепісьменства, дзе вызначаліся б яе перыяды і праблемы, кірункі далейшых даследаванняў. Таксама няма манаграфіі, якая б разглядала польскія хронікі як крыніцы па гісторыі ВКЛ.

Першымі даследчыкамі гэтага цікавага комплексу гістарычнага матэрыялу можна лічыць саміх храністаў. Кожны з іх браўся за складаную працу стварэння свайго вобраза мінуўшчыны, не задавальняючыся творамі папярэднікаў, якімі карыстаўся як

крыніцамі. Часам можна сустрэць канкрэтную крытыку ў адрас папярэднікаў з боку храністаў XVI ст., напрыклад, у "Хроніцы свету" Марціна Бельскага. Даўнія хронікі, на думку Бельскага, не адпавядалі патрэбам грамадства, бо, па-першае, былі абыякавыя да мінулага сваёй краіны ("больш і даўжэй пісалі аб няшчасцях продкаў, чым аб іх велічы"), і, па-другое, пісалі іх духоўныя асобы, што негатыўна адбілася на змесце, бо, "абмінаючы значныя падзеі, якіх Польшча мела дастаткова, пісалі свае рэчы – гэта значыць пра касцёльныя вёскі, дзесяціны альбо кананізацыі, што больш адпавядае легендам, чым хроніцы". Нават Ян Длугаш, на думку Бельскага, пісаў нямала "пустых рэчаў". Мехавіта, які з "Длугашавай хронікі пісаў, адно карацей", апусціў шмат непатрэбных рэчаў, але "сам іх таксама досыць напісаў". М.Бельскі крытыкуе і Бернарда Вапоўскага, чыя хроніка, напісаная "досыць прыгожымі словамі і шырока", на жаль, "не пабачыла святла".

Сам Марцін Бельскі для апошняга выдання "Хронікі свету" (1564) запазычыў шмат фактаў з першага выдання "Гісторыі Польшчы" Марціна Кромэра (1555) і іншых твораў храністаў XVI ст. "Хроніка польская" (1597), у значнай ступені напісаная і адрэдагаваная яго сынам, Яхімам Бельскім, на думку Л.Фінкеля, цалкам заснавана на "Гісторыі" М.Кромэра, а таксама іншых хроніках, у тым ліку "Хроніцы Польскай" Мацея Стрыйкоўскага (1582). Апошні, чый твор выйшаў пазней, чым працы Марціна Бельскага і Марціна Кромэра, указаў выданні гэтых аўтараў у спісе выкарыстаных ім крыніц, які змясціў на першай старонцы. Дарэчы, размяшчэнне падобнага спісу літаратуры і крыніц на пачатку хронікі сведчыць аб якасна новым навуковым узроўні працы Стрыйкоўскага і распачатым ім новым этапе гістарыяграфіі ў Вялікім княстве Літоўскім. Для яго характэрна супастаўленне меркаванняў розных аўтараў па разнастайных пытаннях. Напрыклад, раздзел V кнігі II "Хронікі" Стрыйкоўскага ўтрымлівае "Длугашава і Кромэрава меркаванне аб Літве", "Мехавітава меркаванне аб вывадзе Літвы", "Меркаванне Бельскага аб Літве". У XVII ст. самым вядомым даследчыкам і прадаўжальнікам Стрыйкоўскага быў А.Віюк-Каяловіч, які прааналізаваў ягоны твор і, скараціўшы, паклаў у аснову першага тома сваёй "Гісторыі Літвы" (Гданьск, 1650).

Марцін Кромэр значна радзей называў крыніцы сваёй "Гісторыі", але вядома яго крытычнае стаўленне да некаторых поглядаў М.Бельскага. Пры падрыхтоўцы да друку самага поўнага выдання "De origine et rebus gestis..." (1589) ён выкарыстаў і некаторыя сведчанні Стрыйкоўскага аб Літве.

Такім чынам, карэктна лічыць першымі гістарыёграфамі польскіх хронік саміх храністаў таго часу і прадаўжальнікаў хранікарскай традыцыі XVII ст. Першай уласна гістарыяграфічнай працай, у якой разглядаюцца творы храністаў XIII – XVI стст., можна лічыць твор Сымона Старавольскага "Сотня польскіх пісьменнікаў" (Setnik pisarzyw polskich) (Франкфурт, 1625), у якім ён падае біяграфіі ста самых выдатных, на яго погляд, польскіх пісьменнікаў, пачынаючы ад Марціна Паляка; дадаў "Каталог слаўных польскіх пісьменнікаў", дзе фігуруюць 220 прозвішчаў, у тым ліку і Марцін Бельскі, прапушчаны ў асноўным тэксце. Пяру С.Старавольскага належыць таксама вялікі агіяграфічны твор "Жыццё і цуды Слугі Божага Вінцэнта Кадлубка".

Падобна таму, як адной з першых прац па тэорыі гісторыі альбо метадалогіі ў Еўропе лічыцца кніга Станіслава Іллоўскага "De historica facultate libellus" (Парыж, 1556), твор нашага земляка Сымона Старавольскага (ён нарадзіўся ў маёнтку Стараволя каля Пружан) яскрава адлюстроўвае ўзровень гістарыяграфічнай думкі таго часу і лічыцца першай класічнай кнігай гэтага жанру.

*Прац па гісторыі польскай літаратуры* XIII – XVI стст., пачынаючы ад С.Старавольскага і бібліяграфіі Яна Даніэля Яноцкага (1776) і скончваючы адносна новымі кнігамі Ю.Кшыжаноўскага і Ч.Мілаша, налічваецца некалькі дзесяткаў (гл. "Bibliografia literatury Polskiej "Nowy Korbut". Pismiennictwo staropolskie. T.1). Найбольш каштоўнымі для нас з'яўляюцца шматтамовыя выданні з памежжа літаратуразнаўства і гістарыяграфіі, выдадзеныя ў XIX ст., такія, як "Гісторыя польскай літаратуры" Ф.Бенткоўскага ў двух тамах (Варшава, 1814), аднайменная праца Міхала Вішнеўскага ў дзесяці тамах, і інш.

Разглядаць польскія хронікі немагчыма без аналізу беларуска-літоўскіх і старажытнарускіх летапісаў, многія з якіх з'яўляюцца як пратографамі, так і кампіляцыямі першых. Польскія храністы, пачынаючы ад Вінцэнта Кадлубка, карысталіся найбольш старажытнай "Аповесцю мінулых часоў" і больш познімі летапісамі – наўгародска-пскоўскімі, Васкрасенскім, Цвярскім, Ніканаўскім і інш. Летапісныя паведамленні Я.Длугаша прааналізаваныя ў крытычных разборах ягонай гісторыі (Rozbiór krytyczny Annalium Poloniae Jana Długosza z lat 1385 – 1480, oprac. S.Gawęda, K.Pieradzka, J.Radziszewska, K.Stachowska pod kier. J.Dąbrowskiego, Wrocław 1961-1965; A.Semkowicz, Krytyczny rozbiór Dziejów Polski Jana Długosza (do roku 1384), Kraków 1887).

Летапісныя паведамленні М.Стрыйкоўскага рупліва прааналізаваў А.І.Рогаў у кнізе “Руска-польскія культурныя сувязі ў эпоху Адраджэння”. У крытычным даследаванні “Гісторыі” М.Кромэра, зробленым Л.Фінкелем, знаходзім указанні на ўсходнеславянскія летапісы без удакладнення іх назваў альбо паходжання (акрамя “Аповесці мінулых часоў”, якая ў Фінкеля фігуруе пад назвай “Нестар”). Марцін Бельскі карыстаўся “рускімі летапісамі” апасродкавана, г.зн. праз Мехавіту, Сігізмунда Герберштэйна і інш. Акрамя гісторыі старажытнай Русі кіеўскага перыяду, якую польскія храністы цалкам выкладаюць паводле “Аповесці мінулых часоў”, дакладней, яе інтэрпрэтацыі паводле Я.Длугаша і Мехавіты, яны часта звяртаюцца да беларуска-літоўскіх летапісаў па факты з пачатковай гісторыі Вялікага княства Літоўскага. А больш позні з беларуска-літоўскіх летапісаў, такія, як “Хроніка літоўская і жмойцкая”, “Летапіс Панцырнага і Аверкі”, былі напісаны ў значнай ступені паводле хронік Стрыйкоўскага, Бельскага, Кромэра, Гвагніна і іншых.

Хронікі Бельскіх, Кромэра, Стрыйкоўскага ўтрымліваюць найбольш каштоўнай інфармацыі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, што звязана з блізкім знаёмствам іх аўтараў з рэаліямі палітычнага, грамадскага, рэлігійнага, культурнага жыцця гэтага дзяржаўнага ўтварэння. Жыццёвыя шляхі храністаў праходзілі праз беларускія землі. Хронікі Бельскіх, Кромэра, Стрыйкоўскага былі вельмі папулярнымі сярод адукаванай публікі Еўропы, яны перакладаліся на розныя мовы, знаходзіліся ва ўсіх больш-менш багатых кнігазборах. З распаўсюджаннем польскіх хронік (асабліва твораў М.Стрыйкоўскага) ў свеце пашыралася вядомасць аб гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

У Расійскай Нацыянальнай Бібліятэцы імя М.Я.Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу захоўваюцца шматлікія пераклады польскіх хронік на так званую “вялікарускую” і старабеларускую мовы. Сярод іх ёсць як поўныя, так і няпоўныя пераклады хронікі Стрыйкоўскага; “Хронікі ўсяго свету” Марціна і “Польскай хронікі” Яхіма Бельскіх; “Апісання Сарматыі Еўрапейскай” Аляксандра Гвагніна. Асаблівую каштоўнасць уяўляе экзэмпляр старабеларускага перакладу хронік М.Бельскага і М.Стрыйкоўскага, які быў зроблены па загадзе Жыгімонта Аўгуста шляхціцам Вялікага княства Літоўскага Амброжыем Брэжэўскім яшчэ ў канцы XVI ст. Шматлікія тлумачэнні на ўсходнеславянскіх мовах сведчаць аб вялікай папулярнасці польскіх хронік у суседніх дзяржавах.

Усходнеславянскія пераклады польскіх хронік служылі асновай шматлікіх позніх летапісаў і хранографаў, якія ствараліся ў асноўным на Украіне – “Сінопсіса” І.Гізэля (1651-1653), “Палінодыі” З.Капысценскага (1621), “Хронікі” Ф.Сафановіча і інш. З апошнімі звязаны позні летапісны звод (1624-1627), які сёння прынята называць Густынскім летапісам, адкрыты А.І.Ермалаевым у 1810 г. у лубенскім Мгарскім манастыры на Украіне. У гэтай папулярнай крыніцы шырока выкарыстоўваюцца польскія хронікі XVI ст.: Бельскіх, Стрыйкоўскага, Гвагніна, Кромэра.

Кампіляцыяй узгаданых польскіх хронік з’яўляецца і “Хроніка Літоўская і Жмойцкая”, змешчаная ў XXXII томе ПСРЛ.

*Праблема верагоднасці пісьмовай крыніцы.* Вывучэнне летапісаў і хронік абавязкова патрабуе ведання іх асаблівасцяў як гістарычных крыніц. Незалежна ад таго, якую інфармацыю мы хочам з іх здабыць – па гісторыі, літаратуры, мастацтвазнаўству альбо геаграфіі, геральдыцы, тапаніміцы – мы павінны прытрымлівацца пэўных правіл карыстання падобнымі крыніцамі. Як ужо адзначалася, летапісы і хронікі – гэта вельмі своеасаблівы гатунак гістарычных помнікаў. Працуючы з імі, трэба вельмі асцярожна падыходзіць да паведамленняў іх аўтараў. Карыстацца гістарычнай крыніцай можна толькі пасля адпаведнага крытычнага аналізу, г.зн. вызначэння яе верагоднасці. Гістарычная навука мае разнастайныя прыёмы для крытычнай праверкі крыніц. Асобныя помнікі супастаўляюцца адзін з адным, робіцца дакладная праверка паведамленняў, якія ўтрымліваюцца ў іх, улічваюцца мэты і задачы, якія ставіліся падчас стварэння тых ці іншых крыніц, высвятляюцца палітычныя пазіцыі і тэндэнцыі аўтараў гістарычных твораў і да т.п. Так, большасць беларуска-літоўскіх летапісаў маюць агульнадзяржаўны характар і таму прасякнуты ідэяй патрыятызму і суверэнітэту, але месцамі ў іх узвышаецца роля аднаго магната, напрыклад, Гаштольда, і прыніжаецца роля другога ў залежнасці ад таго, пры якім двары пісаўся летапіс. Суб’ектыўнасць успрымання часам пераходзіць у свядомае замоўчванне тых ці іншых фактаў альбо нават скажонае іх адлюстраванне. Напрыклад, у “Хроніцы Быхаўца” Грунвальдская бітва падаецца як перамога літоўскай зброі (“А іншыя войскі ляшскія ім не дапамагалі, толькі на тое глядзелі”), у той час як польскія хронікі робяць акцэнт на заслугах каронных гетманаў і шляхты. Карыстаючыся гэтай інфармацыяй, трэба старанна ўзважваць вартасць кожнай звесткі.

Сярэднявечныя летапісцы апісвалі знешні бок падзей і асвятлялі гісторыю з пункту гледжання свецка-рыцарскіх ці хрысціянска-аскетычных ідэалаў. Летапісы складаліся свецкімі і духоўнымі асобамі ў розным сацыяльна-культурным асяроддзі, вырашалі розныя ідэйна-мастацкія задачы, таму вельмі разнастайныя паводле зместу, ідэйнай накіраванасці, жанрава-стылёвых асаблівасцяў, формы і спосабу гістарычнага апавядання. Трэба таксама мець на ўвазе, што пры багацці палітычных падзей аналы (еўрапейская назва летапісаў) і хронікі бедныя на паведамленні аб эканоміцы, этнаграфіі, мастацтвазнаўству. Гэта не значыць, што гісторыку, які вывучае эканамічныя адносіны, сялянскія рухі альбо гісторыю культуры, можна недаацэньваць гэтыя крыніцы. Трэба іх больш уважліва чытаць і супастаўляць, каб па каліўцу знаходзіць патрэбную інфармацыю.

Крыніцазнаўства сярэднявечча мае шмат кропак сутыкнення з тым раздзелам гістарыяграфіі, які даследуе летапісы і хронікі. Аднак, калі гістарыяграфія шукае гістарычныя канцэпцыі феадальных гісторыкаў, факты рэальнага жыцця грамадства на той ці іншай ступені развіцця, то крыніцазнаўства даследуе тыя ж летапісы і хронікі з пункту гледжання верагоднасці змешчаных у іх сведчанняў. Кожны гісторык павінен дасканала валодаць усімі метадамі навуковай крытыкі крыніц.

У крыніцазнаўчых даследаваннях польскіх хронік і беларуска-літоўскіх летапісаў вылучаюцца два аспекты: *гістарыяграфічны і крыніцазнаўчы.* З пункту гледжання гістарыяграфіі мы разглядаем развіццё гістарычных канцэпцый гісторыкаў, змены свядомасці і пануючых ідэалогій; у той час як крыніцазнаўства даследуе тыя ж хронікі і летапісы з пункту гледжання верагоднасці інфармацыі, якая ў іх утрымліваецца, і той ролі, якую дадзеныя крыніцы адыгралі ў жыцці грамадства. Разам з тым гістарыяграфія і крыніцазнаўства бяруць адзін у аднаго атрыманыя ў выніку даследавання дадзеныя і ўзаемадапаўняюць іх. Без уліку гістарычнай канцэпцыі аўтара нельга правільна ацаніць верагоднасць крыніцы. З другога боку, дакладнасць у перадачы фактычнага матэрыялу альбо яго фальсіфікацыя неад’емныя ад агульнай гістарычнай канцэпцыі, якою прасякнуты ўвесь твор.

Як вядома, прадметам гісторыі ўвогуле з’яўляюцца факты і працэсы рэчаіснасці. Польскі даследчык Е.Тапольскі ў кнізе “Свет без гісторыі” вылучыў рэчаіснасць рэальную, такую, якая сапраўды існуе ці існавала; рэчаіснасць праўдападобную, рэканструяваную даследчыкам; а таксама рэчаіснасць міфалагізава-

ную, якая адпавядае традыцыйным у грамадстве прадстаўленням аб гістарычных фактах ці постацях. Відавочна, што нам даводзіцца мець справу з дзвюма апошнімі катэгорыямі, якія з'яўляюцца, аднак, толькі вобразамі першай. Відавочна таксама, што па класіфікацыі таго ж Е.Тапольскага хронікі М. і Я.Бельскіх, М.Кромэра, М.Стрыйкоўскага, таксама, як летапісы, адносяцца да тыпу крыніц-пасрэднікаў: паміж былой рэчаіснасцю і намі знаходзіцца трэцяя асоба – інфарматар. Мы мусім спадзявацца на яго, таму павінны правесці не толькі аналіз аўтэнтычнасці крыніцы, але адначасова аналіз верагоднасці інфарматара. Гаворка ідзе аб сцвярджэнні таго, ці хацеў інфарматар і ці мог сказаць праўду. Толькі пазітыўны адказ на гэтыя пытанні дасць магчымасць уключыць інфармацыю, здабытую новай пасрэднай крыніцай, да наяўнага ўжо комплексу паведамленняў, якія з'яўляюцца падставай да навуковых высноў. Гаворачы аб пасрэдных крыніцах (напрыклад, аб хроніках), трэба памятаць, што пасрэднай з'яўляецца толькі інфармацыя, змешчаная ў крыніцах, у той жа час сама крыніца ў матэрыяльным сэнсе (папера, аправа) мае характар беспасрэднай.

Пры разглядзе гэтай праблематыкі нельга аддзяліць гістарыяграфічны аспект ад крыніцазнаўчага. Нават пасля сцвярджэння аўтэнтычнасці крыніцы альбо яе неаўтэнтычнасці, верагоднасці ці неверагоднасці вялікай каштоўнасцю застаецца канцэпцыя храніста і адлюстраванне пануючых ідэй у творы. Даказаць верагоднасць беларуска-літоўскіх летапісаў і польскіх хронік – гэта значыць супаставіць іх з крыніцамі паведамленняў, якімі карысталіся храністы, разгледзець па магчымасці ступень аўтэнтычнасці апошніх і выказаць, наколькі правільна адлюстраваны ў іх падзеі.

Памятаючы, што кожны твор ёсць твор індывідуальнага творцы, не варта забываць, што творца выказвае думку ўсяго грамадства альбо яго пэўных слаёў. Ясна, што няма нейкай аднастайнай агульнай "публічнай думкі". Гісторыкі выказвалі розныя погляды, якія адпавядалі поглядам тых ці іншых грамадскіх колаў. Існуе таксама паняцце грамадскага стэрэатыпа, з якім пераважна і даводзіцца сутыкацца сучаснаму гісторыку, які займаецца сярэднявечнай гістарычнай свядомасцю, гэта ёсць тая міфалагізаваная рэчаіснасць, аб якой гаварыў Е.Тапольскі. Галоўным крыніцазнаўчым метадам пры аналізе польскіх хронік надалей застаецца "метад уплываў" альбо асаблівы яго варыянт "метад філіяцый". Гэты метад аказвае нам паслугу пры фармальным аналізе тэксту, дазваляючы выявіць

генетычныя залежнасці тэксту. Аднак генетычны аналіз сёння перастае быць дастатковым, асабліва ў сувязі з усведамленнем гістарычнай, грамадскай, эканамічнай, культурнай і г.д. абумоўленасці ідэй. Значна больш цікавіць нас функцыя дадзенай ідэі, погляду ці меркавання, якія яна выконвала ў грамадстве.

Такім чынам, вельмі важныя для вывучэння мінуўшчыны Беларусі і ўсяго Вялікага княства Літоўскага польскія хронікі і беларуска-літоўскія летапісы ствараліся амаль сінхронна ў Польшчы і ў Беларусі і бралі адныя ад адных шмат інфармацыі, якая датычылася гісторыі ВКЛ. З цягам часу летапісанне пачало занепадаць, а значэнне польскіх хронік для ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай – узрастаць. На падставе летапісаў і хронік на беларускіх землях Рэчы Паспалітай пастунова ўзніклі іншыя жанры гістарычнага пісьменства, зарадзілася гістарычная навука Новага часу.

## ДА ПЫТАННЯ АБ БЕЛАРУСКІМ ЛЕТАПІСАННІ XII – XIII ст.

Летапісанне на Беларусі ўзнікла яшчэ ў эпоху феадальнай раздробленасці. Яго вытокі трэба шукаць у мясцовых гістарычных паданнях і справаводстве, а таксама ў літаратурных традыцыях летапісання і гістарычнай прозы старажытнай Русі. Гістарычныя запісы вяліся амаль ва ўсіх значных гарадах, сталіцах удзельных княстваў, цэнтрах грамадска-палітычнага і культурнага жыцця асобных земляў. Самым буйным у тыя часы беларускім горадам быў Полацк, які ў перыяд сваёй найбольшай магутнасці супрацьстаяў Ноўгараду, Смаленску і, нават, Кіеву. Старажытны Полацк, сталіца самастойнага княства і епіскапства, быў адным з найбуйнейшых цэнтраў палітычнага і культурнага жыцця ўсходняй славяншчыны, ужо ў даўнія часы славіўся вельмі багатай і цікавай гісторыяй. Таму ён меў найбольш спрыяльныя ўмовы і магчымасці для заснавання ўласнага летапісання.

Яшчэ вучоныя мінулага стагоддзя звярнулі ўвагу на шэраг вельмі цікавых звестак Кіеўскага летапісу, што ў складзе Іпацеўскага, пра падзеі 50–60-х гг. XII ст. у Полацкай зямлі. Яны выказалі меркаванне аб іх полацкім паходжанні, што дало ім падставы гаварыць аб існаванні Полацкага летапісу, які паслужыў адной з крыніц Кіеўскага. У апошнім мы знаходзім звесткі аб падзеях полацкай гісторыі за 1151, 1158, 1159, 1160, 1161 і 1180 гг. Яны аб'яднаны адзінствам тэмы, вобразам га-

лоўнага героя, аўтарскай пазіцыі і нават стылю. Усё гэта, разам з асаблівасцямі зместу і некаторымі характэрнымі дэталямі, і дало падставы шэрагу вучоных (Ул.Ц.Пашута, Л.В.Аляксееў) прызнаць іх полацкімі паводле свайго паходжання, урыўкамі згубленага Полацкага летапісу.

Ёсць звесткі аб тым, што выдатны расійскі вучоны XVIII ст. В.М.Тацішчаў трымаў яго ў руках. Прынамсі сам ён пісаў аб крыніцы паведамленняў аб падзеях у Полацку 1216 (1217) г.: "Сие выписано из летописца Еропкина, который видно, что пополниван в Полоцке, ибо в нем многое о полоцких, витебских и других литовских князех писано; токмо я не имел времяни все выписать и потом его видеть не достал, слыша, что отдал списывать" (Татищев В.Н. История Российская. Т.III. 1964. – С. 261). Гаворка ў дадзеным выпадку ідзе аб загадкавым летапісу, які належаў архітэктару П.Яропкіну, удзельніку гуртка А.Валынскага, расійскага дыпламата і дзяржаўнага дзеяча. Яго прыхільнікі, незадаволеныя нямецкім засіллем у Расіі, былі неўзабаве выкрыты і ў 1740 г. пакараны смерцю. Удзельнікі гэтага гуртка былі ў ліку першых чытачоў першапачатковай рэдакцыі "Гісторыі Расійскай" В.М.Тацішчава.

На летапіс Яропкіна В.Тацішчаў спасылаецца каля дзесяці разоў. Найбольшую цікавасць сярод усіх паведамленняў выклікае так званая аповесць пра Святохну – твор зусім невядомы з іншых усходнеславянскіх гісторыка-літаратурных крыніц. Змест яго зводзіцца да наступнага. Полацкі князь Барыс Давыдавіч, ажаніўшыся другі раз, узяў сабе за жонку дачку паморскага (з узбярэжжа Балтыкі) князя Казіміра Святохну, каталіцкага веравызнання. Разам з ёй у Полацк прыбыло нямала памаран. У Святохны нарадзіўся сын, якога яна назвала Войцэхам, а бацька, князь Барыс, – Уладзімірам. Імкнучыся менавіта свайго сына зрабіць адзіным пераемнікам улады бацькі ў Полацку, яна вырашыла пазбавіцца ад Васількі і Вячкі, сыноў Барыса ад першай жонкі. Дзейнічаючы самымі бруднымі метадамі, ёй удалося схіліць на свой бок частку палачан і пераканаць князя Барыса ў неабходнасці высылкі Васількі і Вячкі на ўскраіну Полацкага княства.

Пазбавіўшыся пасынкаў, Святохна пачала рознымі шляхамі выганяць з Полацка іх прыхільнікаў, "а своих поморян во все чины и управления вводить". Палачане, незадаволеныя гэтым, патрабавалі ад князя Барыса вярнуць у Полацк высланых сыноў, аднак, лісты былі перахоплены Святохнай і не дайшлі да Васількі і Вячкі. Затым княгіня пазбавілася найбольш

уплывовых у горадзе прыхільнікаў мясцовай княжацкай дынастыі: тысяцкага Сімяона, пасадніка Воіна і ключніка Дабрыні. На іх пасады былі абраныя іншаземцы. Нарэшце яна вырашыла атруціць Васільку. Аднак ён, даведаўшыся пра апошнія падзеі ў Полацку, звярнуўся да палачан з просьбай пастаяць “за веру и землю Рускую”. Адбылося новае веча, дзе канчаткова былі раскрыты ўсе злачынствы Святохны. Раззлаваныя палачане, якім адкрыліся вочы на ўсе папярэднія падзеі, схапілі княгіню і пасадзілі ў турму, а іншаземцаў-памаран пабілі і выгналі з Полацка.

В.Тацішчаў памылкова датаваў гісторыю аб Святохне 1217 годам. Нядаўна памерлы польскі гісторык Ян Паверскі абгрунтаваў праўдзівасць гэтага сюжэта, змешчанага ў “Гісторыі Расійскай”, і сцвердзіў, што падзеі адбываліся ў 1197 – 1201 гг. Святохна, дачка Казіміра І, заходнепаморскага князя, выйшла замуж за Барыса Давыдавіча, князя з друцкай лініі Рурыкавічаў полацкіх, у 1198 г. канфлікт Святохны з пасынкамі прывёў да канчатковага заняпаду панавання друцкай лініі полацкіх князёў і вяртання на полацкі трон князя Уладзіміра. Я.Паверскі меркаваў таксама, што гэтая крыніца, тэндэнцыйная і варожая ў адносінах да Святохны, была створана неўзабаве пасля апісаных падзей (Jan Powierski. Księżniczka pomorska w Połocku // Pomorze słowiańskie i jego sąsiedzi X – XV w. – Gdańsk, 1995. – S. 93–119).

Іншым сюжэтам з больш ранняй полацкай гісторыі з’яўляецца паданне аб Рагвалодзе і Рагнедзе, занесенае ў некаторыя летапісныя зводы пад 1128 г. “...Пра гэтых Усяславічаў раскажам, як людзі дасведчаныя апавядалі. Калі Рагвалод трымаў уладу і княжыў у Полацку, тады Уладзімір быў яшчэ юнаком і язычнікам і жыў у Ноўгарадзе. І быў у яго дзядзька Дабрыня, храбры ваявода і спраўны мужчына. І паслаў ён да Рагвалода і прасіў яго аддаць дачку за Уладзіміра. Спытаў у сваёй дачкі Рагвалод: “Ці хочаш за Уладзіміра?” Яна ж адказала: “Не хачу я за рабыніча, за Яраполка хачу”. Гэты Рагвалод прыйшоў з-за мора і трымаў уладу ў Полацку. Даведаўшыся пра гэта, раззлаваўся Уладзімір ад тых слоў дзяўчыны, якая сказала: “Не хачу я за рабыніча”, і паскардзіўся Дабрыні. І раз’юшыліся яны, сабралі вояў і пайшлі на Полацк. І перамаглі Рагвалода. Сам жа полацкі князь уцёк у горад. І паланілі Рагвалода, яго жонку і дачку. І прыгадаў Дабрыня яму і яго дачцы “рабыніча” і загадаў Уладзіміру быць з ёю перад бацькам і маці. Пасля Уладзімір забіў яе бацьку, а яе самую ўзяў за жонку. І назвалі яе Гарыславаю. І нарадзіла яна Ізяслава. Уладзімір жа пасля меў шмат жонак і стаў ёю грэбаваць.

Аднойчы, калі ён прыйшоў да яе і заснуў, яна вырашыла зарэзаць яго нажом. І надарылася яму прачнуцца, і схапіў ён яе за руку. І сказала яна з жалем: “Ты бацьку майго забіў і зямлю яго паланіў дзеля мяне, а цяпер не любіш мяне з гэтым дзіцём”. І загадаў ёй прыбрацца па-царску, як у дзень шлюбу, і сесці на белай пасцелі ў палацы, а ён прыйдзе і заб’е яе. Яна так і зрабіла. І дала ў рукі свайму сыну Ізяславу аголены меч і сказала: “Як увойдзе твой бацька, выйдзі наперад, скажы: “Бацька, не думай, што ты тут адзін”. І зрабіў так Ізяслаў. Уладзімір жа сказаў: “А хто ведаў, што ты тут”. І апусціў ён свой меч, паклікаў баяр і ўсё расказаў ім. Яны ж параілі: “Не забівай яе дзеля гэтага дзіцяці, а аднаві яе бацькаўшчыну і дай ёй са сваім сынам”. І пабудаваў Уладзімір горад, аддаў яго ім і назваў гэты горад Ізяслаўлем. І з таго часу меч узнімаюць Рагвалодавы ўнукі супраць Яраслававых унукаў”.

Відаць, паданне, запісанае пад 1128 г., арганічна ўваходзіць у цыкл паведамленняў аб барацьбе полацкіх і кіеўскіх князёў (паход 1127 г. на Полацкую зямлю – паданне аб Усяславічах – ссылка полацкіх князёў у Царград (Канстантынопаль)). Само ж яно склалася раней (“...раскажам, як людзі дасведчаныя апавядалі”), у часы панавання “Яраслававых унукаў”. Але напачатку іх панавання не гаворыцца аб канфліктах паміж Полацкам і Кіевам. Зацішша працягвалася да смерці Усяслава Брачыславіча (1101 г.). Аднак неўзабаве барацьба аднавілася: ужо ў 1104 г. кіеўскі князь Святаполк пасылае ваяводу Пуцяту з войскам на мінскага князя Глеба, а Уладзімір Манамах – свайго сына Яраполка. Да іх далучыўся і сын Святаполка Алег, прымусіўшы ўдзельнічаць у паходзе полацкага князя Давыда. Хутка ў барацьбу ўключыўся і Уладзімір Манамах. Відаць, пачатак гэтага этапа барацьбы Полацка з Кіевам і трэба лічыць прыблізным часам стварэння падання.

Створана ж яно было, на думку некаторых гісторыкаў (М.І.Кастамараў, Ю.А.Заяц), у Полацкай зямлі (у Заслаўлі альбо Мінску) і адтуль трапіла ў Кіеў. Беларускі даследчык Ю.А.Заяц прыходзіць да высновы, што паданне аб Усяславічах, занесенае ў летапісы пад 1128 г., з’яўляецца пераказам тэксту гістарычнай песні, якая склалася ў канцы XI–пачатку XII ст. у Полацкай зямлі, і, такім чынам, гэта самы старажытны з вядомых нам літаратурных помнікаў гэтага жанру, створаных на тэрыторыі Беларусі (Заяц Ю.А. Заславль X–XVIII веков (Историко-археологический очерк). – Мн., 1987).

Гістарычныя запісы вяліся таксама ў Навагрвдку, Пінску, Слуцку і іншых гарадах Беларусі. Ул.Ц.Пашута меркаваў, што ў Навагрвдку ўжо ў XIII ст. развівалася летапісанне, што там узнік "літоўскі летапіс", які апавядаў аб Міндоўгу, Войшалку і Тройдзене і стаў адной з крыніц галіцка-валынскага летапісу. Узнікнуць ён мог у адным з мясцовых манастыроў, магчыма, у тым, што заснаваў Войшалк на Нёмане ў Лаўрышаве "межи Литвою и Новымъгородъком" (Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. – М., 1959. – С.38-39, 41-43).[1] На думку М.М.Улашчыка, так званы летапіс Войшалка меў М.Стрыйкоўскі.

Рукапісныя летапісы на землях ВКЛ у гэты перыяд і пазней былі вельмі шырока распаўсюджаны, прычым іх уладальнікамі былі і простыя людзі, як пра гэта сведчаць запісы на адзіным ілюстраваным старажытнаўсходнеславянскім летапісу – *Радзівілаўскім:* "Две недели у Пилипово говение Пурфен Пырчкин жито сеял у року девятьдесятом" (1590); "В року шессот третьем, за шес недель перед великоднем водлуг старога календаря, кобыла сивая ожеребилася"; "Я, Фурс Сорока, возны повету Городенского, сознаваю сим моим квитом" і г.д.

Дарэчы, Радзівілаўскі, альбо Кенігсбергскі, летапіс – адзін з найважнейшых помнікаў летапісання дамангольскай эпохі, які быў складзены ва Уладзіміра-Суздальскай Русі. Ён самы старажытны, які дайшоў да нас: тэкст яго сканчваецца першымі гадамі XIII ст. (тэкст Іпацеўскага летапісу даходзіць да 1292 г., Лаўрэнцеўскага – да 1305 г., Наўгародскага I старога ізводу – да 1352 г.). Радзівілаўскі – першы "ліцевы" (ілюстраваны) летапіс, які быў упрыгожаны мініяцюрамі ў XV ст. Асноўны спіс летапісу – Радзівілаўскі – паводле філіграняў датуецца апошнім дзесяцігоддзем XV ст. Невядомымі шляхамі Радзівілаўскі летапіс трапіў на Беларусь, дзе знаходзіўся ва ўладанні заможных і

[1] Праўда, польскі даследчык Е.Ахманьскі спрабаваў даказаць, што гэтая гіпотэза заснавана на звычайным непаразуменні. У галіцка-валынскім летапісу знаходзіцца паведамленне, што Войшалк, сын Міндоўга, "хотя прияти святое крещение и крестися тоу в Новегородце" (ПСРЛ, т.II, с.859). На падставе слова "тоу" Пашута дамысліваe, што Войшалк ахрысціўся "тут", дзе жыў і пісаў летапісец, гэта значыць (як далей сказана ў хроніцы) ў Навагрдку. Ахманьскі лічыць, што не было б сумненняў, дзе ўзнікла аповесць аб Войшалку (а таксама аб Міндоўгу і Тройдзене), калі б "тут" азначала месца, у якім знаходзіўся летапісец. Аднак выраз "тут" ужываўся летапісцамі ў значэнні "там", у месцы, дзе адбываюцца падзеі. Напрыклад, у галіцка-валынскім летапісу пад 1259 г. пазначана, што татары "придоша к реце к Висле и тоу изнайдоша собе бродъ".

ўплывовых асоб. Так, на л.251 арыгінала ёсць лацінскі надпіс Станіслава Зяновіча, які сведчыць аб перадачы ім летапісу ў дар Янушу Радзівілу. У 1673 г. рукапіс ужо быў уключаны ў каталог Кенігсбергскай бібліятэкі. На пачатку XIX ст. ён апынуўся ў Расійскай Акадэміі навук. Гэтая раскошная кніга, у якой налічваецца 618 мініяцюр, сведчыць таксама аб узроўні кніжнай культуры на беларускіх землях Вялікага княства Літоўскага.

У XV ст. беларускае летапісанне набыло новыя якасці і рысы. У сувязі з завяршэннем палітычнай цэнтралізацыі ВКЛ і ўзмацненнем этнічнай кансалідацыі беларускіх земляў узніклі агульнадзяржаўныя, беларуска-літоўскія паводле зместу і характару летапісы. Яны з'явіліся вынікам новых ідэйна-палітычных тэндэнцый і гістарычных канцэпцый эпохі, яркім адлюстраваннем новага этапа ў гістарычным жыцці беларускага народа. У іх выявіліся погляды перадавых грамадскіх сіл Беларусі і Літвы першай паловы XV ст., якія адстойвалі вялікакняжацкую ўладу, што змагалася супраць феадальнай раздробленасці, за адзінства і магутнасць краіны, за яе высокі міжнародны аўтарытэт. Гэтыя ідэі адлюстраваліся ў першым летапісным зводзе беларуска-літоўскіх летапісаў, які аб'ядноўвае некалькі спісаў, у аснову якіх пакладзены "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх".

## I ЛЕТАПІСНЫ ЗВОД. "ЛЕТОПИСЕЦЬ ВЕЛИКЫХ КНЯЗЕИ ЛИТОВЪСКЫХ"

У другой чвэрці XV ст. быў складзены першы агульнадзяржаўны летапісны звод Вялікага княства Літоўскага, які часта даследчыкі называюць беларуска-літоўскім летапісам 1446 г. Да гэтага зводу адносяцца наступныя спісы: Нікіфараўскі, Супрасльскі, Слуцкі, Акадэмічны, "Origo regis...", Віленскі. Усе ўзгаданыя спісы аб'ядноўвае наяўнасць у іх асноўнай частцы пад назвай "Летописець великых князеи литовъскых", якая пачынаецца словамі: "Великого князя Кгедмина литовъского было сынов 7: стареши Монвид, потомь Наримонт, Олигоръд, королев отець, потомь Евнутеи, потомь Кестути, отець великого князя Витовта, потомь Корият, седмыи Люборт. Монтивиду даль отець Корачев да Слонимь, Наримонту Пинеск, Олгирду, королеву оцу, Крево; да к тому князь витебскыи сынов не держаль, приняль его к дотьце, Витебъскь в зяти. Евнутия осадиль во Вильни В на великомь княжени, а Кестутию

Троки, Коръяту Новъгородок, а Люборта принял володимеръскыи князь к дотьце во Володимер и в Луцеськь и во въсю землю Волыньскую”.

У “Летапісцы” выкладаецца палітычная гісторыя Вялікага княства Літоўскага амаль за стагоддзе: ад смерці Гедыміна (1341) да смерці князя Вітаўта (1430). У форме суцэльнага апавядання тут распавядаецца аб загавары Альгерда і Кейстута супраць Яўнуты, апісваюцца перапетыі грамадзянскай вайны паміж Вітаўтам і Ягайлам, Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам. Аднак па сваёй будове “Летапісец” не вызначаецца цэласнасцю. У галоўнай частцы ў храналагічнай паслядоўнасці апавядаецца пра падзеі, звязаныя пераважна з дзейнасцю вялікіх літоўскіх князёў. У заключнай дзеянні пераносяцца на Падолле, і далей выкладаецца выключна гісторыя гэтай украінскай зямлі з часоў князя Альгерда да пачатку 30-х гадоў XV ст. Такім чынам, “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх” складаецца з уласна “Летапісца” і аповесці пра Падолле. Апошняя распавядае пра гісторыю гэтага краю з моманту бітвы Альгерда з татарамі на р.Сінія Воды да таго моманту, як Вітаўт пайшоў вайной на Падольскую зямлю, пазбавіў улады Фёдара Карыятавіча, тагачаснага валадара Падолля, і прызначыў сваіх намеснікаў. Пазней кароль Ягайла выкупіў заходняе Падолле ў Вітаўта за 20 тысячаў пенязяў і аддаў яго польскаму шляхціцу Спытку Мяльштынскаму. Але пасля смерці Спытка падчас бітвы з татарамі на р.Ворскле (1399) Ягайла вярнуў заходняе Падолле Вялікаму княству Літоўскаму. Аповесць пра Падолле была створана з відавочнай мэтай абгрунтаваць гістарычнае права ВКЛ на гэтыя землі, якія потым незаконна захапіла Польшча.

На думку В.А.Чамярыцкага, “Летапісцу вялікіх князёў літоўскіх” папярэднічаў нейкі іншы помнік, поўнае ўяўленне аб якім можна атрымаць на падставе спіса “Origo regis Jagyelo et Witholdy ducum Lithuaniae”. У прыватнасці, як паказвае “Origo regis”, першапачатковая частка “Летапісца” заканчваецца паведамленнем пра ўцёкі Вітаўта з Крэўскага замка. У цэнтры гэтага помніка – апісанне барацьбы за ўладу паміж Кейстутам і Ягайлам, якая ўспыхнула неўзабаве пасля смерці вялікага князя Альгерда (1377). Аднак каб лепш падвесці чытача да разумення гэтых падзей, аўтар пачаў выклад гісторыі Вялікага княства Літоўскага ад падзей далёкага мінулага, ад Гедыміна. Увага храніста засяроджваецца галоўным чынам на дзвюх асобах, на сынах гэтага князя – Альгердзе і Кейстуце. У хуткім часе яны выступілі супраць свайго брата Яўнута, які

згодна з воляй Гедыміна стаў вялікім князем, у выніку чаго віленскі трон дастаўся Альгерду як старэйшаму брату.

Перад смерцю Альгерд завяшчаў вялікакняскі трон Ягайлу, свайму любімаму сыну. З цягам часу адносіны паміж дзядзькам і пляменнікам пагоршыліся і перараслі ў варожасць. Ягайла вырашыў вызваліцца з-пад апекі дзядзькі, аднак, яго намеры сталі вядомыя Кейстуту, які апярэдзіў Ягайлу, захапіў Вільню і паланіў свайго пляменніка. Ягайла вымушаны быў скарыцца і даць Кейстуту слова “ніколі противу его не стояти, а все у воли его быти во всем”. Пазней Ягайла з дапамогай крыжакоў захапіў Вільню і Трокі. Калі ж войскі Кейстута і яго сына Вітаўта рушылі на Вільню, Ягайла прыслаў ганцоў з прапановай міру і запрасіў іх да сябе ў лагер для перамоў. Тут Кейстут і Вітаўт былі схоплены. Неўзабаве Кейстут быў задушаны, а Вітаўт паспеў уцячы.

Даследчыкі сцвярджаюць, што першая частка “Летапісца” была напісана ў перыяд паміж 1382 – 1392 гг., калі атрыманне Вільні, сталіцы княства, заставалася для князя Вітаўта галоўнай мэтай жыцця. Узнікла яна ў асяроддзі Вітаўта.

Праз пэўны перыяд наступны аўтар дапоўніў першапачатковую частку “Летапісца” апавяданнем пра пазнейшыя падзеі. Але спосаб выкладу тут лаканічны: ідуць звесткі пра жаніцьбу і каранаванне на польскі трон Ягайлы, пра выданне Соф’і Вітаўтаўны за Васіля Маскоўскага, пра атрыманне Вітаўтам віленскага вялікакняскага трона, апавяданні пра барацьбу Святаслава Смаленскага з літоўскімі князямі і Вітаўта з князямі ўдзельнымі. Апошнія звесткі датычацца смерці князя Скіргайлы і сустрэчы Вітаўта з Васілём Маскоўскім у Смаленску. Відаць, гэтая частка была створана ў 1420-30-я гг.

Такім чынам, у часы панавання Вітаўта, дакладней, перад яго каранацыяй, вялася папярэдняя праца па стварэнні гісторыі Вялікага княства Літоўскага, апрацоўваліся мясцовыя гісторыка-літаратурныя творы і фактычна пачалася падрыхтоўка матэрыялаў для першага летапіснага зводу.

Грунтоўнае знаёмства са складам усіх спісаў першага летапіснага зводу пераконвае ў тым, што першапачатковая рэдакцыя 1446 года не захавалася, а згаданыя спісы ўтрымліваюць тэкст другой рэдакцыі. Гэтая рэдакцыя ўзнікла ў канцы XV ст. шляхам дадатковай перапрацоўкі агульнарускай часткі нашага летапісу паводле мітрапалічага зводу, даведзенага да 1446 г., Наўгародскага IV і Сафійскага I летапісаў, што ўпершыню дакладна вызначыў А.Шахматаў. Крыніцы былі выкарыстаны

беларуска-літоўскім летапісцам традыцыйна: у скарочаным выглядзе, у арыгінале, а не ў перакладзе, і без творчай перапрацоўкі тэксту. У новай рэдакцыі агульная гістарычная канцэпцыя беларуска-літоўскага летапісу 1446 г. істотна не змянілася, захавалася яго жанравая форма, а таксама ў цэлым склад і змест зводу, што сведчыць пра значную ўстойлівасць традыцыйнага летапіснага жанру на Беларусі ў XV ст.

Як паказалі І.Шараневіч і С.Смолька, летапіс паўстаў у Смаленску, бо ў ім знаходзіцца шмат спецыфічных смаленскіх паведамленняў: аб дзейнасці смаленскага епіскапа Герасіма, аб голадзе і паводцы ў Смаленску, прыводзе маскоўскіх палоных у Смаленск, нататка пра смерць уладыкі смаленскага Сямёна і г.д. У гэтым зводзе гісторыя Беларусі і Літвы падаецца ў цеснай сувязі з гісторыяй усёй Русі, сцвярджаецца і абгрунтоўваецца гістарычная заканамернасць палітычнага аб’яднання ўсходніх славян і літоўцаў у адной дзяржаве – Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім. Што датычыцца жанравай структуры, то летапіс 1446 г. уяўляе сабою традыцыйны летапісны звод з традыцыйнай пагадовай формай выкладу, складзены, як і старажытнарускія летапісы, з кароткіх пагадовых запісаў-паведамленняў, летапісных апавяданняў і гістарычных аповесцяў.

Такім чынам, тэкст помніка, які сёння вядомы пад назвай “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх”, складаўся паступова, паэтапна. Кожную з складальных частак гэтага помніка выклікалі да жыцця пэўныя канкрэтна-гістарычныя патрэбы эпохі, і таму “Летапісец” нясе на сабе адбітак розных часоў. Нягледзячы на тое, што першы звод беларуска-літоўскіх летапісаў не абмяжоўваецца “Летапісцам”, менавіта апошні з’яўляецца яго галоўнай і арыгінальнай часткай.

Беларускі даследчык Ю.А.Заяц адзначае тэндэнцыйнасць адбору звестак са старажытнарускіх крыніц складальнікамі зводу 1446 года, што, на яго думку, было абумоўлена падзеямі, якія папярэднічалі яго стварэнню. Маецца на ўвазе ўнутраная вайна 30-х гадоў XV ст., падчас якой частка тэрыторыі ВКЛ адасобілася, стварыўшы Вялікае княства Рускае, якое існавала каля чатырох гадоў. Ядром яго была Полацкая і Віцебская землі, якія змагаліся з Жыгімонтам Кейстутавічам. Паколькі гэтыя падзеі былі яшчэ свежыя ў памяці сучаснікаў, узгадваць у афіцыйным летапісанні аб дзяржаўнасці і незалежнасці Полацкай зямлі X–XIII стст. было непажадана і нават небяспечна. Большасць даследчыкаў пагаджаюцца, што пазіцыі ўсіх

складальнікаў і рэдактараў I летапіснага зводу аб'ядноўвае шчыры патрыятызм і агульнадзяржаўны падыход да падзей, якія асветлены з пункту гледжання цэнтральнай улады, што змагалася з феадальнай раздробленасцю.

Як паведамлялася, першым сярод беларуска-літоўскіх летапісаў быў знойдзены і апублікаваны Супрасльскі, які захоўваўся ў Супрасльскім праваслаўным (пазней уніяцкім) манастыры каля Беластока. У стварэнні Супрасльскага летапісу рашучую ролю адыгралі два знатныя беларускія роды: князі Адзінцэвічы, па заказе аднаго з якіх летапіс быў перапісаны, і Хадкевічы, фундатары манастыра, у якім летапіс быў знойдзены. Як амаль усе летапісы, Супрасльскі размешчаны ў зборніку, дзе сабраны розныя матэрыялы гістарычнага, рэлігійнага і мастацкага характару. Зборнік, які ўтрымлівае Супрасльскі летапіс, пачынаецца з радаслоўя князёў Адзінцэвічаў па жаночай і мужчынскай лініях, у канцы зборніка (л.173) узгадваецца, калі рукапіс быў створаны, кім і па чыім заказе. Паводле гэтага запісу, перапісчык скончыў сваю працу ў 7028 (1519) г. 6 кастрычніка "на паметь святого апостола Фомы... замышлениемъ благоверного и христолюбивого князя Симиона Ивановича Одинцевича". Аб сабе перапісчык паведаміў, што ён называецца "Григорий Иванович". Калі аб Адзінцэвічах дадзеныя неканкрэтныя і нешматлікія, гэтага нельга сказаць аб Хадкевічах. Гэты род, славуты ў гісторыі ВКЛ, даў амаль самых таленавітых палкаводцаў, не гаворачы аб тым, што Хадкевічы належалі да багацейшых сем'яў у Вялікім княстве. Яшчэ Хадкевічы разам з Радзівіламі былі вядомыя як самыя непрымірымыя праціўнікі Люблінскай уніі. Яны былі сваякамі самых вядомых фамілій у гэтай дзяржаве, у тым ліку князёў Слуцкіх, якія мелі буйнейшыя зборы рукапісаў і ўвогуле розных культурных каштоўнасцяў.

Супрасльскі ж манастыр быў адным з квітнеючых у ВКЛ. Да канца XIX ст. у манастыры знаходзілася выдатная бібліятэка. Супрасльскі манастыр быў заснаваны Аляксандрам Іванавічам Хадкевічам, ваяводай навагрудскім і маршалкам ВКЛ, на рацэ Супраслі. У 1503 г. у манастыры пачалі будаваць каменную царкву-крэпасць Дабравешчання, якую ў сярэдзіне XVI ст. распісаў фрэскамі выдатны паўднёваславянскі мастак Нектарый.

Разглядаемы намі летапіс з'явіўся ў Супрасльскім манастыры хутчэй за ўсё ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. невядома якім шляхам. Па меркаванні Шахматава, зборнік, у якім змешчаны летапіс, быў складзены ў сярэдзіне XV ст.

Супрасльскі рукапіс складаецца з наступных частак:

1. С.3-72 ад. – *Избрание летописания, изложено вькратце*, якое ўтрымлівае дадзеныя агульнарускага характару і даводзіць падзеі да 6935 (1427) г.
2. С.72 ад. – на 10 радках фрагмент гідраграфіі Русі з 4 раздзела “Аповесці мінулых гадоў”.
3. С.72 ад.-87 – летапіс за 6936-6954 гг. аб няўдалай каранацыі Вітаўта і яго смерці, аб укняжанні Свідрыгайлы і яго барацьбе з Жыгімонтам, “Пахвала” Вітаўту, шэраг смаленскіх паведамленняў.
4. С.87-108 – *Летописець великых князеи литовьскых.*
5. С.108 ад.-125 – схаластычныя разважанні аб справядлівасці і судах, перablытаныя з Святым Пісаннем і старажытнымі тэкстамі, якія служаць уступам да частковага перакладу на рускую мову Вісліцкіх Статутаў Казіміра Вялікага, якія з гэтага рукапісу друкаваліся ў “Віленскім Дзённіку” (Dziennik Wileński r.1822, Ň7. – S.277).
6. С.127-172 – Пячэрскі Пацярык.

І.Даніловіч аналізаваў складальныя часткі знойдзенага ім рукапісу. Напрыклад, “Пахвалу Вітаўту” ён памылкова лічыў пахавальнай мовай над труной Вітаўта, занадта свецкі, палітычны, на яго думку, характар яна мае.

Прыступаючы да публікацыі знойдзенага рукапісу, Даніловіч хацеў надаць правільны, на яго думку, парадак, і, адступіўшы ад арыгіналу Супрасльскага рукапісу, змясціў у сваім выданні спачатку “Летописець великых князеи литовьскых”, а далей без асобнага надпісу тую частку, якая распавядае аб Вітаўце, барацьбе Свідрыгайлы з Жыгімонтам, г.зн. другую. Такім чынам, Даніловіч надаў летапісу штучны ўклад, падобны да Слуцкага спісу. У цэлым метадалагічныя падыходы і прыёмы, якія стасаваў Ігнат Даніловіч пры даследаванні першага беларуска-літоўскага летапісу, знойдзенага ім у Супрасльскім манастыры, аказаліся вельмі прадуктыўнымі. Пазней іх развівалі іншыя даследчыкі, аналізуючы летапісы, якія ўваходзяць у другі і трэці летапісныя зводы агульнадзяржаўнага летапісання Вялікага княства Літоўскага.

Слуцкі, альбо Увараўскі, спіс падзяляецца на дзве часткі. У першай распавядаецца аб падзеях, якія адбываліся ў Вялікім княстве Літоўскім. У другой – аб агульнарускіх падзеях. Яна мае назву “Летописець о великом князи московскомь, како да-

леки от роду Володимирова". Пачынаецца яна словамі: "В лето 6000. То придоша з Немець 3 браты в Новьгородокь Трувор. Первыи князь, Рюрикь, пришедь из Немець и роди княза Игоря, а Игорь роди Святьслава, и Святьславь роди Володимира, иже крести Рускую землю". Скончваецца яна апісаннем нашэсця Батыя: "Батыи же вземь горад и слышавше о Даниле, яко во Угрех есть, и поиде сам к Володимиру, и прииде к городу Колодяжну, и постави порокы 2, не могии разбити стены. Нача перемоляти люди, и оних же, полушавши его, предалися ему, избьени быша. И приид Каменьцю, и не мога розбити стены, и к Жаславлю, и звя его. И приде ко Кременьцю, виде же Кременець град тверъд…" Гэтымі словамі скончваецца сам летапіс. Аднак у яго тэксце змешчаны таксама звесткі аб Слуцку, напісаныя беларускім скорапісам XVI ст., таму ён і названы Слуцкім. Першыя старонкі летапісу згублены. На першых захаваных змешчана скарга князя Кейстута яго сыну князю Вітаўту на Ягайлу, на якую Вітаўт адказвае: "Еще тому не доверяю гораздо". Заканчваецца першая частка словамі: "В лето 6900 (1392). Женися князь великии Васильи Дмитриевичь, понял за себе дщер Витовтову Софью". Ад іншых летапісаў і хронік Слуцкі адрозніваецца тым, што не з'яўляецца часткай зборніка, а ўяўляе сабой асобны твор, які захаваўся ў тым выглядзе, у якім ён быў напісаны ў першай палове XVI ст.

Самы стары з вядомых на сённяшні дзень беларуска-літоўскіх летапісаў (па вадзяных знаках на паперы яго можна аднесці да 1469-1491 гг.) – Нікіфараўскі, які атрымаў сваю назву ад прозвішча ўладальніка буйнога збору старадаўніх рукапісаў жыхара горада Гарадца Н.П.Нікіфарава, у якога летапіс быў набыты Бібліятэкай АН. Нейкі час летапіс захоўваўся ў Мінскім Святадухавым манастыры. Ён таксама складае частку зборніка, на пачатку якога ідуць тэксты рэлігійнага зместу, а потым уласна летапіс, які скончваецца апісаннем барацьбы Свідрыгайлы з Жыгімонтам Кейстутавічам. У ім асобна не вылучаны "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", але змест яго ў цэлым паўтараецца, як у Супрасльскім і Слуцкім спісах.

Летапіс, які атрымаў назву "Origo regis Jagyelo et Wytholdi ducum Lithuanie", упершыню быў надрукаваны ў 1888 г. і з'яўляўся перакладам на лацінскую мову адной з хронік (альбо часткі хронікі), напісанай на старабеларускай мове. У канцы XV–пачатку XVI ст. летапіс быў унесены ў Каронную метрыку (дзяржаўны архіў Польскага каралеўства). Пераклад жа быў зроблены раней па заказе Яна Длугаша і выкарыстаны польскім

храністам пры напісанні ўступнай часткі да X кнігі "Гісторыі Польшчы". Пры перакладзе тэкст быў у нейкай ступені скажоны, але ў ім ёсць месцы, якія адсутнічаюць у іншых летапісах. Летапіс выкладае падзеі ў Вялікім княстве Літоўскім, пачынаючы з пераліку сыноў Гедыміна да першага ўцёку Вітаўта ў Ордэн. В.А.Чамярыцкі на падставе супастаўлення дадзенага спіса з іншымі спісамі I зводу лічыць, што ў "Origo regis" захавалася самая ранняя рэдакцыя "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх".

Віленскі спіс уяўляе сабой заканчэнне летапісу Аўраамкі, напісанага ў канцы XV ст. у Смаленску. Спачатку ў ім ідзе хранограф з уключэннем кароткіх паведамленняў аб хрышчэнні балгар. Далей ідзе летапіс, названы "Начало Рустии земли", потым – летапісны ўрывак за 6453-6496 (945-988) гг., затым – пералік рускіх князёў, які скончваецца паведамленнем аб падзеях у часы панавання Васіля Васільевіча і пералікам яго сыноў. Непасрэдна Віленскі летапіс пачынаецца з пераліку сыноў Гедыміна і скончваецца паведамленнем аб тым, як князь Скіргайла пасля піру ў манаха Фамы паехаў за Днепр на паляванне. Заканчэнне летапісу згублена. Летапіс жа Аўраамкі быў знойдзены ў Полацку А.Рачынскім у 1864 г. і прывезены ў Віленскую публічную бібліятэку.

Валынскі кароткі летапіс таксама з'яўляецца часткай зборніка. На першых старонках зборніка знаходзіцца агульнарускі летапіс, названы "Початок Руской земли, како приидоша словяне племяни Афетова и сели на Руской земли по рекам, то есть летописец Киевскии и всее Руское земли и Полское и Литовании", які пачынаецца словамі: "Бысть язык словенскыи от племене Афетова, нарицаемии норици", а скончваецца апісаннем пагрома Масквы Тахтамышам. Кароткі Валынскі летапіс падзяляецца на тры часткі. Першая названа "Начало рускых князеи рускаго княженья". Яна скончваецца паведамленнем аб жаніцьбе вялікага князя літоўскага Аляксандра з княжной Аленай Іванаўнай. Наступныя звесткі амаль цалкам адносяцца да Валыні. Апошняя частка прысвечана праслаўленню дзейнасці князя Канстанціна Іванавіча Астрожскага, гетмана Вялікага княства Літоўскага. Пасля пахвалы Астрожскаму ідзе запіс аб наведванні Супрасльскага манастыра вялікім князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам у 1544 г.

Такім чынам, усе спісы, якія ўваходзяць у першы звод беларуска-літоўскіх летапісаў, адрознівае наяўнасць часткі, якая мае (альбо не мае) асобную назву "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", дзе змешчана інфармацыя па гісторыі ВКЛ ад смерці

Гедыміна да смерці Вітаўта. “Летапісец” стаў ядром усіх наступных беларуска-літоўскіх летапісных зводаў. Аб’ём інфармацыі ў розных спісах розны ў залежнасці ад ступені захаванасці тэксту і асабістых поглядаў іх стваральнікаў. Першы летапісны звод адрознівае таксама і наяўнасць інфармацыі па гісторыі ўсяго ўсходнееўрапейскага славянства – так званая агульнаруская частка.

## II ЛЕТАПІСНЫ ЗВОД. ХРОНІКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

У сувязі са зменай культурна-гістарычнай сітуацыі на пачатку XVI ст. першы беларуска-літоўскі звод ужо не задавальняў грамадскасць Вялікага княства Літоўскага. З’яўленне другога зводу было выклікана новымі грамадска-палітычнымі тэндэнцыямі, патрэбай умацавання міжнароднага становішча ВКЛ, гістарычнага абгрунтавання яго права на беларускія і ўкраінскія землі, даказаць высокае паходжанне кіруючай княжацкай дынастыі.

У XVI ст. у эпоху Адраджэння ствараліся велічныя, патрыятычна накіраваныя гісторыі краін і народаў. Прадстаўнікі асобных арыстакратычных фамілій шукалі славутых продкаў, гістарычныя аргументы для доказу свайго высокароднага паходжання, выдатнай ролі свайго роду ў гісторыі дзяржавы. Так, у Польшчы ў XVI – XVII ст. актыўна распаўсюджвалася канцэпцыя пра паходжанне ляхаў ад старажытных сарматаў, якія быццам бы перамагалі нават самога Аляксандра Македонскага, а ў Венгрыі інтэнсіўна распрацоўвалася, выдавалася за гістарычную праўду і прымалася за аксіёму легенда пра паходжанне венграў ад ваяўнічых гунаў.

Трэба адзначыць, што не ўсіх і не ва ўсім задавальняла ўжо гісторыя ВКЛ, складзеная ў першай палове XV ст. і прадстаўленая беларуска-літоўскім летапісам 1446 г. Яна выкладзена ў гэтым летапісным зводзе на шырокім усходнеславянскім фоне як арганічны працяг гісторыі Кіеўскай Русі і ў сувязі з гісторыяй Маскоўскай Русі. У ім вялікія літоўскія князі выступаюць носьбітамі агульнарускіх тэндэнцый, у пэўным сэнсе выразнікамі аб’яднальных памкненняў усходнеславянскіх народаў. Асабліва ж не задавальняла ранейшая гісторыя патрыятычна настроеных літоўскіх арыстакратаў, што належалі да кіруючай вярхушкі. Іх больш цікавіла мінулае сваёй радзімы, уласна Літвы, чым старажытнай Русі. У беларуска-літоўскім жа лета-

пісу 1446 г. апошняя пераважае над першай, і зусім не асветлены генезіс ВКЛ. Менавіта ў іх асяроддзі і была створана новая гісторыя гэтай дзяржавы.

“Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага”, як называецца ядро другога летапіснага зводу, найбольш верагодна, напісана ў 20-я гады XVI ст. асобай, блізкай да літоўскіх магнатаў Гаштольдаў. Месца яе ўзнікнення дакладна не высветлена. М.Улашчык выказаў думку пра навагрудскае паходжанне асноўнай часткі.

У аснову гэтага твора пакладзена славутая легенда пра паходжанне літоўскіх князёў і феадалаў ад рымскай знаці, якую ўжо ведаў польскі храніст XV ст. Ян Длугаш і ўпершыню занатаваў у сваёй “Гісторыі Польшчы”. У беларуска-літоўскіх летапісах яна была літаратурна апрацавана, атрымаўшы выгляд праўдзівага апавядання пра рэальныя гістарычныя падзеі, факты і герояў. Сёння вядомыя шэсць летапісаў, у якіх утрымліваецца легенда: Археалагічнага таварыства, Красінскага, Рачынскага, Альшэўскі, Румянцаўскі, Еўрэінаўскі, а таксама хронікі Быхаўца і Літоўская і Жмойцкая, якія мы залічваем да трэцяга летапіснага зводу. Спынімся больш падрабязна на легендзе аб рымскім паходжанні літоўскай знаці.

У легендзе выкладаецца як бы пачатковы перыяд гісторыі Жмудзі, Літвы і Заходняй Беларусі. Згодна з легендай, 500 сем’яў рымскай шляхты прыплылі ў Літву, дакладней, на Жмудзь, морам. На чале эмігрантаў стаяў Палямон, альбо Публій Лібон, сваяк імператара Нерона. Версія, паводле якой Палямон уцёк з Рыму, ратуючыся ад жорсткасцяў Нерона, асноўная. У працах М.Стрыйкоўскага ўтрымліваецца іншая версія: уцёкі адбыліся ў 401 г. з прычыны жорсткасцяў праваДыра гунаў Атылы. Падвойную версію знаходзім таксама ў хроніцы Быхаўца і хроніцы Літоўскай і Жмойцкай.

Эмігранты з Рыму прыплылі ў багатую краіну, названую Лібонія, альбо Лівонія (летапіс Красінскага). Уцекачы заклалі горад Ромове (ад Roma), альбо Ромнова (Новы Рым). Далей ад назваў мясцовасцяў выводзіцца адмысловая генеалогія ўладароў. Быццам бы сыны Палямона заснавалі наступныя гарады: Борк – Юрборк, Кунас – Коўна, а малодшы Спера не заснаваў горада, але яго імем было названа возера. Борк і Спера памерлі без нашчадкаў, у Кунаса ж былі два сыны – Кернус і Гімбут. Гімбут стаў князем у Жамойці, Кернус – у Літве. У Кернуса была толькі дачка Паята, якую бацька аддаў за Гіруса, сына Даўспрунка (які ў Стрыйкоўскага названы сярод нашчадкаў

Палямона), у выніку Гірус зрабіўся князем літоўскім. Сын Гімбута Мантвіл пакінуў пасля сябе двух сыноў.

Пачынаючы з гэтага месца, паведамленні летапісаў адносна імёнаў князёў разыходзяцца. Згодна з Яўрэінаўскім летапісам, сын жмудзкага князя Мантвіла Скірмонт перайшоў Вілію і Нёман і, знайшоўшы “гору красну”, заснаваў Наваградак і стварыў Наваградскае княства. У Альшэўскім летапісу замест Скірмонта фігуруе Вікінт, таксама, як у хроніцы Быхаўца. Літоўскія князі сапраўды мелі па два-тры імя (язычніцкія і хрысціянскія), але ў летапісах часта адна і тая ж асоба называецца рознымі імёнамі. Відаць, існавалі розныя варыянты легенды. Родапачынальнікам наваградскай лініі, па летапісах Яўрэінаўскім і Красінскага, быў Скірмонт, паводле ўсіх астатніх – Ердзівіл-Радзівіл.

Род Палямона скончваецца на Рынгальце. Але пазней спатрэбілася звязаць яго з рэальнымі дзеячамі, што прасцей усяго можна было зрабіць, надаўшы Рынгальту нашчадкаў. Так з’явіўся сын Рынгальта Міндоўг. Летапіс Рачынскага паведамляе, што Рынгальт “яко бы мел уродити трех сынов”, з якіх адзін – Войшвілак стаў наваградскім князем. Эпізод з Войшалкам, бясспрэчна, быў дададзены пазней.

Калі меркаваць па Супрасльскім летапісу, створаным у 1519 г., у якім няма слядоў легенды, і па “Трактаце аб дзвюх Сарматыях” М.Мяхоўскага (1517 г.), у якім адсутнічае другая частка легенды, звязаная амаль выключна з Наваградкам, то можна лічыць, што на пачатку XVI ст. легенда яшчэ не аформілася.

Як вядома, легенды аб пачатках дзяржаў ствараліся ў пэўных умовах, служылі канкрэтным палітычным мэтам. Распаўсюджанне рымскай легенды сярод літвінаў у XV-XVI ст. мы мусім таксама разглядаць на фоне палітычнай сітуацыі ВКЛ. Апроч таго, з’яўленне гэтага міфа ў XV ст. сведчыць перш за ўсё аб існуючай у Літве патрэбе этнічнага самаакрэслення. Вядомы польскі гісторык і культуролаг Януш Тазбір пісаў: “Цікавая рэч, што рознародныя грамадскія і нацыянальныя канфлікты знаходзілі адпаведнае адлюстраванне ў пошуках асобнай генеалогіі”. Тэорыя аб рымскіх продках узносіла літвінаў над іншымі народамі, цешыла іх нацыянальны гонар, асабліва ва ўмовах канфлікту з Польшчай. Згодна з літоўскім нацыянальным міфам, літоўцы былі рымскай шляхтай і вялі свой род з каталіцкага Захаду, а з Усходам, канкрэтна з Руссю, нічога супольнага не мелі, хоць гаварылі і пісалі на беларускай мове. Ясна

выказаў гэтую думку Міхалон Літвін, аўтар трактата “Аб норавах татар, літвінаў і маскавітаў” (“De moribus tartarorum, litvanorum et moschorum, Fragmina X”), які быў напісаны да 1550 г., а выйшаў у свет у 1615 г. у друкарні Ё.Я.Грасера ў Базэлі.

Міхалон Літвін дае сваю трактоўку легенды аб рымскім паходжанні літоўцаў. Ён свядома выбірае мадэль паходжання ад Юлія Цэзара (манархічную), у адрозненне ад мадэлі паходжання ад Пампея (рэспубліканска-арыстакратычнай). Адкідвае легенду аб Палямоне, не прыгадвае фантастычных генеалогій арыстакратычных родаў. Літва, паводле Міхалона Літвіна, – гэта правінцыя, заваяваная Цэзарам. У доказ рымскага паходжання літоўцаў ён паказвае падабенства лацінскай і літоўскай моў. У трактаце Міхалон Літвін выступае з канкрэтнай праграмай унутраных і знешнепалітычных пераўтварэнняў. Некаторыя палажэнні рукапісу трактата знайшлі адлюстраванне ў пастановах Віленскага сейма 1551 г., а таксама Статута 1566 г.

Старонкі ўсіх старажытных летапісаў і хронік поўняцца легендамі і паданнямі. Пераважна гэта міфы біблейскай пары, але ёсць і больш позняга паходжання – XV–XVI ст. Агульным для ўсіх гістарычных твораў XVI-XVII ст. было выводзіць продкаў таго ці іншага еўрапейскага народу ад сыноў Ноя – Сіма, Хама і Яфета. Гісторыкі XVI ст. лічылі, быццам бы ўсе народы захаду і поўначы, уключаючы славянскія, паходзяць ад трэцяга сына Ноя – Яфета, што, відаць, павінна ўскосна сведчыць аб агульнасці паходжання ўсіх славян.

Стварэнне фантастычных нацыянальных генеалогій, звязаных са старажытнасцю свайго народа, робіцца ў эпоху Адраджэння агульнаеўрапейскай тэндэнцыяй. Часцей за ўсё легенды гэтыя ўяўлялі сабой выдумку, у якой тэндэнцыйна скажалася пачатковая гісторыя той ці іншай дзяржавы. Адбывалася гэта ў інтарэсах якой-небудзь палітычнай групоўкі.

Якую карысць можа нашым сучаснікам даць вывучэнне легендаў, якія маюць не шмат агульнага з гістарычнай праўдай? Выдатны дзеяч польскай культуры Юзаф Максіміліян Асаліньскі пісаў у XVIII ст.: “…нават блытаніна праўды з байкамі не павінна адпугваць… Выдумка таксама належыць да збору людскіх дзеянняў, можна нават з заблытаных звестак не адзін здаровы вынік вывесці”.

Пры вывучэнні зместу легендаў уласна змест трэба адсоўваць на другі план, а шукаць адказ на пытанне, што стваральнік дадзенай легенды хацеў у ёй выявіць. З гэтага пункту гледжання значна больш матэрыялу дае нам так званая легенда навуко-

вая, чым народная. У народных легендах адлюстроўваецца несвядомае, спантаннае пачуццё сваёй этнічнай прыналежнасці. Зусім інакш у легендзе навуковай, якая паказвае пэўныя погляды і павінна выконваць пэўныя грамадскія задачы.

На Русі з часоў Нестара распаўсюджаны погляд, што дзяржава была створана варагамі, закліканымі на трон мясцовым насельніцтвам. Чэхі ўспрымалі справу інакш: прышлы з Харватыі Чэх, першы ўладар, быў таксама славянінам. Гэтая легенда была дапрацаваная: Чэху "дарабілі" брата Леха. Аўтары гэтай легенды імкнуліся абудзіць у чытача пачуццё агульнаславянскага адзінства, асэнсаваць прыналежнасць да аднаго роду, мова якога бярэ пачатак ад нейкага праайца Слава. Такім чынам, чэхі і палякі шукалі свае карані ў роднай стыхіі.

З часоў Гала Аноніма і Вінцэнта Кадлубка ў польскіх легендах з'яўляецца лацінскі элемент. Напрыклад, Кадлубак піша, што Цэзар, а перад ім нават Аляксандр Вялікі ваявалі з продкамі палякаў – легендарнымі лехітамі і цярпелі ад іх паражэнні. Тады ж пачалі звязваць славян са старажытнымі сарматамі і скіфамі, пазней зарадзілася так званая сармацкая тэорыя.

У Масковіі таксама складваюцца легенды аб паходжанні дзяржаўнасці. Перш за ўсё гэта "Сказание о князьях Владимирских", створанае ў першай чвэрці XVI ст. У ім утрымліваюцца дзве легенды, якія ўвайшлі ў якасці найважнейшых прынцыповых палажэнняў у афіцыйную ідэалогію Расійскай дзяржавы XVI ст. і наступных стагоддзяў "Масква – трэці Рым". У першай з іх даказваецца паходжанне пануючай дынастыі Рурыкавічаў ад рымскага імператара Аўгуста (адсюль тытул – аўгусцейшыя), у другой – перадача цэсарскіх (у кароткім напісанні слова "цэсар" гучала як "цар", адсюль – царскіх) рэгалій візантыйскім імператарам Канстанцінам Манамахам свайму ўнуку, кіраўніку Русі, вялікаму князю Уладзіміру Манамаху.

У "Сказании о князьях Владимирских" разам з імкненнем узвысіць кіруючую маскоўскую дынастыю шляхам вымыслення велічнага радаводу прасочваецца і тэндэнцыя прынізіць палітычнага супраціўніка – дынастыю вялікіх князёў літоўскіх. Гэта і было адной з мэтаў вышэйназванага літаратурна-публіцыстычнага твора. Дзеля гэтага ў яго і быў уключаны раздзел "Родословие литовских князей", змест якога коратка зводзіцца да наступнага.

Ратуючыся ад татарскага пагрому Батыя, нейкі Віцянец, які нібыта быў родам са смаленскіх князёў, уцёк у Жамойць (так тут называецца Літва), пасяліўся там і ажаніўся з дачкой

бортніка. Праз трыццаць гадоў ён быў забіты перуном. Пасля гэтага жонку Віцянца забраў ягоны раб конюх Гегіменік. І вось у хуткім часе маскоўскі князь Юры Данілавіч паслаў гэтага Гегіменіка "на Волоскую землю и на Киевьскую (г.зн. на Украіну) і на обь страну Меньска (г.зн. у Беларусь)" браць з іх царскія даніны. Гегіменік, "мужь храбр зело и велика розума", беручы даніну, назбіраў шмат багацця, пачаў валодаць многімі землямі і, выкарыстоўваючы нязгоды і міжусобіцы паміж рускімі князямі, стаў першым вялікім літоўскім князем. Палітычная мэта гэтай выдуманай гісторыі пра літоўскіх князёў Віценя і Гедыміна была ясная: літоўскія князі, выкарыстаўшы цяжкі для Русі час, самаўпраўна прысвоілі сабе беларускія і ўкраінскія землі і зараз павінны вярнуць іх законным іх гаспадарам – маскоўскім князям.

Зразумела, што ў ВКЛ падобныя ідэалагічныя выпады не маглі застацца без адказу. Тым больш, што ў 1561 годзе дзяржава ўступіла ў Лівонскую вайну, і пагроза страты беларускіх земляў стала рэальнасцю: у пачатку 1563 г. войскі Івана Грознага занялі Полацк. У гэты крытычны момант беларуска-літоўскія летапісы і створаная ў значнай ступені на іх аснове "Хроніка" Мацея Стрыйкоўскага павінны былі даказаць гістарычныя правы ВКЛ на беларускія землі, у тым ліку і на Полацк, заняты ў той час рускімі войскамі. Менавіта гэты час вядомы беларускі гісторык Мікола Ермаловіч лічыць часам стварэння іншай "палітычнай" легенды, хутчэй, міфа, які да нашых дзён захаваўся ў беларуска-літоўскіх летапісах другога летапіснага зводу і стаў афіцыйнай версіяй узнікнення ВКЛ і які ён імкнецца абвергнуць на старонках сваёй працы "Па слядах аднаго міфа". Яго навуковая гіпотэза даволі абгрунтавана адмаўляе заваяванне ў XIII ст. беларускіх земляў літоўцамі, што лічылася дагэтуль бясспрэчным фактам. Ён піша: "Ніводная гістарычная крыніца не пацвярджае літоўскага заваявання Чорнай Русі і іншых беларускіх земляў, што нібыта і паклала пачатак утварэнню ВКЛ. Такое сцвярджэнне ўзнікла ў сярэдзіне XVI ст., каб ідэалагічна абгрунтаваць права ВКЛ на беларускія землі, значная частка якіх тады часова была занята войскамі Івана Грознага. Гэтая версія праз "Хроніку" М.Стрыйкоўскага перайшла ў многія кнігі па гісторыі, пазней была некрытычна прынята шмат якімі даследчыкамі і, стаўшы традыцыйнай, доўгі час не пераглядалася". Гаворка тут ідзе і аб пэўнай навуковай легендзе – аб рымскім паходжанні літоўскай знаці. Аднак М.Ермаловіч памыляўся адносна часу і мэты стварэння легенды. Ле-

генда была створана значна раней і насіла тады ў першую чаргу антыпольскі характар. Гэта пазней, у канцы XVI ст., яна набыла таксама і антымаскоўскую накіраванасць.

Якія яшчэ дзяржавы і народы шукалі сваіх продкаў у Рыме, і якія былі на тое прычыны? Сярэднявечнае цэсарства, альбо Свяшчэнная рымская імперыя нямецкай нацыі, хацела, каб яго лічылі прадаўжальнікам антычнага Imperium Romanum. Немцы шукалі пачатак дзяржавы ў сувязях сваіх продкаў з Рымам. Гэтаму служылі легендарныя заваяванні германскіх земляў Цэзарам. У перамогах Цэзара, рэчаісных альбо выдуманых, бачылі немцы падставу для пабудовы ўласнага нацыянальнага дому. Францыя была ў лягчэйшай сітуацыі, паколькі магла спаслацца на вядомы факт заваявання Галіі Цэзарам. Англічане выводзілі першых брытаў ад Брутуса. Італьянцы не мусілі шукаць славу ў кампіляцыйных легендах. Італьянскія гуманісты, наадварот, рашуча абвяргалі падобныя плыні ў гістарыяграфіі. Выкарыстоўвалі іх немцы і іспанцы, у якіх нацыянальна-дзяржаўныя традыцыі былі сціплыя.

Вяртаючыся да легенды аб рымскім паходжанні літоўскай знаці, яшчэ раз падкрэслім, што яе наяўнасць з’яўляецца характэрнай асаблівасцю другога зводу беларуска-літоўскіх летапісаў, да якога залічваюць спісы Археалагічнага таварыства, Красінскага, Рачынскага, Альшэўскі, Румянцаўскі, Яўрэінаўскі.

Летапіс Археалагічнага таварыства складае заканчэнне рукапіснага зборніка, у якім змешчаны “Список с печатных цесарских и галанских писем, каковы переведены в нынешнем во 178 году октября в 13 день”, “Список турского салтана к цесарю римскому з грамоты 1663”, “Список з грамоты цесаря римского к турскому салтану”, “Послание турского царя Салтана к царю и великому князю Ивану Васильевичю”, “Послание царю и великому князю Ивану Васильевичу бывшаго его боярина князь Андрея Михайловича Курпского”, пераклад з нямецкай мовы ліста турэцкага султана польскаму каралю, “Список” з ліста турэцкага султана Магамета “неметцким владетелям”, “Сказание” аб прыездзе ў Кракаў караля Яна Сабескага і аб пахаваннях каралей Яна-Казіміра і Міхала Вішнявецкага. Летапіс не мае пачатку і канца. Пачынаецца з паловы слова аб святой Праксідзе, “а по-руски Поросковея, которои же у Риме и костел збудован на имя ее святое, и там же ее и положили”. Сюжэт вядомы з іншых летапісаў, у якім пераблытаны гісторыі святых Параскевы-Праксідзіс і Еўфрасінні Полацкай. Дарэчы, Параскева па-грэчаску абазначае пяты дзень тыдня, г.зн.

пятніца. Тое, што на Русі па непаразуменню Параскева (пятніца) ператварылася ў імя ўласнае – Параскеву-Пятніцу, – адзін з нярэдкіх агіяграфічных кур'ёзаў. Існуюць чатыры іканаграфічныя зводы Параскевы: 28 кастрычніка – Вялікапакутніца, 14 кастрычніка – Прападобная (Белградская, Сербская), 26 ліпеня – Прападобнапакутніца "еже от Старого Рима", 20 сакавіка – яшчэ адна Пакутніца, якую ў арыгінале лічылі сястрой Фатыніі самаранкі. "...Уяўленне аб чатырох Параскевах нярэдка зліваецца ў свяшчэннае шанаванне сімвалічнага вобраза Параскевы, у жыційных абразах даюцца эпізоды жыцця некалькіх Параскеў".

Тэкст Летапісу Археалагічнага таварыства падзелены на асобныя раздзелы: "О княжати Скирмонте", "О цари заволзком Булаклаи", "О трех сынех Скирмонтовых", "О матери Куковоитове и о самом Куковоите", "О цари заволском Курдасе", "О княжати литовском Швинторозе, сыне Утенусове", "О великом князе Скирмонте", "О мужах латынских как пришли в Жомоить", "О пяти сынех Романовых", "О великом князи Витеню", "О великом князи Кгиндимине", "О великом князи Кгиндимине и о битве с князем Владимером володимерским", "О князи Станиславе киевском, которого выгнал князь Кгиндимин с Киева", "О великом князи Кгиндимине, как Троки зарубил и Вилню", "О великом князе Кгиндимине и о осми сынех его", "О князи Олкгирде и о Кестути", "О князи Ондреи полоцком", "О князи Святославли смоленском", "О князи Скиргаиле и князи великом Витовте, как пошли на князя Светослава смоленсково", "Князь Витовт княжну свою отдал за московского князя Василя Дмитровича", "О князи Витовте, как король скольскии Якгоило прислал до него, просячи его", "Как князь Витовт Подоле извоевал". Летапіс сканчваецца раздзелам "О Подолскои земли", які абрываецца на пятнаццатым слове. Самой легенды аб рымскім паходжанні літоўскай знаці мы ў летапісу Археалагічнага таварыства не знойдзем, яна не захавалася, аднак, па змесце і структуры ён падобны да іншых летапісаў гэтага зводу.

Летапіс Рачынскага ўяўляе сабой зборнік, які цяпер захоўваецца ў бібліятэцы Рачынскіх у Познані. Акрамя летапісу, напісанага жывой народнай мовай, у зборніку ўтрымліваецца шэраг старабеларускіх літаратурных твораў – аповесць аб Трыштане ("Починаеться повесть о витязях с книг сэрбъских, а звлаща о славном рыцэры Трысчане, о Анцалоте и о Бове и о иншых многих витезех до..."), "История о княжати Кгвидоне", "История о Атыли, короли угоръском".

Пачынаецца летапіс Рачынскага словамі: “Сталося ест воплощене сына божого от духа святого з благословенное девицы чыстое Мареи”, а скончваецца апісаннем становішча ў Вільні ў 1548 г., пасля смерці караля Жыгімонта Старога і паведамленнем, што новы кароль Жыгімонт Аўгуст абвясціў, што ён жанаты з Барбарай Радзівіл.

Летапіс Красінскага знаходзіўся да другой сусветнай вайны ў бібліятэцы Красінскіх у Варшаве, але загінуў падчас вайны. Таму меркаваць аб ім можна на падставе працы Я.Ф.Карскага “Аб мове так званых літоўскіх летапісаў” (Карский Е.Ф. Труды по белорусскому и другим славянских языкам. – М., 1962. – С.209-220) і апісання С.Пташыцкага, якое знаходзіцца ў XVII томе ПСРЛ (1907). Летапіс таксама складае частку зборніка, у якім “Летописець Великого князьства Литовъского и Жомоицьского” пачынаецца з л.64, а на лл.73 –90 ідуць “Кройники о великих князех литовъских”, якія пачынаюцца словамі: “Напервей у великого князя Кгедимина сем сынов было”, а скончваюцца паведамленнем 1438 года аб разгроме рускіх татарамі каля Мурама і аб захопе ў палон вялікага князя маскоўскага Васіля Васільевіча. Далей у зборніку знаходзім “Хождение Данила игумена в святый град Иерусалим”, “Починается книга Товид”, “Починается книга о Таудале рыцери”, “Починается реч о трех ставех”, “Сказание о Сивилле пророчици” і г.д.

На думку Карскага, арыгінал, з якога быў спісаны зборнік, складзены ў канцы XV ст., але перапісаны ў другой палове XVI ст.

У пэўным сэнсе летапіс Красінскага адрозніваецца ад іншых, якія маюць легендарную частку. У ім легендарная і рэальная часткі маюць асобныя назвы (“Летописець Великого князьства Литовъского и Жомоицьского” и “Кройники о великих князех литовъскых”) і, такім чынам, як бы ўяўляюць сабой асобныя творы.

Альшэўскі летапіс у свой час захоўваўся ў маёнтку Альшэва (Мінская вобласць), які належаў Аляксандру Хамінскаму. Сёння ён знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. Складае частку вялікага рукапіснага зборніка. Спачатку ў ім ідуць “Права земские” са Статута Літоўскага 1529 г. у перакладзе на польскую мову. Далей – прывілей вялікага князя Казіміра 1457 г., потым – “пахвала” Жыгімонта І Войцэха Гаштольда, пасля чаго – тэкст Статута 1529 г. у перакладзе на польскую мову, а з л.263 – “Кройника”, г.зн. уласна летапіс, следам за якім яшчэ “Кройничка”. Акрамя варшаўскага спісу Альшэўскага летапісу, існуе яшчэ амаль ідэнтычны кракаўскі, які захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Ягелонскай бібліятэкі.

Румянцаўскі летапіс, апублікаваны ў 1902 г. Б.А.Вахевічам, відаць, па гэтай прычыне не ўвайшоў у XVII т. ПСРЛ, які рыхтаваўся да друку ў той самы час. Затое ён актыўна выкарыстоўваўся для рэканструкцыі спіса Археалагічнага таварыства. У зборніку, дзе змешчана "Хроніка вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага", яна з'яўляецца чужародным элементам, паколькі рэшта матэрыялаў мае рускае паходжанне і напісана на рускай мове (хроніка ж – на старабеларускай). Сам тэкст хронікі, відаць, з ранейшага спісу перапісваў рускі пісар на мове арыгінала, шмат чаго яму было не зразумела, адсюль і шмат памылак. Асноўная частка "Хронікі", альбо "Кройнікі", сканчваецца падзеямі 1440 г. "Кройніка" пачынаецца з апісання ўцёкаў з Рыму 500 сем'яў на чале з Палямонам, а скончваецца словамі: "Лета 7075 (1567 – А.С.) году. В том же году на берегу против крымского стоял князь Володимер Андреевичь, с ним царя и великого князя бояре и воеводы". Румянцаўскі летапіс, таксама, як Археалагічнага таварыства, вельмі бедны на даты.

Яўрэінаўскі летапіс таксама складае частку зборніка, які захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў. Большасць матэрыялаў датычацца падзей расійскай гісторыі, толькі напрыканцы зборніка знаходзіцца летапіс, названы тут "Книга Великого княжества Литовскаго и Жемоицкаго". Пачынаецца ён словамі: "Бысть воплощения сына божия от духа святаго...", скончваецца паведамленнем аб смерці Жыгімонта I і жаніцьбе Жыгімонта II Аўгуста на Барбары Радзівіл. Ад іншых беларуска-літоўскіх летапісаў Яўрэінаўскі адрозніваецца непісьменнасцю і неахайнасцю. Перапісчык не разумеў тэксту і таму рабіў шмат памылак.

Усе спісы другога летапіснага зводу нясуць на сабе адбітак штучна створанага, адмыслова скампанаванага ідэалагічнага памфлета, які ўзнік на пачатку XVI ст. згодна з гістарычнымі ўяўленнямі таго часу. Узяты за аснову першы летапісны звод быў значна "прэпарыраваны" з мэтай замены старажытнарускага матэрыялу на ўласна літоўскі, у якім पададзена пачатковая гісторыя Вялікага княства Літоўскага. Унікальнай з'явай трэба лічыць узнікненне легенды аб рымскім паходжанні літоўскай знаці – гістарыяграфічнага феномена, які шмат дае для разумення сацыяльна-палітычнай сітуацыі і інтэлектуальнага ўзроўню грамадства ВКЛ. Эпоха Адраджэння, аднак, прынесла ў беларуска-літоўскую дзяржаву новыя тэндэнцыі культурнага і навуковага развіцця, што адлюстравалася ва ўзнікненні новых гістарычных твораў, якія больш адпавядалі

навуковым патрабаванням часу. Гаворка ідзе аб стварэнні сучаснай канцэпцыі гісторыі Вялікага княства. Амаль адначасова з’явіліся “Хроніка Быхаўца” і хроніка Мацея Стрыйкоўскага.

## III ЛЕТАПІСНЫ ЗВОД. ХРОНІКА БЫХАЎЦА

Так званая “Хроніка Быхаўца” ўяўляе сабой выпраўлены і дапоўнены звод беларуска-літоўскіх летапісаў. У ім аб’яднаныя розныя элементы: і “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх”, і “Хроніка Вялікага княства Літоўскага”, і арыгінальныя матэрыялы, якія не маюць аналагаў у іншых летапісах.

Вядомы толькі адзіны спіс гэтага летапіснага зводу, прадстаўлены ўласна “Хронікай Быхаўца”. У рукапісу не хапала пачатка, часткі сярэдзіны і заканчэння. Пэўны час гэтая крыніца лічылася фальсіфікатам, які выйшаў з-пад пяра вядомага гісторыка Літвы Тэадора Нарбута (1784-1864). Сапраўды, Нарбут публікаваў розныя фальсіфікаты, між іншым “Дзённік Кібурга”. Ён жа ўпершыню выдаў “Хроніку Быхаўца” ў серыі “Помнікі па літоўскай гісторыі” (Вільня, 1846), пасля чаго рукапіс бясследна знік. Гэтая акалічнасць, а таксама тое, што тэкст хронікі ўтрымлівае супярэчнасці і анахранізмы, прымусілі выдатных даследчыкаў гісторыі ВКЛ К.Хадыніцкага і К.Яблонскіса сцвердзіць, што гэта быў чарговы фальсіфікат Т.Нарбута. Аднак большасць расійскіх, польскіх, украінскіх і беларускіх гісторыкаў прызнаюць вартасць “Хронікі Быхаўца” як гістарычнай крыніцы.

Доказам таго, што гэты твор – не фальшыўка, з’яўляецца той факт, што за некалькі гадоў перад Нарбутам урывак з яго надрукаваў чалавек, які знайшоў рукапіс у маёнтку Магілёўцы Ваўкавыскага павету Гродзенскай губерні, – Гіпаліт Клімашэўскі. Дарэчы, маёнтак Магілёўцы належаў шляхціцу А.Быхаўцу – адсюль назва хронікі. У першай палове XIX ст. у Магілёўцах быў значны архіў, частка якога сёння знаходзіцца ў Гродзенскім дзяржаўным гістарычным архіве. Лёс рукапісу да таго часу, калі ён трапіў у рукі настаўніка Віленскай гімназіі Г.Клімашэўскага, невядомы. Клімашэўскі, атрымаўшы рукапіс, апублікаваў фрагмент з яго аб забойстве вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча (Noworocznik litewski na rok 1831. – Wilno, 1830. – S. 93-102). У 1834 г. А.Быхавец пераслаў рукапіс хронікі Т.Нарбуту, які акурат у гэты час працаваў над сваёй “Старажытнай гісторыяй літоўскага народу”, у яго маёнтак Шаўры (сёння ў Воранаўскім раёне Гродзенскай вобласці). Пры падрых-

тоўцы да друку "Гісторыі" Нарбут выкарыстаў новую крыніцу, надаўшы ёй назву "Хроніка Быхаўца" па прозвішчы ўладальніка і зрабіў яе палеаграфічнае апісанне.

І.Даніловіч, першы даследчык беларуска-літоўскіх летапісаў, быў нязгодны з назвай "Хроніка Быхаўца", сцвярджаў, што яе трэба назваць Заслаўскай, паколькі гэта той самы твор, які Стрыйкоўскі атрымаў у свой час ад князёў Заслаўскіх. Аднак прапанова Даніловіча не была падтрымана, а пазней наогул было даказана, што летапіс, які быў у распараджэнні Стрыйкоўскага, і "Хроніка Быхаўца" хаця і блізкія між сабой, але не ідэнтычныя, гэта значыць з'яўляюцца рознымі спісамі, а можа, і рэдакцыямі. Такім чынам, у 70-я гады XVI ст., калі Стрыйкоўскі пісаў сваю працу, помнік тыпу "Хроніка Быхаўца" ўжо існаваў.

Другі раз хроніка была выдадзена ў XVII томе "Полного собрания русских летописей" у 1907 г. З моманту першага апублікавання помнік знаходзіцца ў цэнтры ўвагі ўсіх даследчыкаў беларуска-літоўскага летапісання. Аднак толькі ў апошнія дзесяцігоддзі некаторыя з іх прысвяцілі хроніцы спецыяльныя даследаванні. Аб ёй пісалі Б.М.Флора, М.М.Улашчык, М.А.Ючас, Р.Ясас, Е.Ахманьскі, Ю.Радзішэўская і інш. Усе яны згодныя, што гэты помнік мае складаны і супярэчлівы характар. Польская даследчыца Ю.Радзішэўская, напрыклад, у свой час нават лічыла, што аўтарам "Хронікі Быхаўца" з'яўляўся малады Мацей Стрыйкоўскі. Аднак негатыўная ацэнка уніі ў хроніцы, як справядліва адзначыў Ю.Бардах, і антыпольскія ідэі не сумяшчальныя з пазітыўнай ацэнкай уніі і каталіцтва ў М.Стрыйкоўскага.

"Хроніка Быхаўца" перакладалася на рускую, літоўскую і беларускую мовы. У 1966 г. асобнае выданне на рускай мове здзейсніў М.М.Улашчык. Яму ж належыць заслуга выдання хронікі ў XXXII томе ПСРЛ. Ён таксама даказаў, што ў рукапісу не хапала не паловы тэксту, як лічыў Т.Нарбут, а толькі каля 9%. М.М.Улашчык даказваў, што складальнікам заключнай часткі "Хронікі Быхаўца" быў праваслаўны жыхар Вялікага княства Літоўскага, набліжаны да двара слуцкіх князёў – нашчадкаў кіеўскага князя Алелькі Уладзіміравіча.

Пераклад на літоўскую мову з падрабязным каментарам даў Р.Ясас. Ён, дарэчы, паспрабаваў удакладніць кола людзей (Гаштольдаў, Гальшанскіх, Друцкіх), у асяроддзі якіх напісана хроніка. Так, у 1456 г. беларуска-літоўская шляхта спрабавала абраць на вялікакняскі прастол князя Сямёна Алелькавіча (Стрыйкоўскі М. Т. ІІ. – С. 250, Варшава, 1846; Бельскі М., Кракаў, 1597. – С. 408). Князі Алелькавічы Слуцкія, нашчадкі

Альгерда, мелі герб Пагоня і Калюмны і былі пакрыўджаны на караля, які зрабіў іх вотчыну Кіеў правінцыяй ВКЛ. Аднак у ХБ аб велічы рода Слуцкіх нічога не гаворыцца, а ўсялякім чынам узвышаецца род Гаштольдаў.

Хроніка Быхаўца, як сцвярджаў Р.Ясас, з’яўлялася заключным этапам у стварэнні шырокай рэдакцыі беларуска-літоўскіх летапісаў і адказам на польскую хроніку Мехавіты. На думку Р.Ясаса, ХБ напісана не пазней 1525 г.

М.Ючас лічыў, што аўтар ХБ быў блізкі да Гальшанскіх, а дакладней, да князя Паўла Гальшанскага. Ён быў адным з самых багатых і ўплывовых магнатаў ВКЛ. Альбрыхт Марцінавіч Гаштольд (памёр у 1539 г.), віленскі ваявода і канцлер ВКЛ, быў сынам Гальшанскай княжны Ганны. Павел Гальшанскі ў 1522 г. завяшчаў Альбрыхту Гаштольду і яго сыну сваю частку ў Гальшанах. Князь Павел быў сынам Аляксандра Юр’евіча Гальшанскага і Соф’і Судзімонтаўны. Аляксандр Юр’евіч, віленскі кашталян і гродзенскі стараста, быў таксама адным з першых паноў ВКЛ. У ХБ яму адведзена шмат месца. У яго бацькі ў Гальшанах арыстакраты ВКЛ выбралі на велікакняскі прастол Казіміра. Юры Гальшанскі быў членам дзяржаўнай рады. У 1495 г. Аляксандр Юр’евіч, падскарбі Літоўскі, лічыўся наместнікам Гродна, ездзіў у Маскву, суправаджаў княжну Алену. Сын Аляксандра Павел, апошні з рода Гальшанскіх князёў, у 1507 г. быў студэнтам Кракаўскага універсітэта, у хуткім часе стаў біскупам Луцкім. Прыкладна ў 1512 г. ён наведаў Італію. Жыў у Вільні, быў членам паноў-рады ВКЛ. З 1536 г. быў віленскім біскупам. Пабудаваў у Вільні цудоўны біскупскі палац з садам, аднавіў згарэўшы ў 1530 г. кафедральны касцёл.

З сярэдзіны XVI ст. Гальшанскія і Гаштольды зыходзяць з гістарычнай арэны. Іх замяняюць Радзівілы. Аднак у ХБ апошнім адводзіцца вельмі мала месца. Такім чынам, М.Ючас робіць выснову, што ХБ пісалася ў 30-я гг. XVI ст.

На думку М.Ючаса, “Хроніку Быхаўца” можна падзяліць на складальныя часткі: 1) легендарную; 2) перапрацаваную частку “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх”; 3) невялікую частку з кароткага зводу беларуска-літоўскіх летапісаў; 4) хроніку, альбо, дакладней, апавяданне аб Яне Гаштольдзе з дадаткамі з невядомай хронікі 1453-1492 гг.; 5) нататкі сучасніка за 1492-1506 гг.

Аб прыярытэтнай ролі Гаштольдаў у складанні ХБ сведчаць наступныя факты. Ужо ў першай ўстаўцы – легендзе аб пакутах францішканаў у Вільні – асабліва падкрэсліваецца важная

роля, якую адыграў у гэтых падзеях Гаштольд Гаштольдавіч, прыбліжаны Альгерда. Яшчэ з'яўляючыся наменнікам Камянца-Падольскага, ён прыняў каталіцтва пад імем Пятра. Такім чынам, перад намі тыповая генеалагічная легенда, якая ўзвялічвала ролю Гаштольдаў.

Вылучыць у тэксце ХБ асобныя разнародныя часткі дазваляе зробленае Т.Сушыцкім тэксталагічнае супастаўленне гэтага помніка з іншымі творамі беларуска-літоўскага летапісання. Т.Сушыцкі сцвярджае, што па складзе выкарыстаных крыніц хроніку ўмоўна можна падзяліць на дзве часткі (апошнія запісы хронікі, звязаныя з дзейнасцю слуцкіх князёў, якія не маюць паралеляў у іншых помніках, ён, натуральна, не разглядаў). У першай частцы, якая ахоплівае перыяд да смерці Гедыміна, змешчана кампіляцыя, якая складаецца з тэкстаў, здабытых з Іпацеўскага летапісу і нейкага беларуска-літоўскага летапісу, блізкага да летапісу Еўрэінаўскага, але больш позняга. Пачынаючы ад смерці Гедыміна, у ХБ адлюстраваўся тэкст найбольш ранняга помніка беларуска-літоўскага летапісання – "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх" першай рэдакцыі сярэдзіны XV ст. (Супрасльскі і Нікіфараўскі спісы).

Тэкст "Летапісца" ў спісе Быхаўца ўскладнёны шэрагам буйных уставак. Адна з іх – паведамленне аб паходзе Альгерда на Маскву – супадае з адпаведным апавяданнем Еўрэінаўскага спісу. Гэты ўрывак, як і шэраг іншых, надае мастацка-эпічны характар гістарычнаму апавяданню ХБ: "У тыя часы князь вялікі літоўскі і рускі Альгерд Гедымінавіч, справуючы ўмела гаспадарства сваё, немалы час панаваў у Вялікім княстве Літоўскім. І быў ён у міры і ў добрай прыязні з вялікім князем маскоўскім Дзімітрыем Іванавічам, які без усякае прычыны, пераступіўшы дагавор і прыязнасць, прыслаў да вялікага князя Альгерда пасла свайго з агнём ды шабляю, даючы яму зразумець, што "буду ў зямлі тваёй па краснай вясне, па ціхім леце". І князь вялікі Альгерд выняў крэсіва, губку і крэмень, і, запаліўшы губку, даў паслу, і сказаў так: "Дай гэта гаспадару і паведамі яму, што ў нас у Літве агонь ёсць, бо ён кажа мне, што хоча быць у маёй зямлі па краснай вясне ды па ціхім леце. А я, дасць Бог, буду ў яго на Вялікдзень, ды пацалую яго чырвоным яйкам цераз шчыт суліцаю, ды з Божаю дапамогаю к гораду ягонаму Маскве дзіду сваю прысланю; бо не той ваяр, хто чакае часу зручнага, каб ваяваць, але той, хто і ў нязручны час над сваім непрыяцелем зверхнасць даводзіць". І, адпусціўшы пасла і сабраўшы ўсе свае войскі літоўскія і рускія, пай-

шоў з Віцебска проста на Маскву. І на самы Вялікдзень ранкам князь вялікі Дзімітры Іванавіч ішоў з баярамі і з князямі з царквы з ютрані, а князь вялікі Альгерд з усімі сваімі сіламі, разгарнуўшы харугвы свае, з'явіўся на Паклоннай гары... І сам на каня сеўшы, дзіду ўзяўшы ў рукі і прыехаўшы да горада, дзіду тую да мура прысланіў і, едучы назад, сказаў голасна: Княжа вялікі маскоўскі! Памятай пра тое, што дзіда літоўская стаяла пад Масквою". На думку даследчыкаў, прынамсі тры зімнія паходы Альгерда на Маскву мелі месца ў 1368-1370 гг.

Усе астатнія ўстаўкі, дзе ўтрымліваюцца падрабязныя апісанні падзей другой паловы XIV ст. і першай паловы XV ст., не маюць адпаведнікаў у іншых летапісах. Паколькі летапіс па Еўрэінаўскім спісе, адлюстраваны ў ХБ, уяўляе сабой адзін з найбольш позніх беларуска-літоўскіх летапісаў, які склаўся не раней 50-х гг. XVI ст., то на гэтай падставе Т.Сушыцкі датаваў "Хроніку Быхаўца" 50-60-мі гадамі XVI ст.

Больш складаная сітуацыя з другой часткай "Летапісца", бо невядома, дзе і калі былі зроблены тыя ўнікальныя ўстаўкі, якія чытаюцца ў гэтым варыянце "Летапісца вялікіх князёў Літоўскіх". Супастаўляючы гэтыя ўстаўкі паміж сабой, можна канстатаваць, што большая частка іх прасякнута адной тэндэнцыяй – абгрунтаваць старажытнае паходжанне літоўскай знаці і яе перавагу над польскай, роўныя правы Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам у рамках дынастычнай уніі. Так, ужо ў апавяданні аб апошнім шлюбе Ягайлы ўказваецца, што кароль ад сваіх першых жонак, "ляховицы" і "немкі", не меў дзяцей і таму пажадаў узяць новую жонку з "поколения руского". І ад гэтага шлюбу ў яго нарадзіліся дзеці Уладзіслаў і Казімір. У апавяданні аб Грунвальдскай бітве падкрэсліваецца, што ўсю бітву выйгралі літоўскія войскі, а палякі, за выключэннем невялікага атрада, "нічога ім не дапамагалі, толькі на тое глядзелі".

У пераказ акта Гарадзельскай уніі 1413 г. устаўлена абавязацельства палякаў выбраць на польскі прастол у выпадку бяздзетнай смерці Ягайлы аднаго з сыноў Вітаўта. Такім чынам, дамове быў нададзены раўнапраўны характар. Шэраг антыпольскіх выпадаў сустракаецца ў апавяданні аб спробе Вітаўта прыняць каралеўскі тытул.

Іншая тэма, якая выразна прасочваецца ва ўстаўках, – тэма прыняцця і распаўсюджвання каталіцкай рэлігіі ў Вялікім княстве Літоўскім. Так, у апісанне панавання Альгерда ўстаўлена апавяданне аб заснаванні ў Вільні францішканскага кляш-

тара, аб пакутах яго манахаў, забітых віленскімі гараджанамі, аб аднаўленні кляштара, які стаў "першым кляштарам хрысціянскага рымскага закону" ў Вялікім княстве Літоўскім. Далей гаворыцца аб заснаванні Ягайлам касцёла св.Станіслава і біскупскай кафедры ў Вільні, хрышчэнні Жмудзі і заснаванні касцёла св.Пятра ў Медніках. Гэтыя асаблівасці ўставак найбольш яскрава выступаюць на фоне тэксту ранняй рэдакцыі "Летапісца вялікіх князёў Літоўскіх", у якой пытанні веравызнання амаль увогуле не закраналіся. Гэтыя ўстаўкі маглі ўзнікнуць у асяроддзі каталіцкай часткі літоўскай знаці. Відавочна, што гэтыя ўстаўкі не маглі быць зробленыя праваслаўным прыдворным слуцкіх князёў.

У свой час М.К.Любаўскі звярнуў увагу на той факт, што ХБ "складзена асобай, блізкай да Гаштольдаў", і таму надае мала ўвагі гісторыі іншых родаў. Вывучэнне ХБ цалкам пацвярджае гэты тэзіс. Мэтанакіраваны падбор фактаў (часам сфальсіфікаваных) уздымае ролю гэтага роду ў гісторыі ВКЛ: нейкі Пётр Гаштольд нібыта "найпервей прыняў веру рымскую і да Літвы прынёс"; у Грунвальдскай бітве пасля смерці польскага гетмана Сокала Чэха і літоўскага князя Івана Жэдзевіда, якія загінулі ў ямах, вырытых крыжакамі, літоўскае войска ўзначаліў "дворны" гетман Ян Гаштольд; Ян Гаштольд быў ініцыятарам з'езду паноў у Гальшанах, на якім была прынята кандыдатура Казіміра Ягайлавіча на вялікакняжацкі прастол, і г.д.

Такім чынам, можна зрабіць выснову: паколькі апошні прадстаўнік гэтага роду – Станіслаў Альбрыхтавіч памёр у 1542 г., то ўстаўкі, у якіх праслаўляецца ягоны род, маглі быць зроблены толькі раней, да складання "Хронікі Быхаўца". У 50-60-я гг. XV ст. Гаштольды былі звязаны сваяцкімі сувязямі з родам Алелькавічаў-Слуцкіх: у свой час кіеўскі князь Сямён Алелькавіч быў зяцем Яна Гаштольда, які прапанаваў абраць першага гаспадаром Літвы, як у свой час Ягайла зрабіў вялікім князем Вітаўта. Аднак пасля смерці Сямёна Алелькавіча ў 1471 г. Казімір Ягелончык ліквідаваў Кіеўскае княства і паслаў ваяводай у Кіеў пана Марціна Гаштольда. Кіяўляне адмовіліся прыняць яго і дамагаліся, каб Кіеў быў перададзены брату памерлага Міхаілу Алелькавічу. Але з дапамогай вайсковай сілы Гаштольд замацаваўся на кіеўскай пасадзе. Гэтая ўстаўка, бясспрэчна, была зроблена па ініцыятыве князёў Алелькавічаў-Слуцкіх.

Падобны пункт гледжання выказваў савецкі даследчык Б.Флора. Ён канстатаваў, што ў аснове "Хронікі Быхаўца" ляжыць "Летапісец вялікіх князёў літоўскіх" рэдакцыі 40-х гадоў

XV ст., ускладнёны ўстаўкамі, зробленымі ў канцы 50-х – пачатку 60-х гг. у колах, блізкіх да роду Гаштольдаў, і працягнуты потым летапіснымі нататкамі другой паловы XV – пачатку XVI ст., зробленымі пры двары Алелькавічаў-Слуцкіх.

Новы погляд на "Хроніку Быхаўца" выказаў Е.Ахманьскі. Палемізуючы з М.М.Улашчыкам, які лічыў, што хроніка ўзнікла ў пачатку XVI ст. у праваслаўным асяроддзі князя Алелькавіча-Слуцкага, Е.Ахманьскі сцвярджаў, што "Хроніка Быхаўца" складаецца з 3 частак: апавяданне да 1440 г.; хронікі Гаштольдаў; апавяданне да 1508 г. (ХБ абрываецца на 1506 г.). Агульную ж рэдакцыю твора зрабіў чацвёрты аўтар у другой палове XVI ст. (пасля 1550 г.). Аўтарам дзвюх першых частак, на думку Е.Ахманьскага, быў літовец, які размаўляў папольску, з асяроддзя князёў Гальшанскіх і Гаштольдаў, які пісаў яшчэ пры жыцці Альбрыхта Гаштольда, у 1522-1539 г. Трэцяя частка напісана ў 1510-1514 гг. праваслаўным аўтарам, патрыётам Вялікага княства Літоўскага.

Адносна храналогіі і аўтарства "Хронікі Быхаўца" існуюць і іншыя меркаванні. Так, Я.Якубоўскі лічыў, што яна магла быць створана пасля 1564 г., бо віленскі войт Аўгустын Ратундус, аўтар "Размовы Паляка з Літвінам", яшчэ не ведаў яе. Польскі даследчык С.Будка меркаваў, што пачатак "Хронікі Быхаўца" аб Атыле мог быць напісаны каля 1574 г., калі ў друку з'явіўся пераклад гісторыі аб Атыле Цыпрыяна Базыліка. Апошняе сцвярджэнне выключае меркаванне Ахманьскага, што першая частка ХБ з'явілася перад 1539 годам.

Дыскусіі аб часе стварэння і паходжанні "Хронікі Быхаўца" ў асяроддзі беларускіх, літоўскіх і польскіх даследчыкаў не сціхаюць і сёння. Гэта паказчык важнасці дадзенай крыніцы для гісторыі Вялікага княства Літоўскага. У ёй акумуляраваліся ўсе гістарычныя веды другой паловы XVI ст., у тым ліку і ўнікальныя матэрыялы, якія не маюць аналагаў сярод захаваных на сённяшні дзень наратыўных крыніц. "Хроніка Быхаўца", як ужо неаднаразова адзначалася, – гэта цудоўны твор старабеларускай літаратуры, які сведчыць аб яе высокім мастацкім узроўні.

## ПОЛЬСКІЯ ХРОНІКІ XII – XVI ст.

Момант стварэння трэцяга летапіснага зводу супадае з утварэннем Рэчы Паспалітай – магутнай дзяржавы, у якой зліліся і развіваліся ў адзіным рэчышчы культуры розных народаў, якія

яе насялялі: украінцаў, беларусаў, палякаў, літоўцаў і іншых. Дамінуючае становішча, аднак, займала польская культура, якая пранікала і ў значнай ступені сілкавала іншыя, якія ў яшчэ большай ступені сілкавалі яе. Пранікненне гэтае пачалося значна раней – з моманту ўзыходу на польскі прастол вялікага князя літоўскага Ягайлы. Тады ж з’явіліся тэндэнцыі ўплыву польска-каталіцкай культуры, грамадска-палітычнай, навуковай думкі ў ВКЛ. Пачалося знаёмства беларуска-літоўскага інтэлектуальнага асяроддзя з дасягненнямі польскай гістарычнай навукі – нацыянальнымі гісторыямі, створанымі ў розныя часы.

Першым творам польскай нацыянальнай літаратуры лічыцца так званая **хроніка Гала Аноніма.** У арыгінале яна была напісана на лаціне, як і ўсе творы таго часу (так адбывалася таму, што большасць моў яшчэ не даспела да пісьмовага ўжытку, а лаціна была прыстасавана да гэтых мэтаў ад стагоддзяў).

Хроніку Гала Аноніма лічаць першым нацыянальным творам, нягледзячы на тое, што аўтар яе не быў палякам. Аб аўтары вядома мала. Ён быў іншаземцам, як гаворыць сам у сваім творы. Пісаў яго ў Польшчы і аб Польшчы, натхнёны на гэтую справу канцлерам караля Баляслава Крываўстага. Прадметам апісання былі справы гэтага караля і польскіх князёў. Мяркуецца, што аўтар знаходзіўся пры двары Баляслава Крываўстага ў перыяд паміж 1102 – 1138 гг.

Акрамя гэтых акалічнасцяў, хроніка Гала Аноніма з’яўляецца першым нацыянальным творам яшчэ і таму, што яна самая вялікая па памерах і змястоўная. Яе мастацкая форма непараўнальная з іншымі творамі таго часу. Яна аказала вялікі ўплыў на пазнейшую польскую літаратуру.

Услед за Марцінам Кромэрам, які пісаў: “Гэтую гісторыю пісаў Гал, напэўна мніх нейкі... які жыў у часы Баляслава III”, – яе прынята называць хронікай, альбо гісторыяй Гала Аноніма, маючы на ўвазе невядомага француза. З прадмовы да трэцяй кнігі можна даведацца, што ён не быў палякам, бо піша: “...узяўся за такую вялікую справу не з тою мэтаю, каб хваліцца сваёй радзімай альбо бацькамі, будучы сярод вас чужаземным пелігрымам, але дзеля таго, каб нейкі плён сваёй працы забраць з сабой у месца, дзе складаў шлюбы (манаскія)”. Месцам складання шлюбаў (пэўнай прысягі) ў манахаў-бенедыктынаў (самага “інтэлектуальнага” каталіцкага ордэна) лічыўся кляштар, у якім законнік (манах) пасля складання шлюбаў знаходзіў новую родную хату і да якой ён мусіў вярнуцца пасля доўгай ці кароткай адсутнасці.

Шляхам выключэння можна прыйсці да высновы, што аўтар хронікі не быў чэхам альбо немцам, бо крытыкуе іх; не мог прыйсці з Усходу, бо там не пісалі па-лаціне альбо не былі хрысціянамі. З усіх памежных з польскімі княствамі краін застаецца Венгрыя. Сапраўды, аўтар ведае яе паўднёва-заходнія правінцыі, пяць чарговых каралёў Венгрыі з роду Арпадаў (Стэфан, Пётр, Саламон, Уладыслаў і Каламан) і князя Альмуса, у той час як з іншых пануючых асобаў ведае толькі трох нямецкіх цэсараў, трох чэшскіх князёў, аднаго мараўскага і трох рускіх. Але венгры ў гэты час былі, як і палякі, яшчэ на даволі нізкай ступені культурнага развіцця, аб чым сведчыць іх нацыянальная гісторыя "Gesta Ungarorum". Жыццё венгерскага караля святога Стэфана напісаў таксама не венгр, а нямецкі біскуп Хартвіг. Але найбольш пераканаўчым аргументам на карысць таго, што першы польскі гісторык-храніст прыйшоў з Венгрыі, з'яўляецца схільнасць аўтара да святога Ідзія. Справа ў тым, што з 1091 г. у Венгрыі існавала абацтва бенедыктынаў, дзе ўшаноўвалі св.Ідзія, манахі сюды прыбылі з месца культу св.Ідзія Сэн-Жыль у Правансе. Да гэтага кляштара прымалі выключна французаў.

Гал Анонім напісаў сваю хроніку ў перыяд паміж 1113 – 1117 гг. Яна складаецца з трох частак: у першай апісваецца гісторыя Польшчы ад легендарнага Пяста да часоў Уладзіслава Германа, другая пачынаецца нараджэннем Баляслава Крываўстага і даводзіцца да 1109 г., а трэцяя частка, найбольш падрабязная, датычыцца 1109 – 1113 гадоў. Кожная частка, кніга, пачынаецца ўступам з прысвячэннем тагачасным дастойнікам, а сканчваецца рыфмаваным эпілогам. У польскую гісторыю Гал Анонім уставіў факты са старажытнай гісторыі і міфалогіі. Ён крытычна ставіўся да славянскіх суседзяў Польшчы: чэхаў лічыў рабаўнікамі і баязліўцамі, русінам прыпісваў "прастацтва, уласцівае гэтаму народу".

У XIII ст. польская гістарыяграфія бурна развівалася. Найбольш важнай з'явай у гэты час стала першая **хроніка** мясцовага польскага аўтара **– Майстра Вінцэнта,** пазней названага **Кадлубкам** (пасля 1150 – 1223). Ён паходзіў з рыцарскай сям'і, з сандамірскай зямлі. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Парыжу альбо Балоніі, атрымаўшы там ступень магістра. Пасля вяртання на радзіму каля 1189 г. Вінцэнт апынуўся пры двары князя Казіміра Справядлівага і знаходзіўся там (напэўна, у канцылярыі) да смерці князя ў 1194 г. Пасля атрымаў пасаду прабошча калегіяты ў Сандаміры. У 1208 г. быў абраны

кракаўскай капітулай на пасаду біскупа гэтай дыецэзіі. Біскуп Вінцэнт удзельнічаў у Латэранскім саборы 1215 г. У 1218 г. адмовіўся ад біскупства і ў кляштары цыстэрсаў у Енджэёве правёў апошнія пяць гадоў свайго жыцця. Праўдападобна, там і была напісана ягоная "Хроніка дзеянняў князёў і каралёў Польшчы" (Cronica de gestis principum et regum Poloniae), прынамсі, апошняя яе кніга. "Хроніка" Майстра Вінцэнта складаецца з чатырох кніг. Тры першыя ўяўляюць сабой дыялог кракаўскага біскупа Матэўша і гнезненскага біскупа Яна. Першы апавядае аб здарэннях, другі забяспечвае іх каментаром. У гэтых трох кнігах апісаны падзеі ад легендарных пачаткаў пястоўскай дынастыі да 1173 г. Чацвёртая кніга апавядае пра часы і здарэнні, якім Майстар Вінцэнт сам быў сведкай, і даводзіцца да 1202 г.

Аўтар хронікі быў высокаадукаваным чалавекам. Акрамя Святога Пісання, айцоў царквы, антычных і сярэднявечных аўтараў, ён карыстаўся ў якасці крыніц хронікай Гала Ананіма. Кадлубак (крыху зняважлівая мянушка, якая прычапілася да імя Вінцэнта ў пазнейшыя часы) пісаў сваю хроніку як літаратурны твор, у першую чаргу, маралізатарскі. Таму вартасці яе як гістарычнай крыніцы невялікія, хутчэй яна з'яўляецца помнікам гістарычнай думкі той эпохі. Рукапіс хронікі не захаваўся, затое, пачынаючы з XIV ст., яна распаўсюджваецца ў шматлікіх спісах сярод шкаляроў.

З польскіх гістарычных твораў XIV ст. вылучаецца **хроніка Янка з Чарнкова.** Яе аўтар (каля 1320 – 1387) – сын чарнкоўскага войта. На пачатку сваёй кар'еры быў канцлерам шверынскага (Schwerin) біскупа ў Мекленбургу. Вярнуўшыся ў Польшчу каля 1356 года, ён стаў улацлаўскім канонікам, а пазней – гнезненскім архідзіяканам. Падарожнічаў у Авіньён, у папскую курыю як прадстаўнік польскіх біскупаў. Нарэшце ў 1366 г. Янка стаў каронным падканцлерам і адным з дарадчыкаў караля Казіміра Вялікага. Пасля смерці апошняга і ўступлення на трон Людвіка Венгерскага Янка з Чарнкова прыняў удзел у няўдалай змове, за што паплаціўся стратай пасады падканцлера, бенефіцыяў і быў асуджаны на выгнанне, але застаўся на пасадзе гнезненскага архідзіякана.

Тэкст хронікі, на жаль, поўнасцю не захаваўся: бракуе пачатку і заканчэння. Уласна кажучы, хроніка Янка з Чарнкова – гэта свайго роду ўспаміны аб тым, што сам аўтар перажыў, таму гэта значна больш вартая гістарычная крыніца, чым папярэднія хронікі Гала Ананіма і Вінцэнта Кадлубка. У ёй прадстаўлены перыяд панавання каралёў Казіміра і Людвіка аж да

смерці апошняга. Гэта апалогія апошніх Пястаў на польскім троне і адначасова апраўданне ўласных палітычных учынкаў аўтара і ачарненне яго праціўнікаў.

У хроніцы больш увагі нададзена падзеям у Вялікім княстве Літоўскім, прычым аўтар добра арыентаваўся ва ўнутрыпалітычным жыцці нашай краіны. Тут мы знаходзім такія раздзелы, як: “Аб страце ўладзімірскага замка на Русі” (аб аблозе Уладзіміра Валынскага Кейстутам і Любартам); “Аб спустошанні літвінамі сандамірскай зямлі” (1341 г.); “Аб здабыцці бэлзскага замка”, “Аб разні літоўскіх князёў паміж сабой” (у гэтым раздзеле апісваюцца падзеі 1382 года і ўпершыню ўзгадваецца назва Белая Русь у дачыненні да этнічна беларускіх земляў, менавіта замка Полацк); “Аб здабыцці крыжакамі літоўскага замка Трокі” (1384 г.) і г.д.

## ЯН ДЛУГАШ (1415-1480)

У польскай гістарыяграфіі позняга сярэднявечча важкую ролю адыгрывае вялікі твор Яна Длугаша, які ў рукапісу называецца Annales seu cronicae incliti Regni Poloniae (Annales Poloniae) і ахоплівае гісторыю Польшчы да 1480 г. у кантэксце агульнай гісторыі, асабліва сярэднееўрапейскай.

Ян Длугаш жыў у часы, калі польскае каралеўства перажывала перыяд бурнага развіцця. Выключна карысная палітычная кан’юнктура пасля ўніі з ВКЛ супадала з далейшым гаспадарчым росквітам. Пад Грунвальдам былі разгромлены крыжакі. Многія даследчыкі лічаць, што вайсковая перамога не была выкарыстана, аднак, крыжацкая дзяржава, адзін з самых вялікіх палітычных арганізмаў Усходняй Еўропы, раз назаўжды страціла свае пазіцыі. А Польшча, якая да нядаўняга часу была слабым партнёрам у еўрапейскай палітыцы, аб’ектам палітычнага гандлю, на працягу жыцця аднаго пакалення вырасла ў сілу, раўнапраўную Венгрыі і нават Свяшчэннай Імперыі. У часы Длугаша немагчыма было падумаць аб якім-небудзь палітычным дзеянні ў Цэнтральнай Еўропе без уліку Кракава як у справах барацьбы з гусізмам, крыжакамі, так і ліквідацыі заходняй схізмы, ці антытурэцкага крыжовага паходу.

Рост гарадоў, гаспадарчы прагрэс, актыўная ўнутраная і знешняя палітыка спрыялі дзейным асобам. У XV ст. былі створаны ўмовы, карысныя для кар’еры людзей, якія не належалі да старых родаў. Дзяржава патрабавала шмат чыноўнікаў, якіх цанілі ў першую чаргу за розум, за іх прадпрымальніцкія здольнасці.

Кадры чыноўнікаў рыхтаваў Кракаўскі універсітэт. Умовай паступлення туды было заканчэнне парафіяльнай школы, што садзейнічала развіццю шырокай сеткі школ. Пад канец жыцця Длугаша толькі ў гнезненскай архідыецэзіі было каля 3000 парафіяльных школ, у якіх вучылі пачаткам катэхізіса, арыфметыцы, пісьменнасці. Акрамя гэтага ніжэйшага ўзроўню школ, існавалі вышэйшыя – катэдральныя, гарадскія.

Падобны адукацыйны шлях прайшоў і Ян Длугаш – шляхціц з велюнскага роду Веняваў. Бацька яго быў бургамістрам замка Бжэзніцы. Брат бацькі Барталамей – адзін з капланаў, якія адпраўлялі набажэнства падчас Грунвальдскай бітвы. Ён атрымаў прабоства (парафію) ў Клабуцку і займаўся выхаваннем Яна. Пазней бацька Длугаша стаў бургамістрам замка ў Новым Месцы Корчыне, куды перасялілася сям'я. Ад дзвюх жонак бацька Длугаша меў 14 сыноў, не лічачы дачок. Самы старэйшы з сыноў, Ян, быў здаровым хлопчыкам, а наступныя два памерлі ў дзяцінстве, таму ўсім наступным сынам бацькі давалі шчаслівае, на іх погляд, імя Ян. Храніст быў чацвёртым. Зразумела, гэты факт нарабіў шмат клопатаў даследчыкам.

Яшчэ падчас вучобы на філасофскім факультэце Кракаўскага універсітэта (1428-1431) Длугаш сутыкнуўся з кракаўскім інтэлектуальным асяродкам, у якім пэўную ролю адыгрывала зацікаўленасць гісторыяй, якая выражалася ў збіранні і каментаванні польскіх хронік (асабліва гэтым праславіўся Ян Дамброўка, настаўнік Длугаша). Далейшы этап яго зацікаўленасці гісторыяй таксама звязаны з Кракавам, у якім ён, дарэчы, з кароткімі перапынкамі прыбываў да смерці. Ён перайшоў на працу ў канцылярыю галоўнай постаці рэлігійна-палітычнай і інтэлектуальнай Польшчы – праціўніка новай дынастыі Ягелонаў – кракаўскага біскупа Збігнева Алесніцкага, стаўшы з часам яго сакратаром і даверанай асобай. У выніку гэтага ўжо ў 1436 г. стаў канонікам кракаўскай капітулы, выконваючы для яе шэраг адказных адміністрацыйных функцый. Атрымаў таксама некалькі бенефіцыяў, якія далі яму пэўную матэрыяльную незалежнасць. Каля чвэрці стагоддзя побыту каля Алясніцкага стала для Длугаша палітычнай школай, але аднабаковай, у касцельна-алігархічным духу, а таксама наблізіла яго да інтэлектуальнай эліты – тэолагаў і праўнікаў – прадстаўленай сярод членаў капітулы. Гэта дало імпульс і для сутыкнення з бібліятэкай і архіўнымі зборамі капітулы, а таксама з некаторымі ранейшымі помнікамі польскага дзеепісьменніцтва. Кра-

каўскае асяроддзе таксама заахвоціла Длугаша да напісання першых прац адміністрацыйна-гаспадарчага характару, як частка I *Liber beneficiorum dioecesis Cracoviensis* – інвентар добраў біскупа, пачаты ў 1440 г. (загінуў), які працягваўся потым у 3 частках для добраў капітулы ў 1470-1480 гг. Каля 1448-1466 гг. Длугаш апрацаваў – пры дапамозе мастака Станіслава Дурынка – апісанне 56 харугваў крыжацкага ордэна ў Прусіі, якія паходзілі, галоўным чынам, з бітвы пад Грунвальдам 1410 г. у творы *Banderia Prutenorum*, які не мае прэцэдэнту ў еўрапейскай гістарыяграфіі позняга сярэднявечча.

Інтэлектуальны далягляд Длугаша значна пашырыўся дзякуючы шматразовым падарожжам, асабліва ў Аўстрыю, Венгрыю, Італію і Палестыну (1435, 1449-1450). У Італіі Длугаш сустракаўся з выдатным гуманістам і географам Мікалаем Кузанскім, з якім і надалей падтрымліваў цесныя сувязі[1]. Зносіны з італьянскімі вучонымі, наведванне універсітэтаў пашырыла кругагляд храніста. Падарожжы спрыялі росту зацікаўленасці творамі рымскіх класікаў на чале з Цітам Лівіям і тэндэнцыямі італьянскага гуманізму, з якімі Длугаш сутыкаўся ўжо ў Кракаве. Пад уплывам Алесніцкага Длугаш (ужо пасля смерці біскупа ў 1455 г.) прыступіў да працы над *Annales Poloniae*, якая працягвалася 25 гадоў аж да смерці. У гэты перыяд узніклі таксама малыя творы дапаможнага характару, між іншым некалькі каталогаў біскупаў і жыццяпісаў польскіх святых, нарэшце, *Insigniarum clenodiorum Regis et Regni Poloniae descripcio* (1464-1480) – пералік 94 дзяржаўных, земскіх, капітульных і рыцарскіх гербоў, прыклад першага польскага гербоўніка з вопісамі гербоў паводле родаў, хаця яшчэ без малюнкаў.

Праца над Аналамі для сучасных Длугашу часоў аблягчалася шырокай дыпламатычнай дзейнасцю на службе караля Казіміра Ягелончыка, звязаная з вялікімі перамогамі Польшчы ў замежнай палітыцы, такімі, як вайна з крыжакамі (1454-1466) за Гданьскае Памор'е з вусцем Віслы. Длугаш, перакананы ў слушнасці барацьбы за даўнія землі Пястоўскай Польшчы, браў удзел ва ўрэгуляванні аплаты наёмнікаў Ордэна (1457), а ў 1464-1466 гг. некалькі разоў удзельнічаў у мірных перамовах, будучы сведкам пераможнага для Польшчы трактата ў Торуні

[1] Кардынал Мікалай Кузанскі (1401-1464) – вядомы вучоны, картограф, аўтар карты Цэнтральнай Еўропы ("Карта Германии"). Усходняя мяжа гэтай карты праходзіла па лініі Азоўскае мора – "Новагардыя" – "Белая Русь" (Russia Albae – Масковія) – Рэвель. Менавіта Длугашу абавязаны Мікалай Кузанскі сваімі паведамленнямі аб Польшчы, Літве і Русі.

(19.10.1466), і адыграў галоўную ролю эксперта ў гістарычнай аргументацыі. У 1467-1478 гг. выконваў розныя дыпламатычныя місіі ў сувязі з барацьбой за чэшскі трон, дапамагаючы спачатку ўзвядзенню на яго старэйшага сына Казіміра – Уладзіслава Ягелончыка (1471), і процідзейнічаў акцыі ўладара Венгрыі Мацея Корвіна. У 1467-1475 гг. выконваў таксама адказную функцыю выхаваццеля сыноў караля Казіміра, нягледзячы на непрыманне ўнутранай палітыкі ўладара ў справе надання вышэйшых духоўных пасадаў. Длугаш не карыстаўся прыхільнасцю караля. Ад 1460 г. яны спрачаліся па пытанні ўзаемаадносінаў свецкай улады і царквы. Кракаўскі канонік нават згубіў свае беніфіцыі, у яго адабралі рухомую і нерухомую маёмасць, а сам ён апынуўся ў ссылцы. Длугаш збёг у Мельштын, дзе пражыў каля двух гадоў. Толькі напрыканцы жыцця заслужаны для польскай дзяржавы дзеяч атрымаў пасаду архібіскупа львоўскага. Аднак памёр 19 мая 1480 г. у Кракаве, дзе і быў пахаваны ў касцёле на Скалцы.

Такім чынам, паводле адукацыі і сваіх службовых абавязкаў Длугаш належаў да інтэлектуальнай і палітычнай эліты Польшчы XV ст., якая канцэнтравалася ў сталічным Кракаве, абапіраючыся на каралеўскі, біскупскі двор і Кракаўскую Акадэмію. Ён быў звязаны з некалькімі грамадскімі арганізмамі, якія кшталтавалі яго рэлігійны і палітычны светапогляд. Небагаты шляхціц з паўднёвай Польшчы па паходжанні, жыў у дастатку як кракаўскі канонік у горадзе і моцна быў звязаны з ім (хаця яго кантакты з мяшчанамі былі вельмі слабыя). Наймацнейшыя сувязі звязвалі яго з духоўным станам, які ён лічыў першым ва ўсім польскім грамадстве. Так што Длугаш не мог быць выразнікам інтарэсаў каралеўскага двара, адкуль аўтакратычна навязваліся рашэнні аб вышэйшых касцельных іерархіях, таксама як і інтарэсаў магнатаў ці сярэдняй шляхты, хаця акцэнтаваў сваё ўласнае паходжанне з гэтай апошняй сферы. Здаецца, што пераважае ў яго пачуццё панаддзяржаўнай сувязі, г.зн. нацыянальнай. Аднак і яно абмежаванае, паколькі Длугаш уключаў у народ шляхту і вясковы люд, які яе карміў, а выключаў мяшчанства з прычын этнічна-нацыянальных (наплыў нямецкага патрыцыяту ў Кракаў і самыя вялікія гарады), а таксама з прычыны маральна-тэалагічных поглядаў (непрыхільнасць да ліхвярства, якое лічылася грахом). Длугаша характарызавала моцна развітая нацыянальная свядомасць, сфармаваная ў польскім грамадстве ў XIV ст., у эпоху аб’ яднан-

ня земляў Каралеўства Польскага і барацьбы з дамінаваннем нямецкіх феадальных элементаў, асабліва крыжацкага ордэна.

Значэнне Длугаша для славянскай гістарыяграфіі надзвычай вялікае. Ён першы ва Усходняй Еўропе падаў гісторыю славянскіх краін на агульным фоне сусветнай гісторыі. Ён раней за іншых зразумеў значэнне гістарычных крыніц і выкарыстаў іх у сваёй Гісторыі.

Лёс "Гісторыі" Длугаша вельмі складаны. Напісаная ў 60-80-я гады XV ст., яна была самай папулярнай сярод гісторыкаў XVI ст. гістарычнай працай, якою ўсе яны карысталіся дзеля стварэння сваіх прац. Распаўсюджаная ў шматлікіх рукапісных спісах, упершыню палова ўсяго твора была надрукавана толькі ў 1615 г. у правінцыйным мястэчку Дабрамілю Янам Шчасным Гербуртам. Цалкам жа Аналы Длугаша ўпершыню былі надрукаваныя ў Франкфурце і Лейпцыгу ў 1711-1712 гг.[1] Узнікае пытанне, чаму пры гэткай папулярнасці твора кракаўскага каноніка за мяжой і ў самой Польшчы ён не быў надрукаваны на працягу некалькіх стагоддзяў. Адна з прычын у тым, што ён даваў занадта смелыя характарыстыкі каралям, буйным феадалам і касцельным іерархам.

Падчас напісання сваёй Гісторыі Длугаш карыстаўся "Аповесцю мінулых гадоў" у складзе летапісу XIII ст. Меркаванні гісторыкаў наконт гэтага летапісу разышліся. М.Н.Ціхаміраў лічыў, што Длугаш карыстаўся кіеўскім летапісам X ст. (Тихомиров М.Н. Русский летописец в "Истории Польши" Яна Длугоша // Исторические связи России со славянскими странами и Византией. – М., 1969. – С. 226-237). Е.Пярфецкі меркаваў, што гэта мог быць біскупскі перамышльскі звод 1225 г. (Перфецки Е. Перемышльский літописний кодекс першоі редакціі в складі хронік Яна Длугоша // "Записки наук. товариства ім.Шевченка". Т. 147, 1927; ён жа: Historia Polonica Jana Diugosza a ruske letopisetsvi. – Praha, 1932). Паводле Ул.Ц.Пашуты, гэта кіеўскі летапіс 1238 г. (Пашуто В.Т. Киевская летопись 1238 г.// "Исторические записки". Т. 26, 1948; ён жа: Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. – М., 1950).

Я.Длугаш карыстаўся таксама беларуска-літоўскімі летапісамі. Польскі гісторык А.Прахаска нават меркаваў, што спецыяльна для яго быў зроблены пераклад аднаго з іх на лацінскую

[1] Historiae Polonicae libri XII. Francofurti 1711; Historiae Polonicae liber XIII. Lipsiae 1712. У Аддзеле рэдкіх кніг Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея гэтыя два тамы маюць шыфры 05414 і 04121. Добра захаваліся.

мову – гэта спіс пад назвай “Origo regis Jagyelo et Wytholdi ducum lithuanie” (Prochaska A. Latopis Litewski: Rozbiur krytyczny. – Lwuw, 1890. – S. 28). Большая частка дадзеных Длугаша аб усходнеславянскіх землях усходзіць да пратографа I беларуска-літоўскага зводу. У раздзелах, напісаных да 1458 г., Длугаш узгадвае аб далучэнні Полацка да ВКЛ, аб выправах Вітаўта на паўночна-заходнюю і паўночна-ўсходнюю Русь.

Шматлікія звесткі аб Літве ў XIII ст. датычацца 1205, 1207, 1216, 1220 і наступных гадоў. Часта храналогія падзей у Длугаша і ў летапісцаў адрозніваецца. Длугаш удакладняе яе з дапамогай іншых крыніц, у тым ліку старажытнарускіх летапісаў. Аналіз твора Длугаша паказвае, што інфармацыя, прысвечаная “літоўскім” справам, пераважае, калі наступаюць моманты збліжэння ў гісторыі дзвюх дзяржаў – Польшчы і ВКЛ. Длугаш, напэўна, карыстаўся “Летапісцам вялікіх князёў літоўскіх”. У той жа самай паслядоўнасці, як у Супрасльскім летапісу, у Длугаша называюцца сыны Гедыміна, змена датычыцца толькі спадчыны Манівіда, які атрымаў, акрамя Слоніма, яшчэ Кернаў (у летапісу Карачаў). Розніца таксама ў выпадку з Любартам, які стаў зяцем уладзімірскага князя, асеўшы на тым княстве і атрымаўшы яшчэ, паводле “Летапісца”, Лучаск (Луцк), у Длугаша ж – львоўскае княства. Відаць, з іншых летапісаў I летапіснага зводу Длугаш бярэ імёны сыноў Альгерда, бо “Летапісец” папросту гаворыць, што іх было 12. Длугаш дапоўніў дату смерці Альгерда, якой няма ў “Летапісцы”. Але гэта невялікія дапаўненні, у цэлым жа тэксты летапісу і “Гісторыі” Длугаша вельмі блізкія. За “Летапісцам” Длугаш апісвае выправу Кейстута супраць Карыбута, Вітаўта супраць Ягайлы на Жмудзь і Трокі, барацьбу Скіргайлы і Вітаўта. У “Гісторыі” Длугаша знаходзім таксама і інфармацыю аб тым, што Вітаўт здабыў Смаленск, пра што ўзгадвае і “Летапісец”. Шмат увагі надаў Длугаш няўдалай каранацыі Вітаўта. Можна знайсці нямала паралельных месцаў у беларуска-літоўскіх летапісах і творы Я.Длугаша, не ўсе яны відавочныя, паколькі польскі храніст карыстаўся і іншымі крыніцамі, але, бясспрэчна, ён надаваў вялікую ўвагу гістарычным творам мясцовага паходжання.

У сваю чаргу “Летапісец” разам з літоўскімі падзеямі падае каронныя, што сведчыць аб знітаванасці ўжо ў XV ст. сацыяльна-палітычнага жыцця дзвюх дзяржаў. Шмат увагі храніст надаў унутранай гісторыі ВКЛ, міжнародным адносінам, барацьбе супраць татараў. Крыніцай гэтых паведамленняў

былі розныя польскія хронікі, сярод якіх найважнейшай была Вялікапольская. Апісваючы літоўска-крыжацкія і літоўска-польскія стасункі, Длугаш часта карыстаецца крыжацкімі і польскімі крыніцамі.

Даволі шмат інфармацыі Длугаш пачэрпнуў з вусных крыніц. Інфарматарамі аб Масковіі маглі быць паслы вялікага князя Івана III, пралітоўска настроеныя бежанцы з Ноўгарада, у 1478 г. канчаткова далучанага да Вялікага княства Маскоўскага. Аб Вялікім княстве Літоўскім Длугаш мог размаўляць са шматлікімі студэнтамі Кракаўскай Акадэміі, выхадцамі з гэтых земляў, дзяржаўнымі, палітычнымі дзеячамі ВКЛ, якія часта бывалі пры каралеўскім двары на Вавелі.

З шырокага спектра тэм, якія раскрываюцца на старонках “Гісторыі” Яна Длугаша, трэба вылучыць адну, якая мае метадалагічнае значэнне для беларускіх крыніцазнаўства і гістарыяграфіі, а менавіта: што Длугаш разумеў пад назвай “Русь”. “Russia”, паводле Длугаша, – гэта землі, населеныя рускімі. Русія XIV-XV ст. для Длугаша – гэта ў першую чаргу этнагеаграфічны рэгіён – Галіцка-Валынская і Чырвоная Русь. А.Л.Харашкевіч заўважыла, што, апавядаючы аб працэсе ўключэння польскім каралём Казімірам Вялікім гэтых абласцей у Каралеўства Польскае ў 1341 г., храніст называе Львоў, Пярэмышль, Остраў, Галіч, Луцк, Уладзімір, Любачаў, Санак і Цярэбаўль, якія, на яго думку, складалі “ўсю зямлю Рускую” (universam terram Russiae). Холм, Луцк і іншыя – аб’ект паходу польскага караля 1349 г. – гэта “астатнія рускія землі” (terras Russiae reliquas). Такім чынам, гаворачы аб падзеях сярэдзіны і другой паловы XIV ст., Длугаш зводзіць усю Рускую зямлю да паўднёва-заходняй Русі. Жыхары паўночна-ўсходніх і паўднёвых раёнаў Вялікага княства Літоўскага, якія падтрымалі Свідрыгайлу падчас феадальнай вайны 30-х гг. XV ст., – гэта, у разуменні польскага гісторыка, таксама рускія. Рускімі населены Смаленшчына, Віцебшчына і Полаччына. Ноўгарад Длугаш называе “самайаграмаднай і багатай з земляў Русіі”.

Жыхароў жа паўночна-ўсходняй Русі, як падкрэслівае А.Л.Харашкевіч, Длугаш не ўключае ў лік “рускіх”, населеныя імі землі называе “зямля масквічоў, маскавітаў, Масковія” (terra Mosquensi, Mosquovitarum, Moschovia). Тут Длугаш адыходзіць ад этна-геаграфічнага прынцыпу наймення насельніцтва і іх земляў, пераходзячы да палітыка-геаграфічнага, рэгіянальнага. Тэрмін “Масковія” з’явіўся ў польскіх крыніцах толькі на пачатку XV ст., калі ВКЛ і Карона Польская непасрэдна сутык-

нуліся з Вялікім княствам Маскоўскім, і служыў выключна для вызначэння гэтага палітычнага ўтварэння.

Тэндэнцыя адмаўлення этнічнага адзінства Русі ў традыцыйных межах Старажытнарускай дзяржавы адпавядала палітычным і этна-культурным рэаліям Усходняй Еўропы XIV-XV ст., калі тут сфармаваліся асобныя народнасці – беларуская, украінская і руская (па тагачаснай тэрміналогіі, маскалі, масквіціны, маскавіты). Гэтая тэндэнцыя захавалася ў прадаўжальнікаў і паслядоўнікаў Длугаша, якія выразна супрацьпастаўлялі Русь і Масковію, пад "рускімі" разумелі праваслаўных жыхароў Вялікага княства Літоўскага, а яго ўсходніх суседзяў называлі па іх дзяржаўнай прыналежнасці.

Гаворачы аб значэнні творчасці Яна Длугаша, трэба падкрэсліць яго ўплыў на развіццё славянскай гістарыяграфіі ў цэлым і, у асаблівасці, на развіццё польскай гістарычнай думкі XVI – XVII ст. Рукапісная праца Я.Длугаша стала крыніцай і асновай для стварэння шматлікіх гістарычных твораў XVI ст., сярод якіх важнае значэнне мае хроніка **Бернарда Вапоўскага,** каралеўскага сакратара і прыдворнага дзеепісьменніка. Пытанне аб суадносінах твораў Я.Длугаша і Б.Вапоўскага дагэтуль канчаткова не вырашана.

У гістарыяграфіі прынята лічыць, што хроніка Б.Вапоўскага ў сваёй значнай частцы з'яўляецца кампіляцыяй працы Я.Длугаша. Гэтая частка хронікі, якая ахоплівае падзеі з 1380 да 1480 г., нават атрымала назву "длугашавай". Разам з тым, вядома, што кампілятыўнасць была характэрнай асаблівасцю сярэднявечных гістарычных твораў, свайго роду традыцыяй. Натуральна, што Б.Вапоўскі не мог не карыстацца летапісамі і працамі сваіх папярэднікаў. Аднак істотна тое, што адрознівае творы Б.Вапоўскага і Я.Длугаша. Хроніка Б.Вапоўскага не магла быць простай кампіляцыяй Я.Длугаша хаця б таму, што гэтыя творы пісаліся ў розных палітычных умовах. Падчас напісання "Гісторыі" Я.Длугаша небяспека ордэнскай агрэсіі страціла для Польшчы ранейшае значэнне. Крымскія татары яшчэ не дакучалі так, як пазней. Унітарны працэс як вызначальная з'ява ў жыцці Вялікага княства Літоўскага і Польшчы быў далёка не завершаны, таму для Длугаша не былі бачныя выгады яго для Кароны. Затое ў часы напісання хронікі Б.Вапоўскага ўнія Польшчы і ВКЛ павінна была ўзмацніцца, бо з усходу бяспецы абедзвюх дзяржаў пагражала Вялікае княства Маскоўскае, а з поўдня ціснулі войскі Крымскага хана. Такім чынам, перад Б.Вапоўскім стаяла задача прадэманстраваць неаб-

ходнасць палітычнага саюза ВКЛ і Польскага Каралеўства. Напрыклад, патрэба сумеснай барацьбы з агрэсіяй Тэўтонскага ордэна – адна з прадумоў Крэўскай уніі 1385 г. – давала багаты матэрыял для разважанняў аб карысці польска-літоўскага саюза. Калі Длугаш не адабраў гэты саюз, лічыў, што "справядлівы бог пакараў палякаў каралямі, якія больш клапаціліся пра Літву, чым пра Польшчу", то, на думку Б.Вапоўскага, унія была заключана "да вялікай радасці і вясёласці польскага і літоўскага народаў". Вось чаму дзве тэмы – унія Польшчы і Вялікага княства Літоўскага і барацьба з крыжакамі – галоўныя ў творы Б.Вапоўскага. Апошні значна больш месца і ўвагі, чым Я.Длугаш, надае падзеям у Літве і на беларускіх землях. Невыпадкова пасля апісання Крэўскай уніі ў Б.Вапоўскага размешчаны нарыс па геаграфіі і этнаграфіі Літвы, чаго няма ў "Гісторыі" Я.Длугаша. Такое размеркаванне матэрыялу і парушэнне храналогіі тлумачыцца тым, што Вапоўскі лічыў неабходным азнаёміць польскага чытача з гісторыяй, звычаямі і геаграфічнымі асаблівасцямі земляў, аб'яднаных, паводле ягоных слоў, "у вечным саюзе з Польскім каралеўствам". На некаторыя праблемы гісторыі ВКЛ Б.Вапоўскі глядзеў больш глыбока, чым Я.Длугаш. Напрыклад, палітычную барацьбу ў ВКЛ пасля заключэння Крэўскай уніі (1386-1392 гг.) Длугаш тлумачыць асабістай непрыязню Вітаўта і Ягайлы, у той час як Б.Вапоўскі гаворыць аб існаванні дзвюх палітычных груповак, альбо партый: католікаў і праваслаўных, якія варожа ставіліся адна да другой. Некаторыя звесткі Б.Вапоўскага адсутнічаюць у Длугаша і іншых польскіх хроністаў, бо запазычаны з прускіх хронік, актавых дакументаў.

З 1510 г. да 1515 г. Б.Вапоўскі знаходзіўся пераважна ў Рыме. Тут у 1515 г. разам з Я.Ласкім ён выдаў збор пахвальных песень розных аўтараў у гонар бітвы пад Оршай (Lukas S. Rozbiór podługoszowej części kroniki Bernarda Wapowskiego. – Kr, 1880.– S. 13).

Працу Б.Вапоўскага толькі ўмоўна можна назваць хронікай. У адрозненне ад Длугаша ён не вядзе пагадовых запісаў падзей. Сюжэтна-тэматычны выклад падзей набліжае яго да больш позніх твораў гістарычнай думкі. Вапоўскі бліжэй, чым Длугаш, стаяў да гуманістычнай гістарыяграфіі, якая ставіла новыя задачы перад нацыянальнай гістарычнай навукай. Праца гісторыка разглядалася ім не проста як навуковая дзейнасць, а як грамадска-гістарычная місія. Вапоўскі быў таксама выдатным географам і картографам свайго часу. Вялікай заслугай яго

з'яўляецца публікацыя карты "Сарматыя", дзе можна знайсці шмат геаграфічных пунктаў паўднёвай Беларусі.

На жаль, арыгінальная частка хронікі Б.Вапоўскага не захавалася. Упершыню частка рукапіснай хронікі Б.Вапоўскага была надрукавана ў XIX ст.

## МАЦЕЙ З МЯХОВА

Мацей з Мяхова (Мяхоўскі, Мехавіта) (каля 1457-1523 гг.) – польскі гісторык, географ, медык, астролаг. Нарадзіўся ў Мяхове (каля Кракава), у сям'і незаможнага мешчаніна Станіслава Карпігі. Пачатковую адукацыю атрымаў у родным Мяхове альбо ў адной з парафіяльных школ Кракава. У 1474 г. паступіў у Кракаўскую Акадэмію, у 1476 г. стаў бакалаўрам, у 1479 г. – магістрам вольных мастацтваў. Магчыма, хутка пачаў вучобу на лекарскім факультэце Кракаўскай Акадэміі, адначасова з 1482 г. выконваў абавязкі рэктара катэдральнай школы на Вавелі. З 1483 г. працягваў вучобу ў Італіі. У 1486 альбо 1487 г. атрымаў ступень доктара медыцыны (хутчэй за ўсё ў Балоніі), неўзабаве вярнуўся ў Польшчу. Афіцыйна з 1500 (магчыма, ужо з 1485 г.) стаў прафесарам медыцыны Кракаўскай Акадэміі. Да 1519 г. 8 разоў выбіраўся яе рэктарам. Адзначыўся як славуты вучоны і выдатны арганізатар навукі. Кракаўская Акадэмія абавязана М.Мяхоўскаму сваім росквітам. Знакаміты медык, неаднаразова запрашаўся да хворых каралёў. Але не прызнаваў ролі анатамічных даследаванняў, у яго бібліятэцы было мала прац сучасных вучоных, пераважалі творы старажытных і сярэднявечных аўтараў. Мехавіта аднавіў і матэрыяльна ўзмацніў кафедру астралогіі (пад уплывам філасофіі Арыстоцеля лічыў, што нябесныя целы – гэта надзеленыя розумам істоты, якія аказваюць уплыў на жыццё людзей). Праславіўся сваёй дабрачыннасцю. Меў вялікія даходы ад лекарскай практыкі, якія ў асноўным выдаткоўваў на грамадскія і філантропныя патрэбы (будаванне і рамонт школ, касцёлаў, бальніц, камплектаванне бібліятэк). Сам жыў вельмі сціпла. Памёр 8 верасня 1523 г. Усю сваю маёмасць прызначыў на публічныя мэты.

Бессмяротнасць М.Мяхоўскаму забяспечылі працы па геаграфіі і гісторыі – "Traktatus de duabus Sarmatiis, Asiana et Europiana et contensis in eis" ("Трактат аб дзвюх Сарматыях", 1517, 1521) і "Chronika Polonorum" ("Хроніка палякаў", 1519, 1521). Мехавіта асабіста ведаў Я.Длугаша, прысутнічаў на яго пахаванні, адчуваў вялікую павагу да "бацькі польскай гісто-

рыі”. “Хроніка палякаў”, якая пісалася ў 1515-18 гг., выйшла ў снежні 1519 г. у друкарні Г.Ветара коштам і асабістымі намаганнямі іншага польскага гісторыка Ё.Л.Дэцыя. Але ўвесь наклад па загадзе кароннага канцлера Я.Ласкага быў канфіскаваны. Старонкі 287, 347-372 былі заменены на тэндэнцыйна адрэдагаваныя самім канцлерам. Змены датычыліся шлюбу Ягайлы з Зоф’яй Гальшанскай, элекцыі Яна Ольбрахта, валошскага паходу 1497 г., панавання Аляксандра і некаторых іншых падзей. (Падобна, першае выданне было больш аб’ектыўнае, чым другое.) Новае выданне ажыццявіў таксама Ё.Л.Дэцый у 1521 г., далучыўшы да яго тры ўласныя гістарычныя творы, адзін з якіх “De Sigismundi regis temporibus” заснаваны на нататках М.Мяхоўскага за 1506-16 гг. Галоўнай крыніцай хронікі была “Гісторыя” Я.Длугаша (да 1480 г.). Кароткае апісанне сучасных падзей (1481-1506 гг.) Мехавіта зрабіў на падставе ўласных дзённікавых нататак (якія вёў прыкладна з 1499 г.), вусных рэляцый і часткова рукапісных і друкаваных крыніц. Хроніка напісана суха і манатонна. Вялізная колькасць дат і фактаў надае ёй асаблівую гістарычную вартасць, асабліва з 1480 г. Хроніка Мацея з Мяхова – першая пасля Кадлубка друкаваная гісторыя Польшчы. Яна павінна была служыць падручнікам для студэнтаў і шырокай публікі, таму ў ёй няма спасылак на аўтараў. У хроніцы Мяхоўскі распачаў друкаваную дыскусію аб пачатках народа. Яшчэ восенню 1499 г., вандруючы ў Рым на святкаванне юбілейнага 1500 года, даследаваў сляды знаходжання славян у Далмацыі і на памежжы Панонii і Харватыі. Галоўным вынікам гэтага падарожжа была гіпотэза М.Мяхоўскага аб аўтахтоннасці славян, аб’яднаная з тэорыяй Я.Длугаша аб пачатковай іх сядзібе ў Псарах (выказаная ўжо ў хроніках Межвы і Вялікапольскай). Мяхоўскі апісаў звычай адпраўлення набажэнства на славянскай мове і па славянскім абрадзе ў касцеле св.Крыжа ў Кракаве, які існаваў у яго маладосці, але быў ліквідаваны ў часы Аляксандра.

У адрозненне ад Я.Длугаша, якога цікавіла галоўным чынам нямецка-крыжацкая праблематыка, М.Мяхоўскі накіраваў сваю ўвагу на Усход – Русь, ВКЛ, татараў, Турцыю. Польскі даследчык К.Бучэк лічыў, што “імпульс для пачатку працы над хронікай дала яму цудоўная аршанская перамога 8 верасня 1514 г.” Шмат увагі Мацей з Мяхова надае падзеям у ВКЛ. Крытыкаваў эканамічныя супярэчнасці ў Літве, якія прыводзілі да яскравага падзелу грамадства на два слаі – вельмі бедных мас сялянства і агорнутых раскошай магнатаў. Адлюстраваў усе

палітычныя акцыі ВКЛ. Аднак пісаў не столькі аб палітыцы, сколькі аб культуры. Замест прыярытэту палітыкі, дзяржаўнай арганізацыі, асобы і яе вялікіх учынкаў увёў паняцці аб нараджэнні і пачатках плямёнаў і народаў, славянскай супольнасці, адводзіў Польшчы цэнтральнае месца ў славянскім свеце.

Гістарычныя факты знаходзім таксама ў "Трактаце аб дзвюх Сарматыях", які прынёс М.Мяхоўскаму вялікую папулярнасць у Еўропе (ў XVI ст. выдаваўся 18 разоў). На жаль, ён карыстаўся неправеранымі дадзенымі, якія атрымліваў ад палонных маскавітаў, купцоў, паслоў, палітычных эмігрантаў. Разбурыў тагачасны стэрэатып аб Усходняй Еўропе, аб існаванні тут Гіпербарэйскіх і Рыфейскіх горных ланцугоў і невядомых людзей (гіпербарэйцаў), узгадкі аб якіх існавалі ў еўрапейскай гістарыяграфіі з часоў Пталемея. Да "Запісак аб Масковіі" С.Герберштэйна трактат Мацея з Мяхова быў асноўнай крыніцай інфармацыі аб палажэнні, рэльефе, флоры, фауне, клімаце, веравызнаннях, палітычных і грамадскіх адносінах у Масковіі, ВКЛ і іншых землях на ўсходзе.

Пераклад "Chronicae Polonorum" на польскую мову да 1279 г. зрабіў С.Хвальчэўскі між 1519-1549 гг. Выдаў Л.Галэмбёўскі (Kronika Stanisława Chwalczewskiego. T. 1-2. – Warszawa, 1829. Zbior Pisarzów Polskich. Cz.3. – T. 9-10).

Рэктар Кракаўскага універсітэта Мацей Мяхоўскі ў "Трактаце аб дзвюх Сарматыях" упершыню звярнуў увагу на этнаграфічныя асаблівасці Русі, Літвы і Жмудзі. Перад гэтым ён робіць кароткі экскурс у гісторыю: "Старадаўнія пісьменнікі сведчаць, што некаторыя жыхары Італіі пакінулі сваю краіну з-за варожасці ўнутры Рымскай імперыі, прыбылі ў літоўскія землі і назвалі іх назвай сваёй радзімы – Італія, а людзей, якія жылі там, назвалі Італамі. А іх нашчадкі дадалі адну літару напачатку і сталі называць краіну Літалія, а людзей – літалы. Суседнія палякі і русіны яшчэ больш змянілі тыя назвы і да сённяшняга дня называюць краіну Літвой, а яе жыхароў літвінамі". Гэтыя звесткі, як і большасць фактаў, якія датычацца мінулага Вялікага княства Літоўскага, М.Мяхоўскі запазычыў з нявыдадзенай у той час "Гісторыі" Я.Длугаша. Длугаш прытрымліваўся так званай "рэспубліканска-арыстакратычнай" мадэлі паходжання літоўскай знаці – ад Пампея, праціўніка Цэзара, якая адлюстроўвала інтарэсы арыстакратычных колаў. На думку Длугаша, аб рымскім паходжанні старажытных літоўцаў сведчыла падабенства мовы, звычаяў і вераванняў (шанаванне аднолькавых багоў, агню, грома, лесу, культ Эскулапа). Мяхоўскі таксама паўтарае

звесткі Длугаша аб тым, што ў былыя часы русіны лічылі літвінаў народам цёмным, вартым пагарды, жабрацкім, так што кіеўскія князі бралі з іх у знак падданства толькі дубовую кару і скураныя паясы, у сувязі з бяднотай літвінаў і неўраджайнасцю іх зямлі. Старонкай вышэй у сваім "Трактаце" Мяхоўскі апісвае Русь (якая належала да Кароны) ў самых лепшых выразах, як багатую і прыгожую краіну. Падчас апісання Літвы і Жмудзі тон змяняецца, робіцца больш стрыманым, што звязана з даволі халодным стаўленнем да Літвы і літвінаў Яна Длугаша. Зацікаўленасць М.Мяхоўскага этнаграфіяй, таксама як этнагенезам славянскіх народаў – даніна гуманістычным ідэям эпохі. Цікавілі яго таксама і іншыя народы, якія жылі ў бліжэйшым суседстве са славянамі. Як прызнаваў сам храніст, у Вялікім княстве Літоўскім ён не быў. Крыніцамі подобнай інфармацыі для рэктара Кракаўскай Акадэміі былі звесткі студэнтаў з ВКЛ, якія вучыліся ў сталіцы Каралеўства Польскага, а таксама іншых відавочнікаў і гісторыкаў папярэдніх эпох.

## МАЦЕЙ СТРЫЙКОЎСКІ

Мацей Стрыйкоўскі – першы гістарыёграф Вялікага княства Літоўскага – постаць цікавая і супярэчлівая, якая па-рознаму ацэньваецца гісторыкамі. З аднаго боку, адзначаецца ягоная эрудыцыя, незвычайная працаздольнасць, навізна падыходаў да матэрыялу. З іншага боку, яго папракаюць у кампіляцыйнасці, схільнасці да містыфікацый і проста ў заблытванні некаторых фактаў. Але трэба прызнаць, што М.Стрыйкоўскі ўпершыню напісаў і выдаў гісторыю Вялікага княства Літоўскага і суседніх з ім краін – "Хроніку польскую, літоўскую, жмудзскую і ўсёй Русі" ("Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi") (Каралевец, 1582) – тым самым паставіўшы беларуска-літоўскую дзяржаву ў шэраг цывілізаваных краін Еўропы. Аб'ектыўна Мацей Стрыйкоўскі зрабіў для Вялікага княства Літоўскага працу, вартую той, што ў свой час зрабіў Ян Длугаш для Польшчы. Традыцыя лічыць Стрыйкоўскага містыфікатарам, дарэчы, цягнецца з часоў М.Карамзіна і Я.Лялевеля, калі яшчэ амаль не вядомыя былі беларуска-літоўскія летапісы, якія так старанна выкарыстоўваў храніст (між іншым, іх легендарную частку аб рымскім паходжанні літоўскай знаці, таму лічылася, што Стрыйкоўскі сам яе выдумаў). Калі для польскай гістарыяграфіі постаць Стрыйкоўскага – другасная (пасля Мехавіты, Кромэра, Вапоўскага ды іншых), дык для беларускіх дас-

ледчыкаў яна адна з галоўных: Стрыйкоўскі – заснавальнік навуковай гістарычнай традыцыі, першы гістарыёграф Вялікага княства Літоўскага, а яго творы – каштоўная крыніца ведаў пра мінулае Беларусі.

Пра жыццярыс Мацея Стрыйкоўскага можна даведацца з першых радкоў ягонай "Хронікі польскай", на пачатку якой ён змяшчае вершаваную аўтабіяграфію "Мацей Стрыйкоўскі Асостэвіцыюс сам аб сабе і сваіх прыгодах у наведванні размаітых краін свету" (I, XIII-XXII)[1] . Інфармацыя аб аўтары размеркавана па ўсёй "Хроніцы польскай", а таксама хроніцы-паэме, альбо, як яе называў С.Пташыцкі, рапсодзе "Аб пачатках... слаўнага народу літоўскага...", дзе ёсць фрагмент, названы "Мацей Стрыйкоўскі да ласкавага чытача", які фактычна з'яўляецца кароткім жыццярысам. Гэты апошні твор М.Стрыйкоўскага не быў выдадзены пры жыцці аўтара і быў надрукаваны толькі ў 1978 годзе, дзякуючы намаганням польскай даследчыцы Ю.Радзішэўскай.

Напярэдадні выхаду ў свет трэцяга выдання "Хронікі польскай" у 1846 г.[2] дадзеныя аб біяграфіі храніста рупліва сабраў з усіх вядомых на той час твораў і ўпарадкаваў М.Маліноўскі. Наступныя даследаванні амаль не прынеслі новых звестак да жыццяпіса гісторыка, акрамя двух дакументаў, знойдзеных літоўскімі даследчыкамі К.Яблонскісам і І.Лебедзісам, якія датычацца апошніх гадоў жыцця храніста, калі ён, відаць, ужо адышоў ад актыўнай грамадскай і палітычнай дзейнасці. Але з'явіліся розныя тлумачэнні ўжо вядомых фактаў, а часам нават і домыслы, якія замест тлумачэння дадзеных біяграфіі, пададзеных самім Стрыйкоўскім, а таксама добрасумленна выкладзеных М.Маліноўскім і Ю.Крашэўскім, толькі заблытвалі справу.

М.Стрыйкоўскі нарадзіўся ў Стрыкове каля Лэнчыцы, непадалёк ад Бжэзін. Датай нараджэння храніста лічыцца 1547 год, што вынікае з надпісу над партрэтам, змешчаным у першым выданні хронікі. Ён нарадзіўся ў збяднелай шляхецкай альбо мяшчанскай сям'і. Ягоны бацька Якуб, відаць, быў судовым возным. На сёмым годзе жыцця, у 1553 г., бацькі аддалі сына ў парафіяльную школу ў Бжэзінах, дзе ён вучыўся 9 гадоў. Для юнака яна стала "Падуяй і Балоніяй". За некалькі гадоў да паступлення Мацея ў гэтую школу ў ёй выкладаў знакаміты гуманіст Гжэгаж Павел з Бжэзін, што гаворыць аб

[1] Спасылка даецца на 2-томавае выданне хронікі М.Стрыйкоўскага, якое выйшла ў Варшаве ў 1846 г. Першая лічба – нумар тома, другія – старонкі.

[2] Другое выданне выйшла ў 1766 г.

высокім узроўні навучальнай установы. Вышэйшую адукацыю Стрыйкоўскі не атрымаў, хаця ягоная эрудыцыя ўводзіла ў падман многіх даследчыкаў, якія прыпісвалі яму вучобу ў Кракаўскім універсітэце. Такім чынам, трэба прызнаць, што першая гісторыя Вялікага княства Літоўскага, якая ўражвае нас майстэрствам і эрудыцыяй аўтара, напісана выпускніком парафіяльнай школы. Аднак Стрыйкоўскі шмат займаўся самаадукацыяй, нястомна працаваў над удасканаленнем сваіх здольнасцяў, бо, як сам пісаў, "і скарб, і клейноты злодзей украдзе, акрамя навук святых, рамёстваў і цноты" (I, XVII).

Ён меў прыроджаны дар да малявання, мог пісаць партрэты, рабіць ілюмінацыі золатам і фарбамі (чым, дарэчы, збіраўся пры неабходнасці зарабляць на жыццё), пазней навучыўся маляваць схемы замкаў, планы мясцовасцяў і мапы (I, XXXVII). Даследчыкі мяркуюць, што партрэт Стрыйкоўскага, які аздабляе першае выданне "Хронікі Польскай", належыць лічыць аўтапартрэтам. Магчыма, ён намаляваў таксама мапу Інфлянтаў, якая знаходзіцца сярод папераў А.Пасевіна ў Ватыканскім Архіве, якую прыпісваюць невядомаму паляку. Яна з'яўляецца перарobленай версіяй іншай, таксама ананімнай мапы. Нявыключана, што адным з ананімных аўтараў як раз і быў Мацей Стрыйкоўскі, паколькі вядома, што ў 1575 годзе ён склаў "Суму ўсіх Ліфлянцкіх замкаў, якія пад чыім былі панаваннем", дзе змешчаны спіс 111 замкаў з дакладным апісаннем, да каго яны належалі.

Верагодна, вясной 1563 г. М.Стрыйкоўскі разам з каштэлянам пазнанскім Пятром Чарнкоўскім выехаў у першае сваё вялікае падарожжа ў Літву, дзе лёс рыхтаваў яму кар'еру вайскоўца, пісьменніка і ў рэшце рэшт каноніка жмудскага. Сам храніст пісаў: "Першая мая з Лэнчыцкай зямлі была да Літвы за Марсава пабуджэння на Маскоўскую Ўкрайну езда, дзе ў Віцебску некалькі год жаўнерам служыў, Ліфлянты аж да Дунамэнту над морам і Маскоўскай зямлі немалую частку зведзіў, дзе таксама, аднак, дарэмна часу не губляў" (I, XXXVII). Пад словамі "дарэмна часу не губляў" Стрыйкоўскі, праўдападобна, меў на ўвазе свае інтэлектуальныя заняткі і, у прыватнасці, напісанне па-лацінску гістарычнай працы "Sarmatiae Europeae Descriptio", якую гістарычная традыцыя прыпісвае пяру італьянца Аляксандра Гвагніна, пад чыім кіраўніцтвам у Віцебскім гарнізоне служыў М.Стрыйкоўскі. Не паглыбляючыся ў сутнасць заблытанай справы аб аўтарстве "Апісання Еўрапейскай Сарматыі", трэба адзначыць, што яшчэ Ю.І.Крашэўскі пісаў аб тым, што ў шматлікіх месцах "Апісанне Сарматыі" супадае ці

то з “Хронікай польскай”, ці то з іншым творам М.Стрыйкоўскага “Ганец цноты” (1574) да такой ступені, што “нельга прыпісваць яе Гвагніну і не бачыць крадзяжу... Цэлая гісторыя Літвы жыўцом украдзена ў нашага аўтара” (М. Стрыйкоўскага – А.С.). Колькі разоў паўтораная на старонках “Хронікі Польскай” скарга на Гвагніна была, здаецца, пазітыўна вырашана прывілеем Стэфана Баторыя ад 14 ліпеня 1580 г., які сведчыць, што “librum De Sarmatia Europea latine conscriptum” напісана Мацеем Стрыйкоўскім (I, XXX). Сёння большасць даследчыкаў схільны лічыць “Апісанне Еўрапейскай Сарматыі” Аляксандра Гвагніна плагіятам.

Дзесяцігадовы перыяд ад прыезду ў Літву да ўдзелу ў пасольстве Анджэя Тараноўскага ў Турцыю (1574) Стрыйкоўскі лаканічна акрэслівае як вайсковую службу, падчас якой ён “прызвычаіўся да малявання штук, асабліва да матэматыкі, геаграфіі і перспектывы належачых”; гэты занятак “дапамог у прадпрынятай перегрынацыі (падарожжы) і апісанні гарадоў і замкаў Ліфляндскіх, Маскоўскіх і іншых краін” (I, XXVIII). Прычым толькі аб 1570-1573 гадах у жыцці храніста мы даведваемся са старонак “Хронікі Польскай” і паэмы “Аб пачатках”, перыяд жа з 1563 да 1570 г. застаецца для нас самым таямнічым. А менавіта ў гэты час назіраўся адкрыты канфлікт з Масквой, і Стрыйкоўскі як вайсковец не мог не быць уцягнуты ў яго.

“Калі ў рыцарскім рамёстве наведаў край паўноцны,
Масквы частку, Русь, Ліфлянты, Мемельскі порт моцны,
Дзе Курскія, дзе Фінскія і Шведскія рубежы,
І дзе Озэльскія морам абкружаны вежы” (I, XVI).

Аб наведванні паўночных краін піша неаднаразова: “Хорела, альбо Корела, ёсць зямля да Фінляндыі на поўнач за Вялікім Ноўгарадам, дзе латышскай і ігоўскай мовай жыхары размаўляюць, падобнай літоўскай, як сам быў сведкай” (I, 181). Потым паўтарае, што за Вялікім Ноўгарадам ёсць “зямліца людзей, якіх завуць ігавянамі, чаму сам быў сведкай” (I, 184) (пад ігавянамі тут разумеюцца жыхары латышска-эстонскага памежжа, насельніцтва аколіц Дэрпта). Таксама Стрыйкоўскі ўзгадвае, што даязджаў да вытокаў Волгі і Дона (I, XXI), быў у Пскове (I, 323), у Старой Русе і на іншых варожых тэрыторыях. Гэта навяло З.Вайткавяка на думку, што ў 1560-1570-х гг. Стрыйкоўскі выконваў абавязкі “рыскуна” — шпега, які разведваў дыслакацыю праціўніка падчас Лівонскай вайны, бо інакш ён не мог наведаць мясціны за мяжой. Меркаванні аб таямнічай

дзейнасці Стрыйкоўскага ў якасці рыскуна падтрымлівае таксама і прафесар С.Александровіч. Таму схільны да самаўсхвалення храніст амаль абыходзіць маўчаннем 10-гадовы перыяд свайго жыцця, каб сваім творам, які друкаваўся ў кульмінацыйны момант вайны (1580-1582), не нанесці шкоду ўсёй сістэме польска-літоўскай разведкі.

Сам Стрыйкоўскі не піша аб сваім удзеле ў вайсковых дзеяннях. Успамінае толькі, што тры разы ледзь не трапіў у маскоўскую няволю: “... раз над Дзвіной за Улай, а другі раз на Чашніцкіх і потым недалёка Сушы палях” (I, XXXVIII). Але небяспека пагражала там Стрыйкоўскаму не на полі бітвы, а з боку варожых атрадаў, што дзейнічалі на памежжы. Удзельнічаць жа ён мог, праўдападобна, ва ўзяцці Улы ў жніўні 1568 г. (хутчэй за ўсё ён намаляваў і план замка Улы, які з’яўляецца самым старым з вядомых на сённяшні дзень помнікам вайсковай картаграфіі на землях былой Рэчы Паспалітай), а таксама ў абароне Віцебска ў канцы верасня таго ж года (II, 256). Пасля гэтага актыўныя вайсковыя дзеянні былі на пэўны час спынены.

Тры гады, відаць, у 1572-1574 гг. Стрыйкоўскі служыў у Віцебскім гарнізоне (“Віцебск замак, на каторым я служыў тры гады”) (II, 58). Напрыканцы службы адбылася вандроўка, дакладней, сплаў па Заходняй Дзвіне, “калі нас некалькі жаўнераў з Віцебска ў стругу ехала да Дынамунту” (I, 242). Апісанне менавіта гэтага падарожжа ўтрымлівае найбольшую колькасць уласных успамінаў і каштоўных назіранняў аўтара: аб Рагвалодавых альбо Барысавых камянях (I, 241-242); наведванні цэркваў і манастыроў Полацка, потым Дынабурга, Кокенхаўзэна, Рыгі, Кірхольма і нарэшце Дынамунта. Магчыма, вынікам жаўнерскай вандроўкі і з’явіўся “Спіс ліфляндскіх замкаў”.

Але храніст займаўся не толькі вайсковай службай. “Амаль восемь гадоў... упарта працаваў” ён над “Апісаннем Еўрапейскай Сарматыі”, рукапісы якога “загінулі ў Харошчы пры пане Александры Хадкевічу слаўнай памяці” (I, XLIII, XXXIX), а таксама над іншымі гістарычнымі і панегірычнымі творамі, якія хутка пабачылі свет у Кракаве. Гэта былі гістарычна-маралізатарскі твор “Ганец цноты” (Кракаў, 1574) (II, 467-558), “Аб тыранстве сёняшняга Вялікага князя Маскоўскага” (I, XIII), а таксама верш “Найслаўнейшага ўезду да Кракава і каранацыі Генрыха Валезіюша... апісанне” (Кракаў, 1574) (II, 439-466), напісаны па падставе ўласных уражанняў аб прыездзе ў лютым 1574 г. у Кракаў новаабранага караля Польшчы. Але асноўнай мэтай з’яўлення М.Стрыйкоўскага ў Кракаве восенню 1574 г.

быў ягоны ўдзел у пасольстве да Турцыі пад кіраўніцтвам А.Тараноўскага, вопытнага дыпламата, які Стрыйкоўскага “ўзяў з сабой за памочніка пасольства, асабліва ў справах лацінскіх”. Але аб тым, што на самой справе місія ягоная была значна шырэйшая за чыста лінгвістычную, гавораць уласныя заўвагі: “Фартэлем Улісэсовым да ўсяго прыглядаўся”, “даследаваў замкі, гарады, палажэнне краін... парадкам спісаў... вырысаваў” (I, XXXVII). Як мы бачылі, падобная дзейнасць не чужая была Стрыйкоўскаму і раней. З Турцыі ён вярнуўся вясной 1575 г.

Найбольш аб’ектыўны біёграф Стрыйкоўскага М.Маліноўскі лічыў, што ў гэты час пачала прымаць больш канкрэтныя формы галоўная мэта яго дзейнасці: “Багатыя яшчэ ў той час у знакамітых дамах зборы летапісаў літоўскіх і рускіх навялі яго на думку складання гісторыі Вялікага княства, якая... зусім яшчэ была невядомая... Стрыйкоўскі... навучыўся па-літоўску, слухаў песьні і збіраў мясцовыя паданні... стараўся наведаць пагранічныя правінцыі, аглядаць палі бітваў, старыя магілы, выараную з іх зброю, важнейшыя гарадзішчы, замкі, цэрквы, магільныя камяні, нарэшце, выявы вялікіх князёў” (I, (4)).

Застаецца загадкай, як малады чалавек ва ўзросце 25 гадоў (магчыма, першы антыарыянскі памфлет “Вершы супраць навааxрышчаным” напісаны яшчэ ў 1572 г. у Любліне (I, XV)) спалучаў вайсковую службу і падарожжы з самаадукацыяй, вывучэннем моў (авалодаў рускай, літоўскай, нямецкай, добра ведаў лацінскую), пошукам, збіраннем і даследаваннем складаных у палеаграфічных адносінах “рускіх” летапісаў, нямецкіх хронік і іншых старажытных крыніц, а галоўнае – з напісаннем вялікіх і разнастайных твораў. Сама напрошваецца думка, што маладому гісторыку нехта дапамагаў. І дапамога гэтая была не толькі фізічная, напрыклад, у перапісванні тэкстаў “падлеткамі, якіх выхоўваў немалы час, амаль 8 гадоў” (I, XXXIX), але і маральная, грамадзянская, тое, што мы разумеем пад словам пратэктарат.

Тут мы падыходзім да вельмі складанай і далёка не вырашанай праблемы: хто быў інспіратарам творчасці Стрыйкоўскага, якія грамадскія колы ВКЛ былі зацікаўлены ў выніках яго працы, у рэшце рэшт, якую ідэалогію павінен быў выказаць гэты невядомы “кароняж”, усклаўшы на свае плечы цяжар шматвяковай гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Пытанне нямарнае і ў наш час, не кажучы пра XVI ст., калі жывыя яшчэ былі адносіны тыпу “сюзерэн-васал”, “мецэнат-кліент”. Хто ж былі гэтыя мецэнаты, чый “грамадзянскі заказ” напісання новай гісторыі Літвы і “Русі Літоўскай” выконваў Стрыйкоўскі?

Адназначна можна сцвярджаць, што зместам і пафасам сваёй “Хронікі” Стрыйкоўскі ўзмацняе пазіцыі літоўскіх і беларускіх магнатаў і шляхты, якія асабліва пасля Люблінскай уніі імкнуліся падкрэсліць сваё асобнае месца ў федэратыўнай дзяржаве. Патрыятычна настроеная знаць зацікаўленая была бачыць гісторыю Вялікага княства ў шэрагу іншых слаўных гісторый народаў Еўропы. Нават калі паглядзець на прысвячэнні асобных твораў і раздзелаў хронікі тым ці іншым беларуска-літоўскім магнатам, можна ўпэўніцца, што Стрыйкоўскі не абышоў увагай як самых уплывовых сярод іх, так і зусім, здаецца, нязначных. Яшчэ Т.Нарбут адзначаў, што Стрыйкоўскі карыстаўся шчырай гасціннасцю і сямейнымі архівамі Астрожскіх, Радзівілаў, Пацаў, Тышкевічаў, Дарагастайскіх, Пронскіх, Палубінскіх і іншых магнатаў рознай палітычнай арыентацыі. Таму неправамоцнай з’яўляецца думка, што Стрыйкоўскі быў звязаны выключна з сепаратысцкімі коламі ВКЛ, што былі супраць Люблінскай уніі.

Як адзначае даследчык гісторыі ВКЛ XVI ст. Ю.Бардах, “уплыў гэтых колаў... на Стрыйкоўскага не быў... ані выключны, ані не ўплываў рашуча на ідэалогію ягонага твора”. Таксама трэба дадаць, што ў складаных палітычных умовах Стрыйкоўскі не выступаў апалагетам таго ці іншага магнацкага роду (што ў больш прымітыўным выглядзе мы назіраем у аўтараў і рэдактараў беларуска-літоўскіх летапісаў) і захаваў за сабой права на канчатковае рашэнне праблем, якія паўставалі перад ягонымі творамі.

Але ў храніста былі і непасрэдныя мецэнаты і “хлебадаўцы”. На першы погляд, паміж імі няма нейкай сувязі – князі Хадкевічы, Алелькавічы, Мельхіёр Гедройць – аднак, яна ўсё ж існавала, хаця і непрамалінейная.

Як было сказана, найбольш таямнічыя гады жыцця Стрыйкоўскага на Беларусі – 1563-1570. Да якіх магнацкіх ці шляхецкіх двароў быў блізкі ў гэты час малады выхадзец з Кароны, пакуль дакладна невядома. Але ўжо на пачатку 70-х гг. ён быў “хлебаедам” Хадкевічаў, аб чым сведчыць прысвячэнне аднаго з першых літаратурных твораў Стрыйкоўскага (“Праслаўнага ўезду да Кракава і памяці годнай каранацыі Генрыха Валезіюша... апісанне”, Кракаў, 1574) “яснавельможнаму пану... Аляксандру Хадкевічу, старасце і дзяржаўцы гарадзенскаму... пану майму міласціваму” (II, 439-443).

Упершыню Стрыйкоўскі сутыкнуўся з Хадкевічамі падчас вайсковай службы ў Інфлянтах, дзе разам з Янам Геранімам

Хадкевічам, старастам жмудзкім, каштэлянам віленскім, прымаў удзел у вайсковых дзеяннях. Ян Хадкевіч знайшоў у румборскім касцёле “Хроніку зямлі прускай” Пятра Дуйсбурга і перадаў яе віленскаму войту Ратундусу, ад якога яна трапіла да М.Стрыйкоўскага (I, 253). Дарэчы, даследчыкі, якія часам беспадстаўна крытыкуюць храніста, забываюцца на ягоныя заслугі, напрыклад, што менавіта ён увёў у шырокі навуковы зварот гэтую найкаштоўнейшую крыніцу, надрукаваўшы ў сваёй “Хроніцы Польскай” вялікія ўрыўкі з працы нямецкага аўтара.

Не апошняй задачай М.Стрыйкоўскага была публікацыя радаводаў славутых магнацкіх фамілій. На падставе сямейных архіваў і паданняў ён складаў літаратурныя версіі паходжання сваіх мецэнатаў Хадкевічаў, Алелькавічаў-Слуцкіх, Пацаў, Радзівілаў і інш.

Вялікую ролю ў творчай дзейнасці Стрыйкоўскага адыграў Аляксандр Рыгор Хадкевіч, гетман Вялікага княства Літоўскага, віленскі каштэлян, вядомы мецэнат, кціtar Супрасльскага манастыра, фундатар Заблудаўскай друкарні, разам з якім Стрыйкоўскі браў удзел у кампаніях пад Чашнікамі (1567 г.) і Улай (1568 г.). Яму паэт прысвяціў твор “Надпіс на гробе яснавельможнага пана Гжэгажа Хадкевіча, пана віленскага, найвышэйшага гетмана Вялікага княства Літоўскага” (II, 558). Дарэчы, прадстаўнікі гэтага роду выступалі за ўнію з Каронай.

Такім чынам, Аляксандр і Ян Хадкевічы былі натхняльнікамі і першымі мецэнатамі Стрыйкоўскага ў ягоных гістарычных доследах. Праз іх (дакладней, іх дачок і сясцёр, якія былі замужам за Дарагастайскімі і Пацамі) ён пазнаёміўся з іншымі літоўскімі магнатамі. Праз другую жонку Юрыя Аляксандравіча Хадкевіча Зоф’ю, родную сястру Юрыя Юр’евіча Алелькавіча, Стрыйкоўскі трапіў на двор князёў Слуцкіх, палітычна звязаных з Хадкевічамі. Польскі даследчык А.Міранові мяркуе, што пошукі новых крыніц прымусілі храніста выехаць да Слуцка. Сапраўды, Юры Алелькавіч Слуцкі выдзяляўся сярод сваякоў любоўю да мінуўшчыны, ён сабраў багацейшую бібліятэку, дзе знаходзіліся працы антычных, сярэднявечных, а таксама сучасных аўтараў. Стрыйкоўскі ўзгадвае, што карыстаўся прывілеем для каталікаў, які Ягайла даў пасля ўвядзення каталіцтва ў 1387 г. з архіва князёў Слуцкіх. Праца ў гэтым славутым кнігазборы знайшла сваё ўвасабленне ў двух вялікіх творах М.Стрыйкоўскага – “Аб пачатках... слаўнага народу літоўскага, жамойцкага і рускага...” і “Хроніка польская, літоўская, жмудзкая і ўсёй Русі”.

Жывучы ў князёў Слуцкіх, у іх гістарычным дамэне, храніст наведваў аколіцы: месца бітвы пад Клецкам (II, 336), вытокі Нёмана, які "пачынаецца 5 міль ад Капыля, недалёка Пяскоў, мястэчка Іх Мосьці князёў Слуцкіх, на якім месцы сам быў" (I, 239; II, 103), на месцы бітваў з татарамі ў 1503 г. ("у полі за Ўнілам, дзе сёння Новы Двор князь Юры Слуцкі... збудаваў" (571)). Менавіта тут, у праваслаўным беларускім асяроддзі, Стрыйкоўскі пісаў свой твор "Аб пачатках...", прысвечаны Юрыю Алелькавічу, які быў надрукаваны толькі праз 400 гадоў, у 1978 г. Пры гэтым, як сцвярджае Я.Якубоўскі ў сваіх "Даследаваннях над нацыянальнымі стасункамі ў Літве перад Люблінскай уніяй", у канцы XVI ст. розніца паміж этнічнымі групамі ВКЛ рабілася ўсё менш істотнай, саступаючы прыярытэт катэгорыі грамадзянства Вялікага княства Літоўскага; аднак, пэўная своеасаблівасць асяроддзя паклала адбітак на вышэйузгаданую працу, што адлюстроўвалася, у першую чаргу, у талерантнай пазіцыі аўтара да ўсіх веравызнанняў.

Там жа, пры двары князёў Слуцкіх, Стрыйкоўскі пачаў працу і над сваёй "Хронікай польскай", якую потым цалкам прысвяціў каралю Стэфану Баторыю, біскупу віленскаму Юрыю Радзівілу і тром маладым князям Слуцкім, сынам свайго памерлага ў лістападзе 1578 г. пратэктара. Дарэчы, пасля смерці апошняга Стрыйкоўскі, відаць, вымушаны быў шукаць сабе новага мецэната і вельмі хутка знайшоў яго ў асобе жмудскага біскупа Мельхіёра Гедройця. Хаця не выключана, што сам Гедройць зацікавіўся таленавітым маладым храністам, паколькі Стрыйкоўскі адразу (ў 1579 г.) атрымаў сінекуру ў выглядзе жмудскай каноніі (I, 25), што для "караняжа" без вышэйшай адукацыі і без духоўнага сану было амаль немагчыма, калі б не высокая пратэкцыя. Дарэчы, Гедройць быў вядомы сваёй зацятай барацьбой з палякамі, якія імкнуліся займаць пасады ў ВКЛ, першы выступіў супраць намінацыі Б.Мацеёўскага на віленскае біскупства. У той жа час ён актыўна супрацоўнічаў з езуітамі і быў ярым праціўнікам Рэфармацыі. Хутчэй за ўсё цікавасць жмудскага біскупа да Стрыйкоўскага была выклікана жаданнем выкарыстаць ягоны талент у мэтах пашырэння контррэфармацыі, якая, як вядома, праводзілася ў асноўным сіламі езуітаў. Пытанне, ці існавала больш-менш трывалая сувязь Стрыйкоўскага з езуітамі, застаецца пакуль адкрытым.

Такім чынам, Хадкевічы, Алелькавічы-Слуцкія, Мельхіёр Гедройць з'яўляліся на працягу прыкладна 15 гадоў галоўнымі мецэнатамі Мацея Стрыйкоўскага, якія не толькі забяспечвалі

яму матэрыяльны дабрабыт, але давалі разнастайную падтрымку ва ўсім. Да гэтых мецэнатаў Стрыйкоўскага можна дадаць імя віленскага войта Аўгустына Ратундуса, які хаця і быў "караняжам", да таго ж мяшчанскага паходжання, але дзякуючы сваім выдатным здольнасцям і адукацыі, набыў вялікі аўтарытэт у ВКЛ. Агульная зацікаўленасць гісторыяй, а мабыць, і паходжанне, аб'ядноўвалі гэтых двух знакамітых людзей. Паміж імі не было адносін тыпу "мецэнат-кліент", але вядома, што Ратундус дапамагаў Стрыйкоўскаму гістарычнымі матэрыяламі (І, 253), магчыма, апошні карыстаўся ненадрукаванай працай Ратундуса "Cronica sive Historia Lithuaniae".

Што датычыцца іншых фамілій літоўскіх, якія Стрыйкоўскі ўзгадвае ў прысвячэннях да сваёй хронікі, то З.Вайткавяк лічыць, што гэта папросту былі спонсары храніста, якія сваёй фінансавай дапамогай зрабілі магчымым выхад у свет яго галоўнага твора. У такім выпадку зразумелым робіцца занадта шырокае (ў рэлігійных і палітычных адносінах) кола адрасатаў хронікі. Тут і Радзівілы (як кальвіністы, так і католікі), і Пацы, і Глебовічы, і Астрожскія, і Сапегі, і Заслаўскія, і Валовічы – больш за 30 прадстаўнікоў магнатэрыі і шляхты пратэстанцкага, каталіцкага і праваслаўнага веравызнанняў, якія прадстаўлялі розныя палітычныя плыні ў ВКЛ.

Калі Стрыйкоўскі атрымаў духоўны сан, дакладна невядома, але ўжо ў 1579 г. візітатар жмудскай дыецэзіі Тарквіні Пэкулюс з жалем адзначае, што, будучы канонікам, Мацей Стрыйкоўскі ў сваёй рэзідэнцыі ў Ворнях (Медніках) трымае маладую ўдаву. У гэты час Стрыйкоўскі не меў яшчэ сваёй плябаніі, паколькі быў акалітай (клерык, які атрымаў чацвёртае, ніжэйшае пасвяшчэнне, які прыслужваў пры алтары). Але пасля канчатковага ўваходжання ў сан каноніка меўся атрымаць сваю парафію. І сапраўды, у 1586 г. ён быў плябанам юрборскім, аб чым мы даведваемся з ліста віленскага каштэляна і канцлера ВКЛ Астафія Валовіча да юрборскага намесніка Фрыдрыха Масальскага ад 21 кастрычніка 1586 г., у якім Валовіч піша, што дазволіў ксяндзу Мацею Стрыйкоўскаму, каноніку жмудскаму, плябану юрборскаму і яго парафіянам "ездзіць па дрэва да пушчы юрборскай". Такім чынам, яшчэ ў 1586 г. Стрыйкоўскі быў жывы.

Да нядаўняга часу традыцыйна лічылася, што ён памёр неўзабаве пасля выхаду ў свет хронікі, г.зн. пасля 1582 г.

Больш ён не выдаў ніводнага твора, што для маладога, таленавітага і амбітнага пісьменніка сапраўды выглядае дзіўным. Але здароўе яго, з дзяцінства вельмі слабое, на працягу такога бурнага і авантурнага жыцця, якое ён вёў, магло толькі пагоршыцца, аб чым ён, дарэчы, неаднаразова ўспамінае ў сваёй хроніцы (I, XIII-XXII). У кожным разе, апошнія гады свайго жыцця Мацей Стрыйкоўскі, відаць, цалкам прысвяціў касцёлу. Дакладнай даты яго смерці мы не ведаем. Але на падставе ўскосных дадзеных можна меркаваць, што гэта адбылося перад 1593 годам. Зыходзячы з таго, што пасада каноніка была пажыццёвай, а ў 1593 г. у склад жмудскай капітулы ўжо не ўваходзіў канонік Мацей Стрыйкоўскі, Е.Ахманьскі зрабіў выснову, што ён памёр да 1593 г., а З.Вайткавяк удакладняе, што здарыцца гэта магло, праўдападобна, у 1588-1590 гг., калі ў Вялікім княстве Літоўскім бушавала моравае паветра.

Супярэчлівы лёс і шматбаковая дзейнасць Мацея Стрыйкоўскага ў Вялікім княстве Літоўскім дазваляюць многае зразумець у ягонай творчасці. Палітычныя погляды, рэлігійныя перакананні, умовы жыцця, сучасны яму стан навуковых ведаў – усё гэта ўплывала на фармаванне ягонай гістарычнай канцэпцыі, без уліку якой нельга рабіць крыніцазнаўчы аналіз твораў храніста. Павярхоўнае іх прачытанне прыводзіць да сцвярджэнняў, што ён “увогуле быў фантазёрам і кампілятарам”. Такі спрошчаны падыход не можа даць плённых вынікаў. Пры адпаведным жа крыніцазнаўчым аналізе паведамленняў храніста з улікам ягонай гістарычнай канцэпцыі можна шырока выкарыстоўваць творы Стрыйкоўскага ў гістарычных рэканструкцыях. І.Даніловіч падкрэсліваў: “Вечная заслуга Стрыйкоўскага ў тым, што ён першы пачаў здабываць з акеану забыцця і глухога маўчання гісторыю Літвы, каб захаваць яе для нашчадкаў; без яго не больш ведалі б мы аб Літве, чым сёння аб гісторыі старажытнай Амерыкі”. Даніловіч лепей за ўсіх ведаў, што ў сваіх гістарычных разважаннях Стрыйкоўскі абапіраўся на рукапісныя помнікі, якія ў вялікай колькасці кружылі па землях Вялікага княства Літоўскага, захоўваліся пры дварах магнатаў і кляштарах. Храніст карыстаўся імі адвольна, выпісваючы з іх тое, што лічыў патрэбным, не аналізуючы змест, склад і асаблівасці таго ці іншага рукапісу.

# МАРЦІН І ЯХІМ БЕЛЬСКІЯ — ГІСТОРЫКІ ПОЛЬШЧЫ І ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Імёны двух храністаў бацькі і сына Бельскіх займаюць у польскай гістарыяграфіі другой паловы XVI ст. асобнае месца. Феномен гэтага пісьменніцкага тандэма да канца яшчэ не высветлены, але сёння ўжо гэтых двух пісьменнікаў разлучыць немагчыма. Старэйшы яго ўдзельнік – Марцін Бельскі (1495-1575) – знакаміты гісторык і паэт, упершыню пачаў пісаць свае творы па-польску (афіцыйнай мовай справаводства і навукі ў Польшчы лічылася лаціна). Ягоная "Хроніка ўсяго свету" была першай у Польшчы спробай стварэння навуковага гісторыка-геаграфічнага апісання тагачаснага свету і, фактычна, з'явілася першым падручнікам па агульнай гісторыі. Сама ідэя напісання падобнага твора падаецца прагрэсіўнай для свайго часу, праявай гуманістычнага светапогляду аўтара, на самой справе постаць Марціна Бельскага ў польскай і еўрапейскай гістарыяграфіі ў цэлым вельмі складаная і супярэчлівая. Ён як бы адной нагой стаяў у сярэднявеччы, а другой рабіў крок насустрач гуманістычным тэндэнцыям.

Пра жыццяпіс аўтара захаваліся вельмі скупыя звесткі. Нічога невядома аб яго адукацыі, хаця не выключана вучоба яго ў Кракаўскай Акадэміі. У спісах студэнтаў за 1509 г. фігуруе нейкі "Martinus Nicolai de Volija Szalejska". Месцам нараджэння лічыцца вёска Бяла пад Паенчным у Серадзкай зямлі, адсюль паходзіць яго прозвішча – Бельскі. Але продкі яго насілі імя Вольскіх, таму часам і Марцін у дачыненні да сябе ўжываў гэтае прозвішча. Так, у першым сваім творы "Жывоты філёзафаў" указваў: "Марцін Вольскі з Велькапольскі да прыхільніка рыфмуе".

Для жыццяпісу Бельскага вельмі важнае значэнне мае так званая "Размова майстра з кніжкамі" з ягонай "Камедыі Юстына і Канстанцыі" (1557, Кракаў), якая з'яўляецца як бы паэтычнай аўтабіяграфіяй аўтара, поўнай уласных успамінаў і пачуццяў. Тут ён уваскрашае свае маладыя гады, праведзеныя ў "рускіх землях", на магнацкім двары Пятра Кміты, пшэмысльскага старасты. Менавіта гэтаму дыгнітару, бываламу рыцару і мецэнату, прысвечаны былі потым "Жывоты філёзафаў". Тут і адбывалася галоўнае выхаванне і адукацыя Марціна Бельскага, бо пры двары Кміты была закладзена школа, якой кіраваў выдатны дзеяч Адраджэння Марцін з Апочна, існавала вялікая бібліятэка. Вядома, што ў 1548 г. ён узяў са скарбніцы

кракаўскай капітулы “Рочнікі” Я.Длугаша дзеля таго, каб зрабіць з іх копію. Не выключана, што М.Бельскі карыстаўся гэтым экзэмплярам. Магнат не шкадаваў грошай на вучобу моладзі за мяжой. Пры яго двары праводзілі час Клеменс Яніцкі, Якуб Пшылускі, Шыман Марыцкі, Марцін Кравіцкі, Станіслаў Ажахоўскі і іншыя бліскучыя асобы.

Тут жа, па словах Анджэя Тшэцескага, “днямі і начамі чытаў вучоныя кнігі” Марцін Бельскі. Якую службу выконваў Бельскі на двары Кміты, невядома, праўдападобна, быў ягоным сакратаром. Як і Мацей Стрыйкоўскі, Бельскі здабываў веды ўпартай і настойлівай працай. Фактычна, ён быў геніяльны самавука.

Хаця наконт яго “геніяльнасці” існуюць спрэчныя погляды. Адзін з даследчыкаў творчасці М.Бельскага А.Павіньскі даў наступную характарыстыку галоўнаму твору храніста: “Цудоўная “Хроніка свету”, якая, уласна кажучы, павінна блішчэць блескам зоркі першай велічыні”. Другі ж польскі даследчык І.Хшаноўскі лічыў “Хроніку свету” “сярэднявечнай кампіляцыяй, якую ад суцэльнай сярэднявеччыны ратуе толькі пратэстанцкая тэндэнцыя, як адзіны новы элемент, адзіная рыса XVI ст., бо іншых рыс гэтага стагоддзя, духу гуманізму “Хроніка свету” не мае”. Магчыма, апошняе сцвярджэнне і слушнае, але з пункту гледжання верагоднасці пададзеных у творы гістарычных фактаў, маштабнасці ахопленых падзей, у рэшце рэшт, з пункту гледжання гераічнасці прадпрынятай спробы напісання ўсеагульнай гісторыі з касмаграфіяй – гэта рэч далёка не ардынарная. Хаця ў Заходняй Еўропе першая хроніка ўсяго свету з’явілася яшчэ за сто гадоў да Бельскага (Antonio Pierozzi (Antoninus), арцыбіскуп фларэнцкі, дамініканін, у 1459 г. скончыў сваю агульную гісторыю, выдадзеную ў 1484 г.). У Польшчы, а таксама ў Вялікім княстве Літоўскім, хроніка Бельскага ўпершыню знаёміла шырокага чытача, які не бываў за мяжой і не меў магчымасці чытаць іншамоўныя выданні, з сусветнай гісторыяй і геаграфіяй. Выданне “Хронікі свету” на польскай мове задавальняла патрабаванні прагрэсіўнай грамадскасці аб пашырэнні сферы ўжытку роднай мовы ў грамадстве. Гэта патрабаваў знакаміты Велькапольскі пастулат 1534 г., прысланы на сейм. “Ён гучыць як развітанне з гінучым светам польскага сярэднявечча”, – пісаў Л.Калянкоўскі. “Просім, каб нам ксяндзы не забаранялі друкаваць па-польску гісторыі, хронік, праў нашых і таксама іншых рэчаў, а асабліва Біблію. Бо кажуць сабе біць (друкаваць – А.С.) розныя рэчы, а чаму нам таксама не даюць біць нашай мовай. Тут таксама нам ба-

чыцца вялікая крыўда ад ксяндзоў. Бо кожны народ мае пісьменства на сваёй мове, а нам ксяндзы кажуць дурнямі быць".

Над хронікай Бельскі працаваў некалькі гадоў, мусіць, адразу пасля выдання першай сваёй працы "Жывоты філёзафаў" у 1535 годзе, падчас напісання якой ён упершыню сутыкнуўся з гістарычным матэрыялам. У гэты перыяд жыцця храніст пераважна знаходзіўся ў Кракаве, у атачэнні славутых дзеячоў Рэнесанса, сярод якіх ён, дарэчы, здабыў сабе імя "сармацкага Карыёна" (Ян Карыён – нямецкі гісторык, агульная гісторыя якога карысталася вялікай папулярнасцю ў XVI ст.). Асяродкам, блізкім Марціну Бельскаму ў Кракаве, хутчэй за ўсё было так званае Колка Анджэя Тшэцескага, сын якога, таксама Анджэй, прысвяціў Бельскаму хвалебны верш на пачатку першага выдання "Хронікі свету". Спецыфікай гэтага Колка было тое, што ў ім з 1544 г. збіраліся прыхільнікі рэфармацыі з асяроддзя кракаўскіх інтэлектуалаў – друкар Бернард Ваявудка, які распачаў у 1553 годзе друкарскую дзейнасць у Бярэсці; Якуб Пшылускі, кракаўскі натарыус і знакаміты праўнік; славутыя Мікалай Рэй і Анджэй Фрыч Маджэўскі.

Тут, у Кракаве, у 1551 годзе выйшла першае выданне "Хронікі ўсяго свету, на шэсць вякоў, чатыры манархіі раздзеленай, з новай Касмаграфіяй і з рознымі каралеўствы, так паганскімі, жыдоўскімі, як і хрысціянскімі, з сібіламі і прароцтвы іх, па-польску пісана, з фігурамі. У каторай таксама жывоты цэсарскія, папескія і тых каралёў з іх каралеўствы, асірыйскіх, егіпецкіх, жыдоўскіх, грэцкіх, перскіх, турэцкіх, венгерскіх, чэшскіх і іншых розных так каралёў, князёў, як іншых гаспадароў ад пачатку свету аж да таго году, каторы пішацца 1551, напісаны. Між каторымі таксама наша Польшча напрыканцы асобна выпісана". Прысвечаны гэтак мудрагеліста названы опус быў Жыгімонту Аўгусту, які натхніў і аплаціў аўтару яго працу, і пачынаўся з "Касмаграфіі, гэта значыць размярэнне зямлі паводле стопняў і іншых знакаў у нябесных акругах". Пад касмаграфіяй у сярэднія вякі разумелася геаграфія. Падзел хронікі на шэсць стагоддзяў быў традыцыйным з часоў св.Аўгустына (выкладзены ў яго "De civitate Dei"). Гэта перыяды ад Адама да Ноя; ад Ноя да Абрама; ад Абрама да Давыда; ад Давыда "да разбурэння Вавілоніі Кірам і Дарыям"; "ад зняволення жыдоў альбо ад захопу Ерусаліма Навухаданосарам аж да Нараджэння Пана Хрыстуса"; ад Хрыстуса "аж да суднага дня альбо сканчэння свету". Чатыры манархіі, вынесеныя ў

назву хронікі, азначалі халдзейскую, перскую, грэцкую і рымскую манархіі, якія пакінулі найбольш глыбокі след у гісторыі чалавецтва. Такі падзел М.Бельскі запазычыў у іншых сярэднявечных гісторыкаў, што пісалі падобныя хронікі да яго – Наўклера, Якуба з Бергама, Блёндуса, Слейдана, Карыёна.

Пасля геаграфічнага ўступу ў першым выданні “Хронікі свету” ідзе біблейская гісторыя ўперамешку з гісторыяй Усходу, Грэцыі і Рыма, далей апісваюцца хрысціянскія часы, жыццё Ісуса Хрыста і дзеянні апосталаў, хроніка папства, цэсараў і некаторых французскіх каралёў і нямецкіх князёў разам з крыжовымі паходамі і жыццём Магамета. Пра ўсё напісана вельмі сцісла. Потым таксама бегла пішацца “аб італьянскіх землях, аб нямецкім народзе і краіне, аб Гішпаніі, аб Татарах, аб Амазонскіх нявестах, татарскіх жонках, аб каралях турэцкіх, аб Валахах, аб Вянгерскім каралеўстве, аб чэшскім каралеўстве”.

Другое выданне “Хронікі свету” выйшла ў 1554 г. таксама ў Кракаве, у друкарні Гераніма Шарфенбергера. Яно было значна папраўлена і пашырана аўтарам (калі першае налічвала 336 лістоў (672 старонкі) in quarto, то другое – 346 лістоў in folio, гэта значыць было ў два разы большае за папярэдняе). Яно складалася з 4 кніг. У першай гаворка ідзе аб часах дахрысціянскіх. Кніга другая прысвечана падзеям пасля нараджэння Езуса Хрыстуса, аўтар даводзіць яе да 1550 года, дадае шмат новага матэрыялу. Трэцяя кніга ўяўляе сабой “Касмаграфію”, але значна пашыраную і ўдасканаленую. Тут з’явіліся новыя раздзелы “Аб славянскіх землях, Аб Галіі, Аб Брытанскіх інсулах” і гэтак далей, у якіх утрымліваюцца не толькі геаграфічныя паведамленні, але і гістарычныя звесткі, апісанні розных гарадоў, раслін, жывёл і да таго падобнае. У гэтай жа кнізе знаходзяцца венгерская, чэшская і польская хронікі амаль без змен у параўнанні з першым выданнем. Нарэшце, чацвёртая кніга, акрамя перадрукаваных з першага выдання раздзелаў аб моры, гарах і раю зямным, з’яўляецца зусім новай і апавядае “аб марскіх выспах, нанова знойдзеных, якія могуць быць нарэчаны новы свет, таму што не былі знаёмыя ніколі старым людзям, маракам, купцам, альбо таксама і астраномам... таксама аб Калькуце, вялікім порце на ўсход сонца і іншых краінах у Індыі”.

Праз дзесяць гадоў пасля другога выдання “Хронікі ўсяго свету”, гэта значыць у 1564 г., пабачыла свет трэцяе выданне – самае вядомае і папулярнае з трох. У ім аўтар выправіў памылкі папярэдніх двух, за некаторыя з якіх яго нават прыцягвалі да суда; але неабходнасць чарговага перавыдання трэба

бачыць перш за ўсё ў вялікай папулярнасці першага падручніка па ўсеагульнай гісторыі і геаграфіі. Трэцяе выданне складаецца з 10 кніг (483 лісты). Хаця колькасць кніг значна павялічылася, змест іх у асноўным захаваўся той жа самы. Нас больш цікавіць зусім новая IX кніга "Аб маскоўскім альбо рускім народзе. Аб пасольстве Васіля да папы рымскага. Аб Літве, Аб Ліўлянцкай зямлі. Аб Татарах".

Амаль увесь раздзел "Аб маскоўскім народзе" – гэта кампіляцыя з розных хронік, але пераважна скарачэнне "Запісак аб Масковіі" Сігізмунда Герберштэйна. Некаторыя раздзелы "Rerum Moscoviticarum commentarii" Бельскі прапусціў, некаторыя скараціў. Геаграфічная частка, звесткі аб тэрытарыяльных памерах узятыя з "Трактата аб дзвюх Сарматыях" Мехавіты. Інфармацыя пра Літву ў гэтым раздзеле таксама запазычана з раздзела "Запісак" С.Герберштэйна, які так і называецца "Аб Літве".

Хроніка М.Бельскага носіць у асноўным кампілятыўны характар, але ў шэрагу паведамленняў, раней вядомых з іншых хронік, ён часта падае і цікавыя ўласныя заўвагі, напрыклад, з часоў Лівонскай вайны: "Магістр Ліўлянцкі мае свой двор у горадзе Вендэн, 12 міляў ад Рыгі, які лічыцца вярхоўным; праз тое, што даў пасадзіць архібіскупа Вілельма (Вільгельма з Брандэнбургу – А.С.) шмат злога паўставала ў той зямлі ў тыя часы, што яе з усіх бакоў непакоілі. Архібіскуп уцёк да караля польскага, каб яго бараніў як падданага. Польскі кароль Жы-гімонт Аўгуст, хаця яму ліўлянты зрабілі подласць, калі забілі літоўскага пасла, аднак ён за іх моцна заступіўся перад маскоўскім князем Іванам. Той Іван, паймаўшы лівонскага магістра, кінуў яго да вязеня, так доўга яго катаваў, што той мусіў здаць яму ліўлянцкую зямлю. З гэтай прычыны вялікі князь маскоўскі падняў зброю на польскага караля, сабраўшы вялікі люд, прыйшоў без весці пад Полацк 50 міляў ад Вільні, а таксама ад Ноўгарада Вялікага, абагнаў іх, схаваўшы ў засаду вялікую гармату, здабыў яго ў месяцы лютым 1563 г., шмат скарбаў і людзей забраўшы, паехаў прэч, адных толькі палякаў пусціўшы вольна. У тыя ж часы шведзкі кароль альбо ў змове з Маскоўскім, альбо па сваёй ахвоце то ўчыніў, узяў у польскага караля ў Ліўлянцкай зямлі замак і горад Рэвель, потым Новы Камень... такі ў той час Ліўлянцкая зямля мела ўціск з усіх бакоў".

У нас няма прычынаў не давяраць Марціну Бельскаму як сучасніку падзей, які не толькі пільна сачыў за ваеннымі дзеяннямі, але быў непасрэдным удзельнікам розных вайсковых кампаній у

маладосці. Да ўласных заўваг храніста належаць між іншым і ўзгадкі як у хроніцы, так і ў “Рыцарскай справе” (Кракаў, 1569) пра бітвы пад Сокалем (1519 г.), пад Абертынам (1531 г.), пад Мохачам у 1526 г. (у якой аўтар, магчыма, удзельнічаў).

Пачынаючы з першага, кожнае наступнае выданне “Хронікі” аўтар пашыраў і дапаўняў, таму з пункту гледжання багацця зместу трэцяе выданне самае каштоўнае; яно карысталася папулярнасцю не толькі ў Польшчы, але і далёка за яе межамі, перакладалася на венгерскую (1559 г.), беларускую і рускую мовы (1565-1568 гг., 1584 г., 1670 г.).

У цэлым трэба адзначыць, “Хроніка ўсяго свету” Марціна Бельскага з’яўляецца сярэднявечнай па сваім характары кампіляцыяй. Ён перапісваў нямецкіх і чэшскіх храністаў XV ст., прычым не самых лепшых з іх, хаця сцвярджаў, што сярод розных касмаграфаў і гісторыкаў выбіраў толькі “грунтоўнейшыя і патрэбнейшыя часткі”. Часам на паданні і гістарычныя анекдоты Бельскі звяртае больш увагі, чым на праўдзівыя выпадкі і падзеі. Гэта адно з самых слабых месцаў ягонай працы, якое асабліва сёння кідаецца ў вочы. Іншым недахопам было тое, што Бельскі не адрознівае значныя выпадкі ад нязначных, часам прыватныя здарэнні выкладаюцца ім больш падрабязна, чым дзяржаўнай значнасці падзеі. Сярод недахопаў “Хронікі свету” яшчэ можна назваць непрапарцыянальнасць структуры: памеры розных кніг, раздзелаў і частак беспадстаўна павялічаны альбо паменшаны. Гэта залежала як ад наяўнасці матэрыялаў у аўтара, так і ад уласных сімпатый і антыпатый. Напрыклад, чэшская хроніка вельмі вялізная ў параўнанні з кароткай хронікай Русі.

Бельскі з даверам ставіцца да выдумак і легенд, якімі кішэлі сярэднявечныя хронікі, і старанна перапісвае іх. Увогуле, ён вельмі некрытычны ў адносінах да інфармацыі тых крыніц, якімі ён карыстаўся. Тут можна прачытаць і пра яшчурак з цялячымі галовамі (саламандраў), і пра розныя дзіўныя народы, пра сатыраў, што жывуць у лясах, андрагінаў і да т.п., не гаворачы пра недакладнае прачытанне лацінскага тэксту.

Як падкрэслівае І.Хшаноўскі, параўноўваючы двух храністаў-сучаснікаў – Кромэра і Бельскага, – “Кромэр паступова абтрасаецца ад сярэднявеччыны; Бельскі тым часам сядзіць у ёй па самыя вушы”.

І, магчыма, засталася б “Хроніка ўсяго свету” Марціна Бельскага адным з недарэчных прыкладаў сярэднявечнай пісаніны і даволі банальным эпізодам у гістарыяграфіі XVI ст., калі

б сын Марціна Яхім, значна больш адукаваны і амбітны, чым бацька, не перакроіў да непазнавальнасці і не выдаў у зусім новым выглядзе, але захаваўшы бацькава імя ў тытуле, адзін з галоўных раздзелаў ягонай працы. Выдадзеная ў кракаўскай друкарні Я.Зібенайхера ў 1597 годзе “Хроніка польская Марціна Бельскага нанова праз Яхіма Бельскага, сына яго, выдадзеная”, з таго часу стала адной са складаных загадак для крыніцазнаўцаў: дзе сканчваецца Марцін і пачынаецца Яхім, – вельмі цяжка высветліць. Як пісаў Ул.Нэйрынг, “Яхім ёсць дапаўненнем бацькі таксама як і яго спадкаемцам”. Сын запэўнівае, што бацька дацягнуў хроніку да 1575 года, у якім памёр, ён жа толькі дапісаў панаванне Стэфана Баторыя. М.Вішнеўскі меркаваў, што Яхім перарабіў, пашырыў і паглыбіў, карыстаючыся ў асноўным творамі Ажэхоўскага, восьмую кнігу “Хронікі свету” трэцяга выдання.

Хто ж быў сапраўдным аўтарам “Хронікі Польскай” 1597 г.? На гэтае пытанне спрабавалі адказаць вядомыя польскія даследчыкі Багамолец, Асаліньскі, Сабешчаньскі. Уладыслаў Нейрынг прыходзіць да высновы: “З параўнання многіх асаблівасцяў аказваецца, што Яхім, а не Марцін яе аўтар”. Але больш карэктна лічыць аўтарамі як сына, так і бацьку, хаця з гледзішча не так зместу, як формы, літаратурнай апрацоўкі, безумоўна, твор належыць пяру аднаго аўтара, а менавіта Яхіма. Гэта бачна з параўнання ўсіх трох выданняў “Хронікі свету” і “Польскай хронікі” 1597 г. Стыль апошняй больш выразны, навуковы (падобным чынам пісаліся ў той час іншыя хронікі такога роду – Кромэра, Стрыйкоўскага і да т.п.). У аўтары мы адразу пазнаем чалавека адукаванага, знаёмага з гістарычнымі тэорыямі свайго часу, які імкнуўся быць аб’ектыўным і крытычным. У рэшце рэшт адрозніваюцца самыя канцэпцыі “Хронікі свету” і “Хронікі Польскай”: першая носіць выразна рыцарскі характар, а другая – шляхецкі (Нейрынг называе яе “шляхецкімі рочнікамі”, а Фінкель – “першай шляхецкай гісторыяй”. Калі Марцін, стары ваяр, удзельнік бітваў пад Абертынам (1531) і, магчыма, Мохачам (1526), галоўнай цнотай шляхецкага саслоўя лічыў валоданне рыцарскім рамяством, а галоўным абавязкам уладаў – узмацненне баявой гатоўнасці дзяржавы (ён лічыў, што “мір шкодзіць”), то Яхім імкнуўся патрафіць густам шляхты іншым спосабам: на старонках хронікі ён разглядае геральдычныя сымбалі шляхецкіх і магнацкіх фамілій. Канцэпцыя і пазіцыя бацькі састарэлі яшчэ падчас напісання твора і ў канцы стагоддзя былі б яўнымі

анахранізмамі, таму сын свядома ці падсвядома ўкладае іншы сэнс у свой твор. Сёння можна спрачацца, што было карысным на той час – цвёрда трымацца прынцыпаў Бельскага старэйшага (як рэфрэн у “Хроніцы свету” паўтараецца: “У годзе... быў мір у Польшчы, таму нічога значнага для пісання не было”), ці, паддаўшыся модным уплывам, вышэйшай доблесцю лічыць прыдворную службу і звязаныя з ёю наданні і рэгаліі. Марцін Бельскі паслядоўна выклаў свае погляды на гэтыя рэчы ў іншай каштоўнай з пункту гледжання крыніцазнаўства працы “Рыцарская справа” (Кракаў, 1569). Яхім жа Бельскі, падобна Б.Папроцкаму, падпарадкаваў змест сваёй хронікі мэтам высвятлення шляхецкіх радаводаў.

Над Яхімам усё жыццё, як дамоклаў меч, вісеў “грэх” бацькі, які ён старанна “выпраўляў” усё жыццё. “Грэх” гэты – рэфарматарскія погляды бацькі. У маладосці Марцін трапіў пад уплыў рэфармацыйных ідэй, што знайшло адлюстраванне на старонках “Хронікі свету”. З гэтай прычыны творы Бельскага-старэйшага траплялі ў “index librorum prohibitorum” (“Martini Bielscii Sprawa Rycerska... et alia omnia, quaecunque extant dicti auctoris opera prohibentur”), – чытаем у індэксе забароненых кніг за 1604 г. Кляймо ератыка лягло і на сына. Яхім, напрыклад, пасля парафіяльнай школы працягваў вучобу не ў артадаксальнай Кракаўскай Акадэміі, а ў адкрытай у 1569 годзе пратэстанцкай акадэмічнай гімназіі ў Бжэгу, якая ў той час перажывала свой росквіт. Ужо тады кнігі Марціна Бельскага пачалі знішчаць як ератычныя. І сёння І выданне “Хронікі свету” з’яўляецца вялікім рарытэтам. Толькі перарабіўшы галоўны твор бацькі, пазбавіўшы яго рэфармацыйных тэндэнцый, можна было захаваць яго імя для нашчадкаў. Праўда, пратэстантызм не быў у тыя часы такім вялікім грахом: не хавалі свае рэфармацыйныя перакананні С.Сарніцкі, М.Рэй, А.Фрыч Маджэўскі і іншыя выбітныя дзеячы. Але, па-першае, у часы панавання Стэфана Баторыя пашыраецца контррэфармацыя, сам кароль спрыяў католікам; па-другое, мецэнатам і апекуном Яхіма прыблізна з 1575 года стаў падканцлер каронны Пётр Дунін-Вольскі, які з 1578 г. атрымаў плоцкае біскупства. Паступова Яхім пазбаўляўся духу пратэстантызму (калі ўвогуле ён быў ім “заражоны”, бо ні ў водным творы гэта не адчуваецца, наадварот, заўсёды падкрэслівае свой каталіцызм). Але канчаткова ён пакідае евангеліцкую рэлігію ў 1595 г.

Пераходзячы да зместу “Польскай хронікі”, трэба адзначыць, што Вялікае княства Літоўскае ў ёй разглядаецца як адна з правінцыяў Рэчы Паспалітай (Я.Бельскі піша “Польскага каралеўства”), якая “добраахвотна ўцеленая была ў Карону за Ягайлы і вечнай уніяй за Жыгімонта Аўгуста была звязаная, захаваўшы свае правы і юрысдыкцыю цалкам”. Згодна са шляхецкаю канцэпцыяй свайго твора, Яхім піша, што “Вялікае Княства Літоўскае ўжывае на харугве з аднаго боку Пагоню, г.зн. узброенага мужа з голым мечам на кані, бягучага на ўсім скаку, з другога боку – тры белыя слупы ў чырвоным полі”. Далей ён пералічвае ваяводствы, якія ўваходзілі ў склад ВКЛ: Віленскае, Троцкае, Смаленскае, Полацкае, Наваградскае, Брэсцкае, Віцебскае, Мсціслаўскае, Мінскае, – падзяляючы кожнае на паветы. Характэрны той факт, уласцівы, дарэчы, і “Хроніцы свету”, што ўсе сённяшнія беларускія землі Бельскія без вагання называюць літоўскімі. “Русь жа мае тыя самыя ваяводствы: Рускае, Бэлзскае, Падольскае, Брацлаўскае”. У Рускае ваяводства ўваходзілі Львоўская, Галіцкая, Холмская і Перамыская землі. Падобная традыцыя цягнецца і дагэтуль: Русь у польскай гістарыяграфіі атаясамліваецца з сённяшняй Украінай (былой Галіцка-Валынскай зямлёй), беларускія ж землі традыцыйна называюцца Літвой.

“Польская хроніка” падзяляецца на дзве няроўныя часткі: ад старажытнасці да 1553 г. і ад 1553 да 1586 г. Першая частка носіць кампілятыўны, другасны характар, бо нічога новага для гісторыі ВКЛ не дадае. Панаванне Вацлава, Уладзіслава Лакетка, таксама, як і Казіміра Вялікага, амаль даслоўна апісана паводле бацькі, Марціна Бельскага. Найбольш відавочна перапісванне бацькавай хронікі бачна ў эпізодзе ўцёкаў Кейстута з Мальбарку. Але жадаючы, мабыць, прадэманстраваць сваю эрудыцыю, Яхім звяртаецца да іншых аўтараў: Длугаша (панаванне Уладзіслава Ягелончыка, Грунвальдская бітва), Стрыйкоўскага (легенда аб рымскім паходжанні літоўскай знаці, паганскія вераванні літоўцаў), але пераважае Кромэр. Паколькі хроніка Кромэра даведзена ім толькі да смерці караля Аляксандра, таму для апісання панавання Жыгімонта І Яхім Бельскі мусіў карыстацца іншымі крыніцамі, перад усім Ё.Л.Дэцыем (паводле яго апісана бітва пад Оршай), а таксама С.Ажахоўскім, М.Стрыйкоўскім (апошні адзіны з храністаў падае, што “Чартарыскі князь ня быў русін, але літвін Альгердавіч, толькі меў удзел на Русі, а веру рускую трымаў”, а Я.Бельскі паўтарае: “Чартарыскі, каторыя княжаты ад Гедыміна ідуць”), Я.Д.Са-

лікоўскім і некаторымі іншымі. У "Хроніцы польскай" часта знаходзім спасылкі на Гала Аноніма, Кадлубка, Банфіні і іншых чужаземных пісьменнікаў, але ён наўрад ці меў іх пад рукой, бо цытуе іх заўсёды ў тых жа самых выпадках, што і Кромэр. Увогуле, галоўным чынам, Яхім кампіляваў "Гісторыю" Кромэра, які на той час лічыўся неператузыдзеным майстрам у дзеепісарскім жанры і ставіўся вышэй за Длугаша, дзякуючы свайму "элегантнаму стылю". Шкада, што ў пагоне за гладкасцю стылю і формы Яхім адмаўляўся ад дакументальнасці, хаця, будучы спачатку пісарам каралеўскай канцылярыі, а з 1588 г. – сакратаром Жыгімонта III, меў доступ да Кароннага архіва (напрыклад, пад 1499 г. аб пацвярджэнні ўніі Польшчы з Літвой у доказ сваіх слоў піша: "На што ёсць лісты ў скарбе каронным"), а таксама да Метрыкі Літоўскай (пра дыспенсію папежа для Аляксандра і Алены пад 1501 г. піша: "Бачыў у Метрыцы").

Найбольш важная для нас другая частка "Хронікі Польскай" – ад 1553 да 1583 г. Але і тут толькі чацвёртая частка носіць зусім самастойны характар – гэта нататкі з уласнага вопыту ці здабытыя ў архівах альбо іншых сховішчах дакументаў. Будучы сучаснікам многіх падзей, ён аддаваў перавагу не ўласным назіранням, а сведчанням іншых. Толькі невялічкія рэмаркі дазваляюць меркаваць, што ён быў удзельнікам тых ці іншых падзей. Так, пад 1227 г. у "Хроніцы польскай" чытаем: "Пусты касцёл св.Сафіі на той час бачыў, калі кароль Стэфан Полацк узяў". У першым маскоўскім паходзе Стэфана Баторыя Бельскі ўдзельнічаў хутчэй за ўсё ў якасці пісара каралеўскай канцылярыі. Як заўсёды, ён не апісвае ўласныя ўражанні ад маскоўскіх войнаў і ўсяго панавання Стэфана Баторыя, а ідзе ўслед за Рэйнгальдам Гэйдэнштэйнам, хаця абодва былі сучаснікамі падзей і шляхі іх неаднаразова перакрыжоўваліся, як і ў выпадку з Янам Дымітрам Салікоўскім, рукапісам каментароў якога з перыяду кароткачасовага панавання ў Кракаве Генрыха Валуа Бельскі часта карыстаўся.

У XVII ст. пра Бельскіх не чуваць, і толькі напрыканцы XVIII ст., а менавіта ў 1764 г. "Хроніку Польскую" перавыдаў руплівец на глебе старажытнапольскага пісьменства ксёндз-езуіт Ф.Багамолец. Ён высока ацаніў яе, чым прывабіў увагу аматараў даўніны з усёй Рэчы Паспалітай; спрабаваў высветліць пытанне аўтарства твора, але пакінуў гэтую справу на стадыі прыпушчэнняў.

Вялікай загадкай застаецца так званы "Далейшы працяг Польскай хронікі", які ахоплівае падзеі ад 1587 да 1598 г.,

адкрыты і надрукаваны Ф.М.Сабешчаньскім у Варшаве ў 1851 г.; яго поўная назва “Польская хроніка напісаная, альбо гісторыя Кароны Польскай, таксама жыцці і дзеянні ўсіх каралёў польскіх, каторая ўзяла пачатак ад Леха, найпершага манарха польскага, а скончваецца аж да сёняшняга Жыгімонта III, а тая з розных аўтараў сабраная і ў многіх месцах ад памылак ачышчаная і папраўленая. Прыдадзены фігуры галоўных каралёў і манархаў польскіх. Распачатая лета Господня 1606 дня 22 месяца мая, а скончылася ў лета Господне 1607 дня 28 таго ж месяца мая”. Сабешчаньскі прыходзіць да высновы, што нехта з сучаснікаў Бельскага ўсю хроніку Яхіма (і друкаваную, і працяг яе, які застаўся пасля яго смерці) перапісаў пад новай назвай,  змяніўшы ўсё, што датычылася асабіста Бельскага, прыўлaсціў сабе ўвесь твор, разлічваючы на няведанне чытачоў альбо жадаючы пісьменніцкай славы. Але твор тады надрукаваны не быў. Сабешчаньскі на падставе параўнання рукапісу з тэкстам хронікі Яхіма Бельскага прыходзіць да высновы, што перапісчык сам працяг “Польскай хронікі” не пісаў, таму што ў рукапісу адзначаецца: “Пісаў таксама Яхім Хроніку з грунту ўсяго свету... Але ў гэтым сквапная смерць прыспела на яго ў 1599 г. дня 8 студзеня. У Кракаве памёр, там жа ў капліцы св.Тройцы пахаваны”. Ул.Нейрынг на падставе моўнага аналізу даказвае, што “Польская хроніка” і “Працяг” належаць пяру розных аўтараў. На сёняшні дзень гэтае пытанне застаецца адкрытым.

Розныя на першы погляд “Хроніка Польская” і “Хроніка ўсяго свету” на самой справе вельмі блізкія не толькі па зместу, але і па агульнай хранікарскай традыцыі. Адрозніваюцца яны храналагічным парадкам выкладання падзей. Няма нейкай ідэі, якая аб’ядноўвала б змест твора і надавала яму сучаснае гучанне. Не дзіўна, што Ул.Нейрынг назваў яго “шляхецкімі рочнікамі”. Падзеі, апісаныя ў той і другой хроніках, не маюць духу часу, часта мадэрнізуюцца (вяльможы часоў Казіміра Мніха называюцца “Панове Рады” і да т.п.). Бельскія пераважна перапісвалі іншыя крыніцы, укладалі падзеі паводле ўжо гатовых узораў (што больш характэрна для сына, таму ягоная хроніка яшчэ менш, чым бацькава, адрозніваецца ўласнай індывідуальнасцю). Яхім Бельскі, нягледзячы на тое, што меў доступ да дзяржаўных дакументаў і быў сучаснікам многіх значных падзей свайго часу, не мог асабіста ацаніць свайго часу, даць уласную трактоўку падзей. Таксама, як і бацька, ён не адрозніваў галоўнага ад другаснага. Аднак у цэлым “Польская

хроніка” мае больш сучасны характар і стыль выкладання гістарычнага матэрыялу. Усе гістарычныя творы Марціна і Яхіма Бельскіх, якія, бясспрэчна, ім належаць альбо толькі прыпісваюцца таму ці другому, з’яўляюцца каштоўнай крыніцай інфармацыі аб мінулым Вялікага княства Літоўскага.

## ЖЫЦЦЁ І ДЗЕЙНАСЦЬ МАРЦІНА КРОМЭРА

Марцін Кромэр нарадзіўся ў 1512 годзе ў Бечу (Малапольска) ў мяшчанскай сям’і. Невядома, калі і адкуль прыбылі Кромэры ў Беч. Магчыма, са Шлёнска. У 1415 г. у Бечскім магістраце быў райца Міхал Кромэр, верагодна, ён быў звязаны з гэтым родам. Дзеда Марціна звалі Барталамей. Бацька Марціна ажаніўся з Агнешкай Чэрміньскай. Сам Марцін быў найстарэйшым сярод пяці дзяцей, акрамя яго ў бацькоў былі яшчэ тры сыны і дачка Наталля. З чатыроў сыноў тры атрымалі вышэйшую адукацыю і перайшлі ў духоўнае саслоўе. Надзвычай таленавітым быў другі сын Анджэй (памёр у 1538 г.), які, па словах Кромэра, мог бы стаць не толькі “гонарам сям’і”, але “аздобай нашай Польшчы”. Ён быў вядомым паэтам, сябрам Клеменса Яніцкага, выдатнага польскага пісьменніка эпохі Адраджэння. Пасля яго засталося толькі некалькі твораў і паэтычная пахвала Яніцкага “Grata mihi nimium tua scripta, Cromere, fuissent”. Самым малодшым з братоў быў Мікалай. Пасля заканчэння універсітэта ў Інгальстадзе і шматгадовай вучобы на юрыдычным факультэце ў Падуі і Балоніі (1552-1558) ён атрымаў у апошняй званне доктара абодвух праў, што адчыніла перад ім шлях да кар’еры: стаў сакратаром венскага біскупа А.Бруса. Цалкам адрозніваўся ад братоў Барташ – “гуляка і марнатраўца, вечна тонучы ў пазыках, абкружаны дрэннай кампаніяй”. Марцін пастаянна клапаціўся аб ім, але заўсёды атрымліваў ад яго адныя непрыемнасці.

Першую адукацыю Марцін атрымаў у родным мястэчку, у парафіяльнай школе. Напэўна, ужо тут ён добра навучыўся лаціне, якую потым удасканальваў у Кракаўскім і італьянскіх універсітэтах. Калі Марціну споўнілася 16 гадоў, ён пакінуў Беч, але захаваў да яго добрыя пачуцці на ўсё жыццё, фундаваў тут касцёлы і школы. У апошні дзень ліпеня 1528 года, заплаціўшы шэсць грошаў так званых “упісовых”, Марцін Кромэр увайшоў у спіс студэнтаў факультэта artistarum Кракаўскай Акадэміі. На працягу двух гадоў ён старанна вывучаў філасофію, лацінскую і грэчаскую мовы. Пераклаў з грэчаскай мовы трактат Арыстоцеля “Аб маладосці і старасці”.

У верасні 1530 года скончыў навучанне з тытулам бакалаўра вызволеных мастацтваў, аднак, навуковыя кантакты з alma mater працягваліся надалей, калі ён яшчэ тры гады ўдасканальваў літаратурныя здольнасці ў сталіцы. Дзякуючы сувязям, а таксама дасканаламу веданню лаціны, Марціну пашчасціла трапіць у каралеўскую канцылярыю. Ягоным пратэктарам у гэты час быў падканцлер каронны Ян Хаеньскі. У 1533-1537 гг. малады Кромэр у якасці пісара належаў да дапаможнага персаналу канцылярыі, але, мусіць, ужо тады, пад уплывам Хаеньскага, мог назіраць палітычныя падзеі, прычым адназначна прымаў пазіцыю двара з характэрнымі для яго непрызнаннем шляхецкага парламентарызму і патрэбай моцнай каралеўскай улады.

Упершыню разам са сваім пратэктарам і каралеўскай канцылярыяй Кромэр ездзіў у Вільню ў 1533 годзе. Тут ён перакладаў з грэчаскай Піфагора і іншых аўтараў. У 1536 г. вярнуўся ў Кракаў. У гэтыя гады сфармаваліся яго светапогляд і цікавасць да навук, завязаліся блізкія стасункі з гуманістычным рухам. Аднак, мусіць, кола знаёмых Кромэра было іншае, чым Марціна Бельскага, які прыкладна ў гэтыя ж часы бавіў час у Кракаве, але ў атачэнні рэфармацыйна настаўленага Колка Анджэя Тшэцескага.

Працягваў сваю адукацыю Кромэр у Італіі. У сярэдзіне 1537 года ён паехаў спачатку ў Падую, потым у Балонію, дзе вывучаў права. У канцы 1539 года стаў доктарам абодвух праў. Разам з ім тут вучыўся і Станіслаў Ажахоўскі. У Балоніі яму ўдалося знайсці твор Яна Хрызастома, які ён пераклаў з грэчаскай мовы на лацінскую і выдаў у 1541 г. Гэты пераклад прынёс Кромэру еўрапейскую славу і быў перавыдадзены другі раз у знакамітай друкарні Яна Апорына ў 1552 г. Праз Рым ён хутка вярнуўся ў Польшчу, дзе для яго адкрываліся новыя магчымасці на шляху публічнай кар’еры.

Напэўна, падчас побыту ў Італіі Кромэр пазнаёміўся з гуманістычнай культурай, новымі тэндэнцыямі ў гістарыяграфіі, для якой, між іншым, прадметам даследаванняў была сама дзяржава. Таму пасля вяртання, зрабіўшыся сакратаром кракаўскага біскупа і арцыбіскупа Пятра Гамрата, Марцін мог рэалізаваць свае літаратурныя і грамадскія здольнасці. Свае першыя творы М.Кромэр пачаў пісаць яшчэ ў 1533-1534 гг. У 1541-1545 гг. ён апублікаваў знойдзеныя ў Балоніі мовы святога Хрызастома. Да іх дадаў прысвячэнні, дзе выказаў погляды на мараль і інтэлектуальны ўзровень польскага грамадства, зрабіўшы націск

на пашырэнне ў ім розных недахопаў і дрэнных звычаяў. У 1542 г. Кромэр падчас пасяджэнняў Пётркоўскага сінода выступіў з прамовай "Аб годнасці духоўнага стану", якая датычылася духоўнага саслоўя ў Польшчы і крытыцы яго злоўжыванняў. З гэтага часу ён усё часцей уключаўся ў барацьбу за аздараўленне атмасферы ў Касцёле, таму хутка і апынуўся ў лагеры Станіслава Гозія і Станіслава Карнкоўскага, двух знаных дзеячоў польскай контррэфармацыі. У 1544 г. атрымаў кракаўскую канонію (раней валодаў больш дробнымі пасадамі, у тым ліку быў пробашчам у родным Бечу), і мог выказваць свае перакананні і ўплываць на грамадскую думку.

Вясной 1544 года ў Вільні кароль Жыгімонт Аўгуст меў размову з М.Кромэрам адносна напісання ім новай польскай гісторыі. Кароль, а таксама канцлер каронны Ян Ацескі і падканцлер Ян Пшэрэмбскі аказвалі Кромэру ўсялякую дапамогу, што асабліва важна – даверылі яму ўпарадкаванне кароннага архіва, чым ён займаўся роўна год, з 1550 да кастрычніка 1551 г.

Гісторыя Польшчы, напісаная Кромэрам, мела ў пэўнай ступені дзяржаўны характар: стаяла на старажы агульнадзяржаўных інтарэсаў, супрацьстаяла як правінцыяльнаму сепаратызму (літоўскаму і прускаму), так і прывілегіям пэўных грамадскіх класаў, у дадзеным выпадку шляхты, рэпрэзэнтуючы палітычную праграму першага перыяду панавання Жыгімонта Аўгуста. У збіранні матэрыялаў і дакументаў Кромэру вялікую дапамогу аказваў С.Гозій. Але галоўнымі крыніцамі працы Кромэра ўсё ж былі творы яго папярэднікаў: Я.Длугаша, М.Мяхоўскага, Б.Вапоўскага, Л.Ё.Дэцыя.

"Гісторыя Польшчы" была аддадзена ў друк восенню 1554 года самаму знакамітаму еўрапейскаму выдаўцу Я.Апорыну, у друкарні якога ў Базэлі і з'явілася праз год (1555). "Гісторыя" была даведзена да 1506 года, сучасную гісторыю, гэта значыць часоў панавання Жыгімонта I, замяняў перадрук мовы на пахаванне гэтага ўладара. Поспех твора намнога пераўзыходзіў спадзяванні аўтара і выдаўцоў. У хуткім часе выйшлі пяць лацінскіх выданняў: у Базэлі ў 1555, 1558, 1568, 1582 гг. (апошняе, у зборы Пісторыюса Я., самавольнае, без ведама аўтара), нарэшце, найбольш поўнае ў 1589 г. выйшла ў Кёльне (яго старанна падрыхтаваў да выдання Т.Плаза). Нямецкі пераклад хронікі выйшаў у Базэлі ў 1562 г., а польскі – у 1611 г. у Кракаве.

У прынцыпе, твор М.Кромэра быў кампіляцыяй "Рочнікаў" Яна Длугаша і Б.Вапоўскага (ў канцовай частцы за 1480-1506 гг.), але настолькі дасканалай, што сустрэў гарачы прыём ва ўсёй

Еўропе. Прызначаная ў першую чаргу для замежнага чытача, праца Кромэра паказвала магутнасць польскай дзяржавы, яе вялікай і слаўнай мінуўшчыны. Відавочнай заслугай храніста было ўвядзенне ў навуковы зварот больш за 100 дакументаў, якімі ён дапоўніў сваіх папярэднікаў, а таксама звяртанне да самай старой польскай хронікі Гала Ананіма. Кромэр арганізаваў у адзіны твор шматлікія кавалкі гістарычных ведаў, здабытыя з разнародных крыніц, прычым аб'яднаўшы іх уласнай гістарычнай канцэпцыяй, змяніўшы многія традыцыйныя погляды, якія дагэтуль панавалі ў гістарыяграфіі.

У Польшчы спачатку праца Кромэра была прынята варожа, што было звязана з пахвалой касцёла і ўлады магнацкай алігархіі, асцярожнасцю ў адносінах да памкненняў шляхты, непрыхільнасцю да Вялікага княства Літоўскага. Асабліва апошні момант абурыў шляхту і магнатэрыю ВКЛ. На сеймах 1556/57 гг., а потым на сейме 1563/64 гг. супраць Кромэра выступіў М.Радзівіл Чорны ў абарону Літвы. Пасля Люблінскай уніі гэтыя настроі ўтаймаваліся, і ў 1580 годзе сейм ухваліў для Кромэра публічную падзяку. З кожным годам расла папулярнасць працы храніста. Яна станавілася ўзорам для напісання падобных твораў аж да часоў А.Нарушэвіча.

Дапаўненнем "Гісторыі" было геаграфічна-палітычнае апісанне Польшчы, упершыню падрыхтаванае яшчэ ў 1558 годзе, але, нягледзячы на прапановы Апорына, не аддадзенае ў друк. Аднак перапісанае ад рукі "Апісанне Польшчы" кружыла сярод адукаванай публікі. Ім карысталіся, напрыклад, папскія нунцыі. У 1573 г. яно было ўрачыста ўручана каралю Генрыху Валезію пры ўездзе ў Польшчу. Мусіць, вяртаючыся ў сваю краіну, адзін з французаў даў экзэмпляр "Апісання" франкфурцкаму выдаўцу А.Вэхэлю, так з'явілася першае неаўтарызаванае выданне твора "Polonia sive de situ, populis, moribus et republica regni Polonici" (1575), а ў 1577 другое, аўтарызаванае.

Найбольш поўным і дасканалым выданнем "Гісторыі Польшчы" (разам з мапай М.Струбіча) з'яўляецца кёльнскае выданне Т.Плазы 1589 года. Яно пазней і паслужыла падставай для польскага перакладу Марціна Блажоўскага і наступных перавыданняў хронікі.

Грамадская і царкоўная кар'ера М.Кромэра ў 1558-1564 гг. спалучалася з дыпламатычнымі місіямі да імператарскага двара Фердынанда І у Вене. Аднак на гэтай ніве Кромэру не ўдалося дасягнуць значных вынікаў, як на рэлігійным і навукова-літа-

ратурным. Ён падтрымліваў каталіцкія погляды Фердынанда і тым самым ускладняў адносіны Жыгімонта Аўгуста з ягонай жонкай, дачкой нямецкага імператара Кацярынай (з якой кароль хацеў скасаваць шлюб). Адклікаць з дыпламатычнай пасады, 1564-1569 гг. правёў у Кракаве, але здалёк ад двара, у асноўным займаючыся літаратурнай творчасцю (між іншым напісаў аповесць у народным стылі "Гісторыю праўдзівую аб прыгодзе журботнай фінляндзкага князя Яна і каралеўны Кацярыны", заснаваную на сапраўдных падзеях са скандынаўскай гісторыі).

У 1569-1570 гг. адбыліся станоўчыя змены ў жыцці Марціна Кромэра: ён выязджаў на шчэцінскі кангрэс з місіяй аб'яднання Даніі і Швецыі, а галоўнае – пасля выезду С.Гозія ў Рым Кромэр атрымаў намінацыю на каад'ютара (намесніка) вармінскага біскупа і пераехаў у Лідзбарк. У 1570 г. гэтая намінацыя была зацверджана папам рымскім. Кромэр, фактычна, да самай смерці (ў лідзбарскім замку 23.03.1589 г.) змагаўся з супрацьстаяннем прускай капітулы і саслоўнай вярхушкі.

З багатай перапіскі каад'ютара, а пазней біскупа вармінскага бачна, наколькі актыўную грамадскую пазіцыю ён займаў: акрамя духоўных і касцельных, цікавілі яго справы вайсковыя, прыдворныя і іншыя, укладваў вялікія фундушы ў касцёлы, школы. Дарэчы, паводле тэстаманту, увесь ягоны маёнтак прызначаўся на дабрачынныя мэты.

Нягледзячы на розныя жыццёвыя абставіны, Бельскіх, Кромэра і Стрыйкоўскага аб'ядноўвае агульнае жаданне прынесці як мага больш карысці сваёй роднай (альбо набытай, як у выпадку з М.Стрыйкоўскім) краіне і суайчыннікам. Падобнае разуменне доблесці дамінавала ў XVI ст. і адтуль перайшло ў наступныя эпохі. Сёння мы мяркуем аб гэтым стагоддзі па дзеячах, якія пакінулі найбольш прыкметны след у гісторыі, але трэба ўлічваць, што самі яны фармаваліся пад уплывам тых гістарычных абставін, таго асяроддзя і ідэалогій, якія панавалі ў іх часы. Усё гэта пакінула выразны след не толькі ў біяграфіях названых аўтараў, але прасочваецца ў канцэпцыях іх твораў. Чаму працы храністаў маюць такі, а не іншы характар, пафас, у рэшце рэшт сам падбор фактаў, залежала ў значнай ступені ад абставінаў жыцця і сацыяльна-палітычнага асяроддзя храністаў. Такім чынам, жыццяпісы пісьменнікаў дапамагаюць зразумець іх ідэалогію і гістарычную канцэпцыю, падыходы да выбару матэрыялу і спосаб працы з ім.

## АЛЯКСАНДР ГВАГНІН

Аляксандр Гвагнін (1534 - 1614 г.) – гісторык, вайсковец, дзейнасць якога ў Вялікім княстве Літоўскім да канца не высветлена не толькі ў беларускай, але ў польскай і літоўскай гістарыяграфіі. Імя гэтай таямнічай асобы звязваюць з адной з найбагацейшых і найцікавейшых наратыўных крыніц па гісторыі ВКЛ і суседніх краін – "Sarmatiae Europeae descriptio" ("Апісанне еўрапейскай Сарматыі") (Кракаў, 1578). Але ў той жа час даўно ўжо даказана, што гэтая праца належыць пяру выдатнага гісторыка Мацея Стрыйкоўскага. Аднак гістарыяграфічная традыцыя ўзаконіла плагіят Гвагніна, трывала звязаўшы яго імя з узгаданым творам.

А.Гвагнін нарадзіўся ў 1534 г. у Вероне, якая ў тыя часы належала да Венецыянскай рэспублікі, у збяднелай шляхецкай сям'і. У 1551 г. яго бацька Амброжы эміграваў з Італіі, каля 1558 г. за ім накіраваўся сын Аляксандр. З 1561 г. яны былі рэкамендаваныя каралю Жыгімонту Аўгусту як спецыялісты ў фартыфікацыі. Абодва прымалі ўдзел у вайне з Масквой, якая з 1560 г. вялася на беларускіх землях. Аляксандр прымаў удзел у інфлянцкай, валоскай і маскоўскай кампаніях, пасля чаго, у якасці каралеўскага ротмістра пяхоты, разам з бацькам і двума іншымі ротмістрамі стаў на чале залогі памежнай крэпасці – нядаўна адабранага ад Масквы Віцебска. Адсюль рабіў вылазкі супраць войскаў Івана Грознага: у лістападзе 1564 г. удзельнічаў у баях пад Езярышчамі, у 1566 – пад Невелем, у снежні 1567 г. разам са сваёй залогай біўся пад Веліжам, у 1568 г. абараняў Віцебск.

За вайсковыя заслугі па рэкамендацыі маркграфа брандэнбургскага Яхіма II на Люблінскім сейме 1569 г. А.Гвагнін быў абвешчаны рыцарам. Разам з тым ён атрымаў шляхецкі дыплом ад імператара Свяшчэннай Рымскай Імперыі. Матэрыяльныя ўзнагароды таксама былі даволі значныя: у 1574 г. Гвагнін атрымаў Філіпаўскае староства на памежжы Інфлянтаў і Літвы, пасля чаго кінуў вайсковую службу. У наступныя гады, відаць, у яго не заладзіліся справы з падданымі, ён распачаў нейкія фінансавыя аперацыі, якія ўцягнулі яго ў пазыкі. У 1576 г. А.Гвагнін вярнуўся на каралеўскую службу, удзельнічаў у выправе на Гданьск.

Нечакана ў 1578 г. у Кракаве пад прозвішчам Аляксандра Гвагніна выйшаў твор пад назвай "Sarmatiae Europeae descriptio", прысвечаны каралю Стэфану Баторыю. Гэты вялікі

твор, у якім налічваецца 203 лісты, багата ілюстраваны, складаецца з 4 частак, дзе змешчаны гісторыя і геаграфія Польшчы, Літвы, Інфлянтаў, Прусіі, Масковіі і татар аж да часоў караля Генрыха Валезія (Валуа). Скончваецца апісаннем пахавання Жыгімонта Аўгуста ў 1574 г. У тым жа годзе, калі выйшаў гэты твор, яго аўтар пасняшыў з'ехаць з пасольствам Паўла Уханьскага ў Італію. Пасля вяртання ў Польшчу Гвагнін зноў паступіў на службу да караля і ўдзельнічаў у паходах на Вялікія Лукі і Пскоў. З 1581 г. ён атрымлівае штогадовую пенсію 200 злотых з літоўскага скарбу. У гэтым жа годзе ў Спіры выйшла новае выданне "Сарматыі", у якім быў дадатак, дзе апісваліся жорсткасці Івана Грознага, а таксама маскоўская выправа Стэфана Баторыя і прыводзіўся дакумент з 5 лістапада 1580 г.

А восенню 1581 г. Гвагнін выехаў у Швецыю, дзе шукаў падтрымку ў сваіх намаганнях атрымаць спадчыну ў Італіі, а таксама імкнуўся рэалізаваць свой праект гандлю з Венецыяй. Прадпрымальніцкая дзейнасць Гвагніна з пераменным поспехам працягвалася: ён і сам ездзіў у Італію, а ў Стакгольме дзейнічала ягоная купецкая кантора.

Адначасова як бы асабістым жыццём жыў твор Аляксандра Гвагніна – "Апісанне Еўрапейскай Сарматыі". У 1582 годзе выйшла яго трэцяе выданне ў Базэле, у наступным 1583 – італьянскі пераклад у Венецыі, у 1584 – троху зmененае выданне ў другім томе Rerum Polonicarum; нарэшце, у 1590 г. з'явіўся чэшскі пераклад маскоўскай хронікі "Сарматыі". А тым часам у 1582 г. у Каралеўцы выйшла "Хроніка польская, літоўская, жмудзкая і ўсёй Русі" Мацея Стрыйкоўскага, у якой аўтар абвінавачваў Гвагніна ў тым, што той, будучы ротмістрам у Віцебску, прыўласціў сабе ягоны рукапіс "Сарматыі" і апублікаваў пад сваім прозвішчам. Гэтае абвінавачванне Стрыйкоўскі зрабіў яшчэ раней, бо ўжо 14 ліпеня 1580 г. кароль Стэфан Баторы выдаў яму дакумент, дзе сцвярджалася, што "Апісанне Сарматыі" з'яўляецца яго літаратурнай уласнасцю. Большасць даследчыкаў лічаць, што менавіта гэтая абставіна паслужыла прычынай выезду А.Гвагніна ў Швецыю. Але смерць М.Стрыйкоўскага, якая наступіла прыкладна ў канцы 80-х – пачатку 90-х гг. XVI ст., дала магчымасць Гвагніну фактычна без перашкод карыстацца плагіятам.

Біёграфам А.Гвагніна невядома, дзе жыў і чым займаўся гэты спрытны італьянец з 1584 да 1611 года. Але ў 1611 г. у 77-гадовым узросце ён зноў успомніў аб "сваім" творы і выдаў яго польскую версію ў Кракаве, у друкарні М.Лоба. Аўтарам

перакладу быў Марцін Пашкоўскі. Гэты варыянт быў значна пашыраны (852 старонкі): апісана амаль уся Еўропа і некаторыя краіны Усходу, дапоўнены хронікай палітычных падзей аж да здабыцця Смаленска ў 1611 г. Выданне было падзелена на 10 кніг-хронік. Пашыраны варыянт А.Гвагнін збіраўся таксама выдаць на лаціне і нават заключыў кантракт з перакладчыкам, каралеўскім пісарам, Гжэгажам Чарадзкім. Але не выплаціў апошняму належны ганарар, за што Чарадзкі выклікаў яго да суда. Таксама судовай справай скончыліся адносіны з кракаўскім друкаром М.Лобам. Пазней перакладчык М.Пашкоўскі прызнаваўся, што дадаткі ў польскім выданні зроблены ім самім. Такім чынам, дагэтуль невядома, ці Аляксандр Гвагнін сам напісаў выдатны твор "Апісанне Еўрапейскай Сарматыі", ці толькі падпісаўся пад чужым творам. Але вядома, што нават на роднай італьянскай мове ён пісаў вельмі дрэнна.

## БАРТАЛАМЕЙ ПАПРОЦКІ

Барталамей (Барташ) Папроцкі (каля 1543, Мазоўша – 27.XII.1614, Львоў) – польскі гісторык, геральдык, паэт. Паходзіў з сям'і дробнай шляхты. Ёсць звесткі, што ён вучыўся ў Кракаўскай Акадэміі, але бракуе яго іматрыкуляцыі ў альбоме студэнтаў, куды ўпісваліся ўсе, хто паступаў у гэтую навучальную ўстанову. Пазней Б.Папроцкі ажаніўся са значна старэйшай за яго ўдавой, каб палепшыць свой маёмасны стан, але, не ўжыўшыся з ёю, вымушаны быў з'ехаць з хаты. Прабываў пры двары Андрэя Тараноўскага, вядомага польскага палітычнага дзеяча, дыпламата, з якім у 1574-75 гг. ездзіў у Турцыю іншы храніст – Мацей Стрыйкоўскі. Калі ў 1572 г. памерла жонка, Папроцкі вярнуўся дамоў і стаў дабжынскім падчашым. Каля 1575 г. ён заняўся творчасцю, пачаў пісаць вершы (*Historia żałosna o prędkości i okrutności tatrskiej*, Kr.1575; *Koło rycerskie*).

Пасля смерці Баторыя, падчас другога безкаралеўя, выступіў як прыхільнік Габсбургаў. Удзельнічаў у бітве пад Бычынам (на баку аўстрыякаў). Пасля перамогі партыі Жыгімонта III Вазы ўцёк у Маравію. Зрабіў гістарычна-генеалагічнае апісанне Маравіі (*Zrcadlo slavneho markrabstvi moravskeho,* 1593). Тут канчаткова сфармаваліся яго палітычныя погляды: польска-чэшская ўнія пад эгідай Габсбургаў і экспансія каталіцызму на ўсход, асабліва аб'яднанне ўсіх сіл супраць Турцыі. Напісаў генеалогію чэшскіх паноў (*Diadochus id est succesio ginak postoupnost knižat a kraluv ceskych, byskupuv i arcybyskupuv pražskych.* – Praha, 1602).

Займаўся моднай у Чэхіі алхіміяй. Выдаў 3-томавы збор вершаў *Nova kratochvile*. Каб палепшыць матэрыяльнае становішча, пастаянна пісаў панегірычныя вершы, прысвечаныя магнатам-католікам. У 1599 г. у Празе выдаў *Ogród królewski o początku cesarzów rzymskich, królów polskich etc.*. У 1609 г. вярнуўся ў Маравію, потым на Шлёнск, дзе выдаў шлёнскую генеалогію (*Stambuch slezsky)*. У 1610 г. вярнуўся ў Польшчу. Не маючы тут маёмасці, жыў у абацтвах у Ванхоцку, потым у Лёндзе. Тут напісаў свой апошні твор *Nauka i przestrogi na różne przypadki ludzkie (*Kr.1613). Памёр і пахаваны Барташ Папроцкі ў Львове.

Але ў першую чаргу Папроцкі знакаміты як геральдык, аўтар першага польскага гербоўніка – "Гербы польскага рыцарства" (*Herby rycerstwa polskiego,* Kr.1584). Яго пяру належаць таксама вершаваны гербоўнік рускіх і падольскіх земляў *("Panosza, to jest wysławienie panów i paniąt ziem ruskich z męstwa, z obyczajów i z innych spraw poczciwych"*Kr.1575) і геральдычная праца "Гняздо цноты" (*Gniazdo cnoty,* Kr.1578), дзе даецца паходжанне гербоў і інфармацыя аб некаторых родах. Твор "Гербы польскага рыцарства" быў як бы новым дапоўненым выданнем "Гнязда цноты". Папроцкі карыстаўся хронікамі Кадлубка, Башка, Длугаша, Мехавіты, Кромэра і інш., дакументамі, якія захоўваліся ў замках, кляштарах, часам сямейнымі хронікамі. Выкарыстоўваў надмагільныя і касцельныя табліцы, некралогі, часам гродскія, земскія, судовыя кнігі, акты Метрыкі Кароннай. Генезіс асобных гербоў і пачаткі шляхецкіх родаў прадстаўляў некрытычна. Верыў у старажытнарымскае паходжанне вялікай колькасці шляхты. 92 гербы выводзіў з-за мяжы і толькі 58 лічыў тутэйшымі. Бескрытычна карыстаўся крыніцамі. Істотную інфармацыйную вартасць "Гербы" маюць там, дзе Папроцкі апісвае сучасныя справы.

Твор падзелены на 5 кніг. У першай побач з паходжаннем дзяржаўнага сімвала, Арла, знаходзяцца радаводы князёў і каралёў ад Леха да Людвіка Венгерскага разам з хронікай іх панавання. У другой частцы апісваюцца найдаўнейшыя айчынныя гербы паводле іх старажытнасці. У трэцяй кнізе – гербы, прынесеныя з іншых краін. Чацвёртая прысвечана сімвалу Вялікага княства Літоўскага – Пагоні, а таксама Гедымінавічам і Ягелонам разам з хронікай іх панавання. Паколькі "з-за далёкасці і шырокасці не ўсіх мог знаць", даў толькі кароткія генеалагічныя інфармацыі аб найвыдатнейшых баярскіх родах, продкі якіх у 1413 г. у Гародле прынялі польскія гербы. Дадаў таксама кароткія ўзгадкі аб іншых сем'ях, галоўным чынам

валынскіх. Усяго называе каля 130 прозвішчаў шляхты ВКЛ. Пятую частку гербоўніка Папроцкі прысвяціў гербам ваяводстваў і найзначнейшых гарадоў. Пасля выхаду “Гербаў” многія шляхецкія сем’і былі незадаволеныя, тады Б.Папроцкі перадрукаваў некаторыя старонкі і ўклеіў у асобныя экзэмпляры, некаторыя генеалогіі (Замойскіх) цалкам змяніў.

## ПОЛЬСКІЯ ХРОНІКІ І ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІЯ ЛЕТАПІСЫ

У XVI ст. жылі і дзейнічалі іншыя выдатныя польскія гістарыёграфы кантынуатары Я.Длугаша. Амаль кожны з іх карыстаўся ўсходнеславянскімі летапісамі (як і іншымі рукапіснымі крыніцамі, многія з якіх з цягам часу зніклі). Менавіта гэты факт дазваляе гаварыць аб іх творах як гістарычных крыніцах. Сярод храністаў, якія нас цікавяць, больш за ўсіх карыстаўся старажытнарускімі і беларуска-літоўскімі летапісамі М.Стрыйкоўскі. Шэраг старажытных крыніц дайшлі да нашых дзён толькі ў складзе хронікі Стрыйкоўскага, у аўтарскім пераказе. У 1574 годзе ў яго быў толькі адзін летапіс, праз некаторы час іх было ўжо трынаццаць, а потым пятнаццаць. І.Даніловіч лічыў, што храніст меў усяго 15 летапісаў, з якіх 10 “рускіх”, а 5 “чыста літоўскіх”. Акрамя гэтага, выкарыстоўваў пяць прускіх хронік, чатыры лівонскія, пяць польскіх, чатыры кіеўскія, шмат маскоўскіх, балгарскіх і славянскіх, паводле падлікаў Браўна (“De scriptorum Poloniae virtutibus et vitiis”), не лічачы твораў Длугаша, Мяхоўскага, Кромэра і іншых. М.М.Улашчык даказаў, што Стрыйкоўскі карыстаўся Іпацеўскім летапісам. Ён дае ў сваёй манаграфіі спіс усіх спасылак храніста (іх каля 200) на летапісы.

А.І.Рогаў, які спецыяльна займаўся праблемай выкарыстання Стрыйкоўскім беларуска-літоўскіх летапісаў, выказаў меркаванне, што храніст меў не толькі летапісы таго тыпу, што мы ведаем цяпер, але і іншыя, “якія ўключалі ў свой склад больш падрабязныя звесткі па гісторыі заходнярускіх земляў, летапісы, заснаваныя, відаць, на нейкіх запісах, якія вяліся ў гарадах Заходняй Русі”, а таксама, што Стрыйкоўскі меў некалькі “летапісцаў” кшталту Быхаўца. Акрамя таго, А.І.Рогаў звярнуў увагу на яшчэ адну невялікую крыніцу хронікі Стрыйкоўскага – кароткую рускую хронічку, якую нядаўна прааналізавалі і выдалі маскоўскія даследчыкі Д.Аляксандраў і Д.Валадзіхін. Такім чынам, расшыфроўваюцца і даследуюцца ўсё

новыя крыніцы хронікі Стрыйкоўскага. Гэта дае нам падставы сцвярджаць, што практычна ніводнае паведамленне храніста, якое б датычылася старажытных часоў, не было выдумана ім самім, а перадаецца паводле іншых крыніц. З улікам гістарыяграфічнай канцэпцыі і крыніцазнаўчага метаду Стрыйкоўскага можна карыстацца яго творамі як крыніцамі па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, а таксама Русі Маскоўскай і старажытных дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі Усходняй Еўропы.

Стрыйкоўскі пачынае выкарыстоўваць летапісы напрыканцы першага ўступу ("Аб Белай і Чорнай Русі") трэцяга раздзела чацвёртай кнігі, пераходзячы пасля доўгага генезісу русінаў да ўласна гісторыі, гэта значыць да прыходу трох братоў-варагаў: Рурыка, Сінэўса і Трувора. Працяг III раздзела (надзвычай доўгага) абапіраецца на рускія хронікі, пасля чаго аўтар перарывае сябе раздзелам "Аб старадаўніх цэрымоніях, альбо хутчэй шаленствах..." На пачатку наступнай пятай кнігі зноў вяртаецца да "рэчаў рускіх княжат", але толькі ў трох першых раздзелах карыстаецца рускімі хронікамі, бо ў далейшым, хоць і спасылаецца на рускія хронікі, ніякіх паведамленняў, якіх бы не меў Мехавіта альбо Кромэр, Бельскі альбо Герберштэйн, не дае. Такім чынам, з пункту гледжання зместу яго хронікі летапісы не давалі шмат матэрыялу для Стрыйкоўскага. Тым больш, што самі яны не шмат адрозніваліся адна ад другой па зместу. На прыкладзе "кароткай рускай хронічкі" можна пераканацца, што часцей за ўсё яны былі сухім пералічэннем падзей. Стрыйкоўскі падкрэслівае, што летапісцы часта не ведалі аб шматлікіх рэчах, вядомых ужо Длугашу, а за ім і яго кампілятарам. Не паведамлялі яны, напрыклад, аб выправе Святаслава Ігаравіча на хазараў (I, 121), Уладзіміра Вялікага на палякаў (I, 126), Яраслава на збунтаванага Брачыслава, нічога не ўзгадвалі аб бітве Баляслава Храбрага з Яраславам над Бугам у 1018 годзе (I, 160, 161). Стрыйкоўскі адзначае, што аб выгнанні Ізяслава з Кіева і ўзвядзенні на кіеўскі прастол Усяслава Полацкага пішуць Длугаш, Вапоўскі, Мехавіта і Бельскі, але "хронікі рускія таго не ўспамінаюць, ані аб Баляславе, каралі польскім, каб меўся на Кіеў Ізяслава два разы прыводзіць" (I, 163, 164). Характэрна, што гэтыя летапісы былі вельмі падобныя, калі не ідэнтычныя, да тых, якімі карыстаўся Кромэр, бо Стрыйкоўскі, як Кромэр, сцвярджае, што "ўсе рускія хронікі не робяць узгадкі ані аб другой, ані аб трэцяй бітве і паражэнні Яраслава ад Баляслава" (I, 160). Кромэр наракае, што "многія мужныя справы, якія палякі знакаміта рабілі ў Русі", рускія

летапісы замоўчвалі. Сам Стрыйкоўскі, падаючы прамову Святаслава да войска, скончвае яе характэрнай заўвагай: “Так тую прамову Святаслава Герберштэйн fol.5 de rebus Moscoviticis са старой маскоўскай хронікі, якой я таксама маю экзэмпляр, апісвае” (I, 122).

Відаць, з чатырох “кіеўскіх” хронік Стрыйкоўскі карыстаўся ў асноўным “Аповесцю мінулых гадоў”. Але і тут часцей звяртаўся (мусіць, каб пераправерыць) да Герберштэйна і цытаваў яго, а не летапіс. Напрыклад, Герберштэйн піша аб тым, што косці Вольгі Уладзімір, яе ўнук, ахрысціўшыся, пачаў лічыць за святыя, і са згоды канстанцінопальскага патрыярха яе дзень святкуецца на Русі 11 ліпеня (с. 291). Хутчэй за ўсё ўласным домыслам Герберштэйна, паўтораным Стрыйкоўскім, з’яўляецца паведамленне аб надпісу, які Кура (ці Курэс), печанежскі князь, меўся выгравіраваць на чэрапе Святаслава: “Шукаючы чужога, сваё страціў” (с. 62). Як лёгка зразумець, падобны надпіс рускі летапісец наўрад ці мог напісаць, хутчэй за ўсё Герберштэйн сам вымысліў яго ў павучанне чытачам, хаця падобны тэкст (“в конце концов в 6480 году... потерял свое”) можна прачытаць у Ярмолінскім і падобных да яго летапісах (с. 292). У Герберштэйна таксама (чаго няма ў “Аповесці мінулых гадоў”) Стрыйкоўскі даведаўся, што Уладзімір глядзеў “з аднай вежы” на забойства брата свайго Яраполка (с. 63). З яго ж твора запазычыў нашчадкаў Уладзіміра Вялікага (іншых, чым у “Аповесці мінулых гадоў”) (с. 64), апусціўшы пры гэтым невядома чаму адну жонку, чэшку і г.д.

Варта ўзгадаць іншыя адрозненні паміж “Аповесцю мінулых гадоў” і хронікай Стрыйкоўскага. Напрыклад, апошні піша, што Уладзімір у гонар свайго хрышчэння збудаваў царкву св.Васіля (I, 131). Паводле ж летапісца, гэтая царква ўжо існавала, у ёй хрысціўся Уладзімір (ПВЛ, I, 77), а збудаваў ён у Херсоне царкву св.Іаана Хрысціцеля (ПВЛ, I, 80). У параўнанні з летапісцам Стрыйкоўскі няправільна падае храналагічны парадак падзей, якія адбываліся пасля, а не напярэдадні хрышчэння Русі. Так, аблогу Белгарада печанегамі летапісец дае пад 6505 (997) годам (ПВЛ, I, 87), паядынак русіна з печанегам і паражэнне печанегаў на Трубежы – на 5 гадоў раней 6500 (992) (ПВЛ, I, 84; Стрыйкоўскі, I, 126-128). Не называючы дат, Стрыйкоўскі апісвае гэтыя падзеі да прыняцця хрысціянства Уладзімірам, а пасля шырока апавядае аб хрышчэнні Русі, прычым дату прыводзіць правільную – 6496 (988) год.

Як высветліў Л.Фінкель, часта заглядаў у старажытнарускія летапісы, асабліва ў “Аповесць мінулых гадоў” (Фінкель

называе гэтую крыніцу “Нестар”), Марцін Кромэр. Напрыклад, аб рэлігіі славян, урыўкі “Руская вайна...” 1008 года, “Ізяслаў і руская вайна” ён пісаў, між іншым, на падставе “Аповесці мінулых гадоў”. Беларуска-літоўскія летапісы паслужылі яму крыніцай для напісання аб родзе Ягайлы, аб крыжацкіх нападах на Літву ў 1386 і 1390 годзе, аб смерці Свідрыгайлы і войнах Вітаўта ў 1392 годзе, аб выправе Вітаўта пад Ворсклу ў 1398 годзе, таксама для апісання падзей Грунвальдскай бітвы і некаторых іншых. Але ў Кромэра мы не знаходзім спасылак на летапісы, і ўвогуле цяжка вызначыць, дзе ён іх выкарыстоўвае, таму што нідзе не цытуе даслоўна.

Марцін Бельскі таксама карыстаўся летапісамі, аднак, вельмі мала, і ў адрозненне ад Кромэра, рабіў на іх спасылкі.

У выніку супастаўлення тэксту “Хронікі польскай” Мацея Стрыйкоўскага з першакрыніцамі становіцца бачна методыка іх выкарыстання. Некаторыя творы, названыя храністам у спісе крыніц на пачатку працы, не з’яўляюцца для яго непасрэднай крыніцай інфармацыі: ён іх, магчыма, чытаў, але спасылкі на іх робіць услед за іншымі храністамі. Галоўнымі ж крыніцамі для М.Стрыйкоўскага з’яўляюцца творы М.Мяхоўскага, М.Кромэра, М.Бельскага і некаторыя іншыя, якія ён больш ці менш падрабязна перапісваў. Адпаведныя кавалкі хронікі Стрыйкоўскага выклікаюць мала нараканняў. Значна больш заблытаная гісторыя Вялікага княства Літоўскага ў інтэрпрэтацыі храніста, галоўнымі крыніцамі якой з’яўляліся старажытнарускія і беларуска-літоўскія летапісы. Праблема дакладнай ідэнтыфікацыі фактаў хронікі Стрыйкоўскага звязана з праблемай больш грунтоўнага вывучэння беларуска-літоўскіх летапісаў. У межах нашай тэматыкі можам толькі сцвярджаць, што “памылкі” храніста трэба шукаць у рукапісах гістарычнага характару, якія ён збіраў у магнацкіх і шляхецкіх дварах, кляштарах, архівах і канцылярыях на тэрыторыі Літвы і Беларусі, многія з якіх вядомыя сёння толькі са старонак ягонай хронікі.

## АФІЦЫЙНАЯ ГІСТАРЫЯГРАФІЯ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ ЧАСОЎ ПАНАВАННЯ СТЭФАНА БАТОРЫЯ

Перыяд панавання Стэфана Баторыя звязаны з новым, вельмі істотным і адметным этапам развіцця афіцыйнага погляду на гісторыю. У гэты час змагаюцца два супрацьлеглыя памкненні: росквіт індывідуальнай і незалежнай у сваіх меркаваннях шляхецкай гістарыяграфіі і процістаянне гэтай з’яве цэн-

тральных уладаў дзяржавы. Стэфан Баторы і яго найбліжэйшы супрацоўнік каронны канцлер Ян Замойскі заняліся выпрацоўкай мадэлі афіцыйнай гістарыяграфіі, вытрыманай у манархічным духу. Кароль адчуваў вялікае замілаванне, нават культ да гісторыі, перакананне ў яе вялізнай ролі як неацэннай скарбніцы вопыту і прыкладаў паводзінаў для кіраўнікоў дзяржавы. Цаніў таксама яе прапагандысцкія вартасці ў фармаванні ўнутранага і знешняга меркавання аб магутнасці альбо слабасці дзяржавы, як сапраўдны чалавек Рэнесанса прыпісваў ёй вялікае значэнне ў забеспячэнні сабе і блізкім супрацоўнікам славы прыжыццёвай і паслясмяротнай, той жаданай несмяротнасці, аб якой марылі гуманісты.

Свой прынцыповы погляд на ролю і значэнне гісторыі Баторы пачаў рэалізаваць паралельна двума сродкамі: праз выдадзеную 7 лютага 1580 г. забарону раз назаўсёды абвяшчаць без асабістай згоды манарха гістарычныя творы, крыху раней (27 ліпеня 1579 г.) выйшла забарона караля высылаць з тэатра вайсковых дзеянняў маскоўскай вайны лісты аб вайсковых падзеях пад пагрозай кары смерці; адсюль робіцца зразумелым, чаму Мацей Стрыйкоўскі пры ўсёй сваёй нясціпласці не мог больш шчыра гаварыць на старонках “Хронікі Польскай, Літоўскай, Жмудзкай і ўсёй Русі”, выдадзенай у Каралеўцы ў 1582 г., аб сваёй дзейнасці рыскуна, якую ён хутчэй за ўсё выконваў у 1563-1570 гг.; і праз стварэнне пад сваім непасрэдным кіраўніцтвам залежнага ад яго асабіста асяродка гістарыяграфічных даследаванняў. Гэты асяродак павінен быў вывучаць венгерскую і польскую гісторыю.

На думку Г.Барыча, прыдворная батарыянская гістарыяграфія прайшла два перыяды ў сваім развіцці: 1) 1577-1578 – найбольш важны этап дзейнасці афіцыйнай гістарыяграфіі, пасля чаго наступіў перыяд маскоўскіх кампаній; 2) 1582-1586 – у гэты час змяніліся змест і напружанне працы прыдворных гістарыёграфаў.

Першы перыяд батарыянскай гістарыяграфіі прадстаўлены дзвюма постацямі – італьянскім пісьменнікам Жан-Мішэлем Брута і венграм, гуманістам, выхаванцам Падуанскага універсітэта, канцлерам Сяміграддзя Францішкам Форгахам (памёр 19 студзеня 1577 г. у Падуі). Ролі абодвух былі падзеленыя: Брута займаўся даўняй гісторыяй Венгрыі (ад смерці караля Мацея Корвіна ў 1490 г.), Форгах жа апрацоўваў сучасны перыяд – 1540-1572 гг. Вынікам ягонай працы стаў твор “De statu Republicae Hungariae Ferdinando, Johanne, Maximiliano

regibus ac Johanne Secundo principe Transylvaniae commentarii”. Праца Брута насіла сцісла гістарычны характар, а Форгаха – больш свабодны, мела выгляд каментароў, уяўляла сабой нешта сярэдняе паміж успамінамі, рэпартажам і нататкамі.

Арганізацыя працы і механізм дзейнасці гэтага гістарычнага асяродка былі ўзорныя. Гістарыёграфы атрымлівалі зверху тэмы і праграмныя ўказанні, падчас напісання абгаворвалі са Стэфанам Баторыем складаныя пытанні, пасля чаго напісаныя часткі падлягалі асабістаму кантролю ўладара, які таксама дастаўляў ім матэрыял. Вядома, што Форгах атрымаў ад Баторыя “multa scripta eius rei causa”. Вядома таксама, што Баторы ў 1577-1578 гг. за пасрэдніцтвам С.Гозія спрабаваў здабыць з Ватыканскай Бібліятэкі помнікі гісторыі Польшчы і Венгрыі. Аднак гэтая акцыя скончылася безвынікова.

Кароль ствараў як мага лепшыя матэрыяльныя ўмовы для сваіх гістарыёграфаў. Жан-Мішэль Брута атрымліваў на пачатку сваёй службы 450 талераў штогод, потым – 550 талераў, а з 1 красавіка 1581 г. – 841 польскі злоты. Гістарыёграфы мелі сакратара для перапісвання сваіх твораў; шчодра ўзнагароджваліся пры двары, суправаджалі манарха ў яго падарожжах, вайсковых выправах, найважнейшых дзяржаўных актах, жылі пры каралі на Вавелі і ў Гродне.

Галоўнай асобай другога перыяду прыдворнай батарыянскай гістарыяграфіі заставаўся Жан-Мішэль Брута (1515 - 1592 гг.) – венецыянец, фігура маляўнічая і авантурная, літаратурны вандроўнік, доўгі час да таго, як трапіў на двор Баторыя, бяздомны, з нестабільнай жыццёвай сітуацыяй. Скончыў Падуанскі універсітэт. Ён карыстаўся вялікім аўтарытэтам і даверам у манарха. У маладосці ён быў манахам латэранскага закону, пасля таго, як скінуў манаскі каптур, вандраваў па Заходняй Еўропе, зведаў безліч прыгод. Рэлігійныя перакананні яго цяжка акрэсліць: фармальна ён быў кальвіністам, а па сутнасці – гуманістычным вольнадумнікам, які даходзіў у сваіх рэлігійна-філасофскіх роздумах да далёка ідучых скрайнасцяў і да новай схаластыкі. Папскі нунцый у лісце да кардынала пісаў: “Ян Міхал Брута, венецыянін... улюбенец караля; піша па загадзе караля гісторыю Венгрыі і шмат іншых рэчаў напісаў; яго слова ў караля шмат значыць; ён чалавек без усялякай рэлігіі, ці хутчэй, як гаворыцца, прыхільнік атэістычных прынцыпаў. Брута ўбогі, прагны да грошаў і займаецца іх выцягваннем з манарха; выдатны ў вынаходніцтве фартэляў у падмане; адданы разврату, бо меў дзве жонкі: першая з іх жыве

дагэтуль у Базэле, у той час як другая, якую ўзяў пры жыцці першай, памерла ў Семіграддзі”.

Жан-Мішэля Брута сучаснікі найбольш цанілі за дасягненні ў дзвюх галінах: педагагічна-маралістычнай і гістарычнай. Ён напісаў гісторыю панавання Карла V, потым “Florentinae historiae libri VIII” (Ліён, 1562 г.) за грошы і па заказу праціўнікаў Медзічы. У гэтых працах ён грунтаваўся на ідэях Макіявелі, хаця даў зусім адваротную інтэрпрэтацыю падзей. Сучаснікі цанілі таксама Брута як гісторыка-рытора, цудоўнага стыліста. Ён павінен быў працягваць гуманістычную інтэрпрэтацыю гісторыі Венгрыі Антонія Банфіні, з-пад пяра якога выйшлі “Decades tres rerum Ungaricarum” (Базэль, 1543 г.). Першай друкаванай працай Ж.-М.Брута на службе С.Баторыя быў твор “O pochwałach historii” (Кракаў, 1582). Выдаў таксама гісторыю вайны С.Баторыя супраць Вялікага княства Маскоўскага – “Nobilius Flaminius Italus. De rebus gestis Stephani I regis Pol. Contra M.Moschorum Ducem narratio. Romae 1582”.

У 1585 годзе Брута скончыў пісаць “Гісторыю Венгрыі”, якая ахоплівала перыяд ад 1490 да прыкладна 1560 года (мажліва, была дапісана і да пачатку панавання на семіградскім троне самога С.Баторыя ў 1571 годзе, але рукапіс захаваўся не поўнасцю да моманту друкавання яго ў XIX ст.). Кароль, мусіць, быў задаволены працай Брута, таму што адразу даручыў яму апісанне ўласнага панавання ў Рэчы Паспалітай. Для гэтага ўзяў пісьменніка з сабою ў Гродна восенню 1585 г., дзе ён знаходзіўся пры каралі да самай яго смерці 12 снежня 1586 г. Гэта трагічнае здарэнне змяніла лёс гісторыка: ён вымушаны быў шукаць новых мецэнатаў. Знайшоў іх у абліччы праціўнікаў Стэфана Баторыя – Габсбургаў. Быў прыдворным гістарыёграфам імператара Рудольфа II, але пад канец жыцця перабраўся на двор Жыгімонта Баторыя ў Семіграддзе, дзе і памёр у 1592 г.

Яшчэ на першым этапе прыдворнай гістарыяграфіі, у 1577-1578 гг., Баторы задумаў напісанне новай сінтэзы польскай гісторыі, але сустрэўся тут з нечаканымі складанасцямі: цяжка было знайсці гісторыка, які ўзяўся бы за гэтую справу. У гэты час у Польшчы назіраецца росквіт гістарыяграфіі, а менавіта дзеепісарства (той часткі гістарыяграфіі, якая займалася апісаннем гісторыі краіны ад яе пачаткаў да сучаснасці). Але гэта была некантраляваная гістарыяграфія, шляхецкая па сваім ідэйным змесце. Цяжка ўявіць, каб за складанне афіцыйнай версіі польскай гісторыі пад дыктоўку Баторыя ўзяліся такія выдатныя дзеяпісы, як Свентаслаў Ажэльскі, Станіслаў Ажа-

хоўскі ці нават Марцін Кромэр, нягледзячы на яго манархічныя перакананні. Кожны з гісторыкаў па-свойму ўяўляў навуковы варштат і адпаведна па-свойму маляваў панараму мінуўшчыны Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Варта ўзгадаць тут і Мацея Стрыйкоўскага, які дакладна ў гэты самы час займаўся апісаннем велічнага мінулага ВКЛ і творчасць якога таксама не ўкладаецца ў пракрустава ложа афіцыйнай гістарыяграфіі.

Аднак знайшоўся ахвотны ўслужыць каралю – пратэжэ Яна Замойскага Станіслаў Сарніцкі. Як піша аб ім М.Вішнеўскі, "вучоны, але выхвальны даследчык, які гнаўся за прыбыткам, дамагаючыся нацыянальнай славы, не саромеўся выцягнуць руку па ўзнагароду, не меў наймалейшага паняцця ні аб мастацтве гісторыі, ні аб годнасці гісторыка".

Такое меркаванне даследчыка XIX ст. аб С.Сарніцкім не зусім вернае. Нягледзячы на недахопы характару і інтэлекту, павярхоўнасць і схільнасць да кампіляцый, гэта была асоба рэнесансавага маштабу, грунтоўна адукаваная (вучыўся ў Вітэнбэргу, Падуі) і вядомая ў навуковым свеце. Той жа М.Вішнеўскі прызнаваў, што "ў крытыцы даўных часоў калі-некалі пераўзыходзіць Кромэра", яго "лаціна правільная і часам аздобная".

Сарніцкі, як і Брута, быў кальвіністам, праўда, па пытаннях рэлігіі выказваўся памяркоўна. У 60-я гады XVI ст. быў вядомы сваёй палемікай у абарону кальвінізма супраць радыкальных "польскіх братоў". Адна з падобных дыскусій адбылася ў Кракаве ў кастрычніку 1558 г. У ёй бралі ўдзел паслы ад літоўскіх збораў, якія ехалі на скліканы антытрынітарыямі сінод у Пінчове, і Гжэгаж Павел. У 1561 г. Сарніцкі адышоў ад актыўнага рэлігійнага жыцця, адмовіўся ад функцыі міністра кальвінскага збору і пакінуў дзейнасць у малапольскім кальвінскім касцёле, хаця надалей заставаўся кальвіністам.

Станіслаў Сарніцкі разам з братам Янам і канцлерам Я.Замойскім удзельнічаў у пасольстве ў Парыж да караля-электа Генрыха Валуа. Падчас другой элекцыі далучыўся да прыхільнікаў Баторыя; у сакавіку 1576 г. у Кракаве вітаў прыбыўшага на каранацыю Стэфана Баторыя панегірычным трактатам "Oratio pro lege electionis...", у якім выступіў супраць шляхецкага свавольства, за рэформу вольнай элекцыі.

Пяру С.Сарніцкага належыць твор "Гетманскія кнігі" ("Księgi hetmańskie z dziejów rycerskich wszytkich wieków zebrane i praktyka albo experientia hetmanów najjaśniejszego Zygmunta Starego króla polskiego, a także cesarza Karola V i Solimana tureckiego..., objaśnione ku ćwiczeniu młodych ludzi nacyjej naszej polskiej" 1577 г.), напісаны на падставе

прац замежных і польскіх гісторыкаў, у тым ліку Длугаша, Кромэра, Дэцыя, а таксама "гісторый рускіх і літоўскіх". Твор гэты ніколі не быў надрукаваны. Па меркаванні Я.Сікорскага, "Гетманскія кнігі" ў адрозненне ад іншых вайсковых трактатаў уяўляюць сабой першую рэнесансавую спробу навуковай сістэматызацыі матэрыялу. З боку ілюстрацый і тэхнічных апісанняў яны пераўзыходзяць астатнія польскія вайсковыя трактаты XVI ст. Дзякуючы гэтаму "Сарніцкі, дылетант у вайсковых справах, здабыў сабе трывалае месца ў гісторыі польскага вайсковага пісьменніцтва".

Нельга не прызнаць, што Сарніцкаму ўласцівы шчыры патрыятызм, які ён дэманструе на старонках "Гетманскіх кніг". Магчыма, дзякуючы гэтаму ён і быў залічаны ў шэраг "кліентаў" караля Стэфана Баторыя са сталым заробкам 100 злотых польскіх і прапановай напісаць гісторыю Рэчы Паспалітай. Статус Сарніцкага не адпавядаў статусу Брута, паколькі ён не быў прыдворным гістарыёграфам і не атрымліваў ад Баторыя інструкцый і ўказанняў, у якім кірунку пісаць сваю працу. Адсюль вынікае галоўная памылка Сарніцкага, з прычыны якой ён быў пазбаўлены каралеўскай падтрымкі, а менавіта: кіруючыся інтарэсамі ўласнай славы і нацыянальнага гонару палякаў, ён прысвяціў большую частку свайго вялікага твора першапачатковай, легендарнай гісторыі народа, а не праўдзівым падзеям мінулага. "Можа, разумееце, – звяртаўся ён да польскіх сенатараў, – што збіраючыся пісаць аб гэткай новай рэчы як польская гісторыя ад Асармота, я буду асуджаны, што пад Ватыканам, альбо хутчэй пад Вавелям, знайшоў нейкую невядомую дагэтуль хроніку, замкнутую ў алавяную скрынку і аблітую воскам; але такія, прачытаўшы мой твор, забачаць яшчэ больш асаблівейшую і цудоўнейшую рэч, чым знойдзеная ў зямлі кніга".

Ён выхваляецца, што "зрабіў немалую паслугу народу, выводзячы яго шляхетны пачатак не з басні, як было дагэтуль, а з сапраўднай гісторыі. Паказаў, што нашы продкі не былі находнікамі і не ўціснуліся ў чужую зямлі, але спрадвеку жылі на гэтай зямлі, і што Сармацыя заўжды распасціралася аж да Сармацкіх гор". Выводзячы пачаткі народа ад Асармота, хацеў падлашчыцца да землякоў у надзеі ўзнагароды, пра якую пасля смерці Стэфана Баторыя ўвесь час нагадваў панам і сенатарам. Толькі ў шостай (з васьмі) кнізе Сарніцкі распачаў сапраўдную гісторыю ад Мечыслава і прыняцця хрысціянства да Казіміра Вялікага. Сёмую кнігу давёў да смерці Жыгімонта

Аўгуста, у восьмай толькі коратка апісвае сеймы да смерці Стэфана Баторыя.

У 1582 г. у Кракаве Сарніцкі выдаў праспект сваёй гісторыі Польшчы (“Annalium Polonicorum qui in lucem propediem edentur brevissima synopsis”), які перакanaў караля і канцлера ў бясплённасці падобнага падыходу да гісторыі. Не жадаючы стаць пасмешышчам для адукаванай публікі, яны адмовіліся быць пратэктарамі гэтага гістарыёграфа. Гэты крок, дарэчы, сведчыць аб Стэфане Баторыі як аб сапраўдным знаўцы гісторыі і асветніку, якому праўдзівая гісторыя была мілейшая за велічную хлусню. Тым не менш пасля смерці Баторыя, у 1587 г., С.Сарніцкі выдаў свой твор пад назвай “Annales sive de origine et rebus gestis Polonorum et Lituanorum”.

Калі Стэфан Баторы і Ян Замойскі канчаткова вырашылі развітацца з С.Сарніцкім, на службу да караля паступіў малады сакратар Рэйнольд Гэйдэнштэйн (1553-1620), які павінен быў апісаць адзін з найважнейшых момантаў панавання Стэфана Баторыя – пераможную вайну з царом Іванам Грозным за Інфлянты ў 1577-1582 гг. Як аказалася потым, гэты сціплы на першы погляд твор стаўся вяршыняй афіцыйнай гістарыяграфіі апошняй чвэрці XVI ст.

Рэйнольд Гэйдэнштэйн нарадзіўся ў Каралеўцы, дзе вучыўся ва універсітэце, потым працягваў вучобу ў Вітенбэргу і Падуі. 7 чэрвеня 1582 г. у Гродне быў залічаны ў штат каралеўскіх сакратароў. Да гэтага часу ён, магчыма, быў сакратаром прускага герцага Альбрыхта Фрыдрыха і лічыў сябе немцам, аднак, перайшоўшы на службу Баторыя, да канца жыцця заставаўся верным каралям Рэчы Паспалітай. Ажаніўся з полькай і прыняў у 1591 г. каталіцкую веру. Яго звязвалі блізкія стасункі таксама з Янам Замойскім. Гэйдэнштэйн выконваў важныя даручэнні караля падчас так званай Лівонскай вайны. Да канца жыцця Стэфана Баторыя ён знаходзіўся каля караля ў Кракаве і Гродне. За адданую службу быў набілітаваны на сейме 1585 года. Пасля смерці Баторыя стаў сакратаром Жыгімонта III.

За ўзор працы “De bello Moscovitico commentariorum libri sex”, якая, як лічаць Б.Кацоўскі і Г.Барыч, была выдадзена ў Кракаве не ў 1584 г. (як пазначана на вокладцы), а ў 1585 г., Рэйнольд Гэйдэнштэйн разам з Баторыем і Замойскім выбралі “Каментары аб гальскай вайне” Ю.Цэзара. У гэтай працы аўтар апісаў паходы Баторыя, якія былі праверaны і дапоўнены каралём і канцлерам. Твор павінен быў служыць мэтам інфармацыі грамадскасці Рэчы Паспалітай і замежжа аб ходзе вайны, а так-

сама абароне палітыкі Баторыя. Ён меў характар панегірыка караля і яго канцлера. Сапраўды, твор дасягнуў сваёй мэты: экзэмпляры яго знаходзіліся ва ўсіх вялікіх бібліятэках Еўропы, аб ім з павагай пісалі выдатныя дзеячы таго часу, хаця пасля смерці Баторыя на сейме канвакацыйным Гэйдэнштэйну пагражала забарона ягоных "Каментароў", чаго дамагаліся С.С.Чарнкоўскі і Радзівілы, якія лічылі, што Гэйдэнштэйн абразліва і памылкова прадставіў іх дзейнасць падчас маскоўскіх кампаній.

Другім вялікім творам Р.Гэйдэнштэйна і адначасова прыкладам афіцыйнай батарыянскай гістарыяграфіі можна лічыць "Гісторыі польскай кніг дванадцаць" (Rerum Polonicarum ab excessu Sigismundi Augusti libri XII), апублікаваныя сынам Р.Гэйдэнштэйна, Янам, у 1672 г. у Франкфурце-над-Майнам. Сын давёў гісторыю да 1603 г. Гэты твор складаецца з трох частак: у кнігах I-II апісваюцца элекцыя і панаванне Генрыха Валуа, элекцыя Баторыя; кнігі III-VII – гэта амаль нязмененыя "Каментары аб Маскоўскай вайне"; кнігі VIII-XII прысвечаны ўнутраным справам часоў Баторыя і элекцыі Жыгімонта III, а таксама перыяду яго панавання да моманту вяртання Замойскага з паходу 1601-1602 гг. Усе аўтары, якія займаліся творчасцю Р.Гэйдэнштэйна, адзначаюць, што яго працы служылі глорыфікацыі вобразаў Баторыя і Замойскага, якім гісторык быў аддданы нават пасля смерці абодвух.

Такіх рознамаштабных і непадобных гісторыкаў, як Ж.М.Брута, С.Сарніцкі, Р.Гэйдэнштэйн, аб'ядноўвала служба каралю Стэфану Баторыю і кароннаму канцлеру Яну Замойскаму. Апошнія мэтанакіравана стваралі канцэпцыю афіцыйнага погляду на гісторыю Рэчы Паспалітай, што, аднак, не перашкаджала іншым дзеяпісам і гістарыёграфам выказваць свае погляды на мінуўшчыну федэратыўнай краіны і прысвячаць свае творы каралю аматару музы Кліа (М.Стрыйкоўскі, М.Кромэр, А.Гвагнін). Кароль падтрымліваў і заахвочваў гісторыкаў працаваць над гісторыяй Рэчы Паспалітай, упарадкаваў выдавецкую справу з дапамогай указаў аб забароне друкавання гістарычных твораў без свайго дазволу.

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што ў часы панавання Стэфана Баторыя гістарыяграфія ў Рэчы Паспалітай дасягнула вяршынь, асабліва ў дзеепісарскім жанры, які адлюстроўваў гісторыю ад старажытнасці да сучаснасці. З перыядам кіравання гэтага караля звязваецца новы этап у гістарыяграфіі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, які атаясамліваецца з рэнесанснымі зменамі ў духоўным жыцці краіны.

## ГІСТОРЫЯ КІЕЎСКАЙ РУСІ І ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў ПОЛЬСКІХ ХРОНІКАХ XII – XVI ст.

У польскіх хроніках, пачынаючы з XII ст., істотнае месца займае гісторыя Русі, а пазней Вялікага княства Літоўскага. Варта адзначыць, што гэтая тэма часткова асветлена ў польскай гістарыяграфіі: аб Русі ў найранейшых польскіх хроніках пісалі Анджэй Грабскі, Ян Паверскі, Францішак Сяліцкі і інш.

Аналізуючы розныя выказванні аб паляках, А.Ф.Грабскі прааналізаваў таксама польскія меркаванні аб суседзях, у тым ліку аб русінах, уключаючы погляды, выказаныя ў хроніках Гала Аноніма і магістра Вінцэнта, званага Кадлубкам. Апошнім часам на тэму ўзаемных польска-рускіх культурных кантактаў да канца XV ст. выказаўся Ф.Сяліцкі. Ён адзначае, што “з канца XIV ст. пачынаецца сімбіёз культуры беларускай з польскай”, прычым падкрэслівае, што ўзровень першай не быў ніжэйшы за польскі, абгрунтоўваючы захаванымі помнікамі культавай архітэктуры і пісьменства.

Важнай праблемай з’яўляецца высвятленне месца ВКЛ у еўрапейскай культуры. Таму цікава прааналізаваць, як глядзелі на нас польскія храністы, які вобраз усходніх земляў яны перадавалі заходняму грамадству.

З часоў Майстра Вінцэнта можна заўважыць схільнасць храністаў да ўзнясення Польшчы вышэй за іншыя краіны, перабольшванне яе перамог і ролі сярод іншых дзяржаў. Але польскае дзеепісьменства прайшло пэўную эвалюцыю ў адносінах да суседніх усходніх тэрыторый: пэўная непрыхільнасць спачатку была прадыктавана палітычнай кан’юнктурай і захоўвалася аж да сярэдзіны XVI ст., і толькі Мацей Стрыйкоўскі перамог гэтую “нелюбоў”. У гэтым вялікая заслуга аўтара.

Першай наратыўнай крыніцай, з якой мы можам даведацца аб стаўленні польскага грамадства да Усходу, з’яўляецца “Польская Хроніка” Гала Аноніма, напісаная ў 1112-1116 гг. З тэксту хронікі вынікае, што аўтар ведаў усходніх суседзяў Польшчы – Русь (з якой яе злучаў гандлёвы шлях), печанегаў і полаўцаў (як саюзнікаў русінаў і жудасных паганцаў, якія напалі на Польшчу ў 1101 г.), а таксама прусаў (лічыў іх найгоршымі ворагамі хрысціянскай веры і надзяляў усялякімі адмоўнымі рысамі).

З геаграфічнай наменклатуры сустракаем у Гала Аноніма толькі горад Кіеў і раку Буг. Большасць інфармацыі, якая

датычыцца Усходу ў Хроніцы Гала, характарызуе непрыхільнае, нават абразлівае стаўленне адносна русінаў і іх каралёў. У апісанні паходаў Баляслава І Храбрага на Русь храніст супрацьпастаўляе мужных, гераічных польскіх рыцараў, якія не хацелі трапіць у няволю, прастакам і баязліўцам русінам, якія не могуць змагацца па-рыцарску, карыстаюцца дапамогай паганцаў. Там жа сустракаем антытэзу – мужны кароль Баляслаў і „найбаязлівейшы з каралёў" кароль русінаў, нават імя якога храніст не ведае. Падобную характарыстыку ўсходніх суседзяў сустракаем і ў рэляцыі аб кіеўскім паходзе Баляслава Смелага.

Сярод іншых узгадак аб Русі і польска-рускіх адносінах Гал падае інфармацыю (часта без каментароў) аб дынастычных сувязях – жаніцьбе Казіміра Аднавіцеля з Марыяй-Дабранегай, дачкой вялікага князя кіеўскага Уладзіміра І (1041 г.), Мешка, сына Баляслава ІІ з рускай дзяўчынай (1089 г.), аб шлюбе дачкі Уладзіслава Германа з Яраславам, князем уладзімірскім (1106 г.). Аднак храніст замаўчаў факт рускага паходжання жонкі свайго героя Баляслава ІІІ Крываўстага. Гэта была Збыслава, дачка вялікага князя кіеўскага Святаполка Ізяславіча (1103 г.).

Непрыхільныя адносіны аўтара хронікі пачатку ХІІ ст. да русінаў было вынікам агульнага стаўлення заходнееўрапейскага каталіцкага духавенства да хрысціян усходняга абраду. Праз абразлівыя характарыстыкі Гал выказваў вышэйшасць палякаў над русінамі, лічыў Польшчу за сапраўды хрысціянскую краіну, якая высунута найдалей на поўнач і ўсход. Падобная пазіцыя не спрыяла стварэнню праўдзівага вобраза культуры, традыцый і рэлігіі народаў Усходняй Еўропы як у асяроддзях палітычных і рэлігійных эліт, так і ў шырока зразумелым грамадстве Каралеўства Польскага ў сярэднявеччы.

Непрыхільнасць да русінаў і іх веры, пачуццё адасобленасці ад Усходу, перакананне ў патрэбе ўзмацнення сувязі Польшчы з рымскім хрысціянствам сярод "інтэлігентных" колаў сустракаем у лісце кракаўскага клера да св.Бернарда з Клерво. З цягам часу такія адносіны прывялі да ліквідацыі праваслаўнага набажэнства на "славянскай" мове ў касцёле св.Крыжа на Клепажу (прадмесце Кракава) ў часы панавання Аляксандра Ягелончыка, існаванне якога занатаваў у сваёй хроніцы Мацей з Мяхова.

Пэўныя, хаця і невялікія падставы да абвінавачванняў, што Русь не хоча быць падобная ў рэлігійным сэнсе ні да лацінскай, ні да грэчаскай цэркваў, былі. Бо менавіта тады ішоў працэс адмаўлення ад візантыйскага верхавенства на Русі і ства-

рэння ўласнай аўтакефальнай царкоўнай структуры, "веры рускай", веры ўсходнеславянскай. На жаль, працэс пошукаў, стварэння спецыфічнай усходнеславянскай веры, якая выводзілася з візантыйскага абраду, успрымаўся ў Польшчы як ерась, з якой трэба змагацца.

Наступнай вялікай крыніцай аб усходнееўрапейскім грамадстве, напісанай сярэднявечным польскім гістарыёграфам, з'яўляецца "Польская Хроніка" Магістра Вінцэнта, створаная напрыканцы XII і ў пачатку XIII ст. У ёй мы таксама знаходзім непрыхільную характарыстыку русінаў, нават больш, чым у творы Гала Ананіма, пашыраную і насычаную большай нянавісцю. Гэта быў працяг выразнага пачуцця вышэйшасці палякаў як "сапраўдных хрысціян" над русінамі-схізматыкамі. Храніст даў даволі падрабязную рэляцыю аб падзеях на польска-рускім памежжы і адносінах Польшчы з усходнімі суседзямі. Паводле канцэпцыі Магістра Вінцэнта, усходняя палітыка Казіміра Справядлівага, героя ягонай хронікі, была працягам палітыкі, якую вялі былыя князі і каралі Польшчы. А праведзеная храністам рэвізія вобраза гісторыі польска-рускіх адносінаў у мінулым павінна была пацвердзіць былую залежнасць Русі-Украіны ад Польскай дзяржавы. Таму Магістр Вінцэнт лічыў, што з найдаўнейшых часоў русіны былі ворагамі Польшчы, якія не прапускалі магчымасць адпомсціць палякам. У гэтай канцэпцыі русіны аб'ядноўваюцца (нават коштам фальсіфікацый) з усімі бунтаўнікамі і знешнімі ворагамі краіны, такімі, як яцвягі, геты (прусы), панты (полаўцы), памаране. Апісваючы бунт Мацлава супраць Казіміра Аднавіцеля, насуперак відавочным фактам Кадлубак піша, што русіны падтрымлівалі бунтаўніка. На самой справе гэта Казімір, жанаты з Дабранегай, дачкой кіеўскага князя Уладзіміра І і сястрой Яраслава Мудрага, аб чым Вінцэнт свядома замоўчвае, карыстаўся дапамогай русінаў, што нарэшце і прынесла яму поспех.

Русіны былі для Вінцэнта Кадлубка варварамі, баязліўцамі, грабіцелямі і марадзёрамі, лайдакамі, для якіх уласцівыя пыха, нянавісць, даўняя варожасць і нялюдскасць. Кадлубак абразліва параўноўвае іх з сабакамі, жорсткімі ільвамі, а князя русінаў – з жэрабем дзікага асла, пеўнем, прыпісвае ім разнастайныя гвалты, нават свят атацтва. Русіны нібыта заўсёды знаходзіліся ў блізкіх стасунках з паганскімі народамі – прусамі, печанегамі, полаўцамі, якімісьці далёкімі варварамі. Як у выпадку з Галам Ананімам, такія характарыстыкі не садзейнічалі ўзаемным кантактам Польшчы і Русі, а павялічвалі ўзаемныя

антаганізмы. А.Ф.Грабскі лічыў, што храніст быў заангажаваны ва ўсходнюю палітыку Казіміра, а, з другога боку, падтрымліваў меркаванні, якія былі распаўсюджаны ў асяроддзі непрыхільнага русінам кракаўскага клеру, супрацьпастаўляў “Orientales” (народы, якія жывуць на Усходзе) сапраўдным хрысціянам – палякам. З прычыны такога стаўлення Магістра Вінцэнта да ўсходніх тэрыторый у хроніцы не знайшлося месца на характарыстыку культуры, традыцый, узаемных уплываў і памкненняў народаў на абшарах Усходняй Еўропы. Нават яе геаграфія была абмежавана тэрыторыямі, якія непасрэдна суседнічаюць з Польшчай (Драгічын, Брэст, Уладзімір Валынскі, Галіч і Кіеў).

Значна менш інфармацыі аб Усходзе сустракаецца ў польскай аналістыцы (летапісанні) XIII ст. У старэйшым “Рочніку Кракаўскай капітулы” (“Rocznik kapituly Krakowskiej”) знаходзім паведамленні аб смерці кіеўскага князя Ізяслава, аб выправе Казіміра Справядлівага, аб перамозе ў 1205 г. пад Завіхостам над Раманам галіцка-валынскім, аб рускім нападзе на Люблін. Змена палітычнай сітуацыі ва Усходняй Еўропе ў сярэдзіне XIII ст. знайшла адлюстраванне ў грамадскай свядомасці, ва ўзгадках аб лютых татарах і літвінах. Такім чынам, адмоўная характарыстыка русінаў у Кракаве надалей заставалася ў асяроддзі кракаўскага духавенства і, магчыма, пры каралеўскім двары.

Наступная “Хроніка Велькапольская” ахоплівае перыяд у гісторыі Польшчы ад легендарных часоў да 1271-1272 г. Традыцыйна яна падзяляецца на дзве часткі: 1) да 1202 г. (з большага адпавядае хроніцы Магістра Вінцэнта); 2) XIII ст. (апісвае амаль выключна гісторыю Велькапольшчы, таму ёй і нададзена гэтая назва). Хроніка ўзнікла ў канцы XIII - пачатку XIV ст. на падставе твораў XIII ст. “Хроніка Велькапольская” можа нас зацікавіць інфармацыяй аб татарскіх нападах 1241, 1259 гг., набегах літвінаў на Польшчу (1260 г.), выправах Польшчы на прусаў (1261 г.), наездах русінаў і літвінаў на Чэрск (1262 г.). Татараў, прусаў, літвінаў і іншых паганцаў аўтар лічыць пакараннем за грахі, бачыць у іх біч Божы. Тут жа ёсць цікавая інфармацыя аб каранацыі Міндоўга і аб тым, як ён вярнуўся ў паганства.

У “Хроніцы Дзежвы”, якая ўзнікла ў першай палове XIV ст., лаканічна гаворыцца аб перамогах польскіх князёў над рускімі ў духу Магістра Вінцэнта.

“Хроніка Янка з Чарнкова” напісана ў 1370-1384 гг. падканцлерам Польскага Каралеўства пры Казіміры Вялікім. Яна

дэманструе больш шырокія палітычныя гарызонты аўтара, звязаныя з палітыкай яго патрона ў Галіцка-Валынскай Русі і зменамі арыентацыі пасля смерці Казіміра Вялікага і няўдалага панавання Людвіка Венгерскага. Адносна рускіх земляў варта ўзгадаць нататку Янка з Чарнкова аб устанаўленні перамышльскага, хэлмскага і ўладзімірскага біскупстваў у 1375 г. Храніст добра арыентаваўся ў некаторых унутраных літоўскіх справах: піша аб сямейных адносінах сярод Гедымінавічаў; апісвае ўнутраную вайну паміж Кейстутам і Ягайлам у 1382 г.; праўда, памылкова ўзгадвае аб хрышчэнні Вітаўта з братам на Мазоўшы пасля смерці бацькі і ўцёках з няволі. У "Хроніцы Янка з Чарнкова" знаходзім інфармацыю аб тым, што Ягайла быў захоплены Кейстутам "у пэўным замку на Белай Русі, званым Полацк". Гэта адна з найбольш ранніх у Еўропе ўзгадак назвы "Белая Русь" адносна земляў сучаснай Беларусі. Праўдападобна ў той перыяд гэтай назвай акрэслівалі ўжо ўсходнія тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, заселеныя праваслаўным славянскім насельніцтвам.

Ян Длугаш у першых радках так званага "дэдыкацыйнага ліста" да сваёй "Гісторыі" пісаў: "Сабраўся пераказаць у пісьмовым выглядзе летапіс гісторыі Польшчы, а таксама іншых народаў, якія суседнічаюць з Польшчай". У раздзеле, прысвечаным Яну Длугашу, асветлены некаторыя аспекты яго адносінаў да ўсходніх земляў. Трэба адзначыць, што ў XV ст. істотна змянілася стаўленне да Усходняй Еўропы. Палітычныя змены, якія адбыліся ў часы панавання каралёў і Уладзіслава Ягайлы і яго сына Казіміра Ягелончыка, прывялі да больш цеснага палітычнага саюза паміж Польшчай і ВКЛ, аб'яднання іх у адзіны дзяржаўны арганізм. Гэта знайшло своеасаблівае адлюстраванне ў выдатным гістарычным творы Яна Длугаша. Праўда, часам у яго ўзнікала ўласная інтэрпрэтацыя падзей.

У 1378 г. адбылося 8 нападаў крыжакоў на ВКЛ, і літвіны, па словах Длугаша, даведзеныя да адчаю, вырашалі пакінуць свае сялібы і пасяліцца дзе-небудзь у недаступных мясцінах, а Літву і Жмудзь пакінуць крыжакам. "І зрабілі б тое, калі б іх планам не перашкодзіла ўступленне Ягайлы на польскі трон". Ні ў воднай з польскіх, прускіх ці рускіх крыніц няма ўзгадкі аб плане перасялення літвінаў. Але Длугаш упарта падкрэслівае меркаванне, якое прыпісвае нават Вітаўту, "што ён і яго падданыя ўстрымаліся ад выезду з Літвы і Жмудзі, дзякуючы дапамозе палякаў, і што палякам належыць на ўсе часы падзяка за вяртанне дарагой радзімы". Як бачым, гісторык сам

сканструяваў пэўную гіпотэзу, якая тлумачыць заключэнне палітычнага саюза паміж Польшчай і ВКЛ. Вядома, што асабіста гісторык не быў задаволены ўступленнем на польскі трон літвіна Ягайлы і яго дынастыі (што прычынілася да забароны выдання "Гісторыі" ў друку).

Апісваючы частыя напады яшчэ язычніцкай Літвы на Мазоўша і іншыя польскія землі, Длугаш экстрапаляваў сваё адмоўнае стаўленне да іх на пазнейшыя часы. Адсюль вынікаюць некаторыя інтэрпрэтацыі палітычнай гісторыі ўсходнееўрапейскіх дзяржаў. Рочнікі дэманструюць даволі пасіўную ролю ўсходніх тэрыторый, якія Длугаш, як раней Кадлубак, разглядаў як плацдарм для пашырэння палітычнага ўплыву Польскага Каралеўства на Усход. Зрэшты, нельга чакаць поўнай аб'ектыўнасці ад сярэднявечнага аўтара. Але ў любым выпадку, Длугаш значна больш увагі, чым яго папярэднікі, прысвяціў усходнім тэрыторыям, хаця агульная канцэпцыя "Рочнікаў", як адзначаюць даследчыкі, была ў першую чаргу антыкрыжацкая. Усходняя тэндэнцыя захавалася і развівалася ў прадаўжальнікаў Длугаша – польскіх дзеепісьменнікаў М.Мяхоўскага, Б.Вапоўскага, М.Бельскага, М.Кромэра і інш., якія дзейнічалі ўжо ў зусім іншай палітычнай і культурнай сітуацыі.

Ян Длугаш упершыню ўвёў у сваю "Гісторыю" раздзел пад назвай "Харагрaфія" ("Chorografia"), у якім утрымліваюцца тагачасныя геаграфічныя ўяўленні аб Польскім Каралеўстве і суседніх землях. Гэты раздзел прынёс Длугашу заслужаную славу знакамітага географа, а таксама выкарыстоўваўся шматлікімі аўтарамі XVI ст. Аднак усё ж лепей прадстаўлена геаграфія Каралеўства Польскага, чым земляў Вялікага княства Літоўскага, на ўсход ад лініі Буга і Пісы. Калі ў басейне Віслы названы 101, а ў басейне Одры 51 рака і рачулка, то ў басейне Дняпра, Нёмана і Дзвіны ў "Харагрaфіі" названы адпаведна толькі 19, 10 і 3 ракі. Прычым Длугаш лепей ведаў рускія землі Кароны, чым ВКЛ.

Падобныя прапорцыі ў геаграфічным сэнсе застаюцца таксама і ў пазнейшых дзеепісьменнікаў. Так, Марцін Кромэр у сваім творы, які носіць назву „Польшча, альбо аб палажэнні, насельніцтве, звычаях, уладах і публічных справах Польскага Каралеўства кнігі дзве" ("Polska czyli o położeniu, ludności, obyczajach, urzędach i sprawach publicznych Królestwa Polskiego księgi dwie") (яго трэба разглядаць як дадатак да галоўнага твора М.Кромэра, гэта значыць хронікі) ўзгадвае толькі Бярэзіну, Днепр, Буг, Днестр, Нёман, Мухавец, Прэголу, Прут, Прыпяць, Стыр, Тур'ю, Случ,

Свіслач, Нараў, Серэт, Быстрыцу, Ліпу, Збруч, Смотрыч, Ушыцу, Мурахву (разам 21 раку з руска-літоўскіх тэрыторый). Нягледзячы на даволі шматлікія памылкі ў лакалізацыі геаграфічных пунктаў у Длугаша і Кромэра, усё ж трэба падкрэсліць, што Кромэр лепей арыентаваўся ва ўсходняй геаграфіі, чым Длугаш. Гэта тлумачыцца, па-першае, агульным прагрэсам навуковых ведаў у перыяд Рэнесанса, па-другое, тым, што Длугаш асабіста ніколі не быў за ўсходняй мяжой Каралеўства Польскага (атрымаўшы намінацыю на пасаду біскупа ў Львове перад самай смерцю, ён не здолеў ужо туды паехаць), у той час як Кромэр часта бываў на тэрыторыях ВКЛ і рускіх землях Кароны. Кромэр акрэсліў геаграфічнае палажэнне польска-літоўскай дзяржавы пасля 1569 года, разам з Лівоніяй, у градусах і мілях. Але ўсё ж падставовай крыніцай для Кромэра была длугашава "Харагрaфія".

У сваім галоўным творы – хроніцы "Аб паходжанні і гісторыі палякаў" ("De origine et rebus gestis Polonorum") Кромэр таксама прыводзіць інфармацыю аб геаграфіі Русі і ВКЛ. Але ў ім няма спецыяльнага раздзела аб Літве і Русі, якія пазней з'явіліся ў М.Бельскага і М.Стрыйкоўскага. Замест гэтага на пачатку хронікі мы знаходзім крытыку вываду славянскіх народаў, у тым ліку і польскага ад біблейскага Яфета, сына Ноя, які найбольш відавочным чынам праз пералічэнне шматлікіх пакаленняў біблейскіх продкаў адлюстроўваў тагачасныя ўяўленні аб хуткацечным часе. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў Кромэр увёў шмат метадалагічных змен. Па-першае, адкінуў біблейскую генеалогію: выводзіў палякаў не ад Яфета і Явана, а ад Асармота, "сядзіба якога найдаўнейшая ў Сарматыі". Прарадзімай славян, паводле Кромэра, была Сарматыя ва Усходняй Еўропе, гэта значыць, што ён паўтарыў за Мехавітай тэзіс аб еўрапейскім паходжанні славян. Кромэру таксама належаць цікавыя нататкі аб мове народаў ВКЛ: "З таго часу, як Літва мелася размаўляць па-руску, літоўская мова не была ва ўжытку, толькі тут, на марскім беразе, дзе сёння Прусы, Жмудзь, Інфлянты, аж да Віліі". Гэта значыць, што большасць земляў ВКЛ карысталася славянскай мовай.

Мацей з Мяхова, таксама як Длугаш, не быў на Усходзе, але даволі шырока пісаў аб Русі і ВКЛ у сваім "Апісанні Азіяцкай і Еўрапейскай Сарматыі", выдадзеным у 1517 г., прысвечаным пераважна татарам і блізкім да іх народам, гэта значыць Сарматыі Азіяцкай. Як у выпадку з творам М.Кромэра "Польшча...", мы разглядаем "Апісанне..." як дадатак да галоўнага гістарычнага твора Мехавіты "Хронікі палякаў" (Chronica Polonorum).

Мехавіта зрабіў вялікі крок наперад у славянскай праблематыцы, даказаў еўрапейскае паходжанне славян (дагэтуль на Захадзе традыцыйна лічылася, што славяне паходзяць ад скіфаў ці сарматаў, гэта значыць азіяцкіх народаў). Другая кніга трактата пачынаецца раздзелам "Аб Русі, як яна падзяляецца, якія мае багацці і што на ёй знаходзіцца". Варта адзначыць, што аўтар даволі добра акрэслівае межы Русі-Раксаланіі: "Усходні яе рубеж даходзіць да ракі Дон і балот Меатыды (Азоўскае мора), якія аддзяляюць Азію ад Еўропы". Такая мяжа паміж Еўропай і Азіяй была прынята ў XVI ст. "Мяжа Русі на поўдні – гэта горы Карпаты і рака Тырас (Днестр)... На ўсходзе мяжу Русі стварае Дон, Азоўскае мора і Крым, на поўначы Літва, а на захадзе Польшча".

Найвялікшай заслугай Мехавіты ў галіне геаграфіі Цэнтральна-Усходняй Еўропы з'яўляецца доказ таго, што няма "славутых Гор Аланскіх, Гіпербарэйскіх і Рыфейскіх, з якіх нібыта выцякаюць не меньш славутыя рэкі, апісаныя геаграфамі і знакамітымі паэтамі, такія як Дон, Днепр і Буг, а таксама найвялікшая з гэтых рэк Волга. Як вучыць вопыт, усё гэта нязгодна з праўдай і паведамленні гэтыя трэба выправіць, бо яны ёсць вынік нявуцтва".

Адносіны Мехавіты да Русі прыхільныя. Ён маляўніча апісвае багацці гэтага краю ("Зямля, якую апрацоўваюць і аруць прымітыўна, пасля пасеву зерня тры наступныя гады родзіць сама. Гэтак дзееца таму, што падчас жніва дазваляюць, каб троху зерня засталося на полі і ў наступным годзе вырастае збожжа без апрацоўкі і без арання"). У той жа час танальнасць апавядання змяняецца, калі ён пачынае гаварыць аб Літве. Мехавіта шмат увагі надае гісторыі і старажытнай паганскай рэлігіі Літвы і Жмудзі. Гэтыя апісанні характарызуюцца пэўнай пагардай. Аб Жмудзі, напрыклад, ён піша наступным чынам: "Людзі тут высокія і зграбныя, але прастакі і неачэсаныя, харчуюцца беднай і грубай ежай, смагу супакойваюць вадой, зрэдку толькі півам ці мёдам... У якасці хат не ўжываюць тут вычварных будоўляў, а жывуць у паасобных шопах, унутры прасторных, якія звужаюцца ўверх накшталт чаўна ці вялікага шалома, збудаваных з дрэва і саломы".

Мехавіта пералічвае, якія мясцовасці належалі да Жмудзі. Праўда, не называе тэрыторый, якія лічыліся Літвой, але ўказвае, што "на Жмудзі, якая мае 50 міль даўжыні, і на Літве, якая мае 30 міль, на вёсках размаўляюць па-літоўску".

Мехавіту можна таксама лічыць адным з першых этнографаў Усходняй Еўропы, хаця, як вядома, ён не быў на гэтых тэрыторыях, а чэрпаў інфармацыю, як лічаць даследчыкі, ад студэнтаў Кракаўскай Акадэміі, што прыбылі з ВКЛ, і іншых прыезджых адтуль.

Найбольшыя непаразуменні ўзнікаюць у дзеепісьменнікаў пры вызначэнні паняцця Русь Белая. Зрэшты, і сучасныя беларускія і іншаземныя даследчыкі таксама не маюць адзінага меркавання на тэму, дзе і калі з'явілася гэтая назва і якія тэрыторыі ахоплівала. Аб паходжанні тэрміна "Белая Русь" у гістарычнай літаратуры было выказана шмат самых розных меркаванняў. Напрыклад, у "Гісторыі БССР", выдадзенай Інстытутам гісторыі АН БССР у 1961 г., гаварылася: "Найбольш верагодна, што гэтая назва (Белая Русь) узнікла як процілеглая другой – "Чорная Русь". Чорнай Руссю называлася тая частка заходніх земляў Русі, якая ў першай палове XII ст. нібыта была захоплена літоўскімі князямі (раён Гродна, Слоніма, Навагрудка). Паняцце "чорны" азначала стан залежнасці, падпарадкавання, процілеглае паняццю "белы", якое выказвала стан волі, незалежнасці. Мажліва, што ў першай палове XIII ст. назва Белая Русь замацавалася за тою часткаю заходніх земляў Русі, якія за гэты час не былі падпарадкаваныя ні татара-манголамі, ні літоўскімі феадаламі". Аднак тэрмін "Белая Русь" упершыню з'явіўся не ў XIII, а ў XII ст., і таму яго ўзнікненне не можа звязвацца з татарскімі альбо літоўскімі захопамі рускіх земляў. Так, В.М.Тацішчаў адзначаў, што тэрмін "Белая Русь" у летапісах упершыню ўзгадваецца пад 1135 годам у Раскольніцкім і Растоўскім манускрыптах. Больш часта ўжываецца гэты тэрмін з другой паловы XII ст. У летапісах вялікі князь Андрэй Юр'евіч Багалюбскі з 1157 г. называецца ўжо князем Белай Русі.

Белаю Руссю называлі Маскоўска-Суздальскую Русь і пасля ўтварэння рускай цэнтралізаванай дзяржавы. У XV ст. найменне "Белая Русь" мела тое ж значэнне, што Вялікая Русь, і ніяк не было звязана з тэрыторыяй сучаснай Беларусі. Пры вялікім князі Іване III тэрмін "Белая Русь" уносіцца ў тытул вялікага князя Маскоўскага. Як адзначаў М.М.Карамзін, "исчисляя в титуле своем все особенные владения государства Московского, Иоан наименовал оное Белою Россиею, то есть великою или древнею, по смыслу сего слова в языках восточных".

Цікава адзначыць, што для ўсходнееўрапейскага фальклору характэрна паслядоўнае выкарыстанне апазіцыі "белае" – "чорнае", як уяўленне аб "сваім" і "чужым" свеце. Прычым "свае" і

“чужыя” ў эпасе адрозніваюцца па дзвюх прыкметах – нацыянальнай і рэлігійнай (Новиков Ю. Эпическая память о Великом княжестве Литовском // Senosios rastijos ir tautosakos sąveika: kulturine Lietuvos Didžiosios Kunigaikśtystes patirtis. – Vilnius, 1998. – S. 30-33). Рызыкнем выказаць меркаванне, што прыметнік “Белая” ў дачыненні да Русі выконваў тую ж функцыю – мусіў паказаць, што ім азначаны тэрыторыі, заселеныя праваслаўнымі славянамі. У адрозненне ад “Чорнай Русі” – тэрыторыі здаўна падпарадкаванай усходнеславянскім князям, але населенай пераважна неславянскімі плямёнамі, якія доўгі час заставаліся паганцамі, а пазней успрынялі каталіцтва. Цікава заўважыць, што тэрмінам “Белая Русь” часамі (да XVI ст.) называлі нават украінскія землі, гэта значыць зноў жа тэрыторыі адзінаверцаў славян, і ніколі – іншаэтнічныя і іншаканфесійныя.

У “Хроніцы еўрапейскай Сарматыі” А.Гвагніна ёсць раздзел, які называецца “Апісанне Вялікага княства Літоўскага, гэта значыць вывад і пачатак знатнага і слаўнага народа літоўскага”, а таксама “Хроніка рускай зямлі, у якой знаходзіцца кароткае апісанне ўсіх гарадоў, замкаў і правінцый да яе належачых…”, а таксама “Частка II хронікі рускай зямлі, у якой знаходзіцца апісанне межаў рускай зямлі і правінцый далучаных да Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага: як землі львоўскай, галіцкай, бэлзкай, хэлмінскай, пярэмышльскай, падольскай, валынскай, кіеўскай, мсціслаўскай, віцебскай, полацкай і іншых. А перад усім палажэнне межаў рускай зямлі”.

Калі з межамі ВКЛ справа больш-менш ясная, то межы Русі Гвагнін акрэслівае недакладна: “Руская зямля, якую здаўна завуць Раксаланіяй, ад усходу сонца ляжыць пры Белым возеры, пры рацэ Танаіс, якая Азію ад Еўропы аддзяляе; на захадзе з Валахіяй і малдаўскай зямлёй мяжуе; ад поўдня дзеляць яе горы Татры. А ёсць Русь траякая: адна Белая, другая Чорная, трэцяя Чырвоная. Белая каля Кіева, Мозыра, Мсціслава, Віцебска, Оршы, Полацка, Смаленска і Северскай зямлі, якая здаўна да Вялікага княства Літоўскага належыць. Чорная ў маскоўскай зямлі каля Белага возера і там паўсюль да Азіі. Чырвоная пры гарах, якія завуцца Бескідамі, якой польскі кароль загадвае, і да Кароны належыць: як у Каламыі, у Зыдачаве, у Снятыні, у Рагатыне, у Буску, etc. Пад тымі ж гарамі знаходзяцца такія паветы, як: галіцкі, пярэмышльскі, саноцкі, а пасярэдзіне славуты горад Львоў… На поўнач знаходзяцца паветы: хэлмскі, бэлзкі і луцкі. Замыкаецца руская

зямля ад палудня гарамі Татрамі і ракой Дзнестрам; ад усхода ракой Танаіс і перакопскай зямлёй. Ад поўначы мае літоўскую зямлю, а ад захаду польскую”.

Іншыя гісторыкі XVI ст. таксама дакладна не ведалі, дзе знаходзіцца Белая Русь. Так, Мацей з Мяхова пісаў, што “адзін даўні гісторык, апісваючы наезд венграў, ідучых з Угрыі ў кірунку Скіфскіх Балот, сцвярджаючы, што на мяжы Белай Русі бачыў выяву паганскага бажка, створаную з лёду”.

Нават Мацей Стрыйкоўскі, які амаль усё жыццё пражыў у ВКЛ, не меў уяўлення, што такое Белая Русь, бо ўжывае ў розных месцах “Хронікі польскай, літоўскай, жмудзкай і ўсёй Русі” акрэсленні Літва, Жмудзь, Русь, Літва Завілейская, Літва Павілейская, Русь Белая, Русь Чорная. Толькі Жмудзь адзначаў як сталую тэрыторыю. Раздзел III кнігі IV “Хронікі” называецца “Аб Белай і Чорнай Русі, усходніх, паўночных і паўднёвых старажытных народах, і іх князях Вяліканаўгародскіх, Ізборскіх, Пскоўскіх, Белаазёрскіх, Кіеўскіх, Луцкіх, Уладзімірскіх, Валынскіх, Галіцкіх, Падгорскіх, Падольскіх”. Ужо з назвы відаць, што аўтар мае на ўвазе сучасныя расійскія і ўкраінскія землі, але не беларускія. Праўда, ён узгадвае таксама аб “літоўскіх беларусах” (“Bielorussakach Litewskich”), але не акрэслівае дакладна іх месца жыхарства. Пад “літоўскімі беларусамі” Стрыйкоўскі разумеў праваслаўных жыхароў ВКЛ (пасля Люблінскай уніі Украіна адышла да Польшчы). Аднак далей Белай Руссю называе Маскоўскую Русь і вельмі рэдка – сучасную Беларусь. Князь Іван Данілавіч Каліта ў яго называецца князем “Бела-Рускім”, вялікія князі маскоўскія – “дзедзічы Бела-Рускай манархіі”. Адначасова, паводле Стрыйкоўскага, Русь Белая знаходзіцца недзе на поўдні. Прынамсі князь Уладзімір Святаслававіч, “захапіўшы рускія княствы …усю Русь паўночную, усходнюю і на поўдзень лежачую Белую і Чорную, пад сваю моц прывёў”. Далей Львоў узгадвае як “галаву ўсёй Русі Чорнай”. Васілька Галіцкі названы сярод старшых і самых заможных князёў Чорнай і Белай Русі. Такім чынам, у Стрыйкоўскага тэрмін Белая Русь з’яўляецца “блукаючым” тэрмінам, як адзначаў М.Улашчык. Беларускія землі часта таксама называюцца літоўскімі, у той час як пад уласна Літвой Стрыйкоўскі разумее тэрыторыі паміж Невяжай і Віліяй. Ад Балтыйскага мора да Невяжы, на думку Стрыйкоўскага, жылі аўтахтонныя жмудзіны.

Характэрна, што ні Ф.Скарына, ні С.Будны, ні Л.Сапега, ні іншыя нашы вучоныя ці палітычныя дзеячы таго часу не

ўжывалі адносна сваёй зямлі назвы Белая ці Чорная Русь. Не ўзгадвае пра Чорную Русь і Мацей Мяхоўскі. З гэтых выказванняў розных аўтараў можна зрабіць высновы: 1) найменне "Чорная Русь" ніколі не ўжывалася самім насельніцтвам Беларусі; 2) тэрмін "Белая Русь" таксама амаль не ўжываўся для вызначэння цяперашняй Беларусі, а ў асноўным быў сінонімам тэрміна "Вялікая Русь".

Дык як жа называлася насельніцтва Беларусі ў XIII – XVIII ст.?

У XI–XII ст. насельніцтва цяперашняй Беларусі называлася паводле галоўнага горада той ці іншае зямлі – дзяржавы. І таму ўсё насельніцтва падзялялася на палачан, віцеблян, берасцейцаў, слонімцаў, мянян, случан, других, гарадзенцаў і г.д. Кожная такая зямля мела дзяржаўны суверэнітэт не толькі ва ўнутраных справах, але і ў знешніх сувязях, г.зн. была самастойнай дзяржавай. Пасля злучэння ўсіх беларускіх земляў у складзе Вялікага княства Літоўскага жыхароў Беларусі, акрамя мясцовых найменняў, называлі літвінамі, а беларускую зямлю – Літвою. Гэтае найменне ўжывалася як унутры дзяржавы, так і ў міжнародных дамовах. Напрыклад, у дамове ВКЛ з Вялікім Ноўгарадам ад 1440 г. гаварылася: "Новгородцам из всее Новгородское волости торговати без пакости по всей Литовской земли. А мне, великому князю Казимиру, королевичу, блюсти новгородца, как и своего литвина, тако ж и новгородцам блюсти литвина, как и своего новгородца… А рубеж Новгороду з Литвою по старому рубежу земли и воды, и с полочаны, и с витебляны, и с торопьчаны". Такое ж разуменне тэрміна "Літва" ў летапісах. У Баркулабаўскім летапісу апавядаецца, што ў 1585 г. летам "великий жар был: жито … все погорело у Литве, а звлаща около Менска…" У спісе рускіх гарадоў, складзеным у канцы XIV альбо на пачатку XV ст., такія беларускія гарады, як Слуцк, Гродна, Клецк, Крэва, Гальшаны, Друцк, Орша, Лукомль, Лагойск, Полацк, Віцебск, Навагрудак, Барысаў, Ліда, Мінск і інш. аднесены да літоўскіх гарадоў. Гэтай жа тэрміналогіі прытрымліваліся і польскія храністы. Мацей Мяхоўскі фактычна ўсю Беларусь называе Літвою, а Украіну – Расіяй: "Каля Сармацкіх гор (Карпат) жыве народ рускі… У кірунку да цэнтра Расіі ляжыць Львоўская зямля, а ў ёй добра ўмацаваны горад таго ж імя. Гэта сталіца Русіі. На поўнач ідуць акругі Холмская, Луцкая і Бэлзская… Абмежаваная Русія – з поўдня Сармацкімі гарамі і ракою Тырсам, якую жыхары называюць Днястром; з усходу – Танаісам (Донам),

Меацыдамі (Азоўскім морам) і Таўрыцкім востравам, з поўначы – Літвою, з захаду – Польшчаю. Вядомая рака Барысфен, якая называецца жыхарамі Дняпром, цячэ з Масковіі, праходзіць праз Літву і Русію”.

Літвою ў XVI – XVII ст. называлі Беларусь і самі беларусы. Так, Сымон Будны ў сваіх творах неаднаразова ўжываў такія выразы: “писано в Лоске, в Литве”, “у нас в Литве, в Ивье”. Апанас Філіповіч у сваім палемічным творы “Дыярыюш” пісаў: “З Литвы, з манастыря Купятицкого, миля от Пинска лежачого”.

Сапраўднае стаўленне Механіты, як і іншых храністаў XVI ст., да Русі дэманструе “прывітанне”, дасланае аўтару “Апісання Сарматыі” шведскім гісторыкам, былым архіепіскапам Упсалы, які на той час знаходзіўся ў Рыме, Янам Магнусам, у якім ён запэўнівае, што “шведзкі народ добра ставіцца да палякаў, зычыць ім поспехаў у жыцці і справах, будзе з імі ўтрымліваць сталы мір, накіраваны супраць схізматыкаў і русінаў”.

Наступная вялікая праблема ў адносінах паміж Польшчай і Усходняй Еўропай – канфесіянальнае пытанне. Гісторыя хрысціянства на Русі і так званай Русі Літоўскай, гэта значыць Беларусі, налічвае столькі ж год, што і ў Польшчы. У ВКЛ літоўскія князі-язычнікі клапаціліся аб праваслаўнай царкве ў сваёй дзяржаве. Ужо ў часы Віценя паўстала асобная літоўская мітраполія з цэнтрам у Наваградку. Аднак заняпала (каля 1330 г.) у выніку дзейнасці кіеўскага мітрапаліта Феагноста, рэзідэнцыя якога месцілася ва Уладзіміры Суздальскім. Аднавіў яе князь Альгерд, які каля 1354 г. паслаў цверскага манаха Рамана з мэтай атрымання намінацыі мітрапаліта. Пасля яго смерці мітрапалітам стаў Цыпрыян. Нягледзячы на прывілеграванае становішча каталіцкага касцёла ў Літве (М.Стрыйкоўскі прыводзіць тэкст прывілея каталіцкаму касцёлу ў Літве, копію якога атрымаў ад свайго пратэктара Юрыя Юр’евіча Алелькавіча Слуцкага), тутэйшая праваслаўная царква адыгрывала вялікую ролю, дзякуючы густой сетцы сваіх парафій. З гэтага часу распачалося ідэалагічнае змаганне паміж дзвюма канфесіямі.

Трэба пагадзіцца з назіраннем Ул.Казберука, што паступова, знешне незаўважна, але ўсё глыбей на ўсе структуры эканамічнага і дзяржаўна-палітычнага жыцця рускіх земляў, падуладных Літве, пранікала лацінска-польская культурная, рэлігійная і моўная стыхія, што вяло, пры адпаведных умовах і пры захаванні тагачасных тэндэнцый гістарычнага развіцця, да паступовай асіміляцыі вялізных тэрыторый Беларусі і Украіны

(Казбярук Ул. Славянскія літаратуры і праблемы беларускага літаратуразнаўства. – Мінск, 1982. – С. 9-10).

Польскія хронікі поўняцца прыкладамі ўплываў заходняй культуры на Беларусь і іншыя землі Усходняй Еўропы. Але і самі хронікі таксама з'яўляюцца прыкладам уздзеяння польскай культуры на культуры ВКЛ. Як ужо адзначалася, "Хроніка польская, літоўская, жмудзкая і ўсёй Русі" Мацея Стрыйкоўскага, якая з'яўляецца першай друкаванай гісторый ВКЛ і суседніх краін, больш належыць да гістарыяграфіі ВКЛ, чым да польскай гістарыяграфіі. Яна так знітавана з пісьменствам Беларусі XVI-XVIII ст., што без яе немагчыма ўявіць развіццё беларускай гісторыі і літаратуры дадзенага перыяду. Яна шмат разоў перараблялася – Самуэлем Доўгірдам, А.Віюк-Каяловічам, Ф.Сафановічам, ананімным аўтарам "Хронікі літоўскай і жмойцкай" і іншымі. Так што польскія хронікі самі рабіліся элементам усходнеславянскай культуры. У бібліятэках кляштараў езуітаў у Наваградку, Гродне, Брэсце і інш., таксама, як у кнігазборах іншых ордэнаў на тэрыторыі Беларусі і Літвы, знаходзіліся хронікі Кромэра, Стрыйкоўскага, Мяхоўскага, Гербурта, Гвагніна і іншых польскіх гісторыкаў, якія служылі адукацыйным і агульнакультурным мэтам.

## БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ПОЛЬСКІЯ ХРОНІКІ ЯК КРЫНІЦЫ ПА ГЕАГРАФІІ, ТАПАНІМІЦЫ І ГЕНЕАЛОГІІ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Старажытныя летапісы і хронікі з'яўляюцца каштоўнымі крыніцамі па геаграфіі, тапаніміцы, генеалогіі – навукам, вельмі прыдатным для гісторыкаў. Існуе асобная навука пра назвы – анамастыка, а ў ёй вялікі раздзел – тапаніміка. Гэта навука пра паходжанне геаграфічных назваў і ўсялякіх, з гісторыяй звязаных змен, якія адбіваюцца ў слоўным вызначэнні мясцін, паселішчаў і гарадоў, рэк, азёраў, лясоў, балот і іншых прыродных утварэнняў. Але тапаніміка як навука знаходзіцца на сутыкненні некалькіх галін ведаў: мовазнаўства, геаграфіі, гісторыі. Назва не можа ўзнікнуць без таго, каб чалавек не валодаў мовай, здольнай аформіць словам зробленае ім адкрыццё. Разам з тым на слова, якім выяўляецца назва, уплывае геаграфічны характар мясцовасці. І, нарэшце, гісторыя грамадства, якое стварае назву, дае ёй грамадзянскае, сацыяльнае тлумачэнне, аднесенае да перыяду яе ўзнікнення. Вось чаму так важна гісторыкам звяртаць увагу на паходжанне геаграфічных і ўласных

назваў. Вытокі геаграфічных назваў самыя старажытныя. Большасць назваў населеных пунктаў на Беларусі паходзіць ад гідронімаў – імёнаў, утвораных ад назваў воднага басейна (ракі, возера, балота). За імі ідуць назвы патранімічныя, або патронімы, – ад імёнаў ці прозвішчаў першапасяленцаў або па прозвішчах, што пераважна бытуюць у паселішчы. Потым ідуць мікратапонімы – уласныя назвы невялікіх палёў, балотаў, розных урочышчаў, вуліц, прыналежных каму-небудзь земляў.

Некаторыя геаграфічныя назвы захаваліся з вельмі аддаленых часоў. Напрыклад, старажытнагрэчаскі гісторык Герадот пісаў аб продках беларусаў, якія жылі на гэтых тэрыторыях яшчэ ў VI ст. да н.э. і называліся неўры. Назва неўраў была вядома і старажытнарымскім гісторыкам і географам. Так, Пампоній Мела (I ст. н.э.) пісаў, што Тырас “бярэ пачатак у зямлі неўраў” (Вестник древней истории. – 1949. – №1. – С. 280). Гай Плініи Секунд (I ст. н.э.) размяшчаў неўраў у вярхоўях Дняпра. Ён пісаў: “Неўры, ад якіх выцякае Барысфен” (Тамсама. – №2. – С. 283). Ля Дняпра размяшчаў неўраў Марцін Капела (V ст. н.э.), які пісаў: “Неўры, ля якіх Барысфен” (Тамсама. – №4. – С. 280).

Назва неўраў вядома і нашым летапісам, у якіх яны называюцца “норыкамі”, альбо “нарцамі”. У “Аповесці мінулых гадоў” ёсць такі запіс: “Нарцы, еже суть словяне” (ПВЛ. – 1950. Ч. I. – С. 11). У другім летапісу запісана: “Норицы иже суть словене” (ПСРЛ. – М., 1965. Т. 15. – С. 19). Аб тым, што гэтыя назвы адносіліся да ўсходніх славян, сведчаць шматлікія геаграфічныя назвы ва Усходняй Еўропе, што захавалі корань слова “нур”, “нор”, “нар”, “нев”. Напрыклад, буйнейшае на Беларусі возера называецца Нарач, ёсць рэкі Нараў, Нарва, Нарэўка, Нурэц, гарадскі пасёлак Нароўля і іншыя падобныя назвы.

У пачатку нашай эры частка славян у заходнееўрапейскай літаратуры атрымала назву “вянеды”/“вянеты” (Тацыт і інш.). У VI ст. н.э. гоцкі гісторык Іардан суадносіць “вянетаў” з сучаснымі яму склавінамі і антамі, а крыху пазней з’яўляецца і назва “славяне”. Паходжанне гэтай назвы да сённяшняга дня не раскрыта. Як меркаваў вядомы славацкі вучоны Павел Йозаф Шафарык, што напісаў фундаментальнае даследаванне па этнічнай гісторыі славян “Славянскія старажытнасці”, народнасць (племя), якую называлі “славяне”, жыла ў мінулыя часы на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Пазней частка гэтага народу перасялілася і дала назву славакам, славенцам і ільменскім славенам. У доказ сваіх разважанняў аўтар прывёў шматлікія

геаграфічныя назвы, што бытуюць у Беларусі. Напрыклад: Слаўцы Мінскай, Славены Магілёўскай і Смаленскай, Славена Віцебскай, Славіск Гродзенскай, Славянск альбо Славінск Віленскай, Славечна – рака Віленскай і Мінскай, Славешанка – рака, што ўпадае ў Славечну, Славенскае возера Мінскай губерняў. "Я думаю, – пісаў П.Й.Шафарык, – што ў дагістарычныя часы гэтая славянская галіна жыла недзе на тэрыторыях губерняў Мінскай, Магілёўскай і Валынскай".

Упершыню назва "славяне" ў пісьмовых помніках сустракаецца ў пачатку VI ст., і адносілася яна да паўднёвых славян. Першым, хто запісаў гэтую назву, лічаць епіскапа Марціна, які, пералічваючы народы, што прынялі хрысціянства, называў і славян (Русская история в очерках и статьях /Под ред. М.В.Довнар-Запольского. Т. 1. – М, с. 71).

Крыху пазней ва ўсходніх славян атрымала распаўсюджанне назва "Русь". Яна стала шырокавядомай у сярэдзіне IX ст., калі русы зрабілі некалькі паспяховых ваенных паходаў на Візантыю. Пазней, у XIII – XVI ст., тэрмін "рускі" азначаў рэлігійнае грэка-праваслаўнае веравызнанне ўсходніх славян. З пашырэннем хрысціянства тэрмін "рускі" ў яго царкоўна-рэлігійным значэнні пачаў ужывацца і на тэрыторыі Беларусі. Ён замяніў тут старыя этнічныя назвы – крывічы, дрыгавічы, радзімічы, бужане. Аўтар "Аповесці мінулых гадоў" лічыў гэтыя назвы пляменнымі, хаця яны, бясспрэчна, склаліся як дзяржаўна-геаграфічныя і адлюстроўвалі некаторыя этнічныя асаблівасці кожнага з названых народаў. Напрыклад, назва "бужане" мае ярка акрэслены геаграфічны характар і ўтварылася ад назвы ракі Заходні Буг. Бужане займалі тэрыторыю па ніжнім і сярэднім цячэнні ракі. Ананімны баварскі географ IX ст. пісаў, што бужане мелі 230 гарадоў (Тихомиров М.Н. Древнерусские города. – М., 1956. – С. 9). Пазней тэрыторыя, дзе жылі бужане, атрымала назву Падляшша, г.зн. зямля, якая знаходзіцца непадалёку ад ляхаў (палякаў). У сакавіку 1569 г. Падляшша, паводле незаконнага распараджэння Жыгімонта Аўгуста, было ўключана ў склад Польшчы і стала называцца Падлясем ("каля лесу"). Сёння гэта тэрыторыя з гарадамі Беласток, Бельск, Другічын і інш.

Пастунова на працягу XI – XIII ст. старыя найменні бужан, крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў пачалі выцясняцца новымі імёнамі – "Літва" і "Русь". Узнікае тэрмін "Белая Русь", аб якім ужо вялася гаворка раней.

Летапісы і хронікі даюць багатую інфармацыю аб генеалогіі і геральдыцы беларускіх родаў. Некаторыя польскія храністы цалкам прысвячалі свае творы гэтай праблематыцы, як, напрыклад, Б.Папроцкі, некаторыя адводзілі ёй значнае месца ў сваіх творах (Я.Бельскі, М.Стрыйкоўскі). Многія шляхецкія і магнацкія радаводы цесна звязаны з легендай аб рымскім паходжанні літоўскай знаці. Паводле яе продкам вялікіх князёў літоўскіх лічыцца Палямон. У яго было тры сыны: Борк, Кунас і Спера. Борк і Спера памерлі без нашчадкаў. У Кунаса было два сыны – Кернус і Гімбут. Апошні стаў князем у Жамойці, а Кернус – у Літве.

Паведаміўшы, што з Рыма разам з Палямонам прыехала 500 сем'яў "рымскай шляхты", альбо "рыцарства", паданне засяроджвае ўвагу на прадстаўніках чатырох фамілій, нашчадкі якіх адыгрывалі значную ролю ў гісторыі беларуска-літоўскай дзяржавы на працягу XV – XVI ст. Як ужо гаварылася, выдатную ролю ў ВКЛ адыграў род Гаштольдаў, прадстаўнікі якога былі ініцыятарамі стварэння другога і трэцяга летапісных зводаў. З 13 першых намеснікаў у Наваградку чатыры разы гэтую пасаду займалі Гаштольды.

Што тычыцца астатніх "рымлян", то аб іх легенда ўвогуле не гаворыць нічога. Паданне называе чатыры асобы: першы – Даўспрунг герба Кітаўрас (Цэнтаўр, г.зн. Кентаўр); другі – Прашпер герба Калюмны; трэці – Юльянус герба Урсінус (Мядзведзь) і чацвёрты – Гектар герба Ружа. (У летапісах іх імёны вар'іруюцца.) Калі зазірнуць у ранні твор Мацея Стрыйкоўскага "Аб пачатках... народу літоўскага", то там гаворыцца не аб чатырох, а аб пяці прадстаўніках розных гербаў: Даўспрунг герба Кентаўр, Праспер Цызарінус герба Калюмны, Юліян герба Урсеін і Кампан герба Ружы, а далей паведамляецца, што з імі ж прыбыў Гаштольд герба Гектар.

Аднак і потым на прадстаўнікоў чатырох родаў звяртаецца зусім не аднолькавая ўвага. Члены гербоў Урсеін і Ружы ўзгадваюцца толькі адзін раз у якасці продкаў знатных родаў: ад Эйкшы, прадстаўніка герба Урсін, пайшла фамілія Давойнаў, а ад Гроўжы, належачага да герба Ружы, – Манівіды. Затое аб членах родаў Кітаўрас і Калюмны летапісы ўзгадваюць вельмі часта. Паколькі Кітаўрас (Кентаўр) быў гербам князёў Гальшанскіх, а Калюмны – Гаштольдаў, то рэальна гэта значыла, што паданне імкнулася падкрэсліць выдатнае становішча ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага дзеячоў, якія належалі да гэтых родаў і толькі іх. Так, літоўскі князь Гірус належаў да Кітаўрасаў, князь

Жывібунд – гэта той, “што вышол с Китаврус”. “С китаврусу” жа быў і сын Уценуса Свінтарог, альбо Швінтарог, які ўзначаліў ВКЛ пасля аб’яднання ўсіх трох яго частак.

Але вернемся да вялікакняжацкага роду. Сын Гімбута Монтвіл пакінуў пасля сябе трох сыноў (згодна з “Пачаткамі” М.Стрыйкоўскага) – Ердзівіла, Немана і Вікінта, прычым Неман падчас паходу на Полацк (разам з Вікінтам) быў забіты. У “Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай” (адзін з пазнейшых летапісаў) Ердзівіл называецца “Ердивил, або Радивил”, і ў далейшым амаль заўсёды ён выступае толькі як Радзівіл. Згодна з летапісам ён быў князем наваградскім, а Вікінт – жмудзкім. Наконт літоўскіх князёў летапісы пішуць рознае. Усе яны згодныя з тым, што першым князем у Літве быў Кернус, сын Кунаса і ўнук Палямона. У далейшым жа адзінства няма. Кернус выдаў сваю дачку Паяту за Гіруса, у выніку чаго Гірус стаў князем Літвы. Аб апошнім сказана, што ён “вышол с Китаврус”, г.зн. што яго род належаў да найзнатнейшых, што прыбылі ў Жамойць разам з Палямонам. Згодна з “Пачаткамі” і хронікай М.Стрыйкоўскага, Паята была жонкай не Гіруса, а Жывінбуда Даўспрунгавіча, а паколькі Даўспрунг, паводле версіі Стрыйкоўскага, лічыўся сынам Палямона, то Жывінбуд, альбо Гірус, з’яўляўся асобай, не выпадкова заняўшай “столец” Літоўскага княства, а прамым нашчадкам Палямона. У выніку шлюбу з Паятай Жывінбуд стаў кіраваць “в Кернове, в Вилкомиру, в Девялтове и в Литве межи Невяжею и Вилиею”, а пасля смерці бяздзетнага Вікінта на Жывінбуда “спала” і Жамойць.

Такім чынам, Літвою і Жамойцю, згодна з асноўнымі летапіснымі крыніцамі, пачалі кіраваць князі, звязаныя з Палямонам толькі па жаночай лініі, прамыя ж яго нашчадкі правілі ў Наваградскім і Полацкім княствах. Полацкая лінія неўзабаве вымерла, у той час як наваградская аказалася самай жыццядзейнай.

Пачынальнікам наваградскай лініі, паводле летапісаў Яўрэінаўскага і Красінскага, быў Скірмонт, паводле ўсіх астатніх – Ердзівіл-Радзівіл. Сын Ердзівіла-Скірмонта Мінгайла пайшоў паходам на Полацк, разграміў палачан і стаў князем полацкім, застаючыся і князем наваградскім. Сын Мінгайлы Гінвіл, ажаніўшыся з цвярской князёўнай, “стал русином”, г.зн. хрысціўся па праваслаўным звычаі, у сувязі з чым прыняў імя Барыс. У Полацку нашчадкі Палямона кіравалі два альбо тры пакаленні. Даўжэй за ўсіх “палямонічы” кіравалі ў Наваградку, прычым хроніка Стрыйкоўскага і “Хроніка Быхаўца” называ-

юць рэальнага Міндоўга, а таксама яго сына Войшалка прамымі нашчадкамі Палямона. Такім чынам, апошнімі князямі навагградскімі з роду Палямона былі Рынгольт, Міндоўг і Войшалк. Можна меркаваць, на Рынгальце і скончваецца першапачатковы тэкст легенды. Аднак пазней з'явілася неабходнасць звязаць яе з рэальнымі дзеячамі, гэта працей за ўсё было зрабіць, надаўшы Рынгальту нашчадкаў, а паколькі ўжо існаваў летапіс, у якім выкладалася гісторыя князя Гедыміна, то трэба было дапісаць патрэбную частку – ад Рынгальта да Гедыміна. Яе сканструяваў Мацей Стрыйкоўскі. У ягоных "Пачатках" сказана, што Рынгальт пачаў панаваць у Наваградку з 1200 года, але князем ён стаў не па праву спадчыны (або не столькі па гэтым праву), а "паднесены" на прастол "усімі станамі (саслоўямі) дзяржавы", і з гэтага часу ён першым пачаў называцца князем літоўскім, паколькі Жмудзь, Літва і Наваградак дасталіся яму аднаму". Сынам Рынгальта быў Міндоўг, якога, па словах Стрыйкоўскага, "Літва неразважліва і глупа ў сваіх летапісах не ўспамінае". І далей ідуць звесткі аб тым, што пасля вяртання з-пад Магільнай Рынгальт "уробил" трох сыноў. Карыстаючыся працамі Мяхоўскага, Кромэра, прускімі і лівонскімі хронікамі, Стрыйкоўскі выправіў памылку летапісцаў і напісаў гісторыю Міндоўга. Вялікім князем Міндоўг стаў у 1240 г., хрысціўся ў 1250, а каранаваўся ў Кернаве ў 1252 г. Сынам Міндоўга быў Войшалк, на якім род Палямона скончыўся.

Пасля смерці Войшалка князі, баяры і народ, сабраўшыся ў Кернаве, выбралі князем "Свентаград" (Свінтарога Уценусавіча). Каранаваўся ж ён у Наваградку ў 1268 г. Ён быў з герба Кітаўрус. Аб'яднаў пад сваёй уладай усе тры часткі дзяржавы ў адзінае цэлае, і гэтая дзяржава стала называцца Вялікім княствам Літоўскім, Жамойцкім, Наваградскім і Рускім. Прычым аб'яднанне адбылося без ужывання прымусу. Сынам Свінтарога быў Гермонт, які пакінуў двух сыноў – Трабуса, які панаваў у Жамойці, і Гілігіна, князя "на зямлі Літоўскай і Рускай". Гілігіну наследаваў яго сын Раман, які пасля смерці бяздзетнага Трабуса, яго дзядзькі, стаў адначасова і князем Жамойці. Раман пакінуў 5 сыноў – Нарымунта, Даўмонта, Гольшу, Гедруса і Тройдзеня. Тут пачынаюць дзейнічаць зусім рэальныя асобы, і яны адразу ж уступаюць паміж сабой у крывавую барацьбу, у выніку якой Даўмонт вымушаны быў збегчы ў Пскоў. Легендарная генеалогія калі і не скончваецца на сынах Рамана, то ў значнай ступені губляе легендарны характар.

Варта ўзгадаць яшчэ адну дэталь. Асабліва падкрэсліваецца ў крыніцах тое месца, дзе гаворыцца аб выбранні вялікім князем Віценя: “И тут скончался род с Китоврасов а начало великое княжене Витенево, род великих князей литовских с поколения а з роду Колюмнов”. Паколькі ў далейшым вялікія князі літоўскія, уключаючы Жыгімонта-Аўгуста, былі прамымі нашчадкамі Віценя, то гэта значыла, што і дынастыя Ягелонаў належала да герба Калюмнаў.

Легендарная частка летапісаў і хронік не адзначае ані воднага выпадку крывавай расправы князёў паміж сабой, у той час, як са з’яўленнем рэальных асобаў забойствы князёў, блізкіх сваякоў робяцца амаль абавязковымі.

Найбольш слабым месцам легенды, звязаным з генеалогіяй, на якое ўсе ў першую чаргу звярталі ўвагу, была малая колькасць пакаленняў нашчадкаў Палямона, якія яшчэ і занадта доўга жылі: Палямон, згодна з асноўнай версіяй, з’ехаў з Рыма пры Нероне, г.зн. на пачатку нашай эры, Міндоўг жа з’яўляецца на пачатку XIII ст. Значыць, Палямон і яго нашчадкі панавалі амаль 1200 гадоў, і за гэты час змянілася 11 пакаленняў (Палямон – Кунас – Гімбут – Монтвіл – Ердзівіл – Мінгайла – Скіргайла – Альгімант – Рынгальт – Міндоўг – Войшалк). Такім чынам, на пакаленне прыходзілася каля 100 гадоў. Гэта шмат нават для легенды.

Усе беларуска-літоўскія магнаты лічылі сябе нашчадкамі Рурыка альбо, у крайнім выпадку, Гедыміна. Магнатамі, як вядома, называюць буйных феадалаў-землеўладальнікаў, прадстаўнікоў радавітай знаці, арыстакратычных вярхоў класа феадалаў у некаторых краінах Еўропы. У ВКЛ магнаты – нашчадкі ўдзельных князёў, прадстаўнікі знатных беларускіх і літоўскіх феадальных родаў, якія валодалі вялікімі латыфундыямі з гарадамі, мястэчкамі. Буйныя феадальныя маёнткі пачалі стварацца на Беларусі з канца XIV ст. Магнацкія роды існавалі некалькі стагоддзяў. Магнаты захоўвалі гегемонію ў ВКЛ, а пасля Люблінскай уніі 1569 г. – у Рэчы Паспалітай, нягледзячы на фармальнае раўнапраўе ўсяго шляхецкага саслоўя. У XVI ст., напрыклад, Радзівілам належалі Шчучын, Беліца, Койданава, Давыд-Гарадок, Нясвіж, з 1620-х гг. – Мір, Лахва, Геранёны, Клец, Чарнаўчыцы. Ва ўладанні Сапегаў былі Чарэя, Свіслач, Асвея, Дрысвяты, Лунна, Друя, Коханава, Доры, Ружаны. Глебовічы валодалі Дуброўнай, Заслаўем; Хадкевічы – Быхавам, Бераставіцай, Шкловам, Глускам, Свіслаччу, Мышшу; Сангушкі –

Смалянамі, Ракавам; Тышкевічы – Лагойскам. Маладзечна з воласцю ў пачатку XVI ст. было ўладаннем князёў Мсціслаўскіх, Заслаўе – Заслаўскіх, Саламярэч – Саламярэцкіх. Слуцкае і Капыльскае княствы былі ў валоданні Алелькавічаў. Амаль усе землі Тураўскага павета былі валоданнем Глінскіх, а з 1509 г. – Астрожскіх. Значную ролю ў дзяржаўным, грамадска-палітычным і культурным жыцці Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы адыгрывалі таксама Агінскія, Валовічы, Вішнявецкія, Гальшанскія, Гарнастаі, Гаштольды, Друцкія, Забярэзінскія, Ільінічы, Кежгайлавічы, Лукомскія, Любамірскія, Масальскія, Пацы, Свірскія, Храптовічы, Чартарыйскія і інш.

Як ужо гаварылася, многія знакамітыя беларуска-літоўскія роды выводзіліся з легендарных продкаў. Напрыклад, Гаштольды. У пачатковы перыяд панавання Гедыміна яны з'яўляліся бліжэйшымі памочнікамі вялікага князя, выконвалі самыя адказныя даручэнні. Так, у летапісах Археалагічнага таварыства, Рачынскага, Альшэўскім, Румянцаўскім, Еўрэінаўскім і хронiцы Быхаўца пры апісанні адпраўкі атрада для абароны ад немцаў Коўна адзначаецца, што камандуючым атрадам быў прызначаны Гаштольд "з рожаю Колюмнов". Далей паведамляецца, што як толькі быў заснаваны горад Вільна, Гедымін прызначыў туды "першим воеводою" таго самага "Кгаштолта с Колюмнов". Прычым толькі ў легендарнай частцы надавалася вялікае значэнне прыналежнасці да якога-небудзь герба. У рэальнай частцы гэтага няма. Прытым летапісы ніводнага Гаштольда не называюць князем. У адрозненне ад іх Гальшанскія заўсёды называюцца князямі, але за межамі легенды ніколі не ўзгадваецца аб іх прыналежнасці да Кітаўрасаў і нічым асаблівым не адзначаецца ўдзел у жыцці краіны. Але шмат прадстаўнікоў гэтага старажытнага роду, які вядзе свой пачатак ад сына вялікага князя Рамана Гальшы, пакінулі выдатны след у гісторыі нашай краіны. Як, напрыклад, Павел Гальшанскі – сын Аляксандра Юр'евіча – віленскага кашталяна і Соф'і з Хожава, уладальнік багатых маёнткаў: Гальшан, Лебедзева, Хожава, Дунілавіч, Волпы, Глуска і Раманава.

Што ўяўляў сабой магнацкі герб, можна разгледзець на прыкладзе герба Сапегаў. Гравюра яго змешчана ў Статуце 1588 г. і з'яўляецца выявай прыватнага герба падканцлера Вялікага княства Літоўскага, аднаго з аўтараў Статута Льва Сапегі. Герб мае форму шчыта, падзеленага на 4 часткі з шыльдай у цэнтры. Адпаведна з правіламі геральдыкі на шыльдзе павінен знаходзіцца галоўны – бацькоўскі герб, у полі – герб маці,

у іншым полі – герб бабкі па бацьку, яшчэ ў другім – герб бабкі па маці, у полі 5 – герб прабабкі па бацьку. Герб Сапегі не адпавядае класічным патрабаванням. Відаць, гэта тлумачыцца тым, што Леў быў трэцім сынам у сям'і. На шыльдзе герба выява накіраванай уверх стралы з дзвюма планкамі на дрэўку. Гэта так званы герб "Ліс", атрыманы паводле Гарадзельскага прывілея 1413 г. Сунігайлам, нашчадкам якога ў шостым калене быў Леў. "Ліс" стаў родавым гербам Сапегаў. Адпаведна з пісьмовымі крыніцамі XIX ст. гэтым гербам з нязначнымі зменамі карысталіся яшчэ 120 родаў. Гэта бацькоўскі герб. Дзед Льва – Фёдар Іванавіч (памёр у 1546 г.) атрымаў ад вялікага князя літоўскага і караля польскага Аляксандра графскі тытул, і, відаць, уласны герб (тры лілеі), пазней названы гербам "Сапега" (поле 2). Жонкай Фёдара Іванавіча была Ганна Сангушка (памерла ў 1561 г.). Яна карысталася бацькоўскім гербам (поле 3) – выява рыцара на кані з мячом у руцэ ("Пагоня"). Гэта абумовіла тры лілеі і "Пагоню" на гербе бацькі Льва. Маці Льва Б.Друцкая-Сакалінская атрымала ад свайго бацькі Івана Васільевіча (памёр да 1552 г.) герб "Друцк" (поле 5). У полі шчыта голы меч ручкай угару, а па баках ляза – чатыры паўмесяцы. Апошні герб – рука са зброяй – павінен належаць бабцы па маці. Такім чынам, размеркаванне частак герба Сапегі не адпавядае патрабаванням геральдыкі: 1 – родавы герб Сапегі; 2 – 3 – герб бацькі, які ўключае гербы "Сапега" і "Пагоня", 4 – 5 – гербы "Друцк" і князёў Талачынскіх.

## ГРОДНА Ў ЛЕТАПІСАХ І ПОЛЬСКІХ ХРОНІКАХ

Старажытны Гродна з даўніх часоў знаходзіўся ў цэнтры ўвагі розных палітычных сілаў, што адлюстравалася ў шматлікіх узгадках назвы горада ў летапісах і хроніках. Паселішча, узведзенае каля пераправы праз Нёман, мае важнае вайсковае, гандлёвае, стратэгічнае значэнне для розных народаў. За дамінаванне на гэтай тэрыторыі вялі барацьбу яцвягі, прусы, русіны, крыжакі, ліцвіны, палякі і нават шведы.

Пра першапачатковы этап развіцця града мы сёння можам даведацца толькі з дапамогай археалогіі. Менавіта дадзеныя гэтай навукі пераканаўча сведчаць, што паселішча на высокім усходнім беразе Нёмана каля ўпадзення ў яго рэчкі Гараднічанкі ўзнікла яшчэ ў X ст. У далетапісны перыяд тут існавала пасе-лішча сельскага тыпу, аб чым гаворыць адсутнасць тыпова гарадскіх археалагічных знаходак, напрыклад, шкляных бранзалетаў, умацаванняў.

На пачатку XII ст. на мысу паміж Нёманам і Гараднічанкай з’явіўся княжацкі дзядзінец. У 1116 г. Іпацеўскі летапіс упершыню ўзгадвае гарадзенскіх князёў: “6624… в се же лето преставися Мстиславъ внукъ Игоревъ. Томъ же лете Володимеръ (Манамах – А.С.) отда дщерь свою Огафью за Всеволодка”. З далейшых летапісных паведамленняў мы даведваемся, што Усевалад Давыдавіч, праўнук Яраслава Мудрага, сын Давыда Ігаравіча, праз 12 гадоў ужо сядзеў у Гродне. Але назва Гарадзен упершыню сустракаецца на старонках Лаўрэнцеўскага і Іпацеўскага летапісаў, калі пішацца пра ўдзел гродзенскага князя Усеваладкі Давыдавіча ў 1127 г. у паходзе князя Мсціслава на Полацк, а потым, у 1132 г., на Літву: “6635. В то же лето посла князь Мстиславь братью свою на Кривиче четырми пути. Вячеслава ис Турова, Андрея ис Володимеря. А Всеволодка ис Городна. И Вячеслава Ярославича ис Клеческа. Тем повеле ити кь Изяславлю”. У Іпацеўскім летапісу гэтыя ж самыя падзеі падаюцца пад 6636 годам, але па так званаму ўльтрасакавіцкаму стылю гэтая дата ад стварэння свету адпавядае таму ж 1127 году ад Нараджэння Хрыстова, а не 1128 г., як прынята лічыць.

Узгадваецца Гродна і ў славутым “Слове пра паход Ігаравы”: “…трубы трубять городеньскии”. Пасля смерці Усеваладкі Давыдавіча ў 1141 г. тут княжылі ягоныя сыны Барыс, Глеб і Мсціслаў, якія былі сучаснікамі і актыўнымі ўдзельнікамі падзей, апісаных у знакамітым шэдэўры старажытнай усходнеславянскай літаратуры.

Часцей за ўсё летапісы даносяць да нас сумныя і драматычныя падзеі сівой даўніны. Так, пад 1183 годам чытаем: “Городень погоре всь и церквы каменная от блистания молние и шибения грома”. З гэтага скупога радка Іпацеўскага летапісу даведваемся, што ў Гродне ў канцы XII ст. ужо існавала мураванае дойлідства. Сёння, дзякуючы археалогіі, нам дакладна вядома аб існаванні трох (а гіпатэтычна яшчэ дзвюх) старажытных культавых пабудоў XII ст. Гродна ў гэты час адыгрываў значную ролю ў палітычным жыцці Усходняй Еўропы. Аднак застаецца адкрытым і дыскусійным пытанне аб палітычнай арыентацыі гродзенскіх князёў, да якіх больш магутных дзяржаўных утварэнняў імкнулася княства, якая была этнічная сітуацыя ў рэгіёне ў XI – XIII ст., якія ўплывы адчувала на сябе мастацкая культура рэгіёну. Нельга пагадзіцца з высновамі адзінай на сённяшні дзень глыбокай навуковай манаграфіі аб старажытным Гродна, напісанай М.М.Вароніным. Відавочна, выконваючы сацыяльны заказ у канцы 40 – пачатку 50-х гг., ён

робіць выснову, што Гродна – “тыпова старажытнарускі горад, які ў цяжкіх умовах памежжа захоўваў цесныя і актыўныя сувязі з астатняй Руссю… Яго культура… – гэта культура радавога, “правінцыйнага” рускага горада, адзначаная некаторымі мясцовымі асаблівасцямі”. Дарэчы, багацейшы фактычны матэрыял, сабраны самім аўтарам манаграфіі і яго папярэднікамі, абвяргае гэтыя высновы.

Нявырашаных праблем у першапачатковай гісторыі Гродна больш чым дастаткова. Высветліць гэтыя пытанні можна толькі шляхам глыбокага комплекснага даследавання ўсіх даступных крыніц. У сувязі з гэтым вялікае значэнне набывае такая катэгорыя наратыўных крыніц, як летапісы і хронікі. На жаль, не захаваліся самыя раннія арыгінальныя летапісы – Полацкі, Смаленскі, Наваградскі, таму прыходзіцца карыстацца летапісамі суседніх земляў – Кіеўскім XII ст., Галіцка-Валынскім XIII ст., Наўгародскім XIII-XIV ст., а пазней – беларуска-літоўскімі летапісамі. На прыкладзе аднаго толькі з беларускіх гарадоў – Гродна – можна паказаць некаторыя эпізоды, звязаныя з яго гісторыяй, якія закрануты ў гэтых крыніцах.

У XIII ст. Верхняе Панёманне становіцца эпіцэнтрам бурных дзяржаватворчых працэсаў Усходняй Еўропы. У беларуска-літоўскіх летапісах рэальныя падзеі гэтага перыяду з вымыслам. Так, аўтар “Хронікі Быхаўца” піша, што Кернус “пасля сябе пакінуў сына свайго на вялікім княжанні літоўскім Жывінбудзя. А Гімбут князь быў на Жамойці таксама многа год і памёр, а сына свайго Мантвіла пакінуў на княстве Жамойцкім. У час панавання Мантвілава паўстаў цар Батый і пайшоў на Рускую зямлю, і ўсю зямлю Рускую заваяваў, і князёў рускіх многіх пабіў, а іншых у палон павёў, і столец усёй зямлі Рускае, горад Кіеў, спаліў і пусты ўчыніў. А князь вялікі кіеўскі Дзмітрый, баячыся вялікае сілы і моцы яго, збег з Кіева ў горад Чарнігаў, а потым даведаўся, што горад Кіеўскі зжог і ўся зямля руская спустошена, і слышал, што мужыкі жывуць без гаспадара, а завуцца дручане, і ён, сабраўшыся з людзьмі, пайшоў ка Друцку, і зямлю Друцкую заняў, і горад Друческ збудаваў, і назваўся вялікім князем Друцкім. А ў той час даведаўся князь вялікі Мантвіл жамойцкі, што Руская старана спусцела, і князі рускія разагнаныя, і ён, даўшы войскі сыну свайму Ердзівілу, паслаў з ім паноў сваіх радных, найпервей з Калюмнаў іменем Грумпя, а другога з Урсінаў іменем Экшыс, а трэцяга з Рож іменем Гроўжыс. І зашлі за раку Вяллю, і потым перайшлі раку Нёман і знайшлі ў чатырох мілях ад ракі Нё-

ман гару красную, і спадабалася ім, і ўчынілі на ёй горад і назвалі яго Ноўгарадак. І ўчыніў сабе князь вялікі Эрдзівіл сталец і называціся вялікім князем новагародскім.

І пайшоўшы з Новагарадка, зрубіў горад Гарадзен, і потым пайшоў да Бярэсця, і знайшоў Бярэсце і Дарагічын, і Мельнік ад Батыя спустошаны і скажоны, і ён тыя гарады зрубіў і пачаў на іх княжыці”.

Творца першай друкаванай гісторыі ВКЛ Мацей Стрыйкоўскі папракае “старых літоўскіх летапісцаў”, што яны “без слушнай прычыны” напісалі вышэйузгаданае. І, у сваю чаргу, выпраўляе памылку, спасылаючыся на іншага польскага храніста – Марціна Кромэра: нашэсце Батыя адбылося ў 1240 годзе. М.Кромэр сапраўды пісаў: “Наступілі потым няшчасныя часы, якія ўсю Польшчу, перад тым унутранымі войнамі і разрухамі ўсхваляваную, жахлівай паганскай зброяй… разбурылі і спустошылі. Татары… зямлю рускую разбурыўшы і вялікую яе частку пад сваю моц падбіўшы ў 1240 г., вялікім паходам уступілі ў Польшчу, у сандамірскую зямлю, і спаліўшы люблінскі замак, увесь тамашні павет аж да ракі Віслы... пустошылі, потым завіхосцкі замак, на беразе Віслы пастаўлены, запаліўшы, да Русі вярнуліся”.

Падчас гэтага татарскага паходу мог быць разбураны і Гродна. Прынамсі гэта адна з верагодных прычын катастрофы на Старым Замку ў Гродне ў сярэдзіне XIII ст., сляды якой знаходзяць археолагі. У XIX ст. афіцэр Генеральнага штаба П.Баброўскі на падставе беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік Стрыйкоўскага і Бельскага занатаваў такую легенду: “Военачальнік Кайдан уварваўся ў Гарадзенскае княства, аблажыў горад і пасля ўпартага супраціву войскаў Юрыя (князя Гарадзенскага – А.С.) захапіў яго. Юрый загінуў, ягоныя войскі знішчаны, замак спалены… горад ператварыўся ў груду развалін”.

Магчыма, летапісныя звесткі і маюць пад сабой рэальныя падставы, але дакументальна не пацверджаны ні бітвы літоўскіх князёў з татарамі пад Магільнам і Койданавам, ні існаванне самога татарскага правадыра Кайдана, які быццам бы разбурыў Гродна ў 1241 г.

У беларуска-літоўскіх летапісах, у прыватнасці, у “Хроніцы Быхаўца”, а таксама ў хроніцы Мацея Стрыйкоўскага адлюстравалася і барацьба літоўскіх князёў з галіцка-валынскімі ў 50-70-я гады XIII ст., але ў вельмі скажоным выглядзе. Стрыйкоўскі, скажам, піша аб перамозе легендарнага князя Скірмунта над князем луцкім і пінскім Мсціславам, прычым падае гэтую падзею пад 1220 годам.

Неўзабаве Гродна адчуў на сабе яшчэ адну бяду, магчыма, самую небяспечную для існавання горада – напады крыжакоў. У хроніцы Мацея Стрыйкоўскага мы знаходзім вялікія ўрыўкі з "Хронікі зямлі Прускай" крыжацкага храніста Пятра Дусбурга, якую ён атрымаў ад Яна Гераніма Хадкевіча, знайшоўшага яе ў сваю чаргу ў Румборскім касцёле ў Інфлянтах.

Першы напад тэўтонаў на Гарадзен адбыўся ў 1284 г. (па некаторых звестках – у 1283 г.), калі вялікі магістр Тырнберг захапіў замак, дзякуючы здрадзе прусаў Скамонда і яго брата. Згодна з Дусбургам у 1290-1294 гг. штогод адбывалася прынамсі два-тры рэйды крыжакоў у Панёманне. Яны бурылі гарады, палілі навакольныя вёскі, збіралі здабычу. Паходы на Гродна, як сцвярджае польскі даследчык Х.Лаўмяньскі, насілі з боку крыжакоў хутчэй абарончы характар, паколькі гэты горад з'явўляўся базай ліцвінаў у іх паходаў супраць Прусіі і Польшчы. Вялікія князі літоўскія асадзілі тут частку прусаў, якія не хацелі паддацца крыжакам і збеглі ў Літву. У далейшым Гродна таксама выконваў функцыі зборнага пункту, адкуль беларуска-літоўскія войскі рушылі на бітвы з крыжакамі, у тым ліку і на Грунвальдскую бітву.

М.Стрыйкоўскі ўслед за Дусбургам апісвае мужную барацьбу гродзенскага кашталяна Давыда Даўмонтавіча Гарадзенскага супраць крыжакоў. У 1314 г. ён на чале войскаў Вялікага княства разбіў пад сценамі Гродна атрад Генрыха фон Плоцке. Аднак ліцвіны і самі часта выпраўляліся на крыжацкія ўладанні ў Прусіі, аб чым інфармуе Дусбург. Пад 1319 г. храніст піша аб нападзе Давыда Гарадзенскага на прускую тэрыторыю Вогенсдорф. З імем гэтага гродзенскага кашталяна звязана шмат слаўных старонак у гісторыі барацьбы Вялікага княства Літоўскага супраць Ордэна. Ён не толькі абараняў свой горад, але здзяйсняў смелыя набегі на суседнія тэрыторыі. Гэта быў вялікі рыцар і герой сярэднявечча, сапраўды эпічная постаць нашай гісторыі. У той жа час ён быў тыпова сярэднявечным ваяром. У 1323 г. ён выправіўся на Мазоўша, узяў там больш за 9 тыс. палонных; а потым, як піша Стрыйкоўскі: "Давыд па загаду Гедыміна разбурыў Пултуск з воласцю плоцкага біскупа, спаліў паўтары сотні вёсак, трыццаць касцёлаў, чатыры тысячы вязьняў гнаў у Літву, як валоў. Мазуры над Бугам іх дагналі, аднак ліцьвіны пабілі праследуючых". Барацьба з абодвух бакоў насіла жорсткі і зацяты характар. І ўсё ж М.Стрыйкоўскі, паляк па паходжанні, захапляўся адвагай ліцьвінаў: "Забачце ж, ліцьвіны, як продкі вашы ваявалі... ў тыя часы!" З горыччу

апісвае ён смерць Давыда Гарадзенскага ў 1326 г. падчас аднаго з паходаў на Мазоўша ў сваім творы “Аб пачатках… народа літоўскага”: “Знайшоўся нейкі Анджэй, мазур, шляхціц правы, бачачы сваёй Айчыны ўпадак крывавы, змяшаўся з ліцьвінамі, як другі Сцэвола і ўваткнуў доўгую дзіду ў Давыда ў намёце”. Уся Літва сумавала аб забойстве аднаго са славутых сваіх герояў, “бо Давыд найвялікшы пан быў на той час у Літве”.

У 1345-1382 гг. крыжакі здзейснілі 96 нападаў на Вялікае княства Літоўскае, знішчаючы краіну агнём і мячом. Гэта былі вельмі цяжкія часы, у тым ліку і для Гродна. Неўзабаве сітуацыя ў краіне ўскладнілася з прычыны ўнутраных супярэчнасцяў паміж сынамі вялікага князя Альгерда – Ягайлай, Скіргайлай і іншымі і сынам Кейстута – Вітаўтам.

Пасля таго, як Вітаўт збег з замка ў Крэве, дзе быў забіты ягоны бацька Кейстут, ён апынуўся ў крыжакоў, шукаючы дапамогу супраць Ягайлы, з мэтай вярнуць сваю вотчыну (між іншым Гродна). Таму ў 1383 годзе ён узначальваў крыжацкія войскі на Коўна, Трокі, аж да прадмесцяў Вільні. Аднак у 1384 г. Ягайле ўдалося дамовіцца са стрыечным братам, і той у ліпені вярнуўся на Літву і часова задаволіўся атрыманнем Падляшша і Гродна. Знакаміты польскі храніст Марцін Кромэр упершыню ўзгадвае ў сваёй “Гісторыі Польшчы” пра Гродна менавіта ў сувязі з гэтымі падзеямі. Ён нагадвае, што разам з Ягайлам Вітаўт хрысціўся ў Кракаве і атрымаў імя Аляксандр. Ягайла яго “з Прус да Літвы паклікаў, аддаўшы яму Гродна, Драгічын, Мельнік, Бельск, Сураж, Камянец, Ваўкавыск, горад з паветам і ўсімі прылегласцямі”. Далей Кромэр дадае: “Пішуць літоўскія летапісы, што на той час Ягайла Вітаўту і Валынь з Падоллем уступіў. Але я чагосьці іншага, пэўнейшага з прывілеяў, рукой самога Вітаўта падпісаных і запячатаных дачытаўся”.

У хуткім часе зноў пачаліся ўнутраныя спрэчкі, на гэты раз паміж Скіргайлам Альгердавічам, якога Ягайла пакінуў замест сябе на вялікакняжацкім троне ў Вільні, і Вітаўтам, аб чым М.Кромэр піша: “Вітаўт, чалавек вялікадушны, убачыўшы, што яго Скіргайла, чалавек акрутны і запальчывы, падазрае, баючыся ягонага вераломства, умацаваўшы Гродна і Бярэсце, сам на Мазоўша да князя Яна, швагра свайго з жонкаю Ганнай з’ехаў… А тым часам Літва была разадраная ўнутранымі нязгодамі, разам ад прускіх і інфлянцкіх крыжакоў знішчаная, раздзяліўшыся на два бунты, з якіх адзін да Вітаўта, а другі да Скіргайлы адышоў”.

На баку Скіргайлы апынулася ўсходняя Беларусь, а Вітаўта падтрымаў захад Беларусі і Жмудзь. “У 1390 годзе пайшоў

кароль Уладзіслаў (Ягайла) ў Літву, хоцячы разруху, тлеючую паміж Літвой і Руссю пагасіць”. Спачатку ён узяў Брэст, Камянец, потым, “пераехаўшы раку Нёман, пад Гродна войскі разгарнуў. Туды сцягнуліся да яго войскі Скіргайлы, Уладзіміра і іншых літоўскіх і рускіх князёў і паноў. Акрамя таго, Карыбут, князь ноўгарадсеверскі, які быў рускай веры, са знакамітымі вершнікамі сваімі да каралеўскага табара брата свайго прыбыў. Тыя аб’яднаныя войскі, не могучы штурмам узяць Гродна, вакол яго аблажылі. Гэта не было таямніцай для Вітаўта, ён бачыў, што доўгай аблогі гараднічане не вытрымаюць. Да таго ж як хутчэй з немалым людам прусакоў і крыжакоў прыйшлі на дапамогу сваім: палажыўшыся табарам з таго боку Нёмана, насупраць уласна замка загадаў насыпаць пагорак, на якім зрабіў новую фартэцыю. Аднак абложаным гэта ніякай палёгкі не прынесла: нашы перад яго вачыма здабылі ніжні замак. Жалезны ланцуг на той бераг загадаў перацягнуць і з дапамогай яго вазіць правіянт, параненых, хворых”. Далей М.Кромэр апісвае, як, зрубіўшы на беразе Нёмана сосны і дубы, жаўнеры па загадзе Ягайлы павалілі іх у раку. Дзякуючы гэтаму манеўру, быў перарваны ланцуг і патоплены лодкі разам з людзьмі, якія перапраўляліся з аднаго берага на другі. Адзін немец з перакуленай лодкі дабраўся жывым да старога замка, там яго захапілі ў палон і выпыталі планы Вітаўта. Апошні пасля гэтага пачаў сумнявацца ў поспеху абароны, і праз 50 дзён ён здаў замак каралю. Абодва бакі моцна пакутавалі падчас гэтай аблогі: войскі галадалі, коні елі салому з дахаў і галлё дрэў. Хутка пасля гэтых падзей, у канцы ліпеня 1392 г., як пішуць Длугаш, Мехавіта, Кромэр, Стрыйкоўскі, а таксама беларуска-літоўскія летапісы, Ягайла з Вітаўтам заключылі Востраўскае пагадненне.

У “Хроніцы Быхаўца” часта фігуруе назва Гродна ў сувязі з імем караля і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка, бо ён “часцей жыў у Вялікім княстве, чым у Польшчы, таму што ў Літве шмат раскошных ловаў, розных звяроў многа, ні ў якіх дзяржавах такога зверу няма, а кароль Казімір вельмі ловы любіў”. Часта тут праводзіліся сеймы і іншыя дзяржаўныя нарады. У 1492 г. ён “разнемогся і казаў сябе праводзіць да Гродна, бо ў Гродне вельмі любіў мешкаці дзеля раскошных ловаў і ўсялякіх пажыткаў. І, будучы ў Гродне, зразумеў, што ўжо з тае хваробы выйсці не зможа, і ён склікаў да сябе паноўрад сваіх Вялікага княства Літоўскага… і пачаў іх прасіць вельмі ўмільна і пакорна, каб панове-рада ўзялі сябе гаспадаром на

княства Літоўскае сына яго сярэдняга Аляксандра каралевіча. І панове-рада, бачачы гаспадара свайго так пакорна просячага, і да таго ж памятаючы, што ён княства Літоўскае добра радзіў і спраўляваў, на тое пазволілі… А потым паклікаў да сябе паноў ляцкіх, якія на той час пры ім былі, і тым жа звычаем мовіў ім і загадаў, абы… панове-рада кароны Польскай просьбы апошняй гаспадара свайго не апусцілі, а ўзялі па яго жываце гаспадаром сабе на карону Польскую сына яго старэйшага, каралевіча Ольбрахта, і панове ляцкія абяцалі за то ўсіх пралатаў і паноў польскіх прасіць”. Распарадзіўся таксама Казімір, каб не забывалі і яго малодшага сына Жыгімонта, “і расправіўшы радне гаспадарства сваё і там жа ў Гродне і жывата свайго ў вялікай старасці даканаў у чацьвер перад божым уступленнем за тыдзень”. У “Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай” да вышэйпададзенай інфармацыі дадаецца: “… і адвезены пачціва да Кракава панамі кароннымі і літоўскімі, і там пахаваны ў мармуровай труне, якую сам сабе збудаваў у касцёле святога Станіслава ў замку, а пахаваны з вялікаю помпаю”.

Іншым каралём, які вельмі любіў Гродна, быў Стэфан Баторы. М.Стрыйкоўскі і Я.Бельскі адзначаюць, што ён загадаў пахаваць сябе ў спецыяльна адбудаванай для гэтых мэтаў Фары Вітаўта, але апошняя воля нябожчыка была парушана, і ён, як і іншыя каралі Рэчы Паспалітай і вялікія князі літоўскія, спачывае ў Кракаве.

На пачатку XVI ст., а дакладней, у 1506 г., Гродна стаў сведкай іншай сумнай падзеі, якая пакінула след на старонках летапісаў і хронік, але лепш за ўсё апісана Сігізмундам Герберштэйнам у ягоных “Запісках аб Масковіі”, маецца на ўвазе канфлікт паміж Міхалам Глінскім і Янам Забярэзінскім, ваяводам полацкім (1484-1496), троцкім кашталянам (з 1492 г.). Князь Міхал Глінскі яшчэ юнаком адправіўся ў Германію, праявіў смеласць на службе ў Альберта, герцага саксонскага, і зрабіў бліскучую вайсковую кар’еру; без перабольшвання можна сказаць, што гэта быў адзін з найбольш знакамітых рыцараў свайго часу. Выхаваны ў нямецкім духу, ён вярнуўся на радзіму, дзе карыстаўся павагай і займаў вышэйшыя пасады пры каралі Аляксандры. Здарылася так, што ў яго выйшла спрэчка з Янам Забярэзінскім. У рэшце рэшт яны памірыліся, але Ян затаіў нянавісць, таму што з-за Глінскага ён страціў ваяводства. Пасля смерці Аляксандра ён пачаў інтрыгаваць супраць свайго ворага. На Глінскага пачалі нагаворваць новаму каралю Жыгімонту, называючы яго і ягоных паплечнікаў здрад-

нікамі. Князь Міхал часта звяртаўся да караля з просьбамі разгледзець справу паміж ім і абвінавальнікам Забярэзінскім на агульным судзе, але ўсё дарэмна. Абураны гэтым, ён сказаў каралю, што зробіць такі крок, аб якім пашкадуюць і ён, і сам кароль. Вярнуўшыся дахаты раз’юшаны, ён паслаў аднаго са сваіх прыбліжаных з лістом да маскоўскага цара з прапановай перайсці ў яго падданства. Апошні вельмі ўзрадаваўся, паколькі ведаў доблесць і вайсковы талент Глінскага. Ён паабяцаў даць мяцежнаму князю ўсё, што той прасіў у сваім лісце. Зрабіўшы гэта, Міхал Глінскі, палаючы прагай помсты, кінуўся да Яна Забярэзінскага, які знаходзіўся тады ў сваім маёнтку каля Гродна. Расставіўшы вакол дома варту, каб Забярэзінскі не ўцёк, ён падаслаў у дом забойцу, які напаў на Забярэзінскага ў ложку і адсек яму галаву. Пасля гэтага Міхал рушыў на Мінск разам са сваім войскам. Аднак горад выстаяў. М.Глінскі, спалохаўшыся войскаў караля, уцёк у Маскву. Гэтая здрада дорага каштавала Жыгімонту I і Вялікаму княству Літоўскаму: маскавіты неўзабаве захапілі Смаленск, дзякуючы вайсковаму таленту Глінскага. Сам жа ён хутка раскаяўся ў зробленым і хацеў вярнуцца на Радзіму, але гэта яму не ўдалося. Так Гродна быў упісаны сумным радком у жыццё і лёс аднаго з мужных рыцараў Вялікага княства Літоўскага, славутага пераможцы татараў пад Клецкам у 1506 годзе, пра якога С.Герберштэйн казаў, што ён быў найвялікшым ваяром пасля Вітаўта, а ягоная здрада была вынікам абразы, нанесенай яму.

У XVI ст. Гродна ўзвысіўся над іншымі гарадамі Вялікага княства Літоўскага і заняў другое пасля Вільні месца ў краіне. Аднак яшчэ ў 70-я гады ён выглядаў так, як апісаны ў “Хронікі Еўрапейскай Сарматыі” А.Гвагніна: “Гродна – драўляны горад і мураваны замак на пагорку над ракой Нёман ляжыць. Рака тая слаўная, суднаходная, па якой тавары з Літвы да Гданьска возяць. Ваколіцы таго павету шырокія, раней гэта было княства. Харугва лазурнай масці аб адным куце, такая ж самая як Вялікага княства Літоўскага, узброены муж на кані з мячом”. І толькі ў часы караля Стэфана Баторыя, які фактычна зрабіў у Гродне пастаянную каралеўскую рэзідэнцыю, тут пачалося буйнамаштабнае каменнае будаўніцтва: будаваліся магнацкія палацы, культавыя пабудовы і г.д.

Але пра гэта мы даведваемся ўжо з іншых пісьмовых крыніц. А польскія хронікі і беларуска-літоўскія летапісы з канца XVI ст. страчваюць сваё значэнне, занепадаюць як жанр,

саступаючы месца іншым наратыўным крыніцам. І хаця мясцовыя летапісы існуюць і ў XVIII ст., яны носяць лакальны і цалкам кампілятыўны характар. Напрыклад, "Хроніка Літоўская і Жмойцкая" ва многіх месцах літаральна супадае з "Хронікай" М.Стрыйкоўскага. Вядома, вартасць яе як гістарычнай крыніцы значна ніжэй, чым, скажам, "Хронікі Быхаўца", якая сама была крыніцай для Стрыйкоўскага і, магчыма, для іншых храністаў XVI ст.

У лакальным віцебскім летапісу XVIII ст. Панцырнага і Аверкі сустракаюцца факты, якія тычацца іншых рэгіёнаў Беларусі, між іншым Гродна. Адзіная ўзгадка, звязаная з удзелам нашага горада ў Паўночнай вайне, калі ў 1706 г. "з Гродна выходзячы, цара яго мосьці войскі у рацэ Нёмане тапілі порах, кулі, гарматы і пайшлі пад Белую Цэркаў".

Гісторыя Гродна, даволі шырока прадстаўленая на старонках беларуска-літоўскіх летапісаў і польскіх хронік, можа служыць толькі адным з прыкладаў іх выкарыстання для вывучэння рэгіянальнай гісторыі Беларусі. Пры адпаведным крыніцазнаўчым аналізе гэтых паведамленняў і дапаўненні іх матэрыялам іншых крыніц ствараецца магчымасць рэканструкцыі мінулага нашага горада.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Агляд у адным вучэбным дапаможніку беларуска-літоўскіх летапісаў і польскіх хронік прадыктаваны патрэбамі крыніцазнаўчага і гістарыяграфічнага вывучэння гэтых важных з пункту гледжання беларускай гісторыі наратыўных крыніц. Як паказвае шматгадовы вопыт іх даследавання, немагчыма аналізаваць тыя часткі хронік Длугаша, Вапоўскага, Кромэра, Стрыйкоўскага і інш., якія датычацца гісторыі Вялікага княства Літоўскага, без ведання беларуска-літоўскіх летапісаў і хронік. У той жа час у змесце другога і трэцяга летапісных зводаў, у "Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай" адчуваецца вялікі ўплыў польскіх хронік, якія, пачынаючы з XVI ст., у рукапісным альбо друкаваным выглядзе распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Украіны. Кніжнікі таго часу шырока выкарыстоўвалі іх у сваіх гістарычна-літаратурных творах. Мацей Стрыйкоўскі ўпершыню ў канцы XVI ст. стварыў абсалютна новую для Вялікага княства гісторыю, заснаваную між іншым на творах ананімных аўтараў усходнеславянскіх летапісаў і

хронік. Ён жа з’яўляецца стваральнікам новай гістарыяграфічнай канцэпцыі ВКЛ пасля ўваходжання яго ў склад федэратыўнай дзяржавы Рэчы Паспалітай. Абвінавачванні яго ў свядомай фальсіфікацыі падзей мінулага не маюць падстаў, калі правесці супастаўленне ягонай хронікі з паведамленнямі крыніц, якімі ён карыстаўся падчас напісання сваіх твораў. Затое на падставе хронікі М.Стрыйкоўскага можна рэканструяваць некаторыя загінуўшыя помнікі гісторыі і культуры старажытнай Беларусі. Ён у сваю чаргу шырока карыстаўся творамі М.Мяхоўскага, М.Кромэра, Б.Вапоўскага і інш., якія перад ім звярталіся да гісторыі Вялікага княства Літоўскага.

А.Віюк-Каяловіч, які ў XVII ст., пераклаўшы на лацінскую мову хроніку Стрыйкоўскага, зрабіў яе даступнай шырокаму чытачу ў Еўропе, працягваў традыцыі гістарыяграфіі ВКЛ у новых гістарычных умовах. У гэты перыяд канчаткова заняпала агульнадзяржаўнае летапісанне, затое шырока распаўсю-дзіліся на беларускіх землях гістарычныя творы заходняга, у тым ліку польскага паходжання. Яны ўжо і вызначалі навуковы і культурны ўзровень тагачаснага грамадства.

## РЭКАМЕНДАВАНАЯ ЛІТАРАТУРА


1. Герберштейн С. Записки о Московии. – М.: Изд-во Московского университета, 1988. – 430 с.
2. Дусбург П. Хроника Прусской земли. – М., 1996.
3. Меховский М. Трактат о двух Сарматиях / Пер. С.А.Аннинского. – Л., 1936.
4. Повесть временных лет / Под ред. В.П.Андриановой-Перетц. – М., Л.: Изд-во АН СССР, 1950. – Ч. 1-2. Ч. 1. – Текст и перевод. Подготовка текста Лихачева Д.С. – 405 с. Ч. 2. – Приложения. Статьи и комментарии Лихачева Д.С. – 554 с.
5. Полное собрание русских летописей. – Т. 32 (Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцирного). – М.: Наука, 1975. – 234 с.
6. Полное собрание русских летописей. – Т. 1 (Лаврентьевская летопись). – М., 1962.
7. Полное собрание русских летописей. – Т. 2 (Ипатьевская летопись). – М., 1962.
8. Полное собрание русских летописей. – Т. 35 (Летописи белорусско-литовские). – М.: Наука, 1980. – 305 с.
9. Annonim tzw.Gall. Kronika Polska. Przełożył R.Grodecki. Przekład opracował, wstęp i przypisy Marian Plezia. Wyd.7, 1996.
10. Długosz J. Roczniki czyli Kroniki Sławnego Krolestwa Polskiego. - Warszawa, 1961, ks.1,2. 1969, ks.3, 4. 1973, ks.5, 6. 1974, ks.7, 8. 1975, ks.9.
11. Hejdensztejn R. Rajnolda Hejdensztejna, sekretarza Krolewskiego, Dzieje Polski od śmierci Zygmunta Augusta do roku 1594. Ksiąg XII. Z łacińskiego przerłumaczył Michał Gliszczyński. Zyciorysem uzupełnił Włodzimierz Spasowicz. T.I-II. Petersburg. Nakładem i drukiem Bolesława Maurycego Wolffa. 1857.
12. Historiae lituanae pars prior; de rebus Lituanorum ante susceptam christianam religionem, conjunctionemque Magni Lituaniae Ducatus cum Regno Poloniae, libri novem; Auctore P.Alberto Wiiuk Koialowicz Soc.Jesu S.Th.D. Dantisci sumptibus Georgii Forsteri Bibliopolae S.R.M. Ao 1650. Cum privilegio S.R.M. Poloniae et Sueciae. W 4ce, kart 6 nlb. i str.399.
13. Historiae Lituanae a conjunctione Magni Ducatus cum Regno Poloniae ad Unionem eorum Dominiorum. Libri octo auctore Alberto Wiiuk Kojalowicz Societatis Jesu S.Theologiae Doctore. Antwerpiae apud Jacobum Meursium Anno MDCLXIX (1669) w 4ce, 3 arkusze i str.496.
14. Kromer M. Historyja prawdziwa o przygodzie żałosnej księcia Finlandzkiego Jana i krolewny Polskiej Katażyny // Opracował J.Małłek. Wydanie drugie; poprawione i uzupełnione. - Olsztyn, 1983. - 118 s.

15. Kromer M. Polska czyli o położeniu, ludności, obyczajach, urzendach i sprawach publicznych Krolestwa Polskiego księgi dwie // Przekład S.Kazikowskiego. Wstęp i opracowanie R.Marchwińskiego. - Olsztyn, 1977. - 224 s. + mapa.
16. Kronika Polska, Litewska, Zmodzka i Wszystkiej Rusi Macieja Stryjkowskiego. Wydanie nowe, będące dokładnem powtorzeniem wydania pierwotnego krolewieckiego z roku 1582, poprzedzone Wiadomością o życiu i pismach Stryjkowskiego przez Mikołaja Malinowskiego, oraz Rozprawą o latopiscach Ruskich przez Daniłowicza, pomnożone przedrukiem dzieł pomniejszych Stryjkowskiego według pierwotnych wydań. - Warszawa. Nakład Gustawa Leona Glucksberga, Księgarza. 1846.
17. Kronika Polska Marcina Bielskiego // Wydanie K.J.Turowskiego. - Sanok, 1856. - T.1 (Ks.I-III), T.2 (Ks.IV-V), T.3 (Ks.V wraz z kontynuacyą).
18. Kronika polska, Marcina Bielskiego. Nowo przez Joach.Bielskiego syna iego wydana. Cum gratia et priuilegio S.R.M. W Krakowie, w Drukarni Jakuba Sibeneychera. Roku Panskiego 1597. Fol., k.6, tekstu str.804. rejestru k.nlb.5.
19. Kronika Polska Marcina Kromera Biskupa Warminskiego. Księg XXX. Dotąd w trzech językach, a mianowicie w Lacinskim, Polskim i Niemieckim wydana, na język polski z łacinskiego przełożona przez Marcina z Błażowa Błażowskiego i wydana w Krakowie w drukarni M.Loba r.1611. Obecne wydanie w języku polskim trzecie. Tom I. - Sanok. Nakład i druk Karola Pollaka. 1868. 723 str.
20. Ęronika Sarmacyey europskiey, w ktorey się zamyka krolestwo Polskie, ze wszystkiemi Panstwy, Xięstwy, y Prowincyami swemi; tudzież też Wielkie Xięstwo Lithew: Ruskie, Zmudzkie, Inflantskie, Moskiewskie y częsc Tatarow; przez Alexandra Gwagnina z Werony, Hrabię Pałacu lateranskiego, rycerza pasowanego y Rotmistrza Jego K.M. pierwey roku 1578 po łacinie wydana. A teraz zas z przyczynieniem tych krolow, ktorych w łacinskiey niemasz: Tudzież krolestw, panstw, insuł, ziem y prowinciy ku tey Sarmacyty przyległych: iako Graecyey, ziem Słowianskich, Wołoszey, Pannoniey, Bohemiey, Germaniey, Daniey, Szwecyey, Gotyey etc. Przez tegoż Authora z wielką pilnoscią rozdziałami na X ksiąg krociuchno zebrana: A przez Marcina Paszkowskiego za staraniem Authorowym z Łacinskiego na Polskie przełożona. W Krakowie, w drukarniey Mikołaia Loba Roku Panskiego 1611.
21. Ktora przedtym nigdy światła nie widziała Kronika Polska, Litewska, Zmodzka, y wszystkiey Rusi Kijowskiey, Moskiewskiey, Siewierskiey, Wołynskiey, Podolskiey, etc. Y rozmaite przypadki woienne y domowe, Pruskich, Mazowieckich, Pomorskich, y inszych krain Krolestwu

Polskiemu y Wielkiemu Xięstwu Litewskiemu przyległych, według istotnego y gruntownego zniesienia pewnych dowodow z rozmaitych Historikow y Autorow postronnych, y domowych, y Kijowskich, Moskiewskich, Sławańskich, Liflantskich, Pruskich starych, Dotąd ciemnochmurną nocą zakrytych Kronik, y Latopisczow Ruskich, Litewskich, y Dłvgosza Oyca dzieiow Polskich z inszymi, z wielką pilnością y węzłowatą pracą (Osobliwie około Dzieiow Litewskich y Ruskich od żadnego przedtym niekuszonych) Przez Macieia Osostewiciivsa Striykowskiego dostatecznie napisana, złożona, y na pierwsze swiatło z wybadanim prawdziwie dowodney starodawności własnym wynalezienim, przeważnym dochcipem, y nakładem nowo wydzwigniona przez wszystki starożytne wieki, aż do dzisieyszego Roku 1582. A tu przod wszystkich ile ich kolwiek iest ludzkich na Swiecie Narodow gruntowne wywody. Z łaską y Priwileiem Kro: J:M: Drukowano w Krolewcu v Gerzego Ostenbergera: M.D.LXXXII. fol., k. Tyt. I k.20 nlb.; str.1+791.
22. Maciej z Miechowa. Chronica Polonorum.- Cracoviae, 1521.
23. Maciej z Miechowa. Opis Sarmacyi azjatyckiej i europiejskiej // Wstęp H.Barycz. Z języka łacińskiego przełożył i komentarzem opatrzył T.Bieńkowski. - Wrocław, 1972. - 100 s.
24. Mistrz Wincenty (tzw.Kadłubek). Kronika Polska // Przełorzyła i opracowała Brygida Kurbis. Indeks sporządziła Danuta Zydorek. - Wrocław, 1992. - 322 s.
25. Orzechowski S. Wybor pism // Opracował J.Starnawski. - Wrocław, 1972. - 386 s.
26. Stryjkowski M. O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego, przedtym nigdy od żadnego ani kuszone, ani opisane, z natchnienia Bożego a uprzejmie pilnego doświadczenia / Opracowała J.Radziszewska. Państwowy Instytut Wydawniczy. Warszawa, 1978. - 764 s.
27. Stryjkowski M. Genealogia albo krotkie opisanie wielkich książąt litewskich y ich wielkich a mężnych spraw wojennych, uczynione niegdy przez Matysa Strykowskiego, a teraz odnowione, y znowu na świat wydane przez Samuela Dowgirda... Lubcz, w Drukarni Piotra Blastusa Kmity, 1626. K. Nlb.23.
28. Wapowski B. Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego księstwa Litewskiego od roku 1380 do 1535. - Wilno, 1847. - T.1.
29. Беларускія летапісы і хронікі. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 1997.
30. Блинова Т.Б. Иезуитские библиотеки в Беларуси // Гістарычна-археалагічны зборнік. – №8. – Мінск, 1996. – С. 3-32.

31. Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI-середине XVII в. – Минск: Наука и техника, 1989. – 287 с.
32. Галенчанка Г.Я. Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 280 с.
33. Жураўскі А.І. Мова нашых продкаў. – Мінск: Народная асвета, 1983. – 64 с.
34. Заяц Ю.А. История белорусских земель X – первой половины XIII в. в отображении летописей и хроник Великого княжества Литовского // Гістарычна-археалагічны зборнік. №12. – Мн, 1997. – С. 85 – 91.
35. Истрин В.М. Очерк истории древнерусской литературы домосковского периода (XI-XIII вв.). – Пг., 1922.
36. Кавалёў С.В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. – Мінск: Універсітэцкае, 1993. – 102 с.
37. Казакова Н.А. Полные списки русского перевода “Хроники всего света” Мартина Бельского // Археографический ежегодник за 1980 год. – М.: Наука, 1981. – С. 92-96.
38. Кузьмин А.Г. Начальные этапы древнерусского летописания. – М.: Изд-во Московского университета, 1977. – 406 с.
39. Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. – Коўна, 1926.
40. Лимонов Ю.А. Культурные связи России с европейскими странами в XV – XVII вв. – Л.: Наука, 1978.
41. Лихачев Д.С. Текстология. На материале русской литературы X - XVII веков. – Л.: Наука, 1983. – 639 с.
42. Люблинская А.Д. Источниковедение истории средних веков. – Л.: Изд-во Ленинградского университета, 1955. – 373 с.
43. Михайловская Л.Л. Белоруссия и Литва в XIV-XVI вв. (по материалам хроники Бернарда Ваповского) // Автореферат дис.. ..канд. ист. наук. – Минск, 1972. – 21 с.
44. Михайловская Л.Л. Жизнь и творчество Мацея Стрыйковского // Вопросы истории: Межвузовский сборник. Т. V. – Минск, 1978. – С. 140-150.
45. Нікалаеў М. Палата кнігапісная. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1993. – 240 с.
46. Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. – М., 1959.
47. Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. – М., 1950.
48. Перфецкий Е.Ю. Русские летописные своды и их взаимоотношения. – Братислава, 1922.
49. Подокшин С.А. Философия истории М.Стрыйковского // Наш радавод: Материалы международной научной конференции по

региональной истории Восточной Европы “Культура народов Великого княжества Литовского и Белоруссии. XIII - нач. XX вв.”. Ч. II. – Гродно, 1991. – С. 287-292.
50. Приселков М.Д. Летописание Западной Украины и Белоруссии // Ученые записки ЛГУ. Серия исторических наук, вып.7. – Л.: Наука, 1940.
51. Рогов А.И. Русско-польские культурные связи в эпоху Возрождения (Стрыйковский и его “Хроника”). – М.: Наука, 1966. – 310 с.
52. Рогов А.И. Стрыйковский и русская историография первой половины XVIII в. // Источники и историография славянского средневековья: Сборник статей и материалов. – М.: Наука, 1967. – С. 145-157.
53. Рогов А.И. Известия по истории России в “Хронике всего света” Мартина Бельского // Новое о прошлом нашей страны. Памяти академика М.Н.Тихомирова. – М.: Наука, 1967. – С. 123-133.
54. Рогов А.И. Основные особенности развития русско-польских культурных связей в эпоху Возрождения // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения / Под ред. акад. Б.А.Рыбакова. – М.: Наука, 1976. – С. 166-175.
55. Рогов А.И. Древнерусские переводы “Хроники” Стрыйковского// Археографический ежегодник за 1962 год (к 70-летию академика М.Н.Тихомирова). – М.: Наука, 1963. – С. 206-214.
56. “Русская хроничка” Стрыйковского // Вестник Московского университета. Серия 8, история. – 1993. – №2. – С. 70-74.
57. Саверчанка І.В. Старажытная паэзія Беларусі. XVI - першая палова XVII ст. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992. – 253 с.
58. Саверчанка І.В. Кніжная культура Беларусі. – Мн., 1999.
59. Семянчук А. Творы Мацея Стрыйкоўскага як крыніцы па гісторыі рэлігіі Вялікага княства Літоўскага // Гістарычна-археалагічны зборнік. Памяці Міхася Ткачова. Ч. 2. – Мінск, 1993. – С. 109-123.
60. Семянчук А. Мацей Стрыйкоўскі ў Вялікім княстве Літоўскім // Спадчына. – №1. – 1995. – С. 2-10.
61. Семянчук А. Гродна ў летапісах і польскіх хроніках / Пытанні адукацыі і выхавання // Навукова-метадычны веснік Гродзенскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. № 2. – Гродна, 1995. – С. 5-17.
62. Семянчук А. Марцін і Яхім Бельскія – гісторыкі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага // Спадчына. – №1. – 1996. – С. 26-48.
63. Семянчук А. Польскія хронікі 2-й паловы XVI ст. як крыніцы па этнакультурнай і рэлігійнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага //

Наш радавод: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі “Гістарычная памяць народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі. XIII-XX ст.” – Гродна, 3-5 ліпеня 1996 г. Кніга 7. – С. 227-232.
64. Семенчук А. Фольклорные традиции Великого княжества Литовского в польских хрониках второй половины XVI века // Genosios rastijos ir tautosakos saveika: kulturine Lietuvos Didziosios Kunigaikstystes patirtis. – Vilnius, 1998.
65. Скарына і яго эпоха. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 480 с.
66. Софоновіч Ф. Хроніка з літописцiв стародавнiх. - Киïв, 1992.
67. Старостина И.П. М.Стрыйковский о язычестве древних литовцев // Восточная Европа в древности и средневековье. Язычество, христианство, церковь: Тезисы докладов. – М., 1995. – С. 79-80.
68. Тихомиров И.А. О составе западнорусских, так называемых литовских летописей. – ЖМНП, 1901. – №3, 5.
69. Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. – М.: Наука, 1985. – 262 с.
70. Улащик Н.Н. “Литовская и жмойтская хроника” и ее отношение к хроникам Быховца и М.Стрыйковского // Славяне и Русь. – М.: Наука, 1968. – С. 357-365.
71. Улащик Н.Н. Подготовка к печати и издание тома XVII Полного Собрания Русских Летописей // Летописи и хроники. Сборник статей. 1973 год. – М.: Наука, 1974. – С. 360-368.
72. Урбан П. Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў. – Менск, 1995. – 107 с.
73. Флоря Б.Н. Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI - начале XVII в. – М.: Наука, 1978. – 299 с.
74. Флоря Б.Н. О “Летописце Быховца” // Источники и историография славянского средневековья: Сборник статей и материалов. – М.: Наука, 1967. – С. 135-144.
75. Цітоў А. Кароткі летапіс пра летапісца // Мастацтва. – №8. – 1993. – С. 64-65.
76. Чамярыцкі В.А. Да пытання аб раннім летапісанні Беларусі (XII – XIII ст.) // Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук. №3. 1965. – С. 90-98.
77. Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. – Мінск: Навука і тэхніка, 1969. – 192 с.
78. Чамярыцкі В.А. Таямніцы Полацкага летапісу // Архівы і справаводства. – №1. – 1999. – С. 31-37.
79. Чамярыцкі В.А. Загадка Тацішчава // Архівы і справаводства. – №2, 3. –1999.
80. Шахматов А.А. Обозрение русских летописных сводов XIV-XVI вв. – Л., 1938.

81. Ючас М.А. Хроника Быховца // Летописи и хроники. Сборник статей. – М.: Наука, 1974. – С. 220-231.
82. Bardach J. Kronika Macieja Stryjkowskiego i jej rozpowszechnienie w Rosji //Przegląd Historyczny, Nr 2 (1967). - S. 326-335.
83. Bardach J. Maciej Stryjkowski ł jego tworczość w świetle najnowszych badań // Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV-XVIII wieku. - Warszawa, 1970. -S. 68-85.
84. Bardach J. J.Radziszewska. Maciej Stryjkowski poeta-historyk z epoki Odrodzenia // Recenzja. Kwartalnik Historyczny, 86/1 (1979). - S. 196-197.
85. Barycz H. Joachim Bielski // PSB. - Warszawa, 1936. - T.II. - S. 61-64.
86. Barycz H. Marcin Kromer // PSB. - Wrocław-Warszawa-Krakow, 1970. - T.15. - S. 319-325.
87. Barycz H. Rozwoj nauki w Polsce w dobie Odrodzenia // Odrodzenie w Polsce. 1953. - T.2.
88. Barycz H. Szlakami dziejopisarstwa staropolskiego. Studia nad historiografią w. XVI-XVIII. - Ossolineum, 1981. - 308 s.
89. Baryczowa M. Augustus Rotundus Mieleski pierwszy historyk i apologeta Litwy // Z dziejow polskiej kultury umysłowej w XVI wieku. - Ossolineum, 1976. - S. 77-154.
90. Bibliografia Historii Polski. T.1 do r.1795, cz.II (1454-1795) // Pod red. H. Madurowicz-Urbańskiej. - Warszawa, 1965.- 399 s.
91. Bibliografia Literatury Polskiej “Nowy Korbut” / Piśmiennictwo Staropolskie // Instytut badań literackich PAN. T.1-3. - Warszawa, 1963, 1964, 1965.
92. Bibliografia polska XV-XVI stolecia. Zestawienie chronologiczne 7200 drukow w krztałcie rejestru do Bibliografii, tudzież spis abecadłowy tych dzieł, ktore dochowały się w bibliotekach Polskich. Wydanie Akademii Umiejętności; staraniem Komisji bibliograficznej. Krakow, 1875. - Ň.15, 20, 29.
93. Bruckner A. Starożytna Litwa, ludy i bogi. Szkice historyczne i mitologiczne / Opracował J.Jaskanis. Olsztyn, 1985. - 243 s.
94. Bruckner A. Mitologia słowiańska i polska./ Wstęp i opracowanie S.Urbańczyk. Warszawa, 1985. - 383 s.
95. Budka W. Do życiorysu Macieja Stryjkowskiego. Sprostowania i uzupełnienia // Ruch Literacki. T.X (1969). - S. 31-37.
96. Chodynicki K. Ze studjow nad dziejopisarstwem Rusko-Litewskim // Ateneum Wileńskie. T.III. - Wilno, 1926. - S. 387-401.
97. Chodynicki K. Legenda o męczeństwie czternastu franciszkanow w Wilnie // Ateneum Wileńskie. Rok IV. T.IV. - Wilno, 1927. - S. 53-78.
98. Chodynicki K. Geneza i rozwoj legendy o trzech męczennikach wileńskich // Ateneum Wileńskie. Rok IV. T.IV. - Wilno, 1927. - S. 415-451.

99. Chrzanowski J. Marcin Bielski: Studium historycno-literackie. Wyd.II. - Lwow-Warszawa, 1926. - 354 s.
100. Chrzanowski J. Marcin Bielski // PSB. - Warszawa, 1936. - T.II. - S. 64-66.
101. Dąbrowski J. Sredniowieczne kroniki węgierskie w świetle najnowszych badań. -Krakow, 1914.
102. Dąbrowski J. Dawne dziejopisarstwo polskie (do r.1480). - Krakow, 1964.
103. Dołęga-Chodakowski Z. O sławiańszczyżnie przed chrześcijaństwem oraz inne pisma i listy // Opracował i wstępem opatrzył J.Maślanka. - Warszawa, 1967. -454 s.
104. Estraicher K. Bibliografia polska. 140000 drukow. Cz.II. T.I5, 20, 29. Wydanie Akademii Umiejętności staraniem Komisji bibliograficznej. - Krakow, 1882. - 455 s.
105. Finkiel L. Marcin Kromer, historyk polski XVI wieku. Rozbior krytyczny / Rozprawy i sprawozdania z posiedzeń Wydziału Historyczno-Filozoficznego Akademii Umiejętności. - Krakow, 1883. - T.16. - 508 s.
106. Jblonskis K. Zinute apie Motieju Stryjkovski // Archyvyne smulkenos. Praeitis. T.II. - Kaunas, 1933.- 436 s.
107. Jakubowski J. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unją Lubelską. - Warszawa, 1912. - 104 s.
108. Jonynas A. Lietuviu folkloras M.Strjjkovskio “Kronikoje” // Literatura ir kalba. T.XIII. - Vilnius, 1974. - S. 239-276.
109. Jucas M. Lietuvos metrasciai. - Vilnius, 1968. - S. 135-186.
110. Kawecka-Gryczowa A. Biblioteka ostatniego Jagiellona. Pomnik kultury renesansowej. - Wrocław, 1988. - 344 s.
111. Kłoczowski J. Europa słowiańska w XIV - XV wieku. - Państwowy Instytut Wydawniczy, 1984. - 464 s.
112. Kosman M. Litwa pierwotna. Mity, legendy, fakty. - Warszawa, 1989. - 378 s.
113. Kosmanowa B. Książka i jej czytelnicy w dawnej Polsce. - Warszawa, 1981. - 323 s.
114. Kraszewski J.I. O Stryjkowskim i jego “Kronice” // Kraszewski J.I. Wilno od początkow jego do r.1750. T.1. Na nowo poprawiony i przerobiony. Wydanie Adama Zawadzkiego. - Wilno, 1840. - S.417-477.
115. Krzyżanowski J. Historia literatury polskiej. Od średniowiecza do XIX w. -Warszawa, 1953. - 612 s.
116. Kulicka E. Legenda o rzymskim pochodzeniu litwinow i jej stosunek go mitu sarmackiego // Przegląd historyczny. Nr.1. 1980. - S. 1-21.
117. Kurbisowna B. Dziejopisarstwo Wielkopolskie XIII i XIV wieku. - Warszawa, 1959. - 301 s.

118. Lukas S. Rozbiór podługoszowej części kroniki Bernarda Wapowskiego. Kr. 1880.
119. Łowmiański.H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego.- Poznań,.1983. - 579 s.
120. Miłosz Cz. Historia literatury polskiej. - Warszawa, 1994.
121. Mironowicz A. Latopisy supraskie jako jedno ze zrodeł "Kroniki Polskiej" Macieja Stryjkowskiego // Studia polsko-litewsko-białoruskie. - Warszawa, 1988. - S. 23-32.
122. Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. - Wilno, 1846.
123. Nehring W. O życiu i pismach Joachima Bielskiego // O historykach XVI w. Cz.2. - Poznań, 1860. - 99 s.
124. Ochmański J. Dawna Litwa. Studia historyczne. - Olsztyn, 1986. - 225 s.
125. Ochmański J. Nad Kroniką Bychowca // Studia Zrodłoznawcze. T.XII (1967). - S. 155-163.
126. Pelc J. Literatura Renesansu w Polsce. - Warszawa, 1994. - 296 s.
127. Pidłypczak-Majerowicz M. Biblioteki i bibliotekarstwo zakonne na wschodnich ziemiach Rzeczypospolitej w XVII-XVIII wieku. - Wrocław, 1996. - 193 s.
128. Pietkiewicz K. Wielkie Ęsięstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. - Poznań, 1995. - 256 s.
129. Pollak R. Wśrod literatow staropolskich. - Warszawa, 1966. - 662 s.
130. Powierski Jan. Ruś w opiniach najwcześniejszych ?olskich kronikarzy // Polacy o Ukraińcach, Ukraińcy o Polakach. Materiały z sesji naukowej pod redakcją Tadeusza Stegnera. Gdańsk 1993. S. 10-59).
131. Ptaszycki S. Wiadomości bibliograficzne o rękopisie nieswieskim "Kroniki" M.Stryjkowskiego // Pamiętnik Literacki. PokII - Warszawa, 1903. - S. 220-246.
132. Ptaszycki S. Ruskie przekłady kronik Bielskiego i Stryjkowskiego // Pamiętnik Literacki T.30. 1933. Z.1-4. - S. 168-184.
133. Radziszewska J. Maciej Stryjkowski a latopis Bychowca // Sprawozdania z posiedzeń naukowych PAN w Krakowie. T.XII, styczeń-czerwiec 1967. - Krakow, 1969. - S. 78-81.
134. Radziszewska J. Maciej Stryjkowski historyk-poeta z epoki Odrodzenia. - Katowice, 1978. -165 s.
135. Radziszewska J. Warsztat naukowy Marcina Kromera w jego dziele "De origine et rebus gestis Polonorum" / Historia i wspołczesność. Z zagadnień historiografii od czasow antyku do XVI wieku // Prace naukowe Uniwersytetu Sląskiego w Katowicach, nr.525. - Katowice, 1982. - S. 131-161.
136. Radziszewska J. W sprawie autorstwa tak zwanego Latopisu Bychowca // Zeszyty Naukowe WSP w Katowicach, t.32: Prace historyczne. - Katowice, 1967.

137. Sajkowski A. Czytając Stryjkowskiego // Pamiętnik Literacki. T.60 (1969), Nr 4.- S. 239-251.
138. Sajkowski A. Od Sierotki do Rybieńki: W kręgu radziwiłłowskiego mecenatu. - Poznań, 1965.
139. Sajkowski A. Nad staropolskimi pamiętnikami. - Poznań, 1964.
140. Serczyk J. 25 wiekow Historii. Historycy i ich dzieła. - Toruń, 1993.
141. Sielicki F. Polsko-ruskie stosunki kulturalne do końca XV wieku. Wrocław 1997. 159 s
142. Siemieńczuk A. Kultura tradycyjna i wieżenia w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle polskich kronik XVI w. / Narod i religia // Materiały z sesji naukowej pod redakcją Tadeusza Stegnera. - Gdańsk, 1994. - S. 118 - 123.
143. Smolka S. Najdawniejsze pomniki dziejopisarstwa rusko-litewskiego. Rozbiór krytyczny // Pamiętnik Akademii Umiejętności w Krakowie. Kraków, 1890, t.VIII, s. 1-55.
144. Sobieszczański F.M. Bielski M. // Encyklopedyja Powszechna Orgelbrandta. T.3. - Warszawa, 1860. - S. 524-526.
145. Sobieszczański F.M. Kromer M. // Encyklopedyja Powszechna Orgelbrandta. T.16. - Warszawa, 1864.
146. Sobieszczański F.M. Stryjkowski M. // Encyklopedia Powszechna Orgelbrandta. T.24. - S. 243-247.
147. Starowolski Sz. Setnik pisarzow polskich albo pochwały i żywoty stu najznakomitrzych pisarzow polskich. - Krakow, 1970. - 365 s.
148. Starowolski Sz. Wybor pism. Przekład tekstow łacińskich, wybor i opracowanie I.Lewandowski. - Wrocław, 1991. - Ser.1, Nr 272. - 398 s.
149. Suchocki J. Formowanie się i skład narodu politycznego w Wielkim Księstwie Litewskim poznego średniowiecza // Zapiski Historyczne, 48 (1983), z.1-2. - S. 31-76.
150. Suchocki J. Geneza litewkiej legendy etnogenetycznej. Aspekty polityczne i narodowe // Zapiski Historyczne, 52 (1987). - S.27-66.
151. Topolski J. Swiat bez historii. - Warszawa, 1972. - 244 s.
152. Ulewicz T. Sarmacja. Studium z problematyki słowiańskiej XV i XVI w. - Krakow, 1950. - 212 s.
153. Wiszniewski M. Historia literatury polskiej. T.I-X / Opracował T.Zebrawski, wydał A.Przezdziecki. - Krakow, 1840, 1841-1845, 1851, 1857.
154. Wojtkowiak Z. Stryjkowski chyba nadal zagadkowy (w związku z pracą Julii Radziszewskiej, Maciej Stryjkowski - historyk-poeta z epoki Odrodzenia, Katowice 1978, s.165) // Przegląd Historyczny. Nr.1 (1980). - S. 121-129.
155. Wojtkowiak Z. Maciej Stryjkowski - dziejopis Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kalendarium życia i działalności. - Poznań, 1990. - 245 s.

156. Wojtkowiak Z. “Starodawny historyk”, “Stary komentarzyk” - zapomniane żrodła Stryjkowskiego // Mente et litteris. O kulturze i społeczeństwie wiekow średnich. - Poznań, 1984. - S. 349-356.
157. Zachara-Wawrzyńczyk M. Geneza legendy o rzymskim pochodzeniu litwinow // Zeszyty Historyczne. III. - Wydawnictwo Uniwersytetu Warszawskiego, 1963. - S. 5-35.
158. Zientara B. Swit narodow europejskich. - Warszawa, 1985. - 434 s.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

ПВЛ – Повесть временных лет

ПСРЛ – Полное Собрание Русских Летописей

РО БРАН – Рукописный отдел Библиотеки Российской Академии Наук

РНБ – Российская Национальная Библиотека в Санкт-Петербурге

ЖМНП – Журнал Министерства Народного Просвещения

PSB – Polski słownik Biograficzny



**Ян Длугаш.**

**Партрэт XIX стагоддзя**

# MATTIAS STRIICO VIVS OSOSTEVICIVS C: S: Hiſtor: & Poëta: ætatis ſuę anno 34. ſalutiferi partus 1581.

*Mattias tali eſt Strijcowius ore uidendus,*
*Oſtbouiana domus quem puerum genuit.*



Tak Strijcowius czoło weſół twarz y oczy/
Ktory ſię dziecie wyrwał z niemowniątek nocy.

**Мацей Стрыйкоўскі**




**Марцін Бельскі**

Rod Welikich Kniazey Litowskich, z Pokolenia a z rodu.....

Хроніка Быхаўца

## Змест

стар.

